СЕРЫЯ
«БЕЛАРУСКАЯ ТУРЭМНАЯ ЛІТАРАТУРА»
заснаваная ў 2017 годзе
распрацаваная Праваабарончым цэнтрам «Вясна»

**Севярынец, П.**

Каменнае сэрца / Павел Севярынец. — Менск, 2018. — 286 с. : іл. — (Серыя «Беларуская турэмная літаратура»; вып. 6).

Кніга «Каменнае сэрца» — зборнік эсэ палітычнага вязьня Паўла Севярынца, напісаных за апошнія дваццаць гадоў. Кароткія гісторыі зь беларускай няволі — «сутак», «хіміі», турмаў — паказваюць сёньняшнюю Беларусь знутры. Жыцьцё ва ўмовах рэжыму як яно ёсьць.

Кніга «Лісты зь лесу», фрагменты зь якой вы зможаце прачытаць тут, была прызнаная штотыднёвікам «Наша Ніва» найлепшай беларускай кнігай 2007 года, а «Беларуская глыбіня» (тут разьмешчаныя выбраныя главы) — стала лаўрэатам прэміі імя Францішка Аляхновіча.

«Каменнае сэрца» зьмяшчае таксама і шэраг тэкстаў Паўла Севярынца, якія яшчэ не публікаваліся.



ВЯСНА
праваабарончы цэнтр

ЗЬМЕСТ

# ПРАДМОВА

*Каменным сэрцам* у нас у «Маладым фронце» называлі «амерыканку» — сьледчы ізалятар ва ўнутраным дворыку КДБ. Невялікая, круглая, падзеленая на секцыі вузкіх перадсердзяў і жалудачкаў двухпавярховая турма з падвалам у самым цэнтры Менска. Сьледчыя, наглядчыкі, канваіры — нібы з булыжнікамі ў грудзях.

Але і ты сам, калі застаесься ў турме сам-насам з Богам, адчуваеш, як скамянела на волі сэрца тваё ўласнае. І як яно ажывае тады, калі неба — усяго толькі кавалачак форткі скрозь крыжы кратаў. Робіцца трапяткім і адкрытым да болю, любові і спачуваньня — пад ціскам, пад страхам, з малітвай і прагай свабоды.

За дваццаць з гакам гадоў мне давялося пабываць у двух дзясятках беларускіх месцаў зьняволеньня — камерах райаддзелаў, «стаканах» судоў, ізалятарах, карцарах, бараках і камендатурах «хіміяў». Калі ня хочаш, каб увесь твой народ сядзеў у сваёй краіне, нібы ў вялікай турме, мусіш адбыць столькі і столькі гадоў няволі сам.

І я ўдзячны Богу за ўсе гэтыя выпрабаваньні. Паверце, вернік, які праходзіць засьценкі, робіцца лепшым. Туды страшэнна ня хочаш трапіць зноў —

але калі выходзіш, разумееш: гэта было адмысловае Божае дабраславеньне.

Вельмі ўдзячны тым, хто быў побач, хто падтрымліваў і пісаў лісты, хто перадаваў перадачы і скандаваў «Свабоду!» пад мурамі. Найбольш — маім бацькам і родным, братам і сёстрам у Хрысьце і маёй каханай Волечцы.

Ты выходзіш, і цябе сустракае Воля. Дзеля гэтага варта жыць.

*Павел Севярынец*

# КАМЕННАЕ СЭРЦА

## ПЕРШАЯ НОЧ У МАСКОЎСКІМ

Ёсьць свой знак у тым, што мая турэмная гісторыя пачалася менавіта ў Маскоўскім РАУСе Менска. Ведае кожны маладафронтавец: рэжым у нас маскоўскі, акупацыя — маскоўская, і ў кожнай зорачцы на пагонах у супрацоўнікаў-супраціўнікаў прасьвечваюць далёкія крывава-рубінавыя вочы Крамля.

Дык вось, 14 сакавіка 1997 года. Першая масавая акцыя на Дзень сьвятога Валянціна, калі тысячы маладзёнаў абыходзілі амбасады, а з вокнаў пад ногі ім кідалі кветкі, натхніла нас на яшчэ адзін марш — «Беларусь у Еўропу — 2!». У інтэрнаце мяне ўжо шукала міліцыя, начаваў у знаёмых. Пасьля колькіх дзён падпольля вынырнуў я, значыць, непадалёк ад прызначанай плошчы Волі, дачакацца акцыі ў людным ГУМе, і недзе па дарозе зь метро з самага насунутага капюшона курткі і вылавіў мяне фэйс-кантроль ціхароў.

Бралі пяшчотна, удвох, пад ручкі, вынесьлі акуратна да белага «жыгулёнка», прыпаркаванага на

прыпынку (так, быў час, міліцыя езьдзіла на «Жыгулях»!), ёмістым рухам клапатліва прыхінулі галаву, і спалохаўся я ўжо на заднім сядзеньні, паміж плячыстых дзядзечак у цывільным.

Машына газуе, і я чую ціхае, як зараз кажуць, пытаньнечка, ад якога кідае ў жар:

— Ну, кого ты там ножом пырнул?

Оперы з крымінальнага вышуку... Якім нажом?!. Каго? Правакацыя!..

— Заткнись, слышь, там разберутся.

А што вы думаеце, першае затрыманьне — і адразу па-даросламу. Страшна.

У дзяжурцы Маскоўскага афармлялі злавесна. Прозьвішча? Севяры-ынец?.. О-о-о, так гэта, значыць, ты… Сэрца апускаецца кудысьці ў кішэчнік. Што з табой, кажаш, будзе?.. О-о-о-о…

Гэта ж трэба, я здагадаўся дрыжачым голасам задаць тое самае пытаньне, пачуць якое — істае задавальненьне для кожнага супрацоўніка любога карнага органа!

Няпэўнасьць лёсу. Чаканьне невядомага. О-о-о-о… Вось яно, вастрыё, якім ахвяра паражаецца ў падкорку мозгу. Ня грубы гвалт, не пакараньне, нават ня кроў — а вось гэтае самае «о-о-о-о», гэтая бясконцасьць нулёў, якая ператварае цябе ў нішто і са шматкроп’ем сыходзіць у бясконцую гулкую вечнасьць!..

Камера папярэдняга заключэньня, яна ж капэзэ, яна ж «стакан», яна ж каменны мех — бетонная скрыня метр на паўтара, да трох у вышыню. Аднаму можна стаць, неяк сесьці, а вось прылегчы — ані. Тускная лямпачка, якая сьвеціць праз закратаваную нішу вентыляцыі.

Так гэта ты, значыць…

І перабіраеш чытанае ды чутае: зрабіць зь цябе

забойцу ім раз плюнуць. У Бога я яшчэ ня верыў, у людзей ня верыў ужо — заставалася толькі заміраць ад жаху.

Гірчаць рацыі. Кагосьці заводзяць, выводзяць, афармляюць. Кагосьці, чутно, валяць на падлогу і робяць «ластаўку» — здаровы па голасе мужык пачынае енчыць так, што выварочвае душу.

Празь сьценку ад мяне ў суседняй камеры хтосьці абураецца ды блатуе:

— Э, начальнік! Пассаць выведзі!

Ды і мне даўно хочацца па-маленькаму, прычым хочацца так нясьцерпна, што і не па-маленькаму ўжо зусім.

Сусед, якога я ня бачу, пачынае тарабаніць у дзьверы:

— Э, пассаць выведзі! Ты што, не чалавек?..

Падтрымліваю патрабаваньне таварыша па няшчасьці. Стараюся інтэлігентна:

— Выведзіце ў прыбіральню! Ня маеце права!..

Галёкаем удвох. Там толькі ляніва агрызаюцца. Пухір ные і цісьне няўмольна. Надзея растае.

Праз паўгадзіны енку і кляцьбы сусед абвяшчае:

— Чуеш, ня выведзеш — нассу проста ў камеры!

У адказ — цішыня.

І вось у гэтай самай цішыні раптам пачынае цурчэць пад дзьверы суседаў гарачы струмень. Мянты толькі гэтага і чакалі:

— Ах ты!!.

Суседскія дзьверы адчыняюцца з жалезным скрогатам, і праз мат-перамат ды пудовыя ўдары (дрыжыць нават маё вочка з арганічнага шкла) чуваць адчайныя стогны ды роў мянтоў:

— Да я, … шчас табой усё гэта вытру!..

Клацаюць кайданкі, і пад балючы, жывёльны

енк чуваць, як целам суседа выціраюць падлогу ды дзьверы.

Аднекуль са сьпіннога мозгу ашпарвае ашалелае: лепш памерці ад разрыву ўнутраных органаў, чым так.

І калі заціхаюць нават усхліпваньні скаванага кайданкамі на «ластаўцы» суседа і цішыня пачынае зьвінець увушшу — перад табой расхінаецца прадоньне першай у жыцьці начы за кратамі.

Не ратуе нічога — ані спробы абдумаць, ані тупое лічэньне вярблюдаў, ані спадзеў, што нарэшце страчу прытомнасьць. Здаецца, яшчэ хвіліна — і сам каменны мех лопне ад ціску маёй мачы. Адчуваньне часу распушчаецца ў бясконцым ціхім жаху.

…Зьнянацку скрыгоча ключ у дзьвярох; праварочваецца так, быццам адчыняюць тваё заржаўленае нутро.

О-о-о-о!..

— Тварам да сьцяны. Рукі.

Ледзяныя кайданкі.

— Адвядзіце ў прыбіральню!

— Потым. Спачатку на допыт.

— Нікуды не пайду, вядзіце ў прыбіральню.

— Добра… Пасьля допыту.

І я іду, юны дурашка, ледзьве перастаўляю ногі, сьпярша на допыт. Памяты сьледчы паліць, з асалодай выдыхае дым мне ў твар, пачынае друкаваць пратакол на падазраванага ў крымінальнай справе…

10 сакавіка. Акцыя. Оператор Колокольчиков (потым за яго Вадзім Кабанчук адграбе рэальны тэрмін).

Сяджу, сьцяўшы калені, адказваю скрозь зубы, хутчэй бы. У кабінет уваходзяць два гоблінападобныя амапаўцы, якія моўчкі разглядаюць мяне, пераглядва-

юцца (сьледчы прымружана пільнуе мае вочы) і гэтак жа моўчкі выходзяць.

Сэрца калоціцца. Вы-пусь-ці-це-мя-не-ад-сюль!!!

Вядома, пасьля допыту ніякай прыбіральні. Мяне ўпіхваюць назад, у каменны капкан.

Вось тут, у глыбокай начы, у прыніжэньні і бездапаможнасьці, у статусе падазраванага ў крымінальным злачынстве, пад напорам нястрымнага страху і перапоўненага мачавога пухіра пачынае ехаць дах. Сьпярша ціха, сам сабе, а потым і ўголас пачынаеш выць. Натуральна, па-ваўчынаму выць ад шалу і безвыходнасьці, і хай гэты зьдзічэлы тупы боль, што працінае ўсё цела, выхлёствае горлам.

— О-о-о-ў-у-у-уууу!..

З жахам слухаеш сам у сабе жывёлу і адчуваеш: ніколі… ніколі больш… не хачу…

Недзе а трэцяй пачынаеш абшарваць, дзе б тут можна было засіліцца, і роспачна здагадваесься, што шнурок з курткі адабралі нездарма.

Хіба разьбіць галаву аб дзьверы… Мацней. Мацней!.. Усё гудзе… Млосна…

…А палове на дзясятую раніцы, на зыходзе сямнаццатай гадзіны без прыбіральні мяне, паўпрытомнага, сьцятага да паралюшу, завялі да «начальніка». Калі б не матуля, што ўсю раніцу прабівалася ў райаддзел, скончылася б шпіталем або калецтвам. Маёр Гірэль, каторы потым ня раз суправаджаў дэманстрацыі, разганяў маладафронтаўцаў і даслужыўся да палкоўніка, добры маёр Гірэль урачыста паведаміў, што мяне чакае суд.

У прыбіральні я некалькі хвілінаў проста тупа слухаў, як за сьпінай перамінаецца канваір. Сьцятае цела адмаўлялася верыць, што магчыма пазбавіцца вадкасьці, зь якой ты складаесься на 80%, звычайным чалавечым шляхам.

І ў той момант, калі, хапнуўшы сакавіцкай сьвежасьці, ты выходзіш з будынка суда са штрафам за ўдзел у маршы, каторы так і не пачаўся, калі шчасна глядзіш на сонца і бачыш людзей, што ідуць сабе міма і ня хочуць тваёй сьмерці, табе ясьней яснага.

Ніколі больш, ты чуеш? Усё. Скончана.

Але, як высьвятляецца потым, Бог паказвае табе ў гэтую ноч толькі самы-самы пачатак.

# ВАЛАДАРСКАЯ БАЛАДА

— Ладна, — падняўся сьледчы; крэсла пад ім дасадліва крэкнула. — Ня хочаш, як хочаш.

Размова скончылася. Шумна ўстаў адвакат, выразна паціснуўшы плячамі.

Усё, нарэшце дамоў. Дахаты. Там зараз баланда, паямо, будзе цяплей.

Каменная падлога вымытая, смутна люструе, і здаецца, што йдзеш па вадзе.

Усё ў парадку. Усё нармалёва. Усё цудоўна, ну яго нахрэн. Спакойна, спакойна, спакойна, чатыры разы спакойна. Пара заканчваць з надзеямі і болямі. Яшчэ сядзець і сядзець.

Найперш пагаліцца налыса. Тым больш лета. Ты самога сябе падманваеш гэтай школьнай прычоскай. Ты зэк. Голагаловы. Падумаць толькі, ніколі ў жыцьці не галіўся начыста. Хоць паглядзіш, што гэта такое.

* * *

Я сяджу пасярод камеры на стосе савецкіх кніжак 1960–70-х (іншых у бібліятэцы няма); зласвесна гірчыць беларускае радыё, а на падлогу раз-пораз пляскаюць пасмы густа намыленага валосься. Нада мною шчыруе Дзёма, я як мага зручней падстаўляю яму сваю планету, свой шар зямны, і думка шкрабецца і

войкае дзесьці там, пад скляпеньнем, і вочы вылазяць на лоб паглядзець. Дзёма — забойца; мы чыталі ягонае абвінаваўчае заключэньне. Чэрап ахвяры праломлены тупым прадметам, колатых і рэзаных ранаў чатыры дзясяткі — падуздыхавых, брушных, грудзінна-ключычна-смачкавідных і якіх хоч. Зараз у Дзёмы ў руках тупаваты станок, і ён старанна, калі не сказаць любоўна, з майстарскай жарсьцю і пяшчотай абшкрабае маю галаву.

«Вось тут, — паказвае ён, — во тут косткі стыкуюцца, скроня з лобнай, і калі націснуць — не, ты пачакай, я не балюча, — вось так, цссс! — мазгі папруць, аж пырсьне». Шкраб, шкраб, шоргае станок, пляскаюць згусткі. «А вось так, — ён намацвае макаўку, і я адчуваю, як буйна пульсуе кроў пад цьвёрдымі пальцамі, — гэта “крынічка” называецца, толькі цюкнуць, і такі сіфон — фррр! фррр!.. Вось тут яно, на самай макітры», — і ён прымерваецца, пастуквае ў самае цемечка чаранком станка так, як пастукваюць малатком па цвіку, перш чым даць з усяе сілы.

Моцныя ўражанні.

Ягоны аграмадны цень ужо запоўз на дзьверы, усеўся на верхнім шканары і глуміцца з маіх бугроў. «Ой, Паўлік, тут болька», — і ён заклапочана, каб ня зьдзерці, па валосіку пашкрэбвае навокал, так ашчадна, што аж козытна, і здаецца, зараз пацалуе ў гэтую самую больку.

— Дзелай красіва!

Дзёма нарэшце ганарліва аглядвае кумпал і радасна шчэрыцца няроўнымі зубамі. Іклы завостраныя. Я добра ведаю гэтую яго ўсмешку, яна трошкі садысцкая, прыдушаная ніжняй сківіцай — такая бывае ў падлеткаў, калі яны катуюць жывёлаў, — і крыху дзіцячая. Хлопчыку васямнаццаць. Пракурор запатрабаваў дваццаць пяць. Дадуць дваццаць.

Я гляджуся ў маленькае люстэрка з адбітым краем. Аказваецца, вось яна, твая галава, якая. Так проста і гола, правільнай формы, замыкаецца ўверсе. Белая, з шыхаватым голеным адценьнем. Цёплая, нават гарачая, аж хочацца ўзяць аберуч, узважыць, як плод, адчуць цяжар. Бедны Паўлік. Чэрап. Вушы. Засталіся адныя бровы, каб было што нахмурыць. Вось табе турэмная праўда.

Няёмка спаць. Ляжыш, так і нямее, і праменіць колкім валосьсем, і сьвярбіць вакол галавы, нібы аўра. Кладуся тварам у падушку, і хочацца плакаць.

Такім чынам, час пачынаць спачатку. Госпаду Богу заўгодна, каб ты зразумеў тут пэўныя рэчы.

Усё яшчэ будзе: адрастуць твае валасы роўна на столькі, колькі адмерана, і яшчэ будуць жывіцца турэмнай думай, пакуль ты навучысься, як гэта — быць пасярод людзей, як пацясьніцца і як падзяліцца, як аддаваць і як дараваць; жыць або «так», або «не»; абыходзіцца малым; ня сплёўваць словы штокрок, а каўтаць і тым насычацца; і дастанеш-такі, што ня варта дбаць аб сваёй ежы і адзежы, а пра вечнае рупіцца; і пабачыш яшчэ, што нават позіркам нельга крыўдзіць людзей, там дзе трэба — зьміргнуць, а дзе трэба — апусьціць вочы; і нават задумвацца будзеш ох як асьцярожна, не з пакутлівай маскай на твары, а са спакойнай, цёплай, ласкавай усьмешкай, быццам глядзіш на дзяцей; і яшчэ спазнаеш, як кшталтаваць кожны рух, каб ня выпусьціць раптам з рук ручніка ці лыжку і не запэцкацца самому; і яшчэ ўбачыш, як сонца перапальвае краты, і пачуеш, як пахне лета ў турэмным дворыку, і ўспомніш забытыя згукі дзяцінства; і дабярэсься да самае сутнасьці дробязяў — распляцеш шкарпэткі да ніткі, і са станка для галеньня дастанеш лязо... І яшчэ многае, многае, многае.

А яшчэ — станеш цаніць волю, паветра, бацькоў і сяброў.

І самае важнае — не сумнявацца.

Дзеля гэтага варта аднойчы прачнуцца на нарах з голай калючай патыліцай, асьлепнуць ад нязгаснае лямпачкі проста ў твар, адчуць, як пад табою рыпіць, і спахапіцца, што ляскае ў дзьверы «прагулка».

Чуваць тут усё. Калі нават ціха дзярбаніш сабе па перакладзінах нараў, нервова аддаецца на кожным ложку.

— Бля, хто гэта там барабаніць!

Гэта я.

— Ты што, абалдзеў, і так галава баліць.

Гэта *камер-тон*. Усё чуваць. Так бы мовіць, у турме шмат што перадаецца стукам, тым ці іншым.

На прагулку ці ў душ вартавыя б’юць у дзьверы вялізным ключом. Тым жа звонам ключоў, разам з рэхам, зэкаў перадаюць праз пралёт на закратаваных лесьвічных клетках. Звычайна зьвіняць аб парэнчы: «Бамц! Восем-сямнаццаць!» Першае — колькасьць галоваў; другое — нумар дворыка, куды трэба весьці. Сямнаццаты цесны, таму ўся каманда бурчыць.

Мы ідзём, разабраўшыся па двое ў патыліцы, у нізкай падвальнай галерэі. Зьлева — камеры сьмяротнікаў, тут заўсёды магільная цішыня; справа — *кармушкі* асуджанкі, там крыху жывей. Волка; у тых, хто сядзіць тут больш за паўгода, пачынае зажыва гніць цела. Бракуе паветра. Улетку на старым корпусе — ён зараз над намі — увесь час раве вентылятар, праіржавелая труба заводскага тыпу. Гэта скразьняк, і дзеля яго на падвальных акенцах і ў праёмах *кармушак* зэкі вывешваюць абажуры з шалясткіх палосак паперы. Прыемна чуць, шамаціць як лісьце.

Выбіраемся праз змрочны лёх з каменнымі вышчарбленымі прыступкамі наверх — і адразу па-

ветра, паветра, точыцца галава, і адразу стазыкі шум — перагаворваюцца ў дворыках... і зьверху, з закратаваных перакрыцьцяў, дзе зь мерным рыпеньнем ходзіць канвой, скрозь сухі пыл імжыць сонечнае сьвятло, струнна перабірае, перабягае па тварах, цёпла пераламляецца ў грудзях... Прамяні прымружваюцца, і ў іх танчаць іскрыстыя пылінкі, столькі, што боязна дыхаць — а так хочацца!

І сьвярбіць пчыхнуць. Пчыхнеш — і так добра.

Сямнаццаты дворык — глыбокі калодзеж, на дне — метра паўтара на два з паловай асфальтавага бруду. Так, пастаяць, ткнуцца мордай, крок туды, крок сюды. Становяцца ў кутах, плячом падпіраюць бугрыстыя сьцены, выбіраючы, каб было куды сплёўваць. Хтосьці кахікне ды шоргне; хтосьці млява пакалупаецца ў шчылінах — можа, дзе *маляву* пакінулі.

Сонца тлее на ўскрайку сьцяны. Яшчэ высока. А ў калодзежы сыры цень. На сьценах, быццам ранейшы ўзровень мора, зеленаватая цьвіль. Выламкі камянёў нібы гіганцкі ракушняк. Па кутах пярліны пляўкоў. Рыпнулі, спыніліся крокі наверсе. Сонечны канвойны аблёг на парэнчы, мружыцца, глядзіць сюды, як у ваду. Няма тут на што глядзець. Толькі плюнь.

Ціўкне недзе там птушка — і як ад кроплі кругі па вадзе.

На сьцяне млее сонечны пляж, клятчасты ад кратаў, ужо можна дастаць. Серж цягне, пластуе далонь пазагараць. Мне таксама хочацца плітачку. Так адломваюць, калі ёсьць, па кавалачку чакалядкі да чыфіру.

А чыфір піў, каюся. Калі нараў на ўсіх не хапае і спаць даводзіцца пазьменна — безь яго ніяк. Галоўнае, сэрца не пасадзіць і дахам ня дацца.

Прахалодна. На самым грэбні вецярком мірсьцяцца пацерачкі мху, празрыстыя, смарагдавыя праз сонца. Успамінаецца балада пра верасовы мёд і шат-

ландскія скалы. Нейкі прысмак, дымок у душы зь дзяцінства на гэты конт. Увогуле я ўжо не памятаю, адкуль такі ценкі сонечны ранак, калі я так рана выходзіў на вуліцу, так сьвежа і холад за сьпіну ловіць, і шчасна. Можа быць, нешта далёка школьнае, з ранцам на ўрокі, сьвежасьць... ці то босым па роснае сьцежцы на Дняпро, на рыбалку, пераступаючы знаёмыя карані... Берагавыя вербалозы шумяць — ці не заняў хто месца...

— Бля, — са злосьцю кажа хтосьці. Вядома ж, так.

*Раскоцваюцца* дзьверы. Дахаты. «По двое, я сказал».

Зрэшты, усё прасьцей. *Cogito ergo sum*. Калі я засынаю, значыць, часова выходжу на волю. Я ем — і тое ж, тры разы на дні, я раблю дома. Чытаеш кнігу, пішаш у сшытак, нават малюеш турму — ты вольны. Поўна ціхай, зьмястоўнай прасторы. Можаш зяхнуць. Або падысьці да кратаў, дыхнуць сьвежага паветра — і кожны, кожны каўток так і заходзіцца ў грудзёх. Ты ў турме.

Тут у кожнага бывае сваё пранізьлівае, ціхае імгненьне. Мне яно прыйшло над кніжкай, дзе камсамолец цалаваўся з камсамолкай. Закрыў твар далонямі, быццам чытаю — так шчымліва сьціснула вочы, перахапіла горла.

— Малы, калі ня цяжка, падай папяльнічку.

Гэта Дзёма. Абзац.

— Малы... Усё будзе добра.

Я, ледзь трымаючыся, шморгнуў носам і паспрабаваў усьміхнуцца скрозь мокрыя вейкі. Дождж скрозь сонца. Пальцам выцкаваў сьлязіну. Выцер аб сябе. Удыхні. Яшчэ раз. Хто бачыў? Мабыць, усе. Харошыя мае, і ніхто не сказаў нічога. А за такое тут, бывае, б’юць — у кожнага ўсё ж такі штосьці сваё.

Не расслабляцца, зайчык. Не расслабляцца.

Нарэшце, ёсьць і апошні шанц. На скрайні выпадак, для скоцтва, сэксоцтва і правакацыяў. Шыкоўная штука, бліскучая і вострая. Ускрыцьцё.

Не сьпяшайся. Калі ўжо такія кепскія справы, спачатку зьбіраеш *кешар* — невядома куды павязуць, трэ каб рэчы забралі з табой. Засьцілаеш *шканар*. Ручнік павінны быць пад рукой. Ставіш *зэчку* вады кіпяціцца, гэта для дэзынфекцыі. Лязо ў шчыліне *абшчака*. Вось, у прынцыпе, усё, што трэба.

Вены пагана. Усё-ткі рукі, імі так многа зроблена, ну ўсё-ткі прыкра. Можна горла — кажуць, эфектна, жахліва разлазіцца аж да вушэй, залівае крывёю грудзі. Піжоны. Лепш жывот — ёсьць там такая складка, запаветная складачка, колькі разоў мацаў і цацаў, прымерваў далоньню... Усё проста і хутка, лязо разам з пальцамі ашпарыць у кіпені, разам з зубамі, з пульсам сьціснуць мяса ў жорсткую жменю — і шах! — раскроіцца крывяністай глыбінёю рана; ты ў шоку, заварожана глядзіш, як разлазіцца, бел-чырвона-бела, ох і блага, сплывае, і становіцца млосна ад выгляду ўласнае крыві, я знаю, ты не выносіш... млееш у ванітоўным запаволеным сьне, морыць прылегчы... Грукайце ў дзьверы.

Няхай, ня будзем перад ядою. Час баланды.

Даюць баланду. Усе пазлазілі з нараў. Да *кармушкі*. На першае — суп зь пярлоўкай. Значыць, на другое стаадсоткава капуста і *шлёмкі* можна ня мыць.

Баланду есьці можна. Галоўнае, што жэжанькая, бо як астыне, наверсе плеўкай сьцягнецца *камбіжыр*, а гэтага лепш ня бачыць. Баланду сёрбаюць, заядаючы скарынкамі хлеба. Мякіш выкідваюць — цэлы бохан мякішу. Сьпецвыпечка. Страшэнная пякота.

Ты еш. За непрыемнай кіслінаю і глеўкім прысмакам камбіжыру амаль што мамін супчык. Трэба наядацца, набіваць пуза, каб аж атупець ад сытась-

ці — тады больш нічога ня хочацца. Хто сала ня браў? Смачнае гэтае сала, зноўку страўнік круціць будзе. Перажывём. Ты еш. На дне, як сонца, лямпачка — на маім месцы за *абшчаком* яна амаль заўсёды трапляе ў *шлёмку*. Я выграбаю, вышкрабаю рэшту напалам з тлустым сьляпушчым сьвятлом, да металёвага бляску. Дно ўсё ў шустрай, спорнай штрыхоўцы — кожнага дня тысячы зэкаў шчыруюць над гэтай чаканкаю, безыменнай і бессэнсоўнай.

Валадарская баланда — гэта сіла.

* * *

Вады не было. Потым далі дождж.

Наляцела страшэнная залева. Мабыць, зараз у горадзе лье і лье, як ашалела, і які-небудзь прыдурак, скрозь мокры, кудысьці брыдзе па вадзе, усё на ім ліпне, струменіць. А дзеці, прытыраныя, лётаюць з крыкам і верашчаць. Кроплі пляскаюць у краты, разьлятаюцца пырскамі, як з вадасьцёкавае трубы, ужо і сала ў газеціне намокла, і крапае з высокага падваконьня — а ён усё шуруе, шуруе. Гул стаіць, як на стадыёне, — і якраз пад гульню! Тут гуляюць з аглушальным азартам, імкнучыся перакрычаць: Ага! Бах даміношку аб стол — і дождж, шшш!! Бац яшчэ раз — трыбуны равуць!.. Стоп. Голы на месца, хвост абрубілі, паўрукі шасьцёрак... Лясь! — Лічыце вашы вочы! — і залпам дружны рогат, і шугае зь ветрам у хату, абдае халодны душ, і ты аж калоцісься ад захапленьня.

Дарэчы, калі дождж ці сьпякота такой парой — ураджаю ня будзе.

...Але, ураджаю ня будзе яму, не. У мяне жонка была на сьвіданцы, казала, у калгасе ўсё валіцца, дай ім там хоць сямнаццаць-васямнаццаць цэнтнераў узяць. А так ужо і лес закінулі, і камяні ніхто ня возіць. А колькі

каменьня я выбраў, мабыць, за ўвесь час, пакуль калгас, столькі ніхто не выбіраў. Салдаты вазілі, у нас часьць блізка стаяла; карміў іх, абед, усё як паложана, і пячэньне даваў. Яны зь дзесяці пачыналі, потым, значыцца, у дванаццаць аддыхалі, ну, безь пятнаццаці дванаццаць, дзе-та так... А цяпер... Не, ураджаю ня будзе.

Гэта дзядзь Віця, старшыня калгаса, баця з крыху бабскім голасам і дробнымі птушынымі звычкамі, увесь час насовачкай абціраецца. Гэта яму ў перадачах заўсёды прыходзіць кумпяк вяндліны ды магутнае сала з цудоўнай, барвовай на прасьвет пераросьлінкай.

А на волі цяпер лета. Сонца, сьпёка. Заходзіш у лес, а там усё прэе, цвіце, усё пучком — і тут *цела*, па ноздры закапанае ў зямлю. Цёплае і пахне. Адкопваеш... Ты можаш уявіць? Можаш. Тады адкопвай.

А гэта Серж, маладая мафія, прыехаў са сьледчага эксьпэрыменту. *Цела* — гэта труп, — Серж расказвае д’ябальскі ўзбуджана і радасна.

Віталік звычайна маўчыць, бо ён баксёр.

Іх сямёра, тых самых, за каго ты там змагаўся 24 гадзіны, дзень і ноч разам з народам — гаманіць, есьці за *абшчаком* і спаць па чарзе на адным *шканары*. Беларусы ў турме пачуваюцца лепш за астатніх. Карысная звычка — перабіраць жыцьцё як бульбу, жыць увесь час пры сабе і сам сабе варушыць мазгамі і прытым ціхай сапай захоўваць нешта хітрэйшае за іншых, нейкую шчэпць солі — прыкусіўшы ўсьмешку, ці зморшчыўшы лоб, ці краем вока, у невынішчальным прышчуры. Беларус, ён і ў камеры свежанькі, як толькі што выкапаны. Ды і сам ты тут, шчыра кажучы, захаваўся няблага.

Вось расейцы па-руску маюцца, сардэчныя, хоць ты лбом аб сьценку, хоць душой аб вушак, не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому.

Я выбіраю і рупліва лічу прыкметы. Усё сходзіцца. Заўваж, зараз Серж павернецца напаўабарота: якая масіўная беларуская скула з румянцам — ня ўсходняя, а камляватая — і зь якой знаёмай пластыкай выпінаецца надброўе, проста з партрэтаў у кабінетах бел. літ.

Свае. Усё чытаецца з паўслова — і знакамітая бялявасьць, і тонкія ноткі ў голасе, якія можна назваць высокімі і якія так часта зрываюцца ў нашых дзеячоў, і партызанская зацятасьць — рашуча ўсё, што ты ведаеш, і яшчэ трошкі. І адметнасьці гаворкі, асабліва гэтыя -сь і -ць, настолькі сьвісьцячыя і ценкія, што пазайздросьцяць заваконныя птушкі. Чамусьці ўсе нашы так саромеюцца ў прысутнасьці роднае мовы, што самі паціху пачынаюць цэкаць і сьцікаць на ўсе лады, аж заслухаесься. І, канечне, фенаменальнае беларускае вымаўленьне, такі неразборлівы сьпеў, з такім мудрагелістым суправаджэньнем, на такіх ухілістых паўтанах, што быццам бы чуецца тое, што хацелася б, і тым жа часам хто яго знае, што ён толькі што там сказаў...

Увогуле, мне ўсё больш здаецца: беларуская ўнікальнасьць — гэта да слова «ўнікаць».

Сем землякоў. Угадай, хто зь іх *раскручваў* мяне. Цяпер я прынамсі трох знаю. Калі-небудзь, можа, сустрэнемся ды пагаворым.

* * *

Глухая сірэна адбою.

Гэта сігнал. У хатах па ўсёй Валадарцы ўсчынаецца стоенае варушэньне.

— Віця, на *вока*, — кажа Серж. — Паша, давай шкарпэтку.

Так, я яшчэ ўчора абяцаў яму сваю памытую шараватую шкарпэтку. Ён паглядзеў: пойдзе.

Расплятаюць чацьвёра. Серж корпаецца зь лязом і высноўвае сярод пухнатых абрыўкаў сапраўдныя ніткі. Адна, дзьве, тры. Мы ўтрох хуценька пачынаем змотваць бясконцыя струны — кожны сваю: белая, мая чырвоная і яшчэ раз белая. Я ўсьміхаюся. Серж глядзіць на мяне:

— *Па масьці*, значыць...

Пальцы стамляюцца. Стрункі ціўкаюць, расчэпленыя міжсобку, і здаецца, што чацьвёра зэкаў сабраліся тайком і засяроджана выцягваюць з арнаментальных тканых узораў ціхую музыку, нязбыўную і манатонную.

Гэта яшчэ ня ўсё. Потым усе ніткі, складзеныя ўчацьвёра, будуць уручную скручваць на асадках, да болю ў зьнямелых пальцах, і расьціраць у далонях, мацуючы сілай трэньня ў адзіны шпагат. Урэшце, скручаны зь бел-чырван-белага *конь* мае зыходны, такі ж шараваты, як у шкарпэткі, выгляд. Хатні *конь* — гэта сувязь. Зараз яна нам спатрэбіцца.

І вось у сьценку б'юць чатыры глухія ўдары. *Цынкуюць* суседзі. Серж дастае, цішком размотвае каня каля кратаў:

— Дзёма, *прычал*. *Вока* там закрылі, хутка; Паша, на сьценку.

Я прабіваю чатыры ў адказ: працуем. Яшчэ раз глухія тры: рыхтуйся. Цяпер гатова.

Гулка шоргае за сьцяной; Дзёма, засеўшы на кратах, *маякуе*: ёсьць! Абрывае грузік (пушка запалак, набітая хлебным мякішам), таропка падцягвае *павуцінку* і вяжа вузлы. Б'ю «дома».

— Хутка давай, падыходзіць! — сіпіць ад дзьвярэй дзядзь Віця.

У жалюзі кратаў нешта шарготка трапечацца, як матылькі. Сэрца трымціць ня менш. Пакецік з булёнам, газеціна «братве» і запіска.

Гэта табе. Я знаю, ад каго.

Усе па койках! — і незьмігутнае *вока* ўжо абшарвае позіркам камеру. Я ціхаруся тварам да сьценкі і нішачкам разгортваю.

*Здаровенька, брацішка. Часік у радасьць. Прачытаў тваю пісаніну. Ну што сказаць: неяк сумнавата ўсё гэта. Канечне, у турме ўсякае бывае, час ад часу сам з сабой размаўляць пачынаеш — бачу, і ты гэтым заняўся. Разумею, сядзець ня мёд, але ж трэба было народу збацаць нешта гэткае, баявітае, «Жыве Беларусь», словам. Вайна ўсё-такі.*

*Зрэшты, у адным твая рацыя: галоўнае — верыць. Астатняе, у прынцыпе, сумятня.*

*Ліпень 1998 г.*

# ЛІСТЫ ЗЬ ЛЕСУ

## ЛЕС ЯК ЛЁС

Калі на міліцэйскім «жыгулёнку» мяне везьлі са сьпецкамендатуры Ветрына ў лясгас у вёсцы Малое Сітна, амаль усе 50 кіламетраў ад Полацка паабапал дарогі стаяў лес. Дастаў мапу, і ў вочы адразу кінулася: Залесьсе, Запалянкі, Замхі, Дуброўка, Бярозна, Алешча... Поўнач Полаччыны нароўні з глухім Палесьсем Лельчыцаў — самыя нетры Вялікага Беларускага Лесу. З таго часу, як Іван Жахлівы ў Інфлянцкую вайну папаліў усе ваколіцы Полацка, на паўтысячы гадоў тут запанаваў гушчар.

За Саветамі ў гэтых лясох і балотах зрабілі найвялікшы ў Еўропе Дрэтуньскі вайсковы палігон. Жаўнеры рэгулярна выпрабоўвалі ў беларускім лесе моц савецкай зброі, і грыбнікі не маглі прарвацца цераз ачапленьні да багатых на баравікі мясьцінаў.

Малое Сітна сярод гэтага спрадвечнага лесу, на беразе Палаты, — своеасаблівы фокус трацiны тэрыторый Беларусі. У шырэйшым сэнсе — увасабленьне глухое, аддаленае і аддзеленае ад горада беларускае вёскі, галоўнай базы Лукашэнкавага электарату і адначасова мацерыка беларускай мовы ды традыцыі, якія Зянон Пазьняк заклікае адрадзіць яшчэ з канца 1980-х.

Народ жыве зь лесу. Бальшавікі ніяк не маглі арганізаваць у Малым Сітне калгаса, бо вяскоўцы амаль не аралі зямлі — зьбіралі грыбы, ягады, шышкі, займаліся паляваньнем ды рыбалоўствам. Дый цяпер сапраўдная ўлада тут — не сельсавет і не ўчастковы, а «Полацклес» у асобе начальніка лесапункта, які распараджаецца транспартам, палівам, сувязьзю ды самім лесам.

Можа быць, менавіта такія вёскі яшчэ тояць у сабе першародную сілу *нацыянальнай глебы* — тут, на ўзбочыне рынкавага сацыялізму нацыянальна сьведамы беларус можа намацаць дзясяткі кропак апірышча. Але цэласнае Беларусі-вёскі, апетай у сялянскім эпасе XX стагодзьдзя — вершах Купалы, «На ростанях», «Людзях на балоце» і «Знаку бяды», — нават на гістарычных землях нашае першае дзяржавы, сярод запаветнага лесу, ля вытокаў тае ракі, што тысячагодзьдзе таму ўспаіла Полацк, ужо ня знойдзеш.

Асуджаны на працяглае назіраньне за штодзённым жыцьцём вёскі сярод лесу, пачынаеш задумвацца, чаму вясковая Беларусь дагэтуль падтрымлівае саўгасны рэжым і не нараджае новае хвалі нацыянальнага руху, чаму ўсё болей лаецца матам, п’е тэхнічны сьпірт і вымірае.

Бярэсься дасьледаваць, адкуль у такой вёсцы знайшоўся слухач «Свабоды» з 50-гадовым стажам, чаго хочуць дакапацца вяскоўцы ў крэпасьці Івана Жахлівага, спаленай Сьцяпанам Батурам, як рэагуюць на перайменаваньні прасьпектаў у Менску і як змагаюцца за ўраджай. Урэшце, плануеш пісаць пра ўсё гэта — і, зразумела, пра тое, як у адпаведнасьці з рэдкім супадзеньнем праграмаў Пазьняка і Лукашэнкі *адрадзіць беларускую вёску*.

Рэч ня толькі ў зьбегу абставінаў. Беларуская вёска на мяжы зь лесам у сімволіцы нацыянальнай ідэі зай-

мае асаблівае месца. Для беларуса, які тысячу гадоў харчаваўся зь лесу, хаваўся, будаваўся ў ім і лесам ад лесу адасабляўся, *узьлесак* — рыса ментальнасьці, параўнальная з фронтам. Партызанка, шляхціц Завальня, новая зямля коласаўскага палясоўшчыка Міхала, Белавежскія пагадненьні 1991-га. Для Беларусі лінія лесу дагэтуль азначае лінію лёсу. Правальваючыся ў акупацыю, меліярацыю ці калектывізацыю, беларуская вёска адштурхоўвалася ад лесу, нібы Антэй ад зямлі. І цяпер, калі бачыш сьпітых, абыякавых, зьніякавелых вясковых беларусаў, згубленых сярод лесу, думаеш: самы час адштурхоўвацца.

Бо лес і лёс у беларускай мове сугучныя, як ні ў адной іншай мове сьвету.

## РОБЕРТ БАГАРАД

У Малым Сітне кепская сувязь. Сотавыя тэлефоны маўчаць, як камсамолец на допыце. Для «хіміка», які працуе на лесапункце, магчымасьці зьвязацца зь «вялікай зямлёй» дзьве: або тэлефанаваць ад знаёмых, ставячы іх на праслухоўваньне, або ісьці на пошту. Пошта працуе з 9:00 да 14:00 ва ўсе дні, апроч нядзелі, «хімікі» — з 8:00 да 16:00, маючы толькі адну выходную суботу на месяц. У адзіную «сувязную» суботу, быццам на сьвята, іду на пошту са сьпісам на тузін тэлефонаў.

У рамачцы пад шклом — рэкламка: галоўная вартасьць дзяржаўнай сувязі — ейная якасьць. Віцебск ці Менск тут трэба замаўляць адмыслова праз полацкі камп’ютар і чакаць ад пяці хвілін да адной гадзіны. Але «можаце не хваляваца — вас усё роўна наўрад ці пачуюць».

Замаўляю. Чакаю. Чую з Полацка: «Гаварыце!» Далей — як у фільмах пра рэвалюцыю: «Дзевушка,

мне Смольны!.. Кажу, Смольны мне!!! Алё, Смольны!..» Безнадзейна. «Гучней!» — крычыць маладафронтавец зь Менска. Здаецца, мы перакрыкваем усю адлегласьць голасам. На трэцім званку лінія абрываецца. Паштаркі з палёгкай уздыхаюць: «На сёньня сувязі больш ня будзе».

Выходжу з пошты, цьвёрда перакананы: у такім гушчары апазіцыянеры павывеліся. Аж вось — на ганку стаіць невысокі дзядок, гадоў сямідзесяці, у шэрым касьцюмчыку, якія ў вёсцы на сьвяты апранаюць, кепачка…

— Колькі гадоў жыву ў вёсцы, а такой чыстай беларускай мовы ня чуў, — кажа дзядок, пачуўшы, як я крычаў. Мая вера ў народ умомант ажывае. — Вы, пэўна, Павел Севярынец? Я пра вас са «Свабоды» даведаўся.

Дзядка завуць Роберт Багарад. З каталікоў. Карані на Магілёўшчыне, ля Дрыбіна. Жыве на хутары Мураўішча, што за колькісот крокаў ад Малога Сітна. «Свабоду» слухае з пачатку яе вяшчаньня — з 5 сакавіка 1953 года.

— У дзень, калі памёр Сталін, — расказвае ён, — настаўнікі неяк даведаліся, што арганізоўваецца радыё з-за мяжы. У бацькі моцны прымач быў — дык сабраліся ў яго, а мяне, яшчэ малады быў, на варце пакінулі. Але ж як хвалю злавілі, паклікалі мяне ў хату ды выпусьцілі сабаку. Вялікі, белы ў нас такі быў, дык той ужо брахаў, як хто набліжаўся. Глушылі магутна, але словы можна было разабраць. Ціхенька настроім — і слухаем. І так увесь час. Ніхто ня здаў.

Дзед Роберт перасоўваецца па лясных сьцежках са спрытам і хуткасьцю Талаша.

— Пяць кіламетраў — і ўжо імперская Расея, — Роберт Багарад махае рукой на ўсход, — а людзі тут…

Несьвядомыя. П’юць. Ні да чога добрага не імкнуцца — і каму яны тут патрэбныя?

Цікава, колькі такіх вось партызанскіх слухачоў «Свабоды» ў Беларусі? Напэўна, ёсьць у кожнай вёсачцы. А вёсак у нас больш за 23 тысячы.

І чаму мы адразу запісваем самую беларускамоўную, самую блізкую да зямлі і самую бедную траціну беларускага народа ў актыў рэжыму? Дзіўна, але апроч Лукашэнкі ды Пазьняка пра гэта ніхто і не гаворыць.

Багарадаў хутар — некалькі абкружаных лесам хатаў. Гародзік, палісаднік, сад. Дзед Роберт разводзіць на палянцы між хвоямі і елкамі яблыні, грушы, сьлівы, парэчкі. Прышчэплівае, абкопвае, чысьціць ад садовых хвароб. Каму дастанецца? А вось, будзе сабе сад сярод лесу.

— Тут, — паказвае Роберт Багарад, — падгнілы плот. І дужа плодзяцца зьмеі. Выпаўзаюць на сьцежку, якісьці да вёскі, дык я бяру палку і, калі пацэлю, забіваю ды на плот вешаю.

Хата ў дзеда Роберта чыстая, дагледжаная. На галоўным месцы, дзе ў звычайнай сям’і абавязкова стаіць тэлевізар, — вялізны, яшчэ савецкі радыёпрымач (а я спрабаваў знайсьці «Свабоду» аж на трох найноўшых). Вось ён, сапраўдны вузел сувязі на ўсю ваколіцу! Побач — колькі вёдраў брусьніц, на якія тутэйшы лес вельмі багаты. Стол. Зэдлік. Ложак.

— Давайце прынясу вам сьвежых газет ці кніжак якіх, — агледаю я пазбаўленае іншых прымет цывілізацыі жытло.

— А, ня трэба, — адмахваецца дзед Роберт, — вочы ўжо ледзь бачаць, не прачытаю. Я пра ўсё са «Свабоды» даведаюся.

Падумаць толькі: чалавек ужо больш як паўстагодзьдзя сядзіць ля прымача ў глухой беларускай вёс-

цы і слухае пра пахаваньне Сталіна, Карыбскі крызіс, палёт на Месяц, задушэньне Пражскае вясны і перамогі «Салідарнасьці», перабудову, Адраджэньне, здабыцьцё незалежнасьці і яе здачу, рэферэндумы ды акцыі апазіцыі… Чалавек прыслухоўваецца да імклівага руху планеты і бачыць перад сабой адну і тую ж карціну… Асацыятыўны шэраг надзвычай біблейскі: прозьвішча «Багарад», людзі, што не імкнуцца да дабра, сад, зьмеі — і Свабода. Чалавеку вельмі хочацца нарэшце ўбачыць, а ня толькі пачуць вольную, незалежную, адроджаную краіну.

Колькі яшчэ здолее чакаць Роберт Багарад?

Дзеля аднаго гэтага ў 2006-м трэба перамагаць.

## ПРАЦА ШТАБЯЛЁЎШЧЫКА

Галоўная кантора маласіценскага лесапункта — белая з чырвоным дахам, ды яшчэ арнамент паўз увесь падмурак. Натхнёны ансамблем нацыянальных колераў, я рушу наўпрост да бухгалтаркі (яна ж — тутэйшы аддзел кадраў) па сваё працоўнае месца.

— Кім работалі да гэтага? — не падымаючы галавы, запытвае бухгалтарка.

— Інжынер-геолаг, менеджар па продажах, мастак, журналіст, займаўся грамадскай адукацыяй, ідэалогіяй… — рапартую бадзёра, назіраючы, як асадка ў руцэ бухгалтаркі замірае па-над графой «прафесія», а сама яна глядзіць ужо на мяне.

— Ага, — трохі няпэўна, але, як мне падаецца, задаволена канстатуе «аддзел кадраў». Я ўжо гадаю, што яе зацікавіла найбольш: можа, у гэты самы момант вырашаецца мой лёс на бліжэйшыя два гады… — Будзеце працаваць у нас штабялёўшчыкам.

Бясконцае нагрувашчваньне штабялёў хвоі, елкі, бярозы, асіны ўздоўж чыгункі, вал дрэва, у маштабе

якога чалавек — мурашка. Вось гэты чалавек і ёсьць штабялёўшчык. Яго працоўнае месца — на эстакадзе. Так называецца даўжэзны, метраў пад 100, памост, звараны з рэек ды насланы дошкамі, на якім ствалы звальваюцца зь лесавозаў, расьпілоўваюцца, пускаюцца па транспарцёрнай стужцы, сартуюцца па гатунках, звальваюцца ў кішэні і адкуль кранамі грузяцца ў вагоны Беларускай чыгункі.

Кранаўшчыкі, стропальшчыкі, раскрыжоўшчыкі, механікі, электрыкі ў Алешчы працуюць зь якой-ніякой тэхнікай, а штабялёўшчыкі — цяглавая сіла. Менавіта яны ўручную, з дапамогай жалезных крукоў, адкочваюць па эстакадзе расьпілаваныя бярвёны даўжынёй два-пяць метраў на стужку. Часам трэба скакаць цераз бервяно, якое коціцца згары, — як такі балет удаецца п’яным? Далей — паўз усю эстакаду — штабялёўшчыкі рукамі або рычагамі (вялікі драўляны дрын) скідаюць у асобныя аддзелы (кішэні) розныя сарты дрэва: дровы (двухметровыя галіны), піловачнік (3–4-метровыя хвоі і елкі на дошкі ці шпалы), фанеру (бярозу для вытворчасьці фанеры), балансы (дарагую драўніну на экспарт), тэхнічную сыравіну (на цэлюлозу і прадукт дрэваапрацоўкі)…

Штабялёўшчыкі закідаюць у трактарныя прычэпы і самазвалы адпілаваныя камлі, якія тут называюць «паджывотнікамі», і нестандартныя абрэзкі, перакладваюць разваленыя пры транспартаваньні кранамі штабялі, абкорваюць сякерай ды скрабкамі вагонныя стойкі для экспарту лесу, прыбіраюць пілавіньне і вецьце.

Рукавіцы, што выдаюцца раз на месяц, дзяруцца тут за тыдзень. Пераламаныя пальцы, рукі, ногі, траўмы хрыбта і сьпіны — штатныя здарэньні (трэба сказаць, амаль заўсёды па п’яні).

Праца цяжкая. Напэўна, гэтым кіраваліся байцы

нябачнага фронту, накіроўваючы мяне ў Алешчу, — каб больш высільваўся ды менш думаў. Насамрэч, алешчанская эстакада — цудоўная пляцоўка для будаваньня ўласнага цела — «храма душы». У Менску ў спартзалах плацяць грошы за тое, што складае штодзённую працу тут.

Міжволі думаеш: якраз-такі накачваньнем мускулаў (у арганізацыйным плане) мусяць займацца цяпер кволыя апазіцыйныя структуры перад кампаніяй-2006. Разносіць улёткі. Абыходзіць кватэры ад дзьвярэй да дзьвярэй. Трэніравацца. Рыхтаваць тысячы і тысячы прыхільнікаў, якіх не хапіла ў 2001-м ды летась… Партыйным функцыянерам і заўсёднікам офісаў NGO пара рабіцца палітычнымі штабялёўшчыкамі. І працаваць, працаваць, працаваць. Штодня. Да зьнямогі.

Толькі так у 2006-м мы здолеем перамагчы.

## ЛЕСАПАВАЛ І КОШЫКІ

Раніца. У маласіценскім лесапункце — урачысты сход. «Полацклесу» — 75 гадоў. Выступае начальнік лесапункта:

— Цяпер наша аб’яднаньне перажывае ня лепшыя часы…

Народ маўчыць.

— Але справы не зусім кепскія, — падпускае аптымізму галоўная бухгалтарка. — Гэты год «Полацклес» скончыў з прыбыткам 175 млн рублёў.

Народ маўчыць.

— А яшчэ трэба сказаць, — завяршае выступ мясцовы пажарны, — дысцыпліна ў нас кульгае. А тут скарачэньні ідуць…

Маўчаньне павісае ў паветры, агромністае, як варожы цэпелін.

— Пытаньні? — начальнік пільна аглядае залу.

— Ясна, — выдыхае нехта з далёкіх радоў, — пайшлі ў лес.

Грамада шумна ўстае, бярэ бензапілы, шуфлі ды ссабойкі і брыдзе да гаража, па машынах.

Што «Полацклес» перажывае ня лепшыя часы, даўно не навіна. Заробкі па 100-200 тысяч, няспынныя паломкі, пажары, калецтвы. Начальства перакананае, што галоўная праблема — хранічнае невыкананьне плана нарыхтовак. Вінавацяць «негатыўныя зьявы», кадыфікаваныя ў дырэктыве № 1, сьпірт «максімку». Аб тым, што ўся сістэма «Полацклесу» (і яшчэ тузіна такіх жа «…лесаў» па Беларусі) стратная ў прынцыпе, мала хто задумваецца.

Насамрэч тое, чым займаецца «Полацклес», на любой з моваў Еўразьвязу называецца «барбарскае вынішчэньне нацыянальнага багацьця». Нават не даючы спушчанага зь Менска плана, аб'яднаньне штогод вывозіць з тутэйшых лясоў 4,5 тыс. вагонаў дрэва. Ільвіная доля «круглякоў» ідзе за капейкі на экспарт, астатняе — на фанерныя, мэблевыя і цэлюлозна-папяровыя прадпрыемствы «Бельлеспрама». Хвойны лес павінен сьпець 70 гадоў, а яго высякаюць у 20–30 (цяпер валяць якраз пасаджанае за Машэравым) — і гэта нікога не хвалюе. Лясныя дзялянкі пасьля такое высечкі выглядаюць апакаліптычна — быццам пасьля бамбардзіроўкі метэарытамі. Уздоўж дарог на пнішчах застаюцца толькі драўляныя вышкі — там начальства, што прыязджае з абласнога цэнтра ці сталіцы, палюе на дзікоў. Праз колькі дзесяцігодзьдзяў беларускі лес ператворыцца проста ў закінутую прамзону, зарослую падлескам.

Каму ж выгадны Вялікі Беларускі Лесапавал?

Вугорцам, якія робяць зь беларускай хвоі ды бярозы мэблю, а потым вязуць прадаваць сюды. Італьянцам, якія лушчаць беларускую асіну і плятуць са

стружкі цудоўныя сувенірныя кошыкі для турыстаў. Нарэшце, фінам, якія вывозяць сырую драўніну ў краіны Балтыі, Заходнюю Еўропу — розьніца ў цэнах ад 1,5 да 3 разоў, а хто ў нас выдае ліцэнзіі на такі гандаль, мы добра ведаем.

Няўжо Госпад Бог даў Беларусі такія бары, гаі ды пушчы, каб сячы іх на вываз ці зводзіць на шпалы?.. Няўжо беларусы ня ўмеюць самі пілаваць, габляваць, цясьлярыць ды плесьці кошыкі?

Мінімальная замена сыравіннага канвеера на алешчынскай эстакадзе — тартакі. Пілавачнік на сусьветным рынку прынамсі ўдвая даражэйшы за круглае дрэва — дык можна хаця б скараціць маштабы высечкі.

Яшчэ лепш — мэблевая фабрыка. І аб'ём драўніны расходуецца на парадак меншы, і прыбытак дасьць большы, і працоўных месцаў дабавіць, і заробкі павысіць.

А зусім цудоўна — майстэрні па вырабе сувеніраў, абсталяваньня для агратурызму, тых жа кошыкаў для садавіны, ды хоць кітайскіх палачак для ежы. Тады беларускі лес зможа вольна ўздыхнуць на поўныя грудзі і спакойна сьпець да свайго часу.

Натуральна, ёсьць толькі адзін шанц уратаваць беларускую дрэваапрацоўку. Перамагчы ў 2006-м.

## «МАКСІМКА»

«"Максімка" — шклоачышчальнік на аснове этылавага сьпірту. Таксічны. Пры пападаньні на адкрытую паверхню скуры прамыць праточнай вадой».

Гэта напісана на пяцілітровіках, якія расейцы велікалуцкім дызелем завозяць у Алешчу і прадаюць па 20 тыс. рублёў. Але няма пад Алешчай даўн-таўна небасягаў, на мыцьцё вокнаў якіх спатрэбіўся б

аб’ём штотыднёвых расейскіх паставак. Праточнай вадой «Максімку» разбаваяць да належнага градусу і разьліюць у бутэлькі з-пад ліманаду ці мінералкі — і вось ён, самы даходны бізнес у Сітна-сіці. «Максім Максімыч», «Максімільян», «Максімус» — валадар навакольля. Ні гарэлка, ні самагонка ня вытрымаюць канкурэнцыі зь ядраным пойлам, якое ўмомант «зрывае дах» і паўлітра якога для мясцовых «сьпіртавозаў» абыходзіцца таньней за хлеб. Зрэшты, жывых грошай за «Максімыча» тут амаль ніколі ня плацяць. Бяруць «на доўг» (напрыканцы месяца аддаюць паўзаробка), часьцей прапаноўваюць бартар: колькі слоікаў салянкі або трыста грамаў кілбасы, якіясь рэчы…

На сьвята тут звычайна ўжываюць крамнае віно: «Крыжачок», «Вішнёвы сад», «Васілісу». Гэта, у параўнаньні з тэхнічным сьпіртам, пітво высакароднае, п’ецца чаркаю. А «Максімка» — напой будзённы: «прыняць», «дагнацца», адзначыць «дзень рускай балалайкі» ці «першы аўторак тыдня»… І п’юць ужо кубкам або ўвогуле з рыла.

У Малым Сітне — 19 пунктаў, дзе прадаецца «Максімка». Сьпіс ляжыць у сельсавеце, участковы ў курсе. Але гандаль ідзе безупынна. А то ж: у любога каланіяльнага рэжыму спойваньне заўжды лічылася найбольш эфектыўным спосабам падпарадкаваньня абарыгенаў і нейтралізацыі магчымага пратэсту. І той, хто гандлюе, і той, хто п’е (а разам яны ў вёсцы складаюць большасьць), ведаюць, што кожная спроба адстаяць свае правы сустрэне абгрунтаванае абвінавачаньне ў распаўсюдзе ці рэгулярным ужываньні «Максімкі». «Самі ж п’яце, — цынічна нагадвае мясцовая ўлада, — ніхто вас не прымушае». Ад безвыходнасьці люд глушыць яшчэ больш. Труціцца. Вешаецца. Вымірае. Эпілепсія, якая разьвіваецца ад пастаяннага піцьця «Максімкі», на алешчынскай эстакадзе —

звычайная зьява. Калі пахмельны раскрыжоўшчык з заведзенай бензапілой раптам разварочваецца — ты жахаесься ад невідушчага позірку. Калі малады мужык падае на бярвеньне, разьбівае ў кроў галаву і калоціцца без прытомнасьці; калі маці чацьвярых дзяцей, што адкочвае крукам ствалы на эстакадзе, у прыпадку валіцца на кучу сьмецьця — народ абыякава паціскае плячыма: «Максімка». Цудоўныя беларускія тыпажы, вобраз і падабенства Божае, па меры алкагольнай дэградацыі набываюць яўныя рысы ідыятызму. Людзі гніюць зажыва, пачынаючы з галавы. Дзеці нараджаюцца разумова адсталыя ці з псіхічнымі расстройствамі.

Адны рэпрэсіўныя захады становішча не паправяць. Апроч нармальнай мяжы з Расеяй, апроч буйных штрафаў за распаўсюджваньне зельля, апроч татальнай інфармацыйнай прафілактыкі тут трэба нешта большае. Трэба зьнішчыць прычыну, якая штурхае люд да запою. Вярнуць беларусам сэнс жыцьця. Веру ў Бога. Любоў да Радзімы. Сваю справу.

Спыніць трыумфальнае шэсьце «Максімкі» можна толькі адным чынам.

Перамагчы ў 2006-м.

## НЯМА ВЕРЫ

Аднойчы, распытваючы сіценцаў пра найбліжэйшую царкву, я набрыў на бабку гадоў васьмідзесяці. Яна сядзела на лаўцы ля хаты і паводле ўсіх прыкметаў павінна была ведаць, дзе і каму моляцца тутэйшыя жыхары.

— У царкву мы ня ходзім, унучак, — растлумачыла старая. — Яна нам ня трэба. Мы ж у Бога ня верым.

— Як так?

— А-а… — няпэўна махае рукой бабулька. — Як камуністы былі, дык казалі, што Бога няма…

— А ён ёсьць, — кажу бабулі.

— Ёсьць, ёсьць, унучак, — ківае галавой тая. — Ёсьць, мы ня праціў… Толькі мы ў яго ня верым.

Вось ён, сіценскі сімвал веры. Ведаць, што Бог існуе, і ня верыць у яго. Штосьці да болю знаёмае і вельмі беларускае. У краі, дзе тысячагодзьдзе таму прапаведаваў Торвальд Вандроўнік, на радзіме Еўфрасіньні, Сімяона ды Скарыны, у самай калысцы беларускага хрысьціянства — няма веры.

Калі падчас перакуру я паспрабаваў паразмаўляць пра Бога на эстакадзе з рабочымі, рэакцыя больш за ўсё нагадвала калектыўны прыступ шалу. «Што для нас гэты Бог зрабіў?.. Як камуністаў скінулі, усе вы за сьвечку і ў царкву! Чаму дзеці паміраюць, а Бог на гэта глядзіць?!. Вось мы тут прападаем, а яму ўсё роўна!..» Яны крычалі наперабой, аж захліпаючыся, як брэша зграя сабак, не жадаючы пачуць адказу, адчайна выплюхваючы ўсю сваю злосьць, і шпурлялі тыя выкрыкі, быццам камяні.

Дзіўная рэч: палітычныя прамовы тут праходзяць, а словы пра Бога выбухаюць, нібыта бомба.

«Страшны край, — сам-насам дзяліўся са мной уражаньнямі інжынер, што прыехаў сюды зь Берасьцейшчыны, — тут жа нават як памрэ чалавек — не адпяваюць, не галосяць, не памінаюць толкам… Закапалі, як падлу, каб хутчэй выпіць, — і канец».

Сьвятар з Полацка прыязджае ў Алешчу ды Малое Сітна раз на год — пахрысьціць немаўлят. Далучыць, так сказаць, прыплод да паствы. Ня верыцца мне, што гэтак тутэйшыя душы будуць збаўлены. Ня верыцца, што ў Полацкай епархіі няма магчымасьці хаця б раз на месяц, хаця б у прыватнай хаце арганізоўваць хаця

б адно набажэнства на абшары больш як 1 000 км$^2$… Праваслаўны атэізм, інакш не назавеш.

І люд разважае: «Што нам Бог? Жылі неяк бяз Бога і памром сабе. Згніём, а пасьля ж нічога няма». Ці можа чалавек, які рыхтуецца адно згніць ды зьнікнуць, думаць пра лепшую будучыню? Пра краіну, праўду, свабоду?..

Бязьвер'е — найглыбейшы і самы чорны корань зла, што буяе ў Алешчы і Малым Сітне. Невідушчыя вочы, апушчаныя абліччы, жабрацтва, алкагалізм, самагубствы сілкуюцца адсюль. З пустога сэрца.

У тое, што гэтых людзей успоіць хрустальны сасуд рыначнага сацыялізму, што іх накорміць гуманітарка з Амерыкі, што іх выратуе наездамі раз на год бацюшка, у мяне веры няма.

Але ў тое, што Бог дасьць абуджэньне гэтаму краю, калі пераможам у 2006-м, — веру.

## СІТНА І САТАНА

У Сітне часам хочацца крыкнуць: «Няўжо тут насамрэч усё так кепска?!» І чым далей, тым часьцей просіцца на язык: «праклятае месца». Насельнікі вёскі ня вераць у Бога. Затое кожны, узьняўшы палец угару, кажа: «Ёсьць жа нейкая вышэйшая сіла!» Тут сьвята вераць у порчу, сурок і чорную магію, тут уважліва чытаюць гараскопы на наступны тыдзень, спрабуючы разабрацца, у якім астрале супрацьстаяць адзін аднаму Ўран ды Юпітэр. Тут перакананыя, што на гары на ўезьдзе ў Сітна, дзе часьцяком б'юцца машыны, чорт жыве. Але сапраўдны тутэйшы бог існуе ў вадкім агрэгатным стане і мае моц 40 градусаў, а то і вышэй.

У навакольлі буяе распуста: да мужыкоў, якія адкрыта, на ўзор мармонаў, жывуць зь дзьвюма, а то й трыма «жонкамі», тут ставяцца гэтак жа цярпіма, на-

ват спачувальна, як і ў Еўропе да гомасексуальных шлюбаў. У ветрынскай сьпецкамендатуры на сьцяне дзяжуркі — тры фотаздымкі. За апошнія некалькі месяцаў у раёне знойдзеныя трупы трох дзяўчат, падазраваных у прастытуцыі на трасах. Нікога гэта не палохае і не выклікае чутак пра маньякаў. Кажуць, звычайная справа, «абдарылі» кагосьці з дальнабойшчыкаў, вось тыя на зваротным шляху і расплаціліся.

Ад старасьці сіценцы звычайна не паміраюць. Вось толькі некалькі нядаўніх выпадкаў.

Падчас сваркі 50-гадовы муж да сьмерці зьбівае жонку; усю ў гузаках, сьсінелую, яе паказваюць фельчару: маўляў, упала з даху.

Пасьля сумеснага з сужыцелькай, загадчыцай леспрамгасаўскай лазьні, расьпіцьця «максімкі» мужык ідзе ў тую самую лазьню і вешаецца на яе дзьвярох.

Хлопец зь дзяўчынай у вёсцы, падвыпіўшы, выязджаюць пакатацца на матацыкле. Ля моста праз Палату абое разьбіваюцца насьмерць.

Пажылая кабета атручваецца «максімкай». Афіцыйная версія: сэрца.

Так, сэрца! Бо менавіта «з сэрца выходзяць ліхія намыслы, забойствы, пералюбы, распуста, крадзяжы, ілжывыя сьведчаньні, зьнявагі, і гэта апаганьвае чалавека» (Мацьвея 15:19–20).

Калі мы хочам выгнаць сатану зь Сітна, з Полаччыны, з сэрца Беларусі ды з сэрцаў усіх беларусаў — тым, хто верыць у Бога і любіць сваю краіну, у 2006-м абавязкова трэба перамагаць.

## МАГІЛКА З ЧЫРВОНАЙ ПЕНТАГРАМАЙ

Каля алешчынскае канторы на беразе вялікае лужыны, што ўвесь час паглыбляецца лесавозамі,

стаіць надмагільны помнік з чырвонай зорачкай. Імя, імя па бацьку, прозьвішча. Дата: 1938–1994.

Я калісьці чуў гісторыю пра лётчыка, які разьбіўся ў навакольлі падчас вучэньняў на палігоне. Але вырашыў спраўдзіць — запытаўся рабочых.

— Лётчык?! — выбухнула рогатам брыгада. — Герой Савецкага Саюза! Як ён тут у штопар увайшоў!..

Калі рогат сьцішыўся, мне патлумачылі. Помнік тут пастаўлены дзеячу, прысланаму сюды ў леспрамгас з Полацка. Якраз па прэзідэнцкіх выбарах, увосень, п’яны, засунуўшы рукі ў кішэні плашча, ён ішоў да канторы, але zаваліўся тварам у лужыну ды захлынуўся. Ня здолеўшы дастаць рукі, патануў там, дзе вады на паўбота. А чырвоная зорка — таму што камуніст быў.

Яшчэ адзін помнік з чырвонай зоркай — над брацкай магілай часоў Другое сусьветнае — стаіць у цэнтры Малога Сітна, там, дзе раней была царква. Царкву ў 1941-м разабралі на бліндажы, а магілу выкапалі ўжо ў 1970-я, калі кампанія ўшанаваньня подзьвігу савецкага народа дакацілася да апошніх сельсаветаў. Прыязджаў пошукавы атрад, накапалі ў лесе касьцей («А дзе ўгадаеш, якія чые, столькі часу мінула: мо нашы, мо нямецкія, мо наагул сабачыя», — кажуць у вёсцы). Ссыпалі ў кучу. Карэспандэнт раёнкі, салдаты з салютам, «ніхто не забыты» — усё як належыць. Сабралі паўвёскі далакопаў, тыя рыдлёўкамі лясь ды лясь — ага, царкоўны падмурак. Узарвалі. Хрысьціянства тут выкаранялі грунтоўна, дарэшты, з коранем. Знайшоўся ж нейкі раённы ідэолаг, які распарадзіўся ўтнуць тую чырвоную пентаграму менавіта на месцы храма. Каб сьвятое месца не пуставала. Так і стаіць, глядзіць у вокны закінутага сьвятарскага дома сатанінскі сімвал. Маўляў, перамога за намі.

А ўвогуле бляшаныя чырвоныя зоркі панапры-

біваныя ў Сітне на палове хатаў. Калі напачатку маёй «хіміі» адна мясцовая жыхарка, вычарпаўшы ўсе аргументы ў спрэчцы, выпаліла ў твар: «Нацыяналіст! Ты нават у хаце паліцая жывеш!» — я шчыра зьдзівіўся: «Як гэта? Там жа зорка!» Яна адмахнулася: «Вядома, зорка… Ён жа *ўчасьнік вайны*!»

Колькі іх было — адзначаных зоркамі на пагонах, на хатах, на могілках «учасьнікаў вайны»… Вайны зь нядаўнім саюзьнікам, з класавым ворагам, з уласным народам… Вайны з Богам… Дзіва што, ад усёй эпохі камунізму, ад агромністае савецкае імперыі апроч паламаных лёсаў і зьнявечанае зямлі ў Малым Сітне ды Алешчы засталіся толькі вось гэтыя нязгасныя чырвоныя зоркі. Як крамлёўскае таўро. Па-над дзьвярыма. Па-над абеліскамі. Па-над гербам з каласкамі, што на ганку сельсавета.

Глядзіш на гэтыя злыя крывавыя значкі, быццам у вочы д’яблу. Глядзіш і думаеш: цікава, а што ж, акрамя магілкі з чырвонай пентаграмай 1994 года, застанецца ў Малым Сітне ды Алешчы ад эпохі Лукашэнкі, калі 19 сакавіка мы пераможам?

## ТРЭСКІ ЛЯТУЦЬ

Выкліканы да начальніка лесапункта пасьля алешчынскіх праймэрыз, ужо на парозе я пачуў кароткі вырак: «У лес!» У Малым Сітне адпраўкай на лесапавал ганаруюць тых, хто праштрафіўся, надэбашырыў ці раззлаваў начальства. «У лес» — праца аўтаматычна падаўжаецца на гадзіну-паўтары, бо да дзялянкі колькідзясят кіламетраў. «У лес» — значыць, заробак ніжэйшы, а ўмовы цяжэйшыя. «У лес» — значыць, зусім бяз сувязі (у Алешчу бацькі яшчэ маглі датэлефанавацца, а тут навокал гушчары, дый да мяне на працу наўрад хто дабярэцца).

Лесапавал — скрозь у радыусе 60 кіламетраў ад Сітна. За месяц-другі тут узьнікае чарговая плеш, усеяная вываратамі ды раструшчаным суччам. Лес высякаюць па-барбарску, зьбіраючы толькі спраўную драўніну, прыдатную на экспарт сырым кругляком. Вялізная маса танкамеру, які ў Еўропе выкарыстоўваюць да апошняга сучка, застаецца гніць у лесе або спальваецца.

Лес валяць па 4–5 чалавек. Пільшчык зь бензапілой падпільвае дрэвы, вальшчык з 4-метровай вілкай піхае, каб падалі, куды трэба, сукаруб зь сякерай парадкуе суччa, а трактарыст чапляе і тралюе пачак у 10–12 ствалоў у гарадок (расчышчаная ў лесе пляцоўка), дзе сківічнік (машына зь вялізнымі клешнямі) грузіць іх на лесавозы.

Працуюць у касках. Галоўная небясьпека — сукі, што завісаюць на дрэвах: парыў ветру можа шпурнуць такую піку з вышыні 20 метраў і забіць напавал. Часам няўдала кладзецца дрэва (асабліва калі валяць у канадскі спосаб, з эфектам даміно) — тады не ўратуе і каска. Трэба пільнавацца і ля тралёвачнага трактара: іншы раз папярочны хлыст у 10–15 метраў, падцягваны ў пачак за трос лябёдкай, упрэцца ў пень і з трэскам, як гіганцкі бізун, выпісвае ў паветры самыя нечаканыя траекторыі.

У працы сукаруба няма нічога складанага. Цярэбіш направа ды налева суччa даўгой сякераю, стараесься цераз ствол, каб ня трапіць выпадкам сабе па назе, беражэш вочы ад пырскаў трэсак, абсякаеш верхавіны. Калі трактар валачэ апрацаваныя хлысты прэч, таўсьцейшыя сукі ды верхавіны ўкладваеш упоперак каляінаў (утвараецца волак — своеасаблівая гаць, каб на балацявінах, дзе застаўся прамысловы лес, трактар не праваліўся), а драбнейшыя зносіш у вогнішчы ды паліш.

На абедзенным перапынку лесарубы ідуць у будку — вагончык на колах, дзе топіцца буржуйка. Нават дзьве брыгады разам у будцы не зьмяшчаюцца — таму абедаюць пазьменна. Першая і другая стравы ў алюмініевых бітонах зь леспрамгасаўскай сталоўкі ранкам загружаюць у вахтоўку — разаграецца на буржуйцы; хлеб з салам, гарбату і да гарбаты трэба браць самім. У Сітна вахтоўка вяртаецца паміж пятай і шостай вечара. Час пасьля вячэры — 3,5–4 гадзіны да адбою — гэта ўсё, што застаецца на адпісваньне лістоў, працу над кнігай, чытаньне, тэленавіны, палітыку, Біблію. Раз-пораз адчуваю сябе маленькай трэскай, што далекавата адляцела з-пад сякеры найлепшага сябра ўсіх беларускіх лесарубаў. Што ж, пры Сталіне тое, чым мы займаемся, калісьці каштавала людзям 25 гадоў бяз права перапіскі, ды на Калыме, а то і расстрэлу ў Курапатах. А цяпер… Бог дасьць — прарвёмся.

Але каб лесапавалы Беларусі за бліжэйшыя пяць гадоў не ператварыліся ў ГУЛАГ або каб перад наступнай прэзідэнцкай кампаніяй дысідэнтаў не павысылалі ў далёкія ўладаньні нашчадка беларускіх магнатаў Абрамовіча пісаць чарговы таежны раман Беларусі з Расеяй — 19 сакавіка мы мусім абавязкова перамагаць.

## ВОГНЕННЫ СЬНЕГ

Здавалася б, нарыхтоўка лесу. У Беларусі такіх дзялянак сотні. Нічога незвычайнага. І ўсё ж менавіта тут, на лесапавале, і менавіта гэтай зімою, як калісьці ў дзяцінстве, мне адкрылася безьліч сапраўдных цудаў.

Часам, чакаючы тралёвачнага трактара з чарговым пачкам, машынальна пачынаеш падлічваць колцы на

сьпілах зваленых у штабелі ствалоў. 15. Дубок узросту беларускай незалежнасьці. Шкада, дружа: трапіў пад пілу саўковае сістэмы нарыхтовак. 29. Вольха, мая равесьніца. Прывітаньне! Рыхтуйся на цэлюлозу — магчыма, яшчэ сустрэнемся… на ўлётцы ці на старонцы «Нашае Нівы». 34. Хваіна часоў Машэрава. Рана зрэзалі. Мабыць, пойдзе на які слуп лесьнікам, не спарахнее. 52. Асіна, раўня Рыгоравічу. На фанеру… Ого! Чэсьць! — елка ўзросту БНР! Еўрастандарт, за мяжу па найвышэйшым разрадзе… Вялізная клавіятура машыны часу разгортвае перад табою ўсю панараму эпохі ў канцэнтрычных кодах. Быццам колы на вадзе, на зрэзе фіксуецца рэха падзеі. Хіба ня цуд?

Або ў непралазным балотным гушчары трапляеш на вялізную яліну накшталт тых, што ставяць на Кастрычніцкае плошчы ў Менску. Толькі вось на сярэдзіне ствала, амаль пазбаўленага галінаў, прыбіты крыж. Ледзь угледзіш надпіс: «Львів. ДМБ 1981». Так, дапусьцім, падчас вучэньняў салдат-украінец пакінуў па сабе памяць. Але як крыж апынуўся на дзесяціметровай вышыні? Ствол гладкі, як калона, і абсалютна непашкоджаны. Цуд? Лесавікі ўсьміхаюцца: крыж прыбівалі ўнізе. За 25 гадоў елка проста вырасла.

Упершыню ў жыцьці бачыў ужывую пару ласёў, якія стаяць пры дарозе, аб’ядаючы кару зь вецьця, і зусім не палохаюцца машыны. Або статак дзікоў, калматых, бы тыя маманты, якія сярод белага дня праходзяць за 15–20 метраў ад нашае брыгады па сваіх сьвінячых справах…

Назіраеш, як на 30-градусным марозе, зваленая на мерзлую зямлю, выбухае з фаерверкам ашкелкаў ломкая, бы зь лёду, хвоя — і кожны ўдар сякеры аб сук адгукаецца дзіньканьнем каляднага званочка…

Або ўзяць вогненны сьнег… Так, узяць жменяй, каб сьцерці рукі ад бруду, саляркі ці змазачнага алею

(у інтэрнаце ўжо паўгода ня могуць паставіць рукамыйнік) — ад пякучага холаду далоні дымяць. Кідаеш запалку на праліты бензін, і сьнег гарыць зыркім полымем! Аднойчы, калі нас закінулі на падсыпку (дзяўбсьці на ўзбочыне трасы зямлю, каб гружаныя лесавозы маглі ўзьняцца на сьлізкіх пад'ёмах), мы з напарнікам гарачага сьнегу пакаштавалі. Вельмі хацелася піць, а з сабой нічога, а вакол нікога, адно запалкі ды жалезны кубак. Разьвялі вогнішча, растапілі сьнегу і пілі яго па чарзе з агню, гаркавы ад попелу, мацнейшы за любую гарэлку.

Але самы сапраўдны вогненны сьнег мне давялося ўбачыць на ўборцы дзялянкі, падчас сьнегападу. У вялізным, 4–5 метраў вышыні, вогнішчы, дзе спальваліся цэлыя «непрамысловыя» елкі, алешыны, бярозавыя рогі, раптам трэснула ўсярэдзіне, выбухнула салютам іскраў на вышыню пяціпавярховага дома — і потым хвілінамі ціха і ўрачыста ў паветры рдзела, пераблісквала зь белымі сьняжынкамі чырвонае і аранжавае, нібы зь неба сыходзіла шматтысячная грамада пад бел-чырвона-белымі сьцягамі.

Калі змаўкаюць бензапілы і сякеры, калі спыняецца, глухне трактар і зьязджаюць лесавозы — раптам прыслухоўваесься. У верхавінах дрэваў пад ветрам нараджаецца, расьце і гучыць велічная, уладная нябесная сімфонія. Чуеш сапраўдную літургію, гімн Творцу, дзе мужчынскія басы зьліваюцца з высокімі нотамі жаночага хору — і заміраеш малітоўна, бы ў храме. Падымаеш вочы ўгару — і бачыш, што насамрэч дзялянка — гэта агромністы праруб у неба, прорва ў глыбокі блакіт для тваёй малітвы за ўсю Беларусь.

Насамрэч цуды вакол нас. Госпад даў нам цуд жыцьця, падараваў цудоўныя пачуцьці і пасяліў у найцудоўнейшай краіне ў сьвеце. У такія цуды трэба

толькі паверыць — і тады хараство і гармонія сэнсу напоўняць цябе ўсяго.

Палякі сьпявалі на плошчах рэлігійныя гімны — і атрымалі праўдзівы цуд. Сербы выходзілі на дэманстрацыі хросным ходам за сваім мітрапалітам — і ўбачылі цуд. Украінцы штодня пачыналі Майдан з малітвы — і нарэшце дамагліся цуду.

Вы ўсё яшчэ лічыце, што Беларусь у 2006-м выратуе толькі цуд?

Тады надышоў час паверыць у цуды.

Бо — «чалавеку гэта немагчыма; Богу ж усё магчыма»! (Мацьвея 19:26).

Гэта ж так проста.

Выйсьці ў дзень выбараў на плошчу, насустрач сьвежасьці і волі.

Памаліцца Богу за свабоду, праўду і справядлівасьць для Беларусі.

І гучна, на ўвесь голас, сказаць тое, што думаеш, што адчуваеш, чаго хочаш усім сэрцам:

— Жыве Беларусь!!!

І калі ўбачыш, як неба па-над шматтысячнай грамадою раптам запальваецца вогненным бел-чырвона-белым — ведай: гэты момант увойдзе ў гісторыю Беларусі як цуд 19 сакавіка.

## ВЫБАРЧЫ КОДЭКС МАЛОГА СІТНА

«…Галасуйце за Аляксандра… — твар 70-гадовай бабулькі расьцьвітае, — …Мілінкевіча!» Спалоханая старая жахаецца. Як?! Прэзідэнт Аляксандр — не-Лукашэнка?..

«Ці дасьць Мілінкевіч разгарнуцца фермерам?» — зморана, але з надзеяй пытае кабета гадоў 40, якой ля Сітна вылучылі 20 га пяску і цяпер абдзіраюць бы ліпку.

«Толькі за Лукашэнку!» — ледзь адчыніўшы дзьверы, заяўляе немаладая жанчына з палаючымі чорнымі вачыма. З-за яе сьпіны высоўваецца мужык: «Давай сюды, мы будзем за Мілінкевіча». — «За Лукашэнку…» — не здаецца кабета. «Муж сказаў за Мілінкевіча — значыць, за Мілінкевіча!» — нават хлопаньне дзьвярэй не заглушае раптоўнай сямейнай сваркі.

«Дык што, цяпер усе галасуем за яго? — прастадушна пытае бабуля веку Кастрычніцкае рэвалюцыі. — А ці зьменіцца яно да лепшага?» — «Зьменіцца, абавязкова зьменіцца!» — «Ой, мы ўжо не дажывём», — сумняваецца бабулька. «Дай вам Божа здароўя — дажывём!» — «Дай Божа…» — зь нечаканай цеплынёй прыгортвае бабулька да грудзей «Мілінкевіча» і ўсьміхаецца амаль дзіцячай усьмешкай.

«За Мілінкевіча? Паша, бутэлька — і хоць за чорта лысага!» Не, мы ня ўдзельнічаем у спойваньні беларускага народа.

Кампанія «ад дзьвярэй да дзьвярэй» метадычна, хата за хатай, прасоўваецца па Малым Сітне. Сабакі шалеюць, брэшуць, ірвуцца на ланцугах і ашчэрваюцца так шчыра, быццам іх нацкоўвалі адмыслова на нацыяналістаў.

«Колькі табе за гэта даюць?» — ківае на агітацыю магутны лясьнік, выразным жэстам пацiраючы пальцы ў шчэпці. «Два гады “хіміі”, — адказваю, — а нашым маладафронтаўцам зараз даюць яшчэ больш».

У чацьвер, 16 сакавіка, увечары ў інтэрнат зьяўляюцца ўчастковы і тры міліцыянты з раёна (зусім ня простыя — кіраўнік полацкага крымінальнага вышуку, начальнік ДАІ і нейкі чын у цывільным, які камандуе парадам). «У Сітне ўчынена злачынства. Правяраем увесь кантынгент. Севярынец і Яхімовіч [мой сусед], едзем у сельсавет разьбірацца». Іншыя

тры «хімікі» гасьцей чамусьці не цікавяць. Майго суседа пакідаюць у машыне, мяне заводзяць на прахадную леспрамгаса, дзе прысутнічае адно незнаёмы мне мужык «пад градусам». Міліцыянты час ад часу водзяць мужыка за дзьверы, пэўна на інструктаж, і ўрэшце той заходзіць ды заяўляе мне: «Прапала бензапіла. Прызнавайся, а то будзе горш!..» Ясна, правакацыя. «У аддзел!» — каратка распараджаецца незнаёмец у цывільным, і мяне цягнуць у машыну.

У Полацкім райаддзеле складаецца пратакол па «хуліганцы»: «Размахваў рукамі, нецэнзурна лаяўся, спрабаваў учыніць бойку». Адмаўляюся што-небудзь падпісваць. Вязуць у гарадскі ізалятар. І міліцыянты-ахоўнікі, і люд, што сядзіць на «сутках», абмяркоўваюць «выбары», згаджаюцца, што налічаць, як мае быць, кажуць: сістэму абавязкова трэба мяняць.

Назаўтра ў судзе мужык, які нібыта згубіў пілу, блытаецца ў паказаньнях: «Ён нешта казаў па-беларуску… Можа, лаяўся так… матам». — «У беларускай мове мату няма», — адказваю. Судзьдзя (між іншым, з Вушаччыны) нечакана згаджаецца, і — першы выпадак за 10 гадоў! — мяне вызваляе. Але за дзьвярыма ўжо стаіць начальнік сьпецкамендатуры з брыгадай. Вязуць у Ветрына, дзе дзьве гадзіны чакаюць указаньняў «з вышыні». Нарэшце адбіраюць у мяне пасьведчаньне даверанай асобы Мілінкевіча, забараняюць назіраць на выбарах і пад канвоем двух супрацоўнікаў вязуць у Сітна. Селяць у пакой зь міліцыянтамі: цяпер любы выхад на вуліцу — толькі ўтрох. Даведваюся — пакуль я быў у Полацку, з пакоя зьніклі ўсе грошы.

У леспрамгасе пярэпалах. Убачыўшы настрой галасаваць за Мілінкевіча, начальства распускае чуткі: маўляў, Севярынец падкупае людзей, частуе іх «максімкай» і цукеркамі. Люд абурана абвяргае «дэзу» перад міліцыянтамі.

А 8-й раніцы 19 сакавіка ў інтэрнат прыбывае «падмацаваньне»: абласны кіраўнік камітэта выкананьня пакараньняў са сьвітай і начальнік камендатуры. Шасьцёра чыноў вартуюць аднаго «хіміка»! Галасаваньне — пад канвоем. Кіраўнік камісіі адмаўляецца даць інфармацыю пра датэрміновае галасаваньне (хаця мне ўжо паведамілі — каля 40%).

Пасьля таго, як у Менску дзясяткі тысячаў людзей выходзяць на плошчу, «варта» атрымлівае тэлефонны загад: сядзець у Сітне і ў панядзелак, і ў аўторак, і ў сераду…

Заявам сіценскай камісіі пра тое, што за Мілінкевіча ў вёсцы прагаласавала ўсяго 22 чалавекі, людзі ня вераць: «А чаго тады Пашуназіраць не пусьцілі?!» — «Менск бушуе!» — задаволена кажуць вяскоўцы і паказваюць, каб міліцыянты ня бачылі: трымайся!

Штовечар па тэлевізіі разам з «вартаўнікамі» бачым шматтысячныя аграмады пад бел-чырвона-белымі сьцягамі Хрыста. Рух Божае волі апаноўвае сэрца Беларусі!

Гэта не Майдан. Гэта беларуская Плошча. Плошча Перамогі.

## СЬВІТАНЬНЕ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ

Дзіўная рэч: дзесяць дзён сядзіш бязвылазна ў інтэрнацкім пакоі пад вартай двух, а часам і трох міліцыянтаў (любы выхад на вуліцу — пад канвоем), вакол — занядбаная беларуская вёска, аточаная лесам, укрытая сьнягамі, і ў цэнтры гэтага адасобленага дрымучага сусьвету — маленькі чорна-белы тэлевізар, які ловіць БТ, АНТ і расейскае ОРТ і па якім вось ужо каторы дзень паказваюць маніфестацыі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі… Не пакідае ўражаньне: сярод

холаду, цемры і прымусу ў гэтым цяпельцы нараджаецца нешта новае. Сьветлае-сьветлае. Цудоўнае.

Кожная раніца пачынаецца зь першым выпускам навінаў, яшчэ зацемна. Сьвітаньне прыходзіць разам зь бела-чорна-белымі азарэньнямі на экране. Камэнтар ня мае значэньня — кадры ясныя як дзень. Здаецца, краіна, што даўно заглыбілася ў змрок забыцьця, у цяжкі сон і нават пачала пахропваць, нечакана ачомалася.

Молісься за тых, хто на плошчы, на сутках, пад крыміналкамі, за выключаных з унівэрсітэтаў і выкліканых у ваенкаматы, за зьбітых у лякарнях, за тых, хто на волі і рыхтуецца выйсьці зноў — і раптам удыхаеш на поўныя грудзі: упершыню за апошнія гады пахне сапраўднай вясной.

Тое, што мне давялося назіраць па тэлевізары за некалькі дзён гарачага сакавіка-2006, нагадала бачанае роўна дзесяць гадоў таму ўжывую: Менскую вясну — 96. Маніфэстацыі Вясны-2006 неспадзявана аказаліся куды больш шматлюднымі, больш арганізаванымі, больш рашучымі за Кастрычніцкую плошчу 2001-га і пратэсты пасьля рэфэрэндуму 2004-га. Насуперак дзясяткам крымінальных справаў, сотням арыштаў, тысячам затрыманьняў, вынішчэньню незалежнай прэсы і папраўкам у кодэксы, беларускія вуліцы 19–25 сакавіка грымотнымі воклічамі канстатавалі гістарычны факт: «Жыве Беларусь!»

Такое і шумавымі гранатамі не заглушыш — рэха даходзіць аж да Малога Сітна.

«Магутны Божа» як пачатак кожнага дня для намётавага мястэчка; малітва на шматтысячнай плошчы; тысячы вернікаў розных канфэсіяў поплеч з заўсёднікамі вулічных акцыяў. Адзіны кандыдат — беларускі патрыёт, які ў дзень галасаваньня моліцца і ў праваслаўным храме, і ў касьцёле, які зьяўляецца на

людзях з жонкай і якога прымаюць канцлер Нямеччыны, міністр замежных справаў Францыі, прэзідэнты Польшчы і Літвы. Агучаная для мільёнаў праграма рэформаў, грунтаваная на прыватнай уласнасьці, інавацыях і мясцовым самакіраваньні. Пасьля ўсяго гэтага, упершыню за колькі часу, адчуваеш пад нагамі краіну!

І ў кампаніі, і пасьля яе муляла вока: рэжым высільваецца, каб абаперціся на гэты ж самы, добра зацьвярдзелы за 15 гадоў, падмурак незалежнасьці. Але бясконцыя закляцьці «За Беларусь!», пустаслоўе пра «государственный суверенитет в союзе с Россией» і «интернациональную белорусскую нацию» сьведчаць: пераадолець мяжу, якая аддзяляе самабытную Беларусь ад адроджанай Беларусі, Лукашэнка ня можа. І, згодна зь непазьбежнай логікай гісторыі, гэта зробіць ужо іншы. Не аддадзеная ані Крамлю, ані алігархам маёмасьць, пераключаныя тэлеканалы, апрацаваная па пэрыметры ўсіх дзяржаўных межаў масавая сьвядомасьць — усё чакае, каб стаць апірышчам сапраўднае Беларусі. І галоўная задача беларускага руху пасьля Вясны-2006 — дабрацца да кожнага зь дзесяці мільёнаў беларускіх сэрцаў, каб на грубых і шэрых камянях апошніх дванаццаці гадоў збудаваць нацыянальны дом, напоўніць яго нацыянальнай сьвядомасьцю і нарэшце ўзьняць па-над ім нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг.

Калі 24 гадзіны ў суткі сядзіш у чатырох сьценах зь міліцыянтамі (а яны жартуюць — «гэта ня вас пад варту ўзялі, а нам суткі далі»), бясконца спрачаесься, даводзіш, выкладаеш — пачынаеш разумець, што і тыя ж хлопцы ў форме — ужо не саўковыя жаўнерыкі імперыі. Так, яны абараняюць Лукашэнку, бо «трэба парадак», яны супраць Захаду, бо «Штаты хочуць усім кіраваць», а «зь Еўропы сюды ідзе бардак, нарка-

та і вычварэньні» — але раз-пораз спрабуюць размаўляць з табою па-беларуску, не супярэчаць, што Пётр І і Сувораў у гісторыі Беларусі — героі адмоўныя, з задавальненьнем слухаюць «Песьні Свабоды» ды згаджаюцца, што трэба адраджаць традыцыі полацкага праваслаўя, а не капіяваць заснаваную на 300 гадоў пазьней Маскву.

У сакавіку 2006-га Беларусь усё-такі адштурхнулася ад дна. Калі пасьля 2001 года становішча няўхільна пагаршалася, рэпрэсіі былі ўсё больш балючымі, а дэпрэсіі ўсё больш глыбокімі — пачынаючы зь вясны 2006-га сьцятая спружына нацыянальнага руху пачала імкліва выпроствацца. І відавочным доказам гэтаму стала проста д'ябальская гістэрыя рэжыму, бачная кожнаму, у чыёй хаце ідуць БТ і АНТ. Ашалелае галёканьне, сьвіст, ванітоўная хлусьня і рагаты рогат тэлевядучых, «сілавікоў» ды задураных абывацеляў, прыпадкі палітычнае эпілепсіі з кожным кадрам, дзе палымнее бел-чырвона-белае, раптоўна агалілі панічны страх апошняе дыктатуры Еўропы перад крыжам на плошчы, перад сьцягам Хрыста, перад нечаканым нацыянальным абуджэньнем. Кругласуткавая вахта нават некалькіх соцень чалавек зь бел-чырвона-белымі сьцягамі ў самым цэнтры сталіцы выклікала эфект асінавага кала, з размаху загнанага ў сэрца нячыстага.

Магчыма, сакавіку-2006 не хапіла духу, руху, зуху, каб перамяніць Беларусь адным рыўком. Але пераможны прарыў — празьператрусы і арышты, праз крывыя люстэркі тэлеэкранаў, праз здушаныя страхам душы — ужо зроблены. Дзясяткі сіценцаў, што галасавалі за Мілінкевіча, заўважалі вусьціш мясцовага начальства і жах сталічнага афіцыёзу, назіралі за камічным міліцэйскім канваяваньнем да прыбіральні небясьпечнага «хіміка» і бачылі бел-чырвона-белыя

ўспышкі на паўсьвету, ужо прачулі сваю еднасьць зь дзясяткамі тысячаў менчукоў. Адчулі сябе нацыяй!

Сьвітанак, які мужная моладзь на Кастрычніцкай плошчы штодня сустракала сьпевам «Магутны Божа», зрабіўся сігналам для ўсёй краіны. Званком будзільніка. Пара ўставаць! Ад самага пачатку дарог у Беларусі рушыла нацыянальнае абуджэньне.

## А ЦЯПЕР — САЛІДАРНАСЬЦЬ

Алешча страйкуе. Старшыня мясцовай выбарчай камісіі, няйнакш за выкананьне плану волевыяўленьня акурат пасьля выбараў прызначаны начальнікам лесапункта, павялічыў працоўны дзень на гадзіну: маўляў, затое зробім выходны ў суботу. Люд спраўна працаваў тыдзень з 8-й да 17-й у першую зьмену і ад 17-й да 2-й начы ў другую… а напярэдадні ўікэнду новы начальнік выдаў загад: «У сувязі з вытворчай неабходнасьцю абʼявіць суботу працоўным днём». Здавалася б, фінт немудрагелісты, накшталт гульні ў напарсткі са скрынямі для галасаваньня — але ж гэтым разам народ абурыўся.

Раней, за былым начальнікам, падобныя штукі праходзілі ці не штотыдня. Людзей выганялі працаваць і па нядзелях, і на вялікія сьвяты. Загад на такі выпадак выдаваўся безь пячаткі і часьцяком нават бяз подпісу — бо паводле працоўнага заканадаўства гэткія фокусы могуць і пасады каштаваць. Цішкам лаяліся, але выходзілі. А вось цяпер рабочыя пабачылі «свабодныя і справядлівыя выбары», паглядзелі, што пасьля кампаніі ўлада проста перастала саромецца, — і вырашылі: досыць.

Спадзеючыся, што рабочыя спалохаюцца пісьмовай адказнасьці, у канторы разьлінавалі аркушы паперы з загадам, напісалі ўсе прозьвішчы рабочых

і два варыянты: «згодны» і «ня згодны». У другой графе расьпісаліся ўсе: штрэйкбрэйхера не знайшлося ніводнага. Начальства тэрмінова прыехала ў Алешчу ды заявіла: «Не дамо плану ў гэтым месяцы — леспрамгас зачыняць». — «Штогод зачыняеце, — адрэагавалі рабочыя, — хлусьня». Тады ім паабяцалі аплату ў двайным памеры ды прыгразілі, што завадатараў скароцяць. Марна: у суботу на працу людзі ня выйшлі. За восем месяцаў у Сітне мне даводзілася бачыць небагата рэчаў, якія тутэйшыя рабілі разам (і гэта пры тым, што ў вёсцы ўсе адзін аднаму сваякі ці суседзі). Разам прапівалі заробак, пачынаючы з крамнага «віна» і завяршаючы павальным ужываньнем «максімкі». Аднадушна, але ціхма, на перакурах, клялі начальства, міліцыю, сельсавет ды ўладу ўвогуле. І дружна, апусьціўшы долу вочы, брылі па загадзе працаваць у выходныя. А зараз, нечакана нават для саміх сябе, азіраючы паплечнікаў са зьдзіўленьнем ды неспадзяванай радасьцю, адкрыта зьядналіся супраць уладнага ўціску. Хай сабе, як той казаў, і зь непалітычнае прычыны — але ж з падобнага працоўнага адзінства калісьці пачалася і «Салідарнасьць». Такое ўражаньне, што падзеі сакавіка-2006 у Беларусі скаланулі нейкія глыбінныя пласты масавае сьвядомасьці. У гэтую вясну Беларусь на поўныя грудзі ўдыхае дух салідарнасьці.

Сотні людзей, не знаёмых паміж сабой і не прыналежных да палітычных партыяў, зьбіраліся ўначы ля ізалятараў ды прыёмнікаў, каб сустрэць вязьняў. Перадавалі прадукты і цёплыя рэчы, развозілі герояў Плошчы па хатах, дзякавалі і абяцалі адно аднаму — наступным разам быць разам. Тысячы наведнікаў інтэрнэту, дагэтуль занятых гульнямі ды тусоўкамі на чатах, некалькі тыдняў ставілі на вушы сталічную міліцыю нечаканымі і вынаходлівымі перформансамі.

Дзясяткі тысячаў каталікоў, пратэстантаў, уніятаў ды праваслаўных упершыню супольна пасьцілі і маліліся да Адзінага Бога за свабоду, праўду і справядлівасьць у Беларусі. Менавіта акцыі салідарнасьці зрабіліся гітом Вясны-2006.

Бадай што наймацнейшым выклікам гэтаму змагарнаму адзінству сталася шалёная атака КДБ і МУС на «Малады фронт». На менскіх плошчах рэжым убачыў дзясяткі тысячаў маладых, цэлае новае пакаленьне, беларускую будучыню — і жахнуўся. Рэпрэсіі разгарнуліся з размахам колішняй «справы нацдэмаў». На пяцёх маладафронтаўцаў былі заведзеныя тры крыміналкі за графіці, яшчэ аднаго абвінавацілі ў «падрыхтоўцы тэрарыстычных актаў», яшчэ аднаго — у «зьнявазе дзяржаўных сімвалаў», яшчэ кагосьці — у «разгалошваньні таямніцы сьледства» і больш як паўсотні сябраў «Маладога фронту» ў 12 гарадох выклікалі на допыт ды абшукалі на пяці крымінальных справах паводле драконаўскага 193-га артыкула — «выступ ад імя незарэгістраванай арганізацыі». Пэўна, спадкаемцы Цанавы хацелі расьсекчы рух на кавалкі, каб маладафронтаўскія шарагоўцы ды хаўрусьнікі пахаваліся ў бульбу: раней часьцяком даводзілася назіраць такую дзіўную адстароненасьць ад абвінавачаных у крыміналках. Але ў адказ маладафронтаўцы ўжылі адзіную сілу, здольную паралізаваць ды зламаць рэпрэсіўную машыну, — сілу салідарнасьці. Масавы збор подпісаў пад зваротам ад імя «незарэгістраванага “Маладога фронту”» паставіў рэжым перад фактам: ідэю, рух, ды ўвогуле народ судзіць немагчыма. Бо калі з рэжымам змагаецца толькі апазіцыя — яна асуджаная на паразу. Калі ж пачынае змагацца нацыя — асуджаны рэжым.

І ў інтэрнэт-гасьцёўнях, і ў «Нашай Ніве», і на кухнях тысячы беларускіх галасоў, разбуджаных са-

кавіком-2006, хорам пытаюцца: а што цяпер? Адказ просты: цяпер салідарнасьць. Штодня. Менавіта тыя, хто ўдзельнічае сёньня ў акцыях салідарнасьці — падпісваецца ў абарону маладафронтаўцаў, становіцца са сьвечкамі на Нямізе, далучаецца да пятнічнага Нацыянальнага посту і малітвы, — тут і цяпер ствараюць беларускую нацыю. Само адчуваньне адзінства, дадзенае Богам кожнаму народу, і ёсьць першапачаткам, наймацнейшым грунтам і асноватворным падмуркам нацыянальнага абуджэньня.

## ШЛЯХ ПІЛІГРЫМА

Калі адбываеш у вёсцы двухгадовую палітычную высылку, ужо падумваеш пра ўмоўна-датэрміновае вызваленьне, і раптам даведваесься, што ты тут ня першы, а хто-ніхто з палітвязьняў 250 гадоў таму па сканчэньні ўніверсітэта праседзеў у Сітне ўсё астатняе жыцьцё, — дзякуеш Богу за лёгкі шлях.

Вестка пра майго папярэдніка-дысідэнта, пісьменьніка, хрысьціяніна, прыйшла, уявіце сабе, са Стакгольма.

Яшчэ ўзімку найлепшая ў Эўропе беларуская міліцыя не прапусьціла да мяне ў госьці кіраўніка прадстаўніцтва Швецыі ў Беларусі Стэфана Эрыксана. Цэлая група па захопу затрымлівала і разварочвала шведа ўжо ў Сітне: пільныя праваахоўнікі не дазволілі нават перадаць мне кніжкі ды прадукты: «А раптам вы яго атруціце!..» Кніжкі дыпламат праз бацькоў усё-такі перадаў. Сярод іх аказалася цудоўнае выданьне беларуса Андрэя Катлярчука, які працуе зараз ва ўніверсітэце Стакгольма, — «Шведы ў гісторыі і культуры Беларусі». Абавязкова раю прачытаць: Катлярчук літаральна адкрыў у беларускай гісторыі трэцяе вымярэньне — апроч усходняга, праваслаў-

нага і заходняга, каталіцкага — яшчэ і паўночнае, пратэстанцкае. У надзвычай цікавым дасьледаваньні — і Полацк варажскіх часоў, і прашведскі пратэстанцкі рух Рэчы Паспалітай, і евангельскія ўплывы са Скандынавіі XX стагодзьдзя.

Неўзабаве атрымліваю ліст ад самога Андрэя — у працяг шведска-пратэстанцкай тэмы. «Па Вялікай Паўночнай вайне на пратэстантаў ВКЛ, што дапамагалі Швецыі і Карлу XII, абрынулася хваля рэпрэсіяў, — піша Андрэй Катлярчук. — Каталіцкі ўрад зачыняў зборы і школы, натоўпы фанатыкаў палілі бібліятэкі і зьбівалі пастараў, шляхціцаў-пратэстантаў, выціскалі з палітычнага жыцьця… Гэткім чынам на службу ў глухі замак Сітна на мяжы з Расеяй трапіў выпускнік Сарбоны шляхціц-кальвініст Стэфан Аледскі. Пражыўшы ў Сітне ўсё жыцьцё, у 1757 годзе Аледскі пераклаў з французскай на польска-беларускую макаранічную мову культавую кнігу еўрапейскіх пратэстантаў «Шлях пілігрыма» ангельца Джона Буньяна (John Bunyan. The piligrim's progress»).

Несправядальныя шляхі Твае, Госпадзе!

Кожнаму зь пілігрымаў, якія шукаюць Цябе, Ты вызначыў сваё падарожжа.

Аднаго, як Джона Буньяна, што напісаў сваю кнігу ў турме і зрабіўся апосталам рэфармацкага руху, вядзеш праз пакуты да сусьветнае славы.

Другога, як Стэфана Аледскага, што пераклаў Буньяна для беларусаў ды палякаў, — скрозь непрыняцьцё ды забыцьцё да раптоўнае згадкі праз чвэрць тысячагодзьдзя.

Трэцяга, Андрэя Катлярчука, што дабраўся ажно да Стакгольма, шукаючы Тваіх сьлядоў у гісторыі, — праз жыцьцё на чужыне да захапляючых адкрыцьцяў для Бацькаўшчыны.

Нарэшце, і мяне — па дарозе з саўковае РБ да са-

праўднае Беларусі спыняеш у простае вёсачцы, якая не перастае зьдзіўляць глыбінёю гісторыі і насычанасьцю сэнсам.

Што было ў Сітне часоў Аледскага? Памежны замак, дзе Стэфан кіраваў невялікай залогаю; мытня на шляху з Пскова да Полацка, на месцы якой дзятва дагэтуль капае старажытныя манеты; карчма, ля якой любы падарожны можа сёньня падабраць ашкелкі даўняе керамікі і дзе, як і зараз ля крамы, ашываліся тагачасныя бражнікі; Расея, зь якой сюды цягнулася галеча і наязджалі разбойнікі… Усё амаль як цяпер.

Што вартаваў Стэфан Аледскі на мяжы з Расеяй, калі Масква ўжо напоўніцу гаспадарыла і ў Полацку, і ў Вільні, і ў Варшаве? Што сказаў бы, калі б даведаўся, што выхаванцы ягонае альма-матар тыднямі ваююць з урадам, каб іхнія працоўныя месцы не дасталіся ўсякім палякам, што паляк Ян Павел II ад імя ўсяго Каталіцкага Касьцёла пакаяўся перад іншаверцамі за колішнія рэпрэсіі, а беларускія пратэстанты, якіх ізноў залічваюць да «нетрадыцыйнага для Беларусі веравызнаньня», стаяць поплеч з ксяндзамі ў намётавым гарадку супраць тыраніі?..

Які шлях прайшоў Стэфан Аледскі? З бліскучай адукацыяй, у пажыцьцёвым выгнаньні, у глушэчы, сярод безнадзёгі, на тле грамадскага ўпадку, гаспадарчага бязладзьдзя і палітычнай нецярпімасьці — пераклаў кнігу ў духу гэткіх жа гнаных хрысьціянаў па ўсёй Рэчы Паспалітай. Ня вырakся веры, не апусьціў рукі, ня сьпіўся — і вось, праз два з паловай стагодзьдзі зноў завітвае да тысячаў суайчыньнікаў, каб падбадзёрыць іх: «Вышэй галаву, бывала й горш!»

Часам нам здаецца, што мясьціны шэрыя, часы змрочныя, людзі нудныя, а жыцьцё марнае — але менавіта сум сьвету, тлум чалавечы і доўгае чаканьне

ёсьць абавязковай платай пілігрыма за спатканьне са сьвятасьцю.

Спачатку ў кожнага пілігрыма свой шлях. Кожны пакідае ўласную хату са сваімі думкамі, уласным грахом, пакаяньнем ды пакліканьнем. Кожны ўяўляе падарожжа па-свойму, размаўляе з Богам асабіста і адольвае цяжкасьці самотна. Але па меры набліжэньня да мэты сустракае тых, хто ідзе туды ж, куды і ён, — і асобны шлях уліваецца ў супольную пілігрымку. Чароды падарожнікаў злучаюцца: на дарозе ўжо хроснае рушаньне пад агульнымі сьцягамі і харугвамі, з дружнымі гімнамі і шматысячным рокатам малітвы… І калі дзясяткі, сотні тысячаў вернікаў, паплечнікаў, вандроўнікаў зьбіраюцца разам ля самое сьвятыні — кожны бачыць на свае вочы, што ягоны няблізкі і цяжкі, але ўпарты асабісты шлях у рэшце рэшт вёў да ўсеагульнага нацыянальнага абуджэньня.

## БЫЦЬЦЁ 26:21

«У Сітне манашкі пасяліліся!» — «Якія яшчэ, к чорту, манашкі?!» — «Адна пажылая, другая маладзейшая; каля рэчкі кватаруюць — прапаведуюць, кніжкі раздаюць, па хатах ходзяць». — «Секта! Гнаць іх адсюль — дзяцей ачмураюць… Егавісты ці як іх там». — «Пераксьціся — у іх усё пра Хрыста!»

Чуткі ў вёсцы распаўсюджваюцца з маланкавай хуткасьцю і абавязковым эфектам сапсаванага тэлефона: евангелісткі, што прыехалі сюды зь Менска зь місіяй, на ўезьдзе, каля Палаты, усё яшчэ манашкі, у цэнтры, ля гаража, — ужо сектанткі, а падалей, на хутарах, увогуле сатаністкі.

«Абяцалі за мяне маліцца», — сьмяецца на ўсе зубы работнік Алег. Ані ў тое, што будуць маліцца, ані ў саму малітву ён проста ня верыць. «А мяне пажы-

лая па галаве пагладзіла, я аж узбудзіўся», — у лысага Сашы-«хіміка» думкі толькі «пра гэта». «Думаеце, з самога Менска яны пра Бога расказваць сюды прыехалі?..» — яхідна шчэрыцца Алена, кабета з тае ж вуліцы.

Самі верніцы адной зь менскіх евангельскіх грамадаў тлумачаць: «Пачулі, што ў Беларусі ёсьць такая вёска — Сітна. А Біблія піша пра калодзеж жывое вады, выкапаны ў Палесьціне патрыярхам Ісакам і названы Сітна. У Сьвятым Пісьме выпадковасьцяў не бывае — прыехалі паглядзець».

Глядзім.

«І капалі рабы Ісакавы ў даліне і знайшлі там калодзеж вады жывой» (Быцьцё 26:19).

У Бібліі, дзе ўвогуле вада сімвалізуе Слова Божае, такі калодзеж сьведчыў Божаму народу пра Зямлю Абяцаную. Невыпадкова няверуючыя філістымляне (цяперашнія палесьцінцы), як паведамляе Кніга Быцьця, зацята спрачаліся за гэтую студню, што Ісак назваў Эсэкам, з габрэямі. Сёньня ўвесь сьвет назірае за нескончонай барацьбой, пачатай яшчэ тады, 4 тысячы гадоў таму.

«Выкапалі другі калодзеж; спрачаліся таксама і за яго; і ён даў яму імя: Сітна» (Быцьцё 26:21).

Місіянерак, якія за тыдзень абышлі ўсю вёску ад дзьвярэй да дзьвярэй, быцьцё сучаснага Сітна ўразіла да глыбіні душы: «Людзі жывуць страшэнна і вельмі незадаволеныя. Але — ня вераць у Бога, ня вераць увогуле, што дабро пераможа зло, ня ведаюць нават, навошта яны жывуць, — і ад безнадзейнасьці сьпіваюцца. Які там калодзеж…»

Слухаю місіянерак і згаджаюся: калі б наша перамога залежала толькі ад пратэставых настрояў, прагі дабрабыту і банкруцтва ўлады, Малое Сітна ўжо даўно б абвесьціла на тэрыторыі сельсавета БНР. Але ані

ленінская фармулёўка «рэвалюцыйнай сітуацыі», ані марксісцкае «быцьцё вызначае сьвядомасьць» тут не дадуць рады. Бо якраз асавечаная, сьпітая, пазбаўленая і беларускасьці, і Боскасьці сьвядомасьць скразіць у кожным дзіравым плоце, кожным пустым позірку, у кожным каліўцы сіценскага быцьця.

Праўда — студні ў Сітне ня гожыя. Неглыбокія, часьцяком нячышчаныя, на вёдрах застаецца брудны налёт… Запушчаныя, словам. Каб дабрацца да чыстае вады, трэба капаць глыбей.

Дзе ж здабыць крышталёвую, крынічную сьвядомасьць, якая можа вызначыць годнае, беларускае, хрысьціянскае быцьцё? Калодзеж якой глыбіні трэба выкапаць тут, у Сітне, каб дастаць да жывое вады, што тысячу гадоў таму вымкнула ў Палату і ўспаіла першую сталіцу беларускай дзяржаўнасьці?

Пэўна, трэба капаць сама менш да часоў шляхціца Завальні, калі адмова ад Бога і Радзімы пачала нараджаць у сьвядомасьці вяскоўцаў Полаччыны фантастычную нечысьць. Яшчэ глыбей, да мяжы Еўропы і імперыі, якую тут два стагодзьдзі вартавала сіценская фартэца. Да папялішча самое фартэцы, заснаванай Іванам Жахлівым і спаленай Сьцяпанам Батурам… Трэба ўнурыцца ўглыб да самых сьцежак першага хрысьціянскага прапаведніка Беларусі, Торвальда Вандроўніка, які абвяшчаў Хрыста ў ваколіцах Полацка і якога тутэйшыя паганцы зь берагоў Палаты тысячагодзьдзе таму сустракалі гэтак жа, як сёньня сіценцы евангелістаў.

І на самым дне, калі ўжо ня стане змогі, калі сонечнае сьвятло ўгары падасца поўняй сярод цёмнае начы, а пад рыдлёўкай нарэшце забруіць крынічка, мы зразумеем: свая студня жывое вады — глыбокая гісторыя, лёсы невядомых сьвятых і скарбы Слова Бо-

жага — стоеныя ў кожнай вёсачцы беларускай глыбінкі.

І калі зямля адкапаных нанова студняў, зь якіх чэрпаюць штодня, напоўніцца адлюстраваньнямі неба, — мы здолеем наталіць нашу самую пякучую смагу: смагу нацыянальнага абуджэньня.

## МАКСІМ, «МАКСІМКА» І ВІКТОРЫЯ

Новаму майстру, «маладому сьпецыялісту», хлопцу са Стаўпеччыны, прысланаму ў леспрамгас паводле разьмеркаваньня зь Менскага тэхналагічнага ўнівэрсітэта яшчэ ўвосень мінулага года, Сітна нанесла ўдар з ходу — і пад дых. «Як цябе клічуць?» — працягваючы руку, абыякава запытаў брыгадзір. «Максім», — адказаў хлопец, нічога не падазраючы. «Як-як?» — брыгада стаіла дыханьне. «Ну, Макс… Максімка…»

Мужыкі выбухнулі рогатам, жанчыны захіхікалі. Назаўтра начальнік, адмыслова прыехаўшы на працу, распарадзіўся: новага майстра называць толькі па-бацьку — Міхалыч.

Сьпярша мне ніяк не ўдавалася ўцяміць, чаму леспрамгасаўскае начальства гэтак упарта дамагаецца, каб з «Полацклесу» прысылалі тых «маладых сьпецыялістаў». Можа, каб умацаваць і мадэрнізаваць вытворчасьць? Але сам лад вядзеньня гаспадаркі пераконваў у адваротным. Можа, спрацоўвала, так сказаць, адвечнае чалавечае імкненьне перадаваць свой досьвед новаму пакаленьню?.. Але выпускнікоў толкам нават не стажыравалі. Можа, спадзяваліся, што хтосьці з маладых, поўных сілаў і жаданьня, пацягне гэтую дабітую вытворчасьць на сабе?.. Але ніякай прасторы для дзеяньняў, а тым больш ініцыятывы новенькім тут ніколі не давалі. Звычайна іх адразу

ставілі на адказны ўчастак і пачыналі лупіць тры скуры за ўсё, што маладыя ведалі і ня ведалі.

Максіма… выбачаюся, Міхалыча мы бачылі штодня ва ўсё больш змрочным настроі. Яго зрабілі «скрайнім» па адпраўцы вагонаў зь лесам, цяпер усе шышкі за няякасную расьпілоўку ды сартаваньне дрэва, хібы пагрузкі і затрымкі паставак, натуральна, валіліся на яго. Некалькі разоў полацкія нарыхтоўшчыкі, спажыўцы і экспарцёры пагражалі яму судом, па ўсіх здарэньнях на вытворчасьці і ў самой вёсцы яму даводзілася тлумачыцца з участковым; неспадзяваны штраф за пажарную бясьпеку давялося таксама кампенсаваць з уласнага заробку. Урэшце 24-гадовы дыпламаваны сьпецыяліст з вышэйшай адукацыяй на чарговую прапанову мяцовых выпівохаў далучыцца да супольнага расьпіцьця славутае «максімкі» махнуў рукой: «А, налівай!»

Кілбасіла Міхалыча пасьля гэтага тры дні. Як ён сам прызнаваўся, балела ўсё: ані есьці, ані піць ня мог; увесь час ванітавала. «Нічога, гэта зь непрывычкі, — падбадзёрвалі майстра падначаленыя, паляпваючы па плячы. — Тут уцягнуцца трэба». Міхалыч толькі моўчкі хітаў галавой.

«Уладу мяняць неабходна, — нават не казаў, а стагнаў Міхалыч. — Але я ня веру, што вы гэта зможаце». — «Мы з табой, — адказваю, — зможам». — «Ай… — уздыхаў ён. — Пайшлі лепш мульцікі паглядзім». На камп’ютары ў Міхалыча я ўпершыню пабачыў вядомы «мультклуб» з Лукашэнкам і, як казаў майстар, «інструктаж для штабялёўшчыкаў» — жудзік «Разьня бензапілой у Тэхасе».

Перад Раством я нарэшце ўбачыў Міхалыча непрыхавана радасным. «Паша, — зьзяючы, паведаміў ён, — у мяне сьвята! Празь месяц абуваю боты». Цішком ад начальства Максім зьезьдзіў у ваенкамат і

зрабіў тое, што і ня сьніцца студэнтам нават у страшным сьне, — сам папрасіўся ў войска.

Зьехаў ён напрадвесьні і пакінуў па сабе тужлівае ўражаньне: здавалася, маладым тут проста ня выжыць.

А ў самы разгар сакавіцкіх падзеяў замест Максіма прыехала новая майстрыца. «Вікторыя, — назвалася рабочым высокая бялявая дзяўчына гадоў дваццаці пяці. — Вікторыя значыць “перамога”. Буду тут працаваць». — «Ці доўга?» — з сумневам запыталіся рабочыя. «Да перамогі».

Што характэрна, Вікторыя ў дадатак аказалася Віктараўнай. І ўзялася за справу з імпэтам сапраўднае пераможцы. Перш за ўсё павяла барацьбу з п’янкай: пасьля некалькіх разьбітых на працоўным месцы бутэлек і звальненьняў алешчынскі зялёны зьмей засіпеў і адпоўз у хмызьнякі. Затым паставіла пытаньне рубам перад начальствам: «Усе правы і абавязкі — паводле Працоўнага кодэкса. Для вас — таксама». Заляпіла пару поўхаў тым, хто распускаў рукі: «Я замуж выходзіла не для таго, каб мяне іншыя мужыкі лапалі».

Вікторыя — каталічка, родам з Круляўшчызны ў Докшыцкім раёне. Прыехала ў Сітна гэтак жа паводле разьмеркаваньня. Пасялілася з мужам — маладым лесьніком — у нашым інтэрнаце, але ўжо нагледзела сабе дом у Алешчы. «Здымем — будзем жыць. Можа, і на сваю хату заробім».

Вікторыя Віктараўна лічыць, што Беларусі нельга аб’ядноўвацца з Расеяй і трэба вяртацца да сваёй гісторыі і культуры. Мы самі еўрапейцы, кажа Віка, і нават на працы носіць значку «За свабоду!».

Толькі не падумайце, што Вікторыя — нейкая жалезная лэдзі і што майстарскі хлеб даецца ёй лёгка. Найчасьцей яе можна ўбачыць бледнай і сьцятай: яна

перажывае кожную сутычку, нервуецца і закусвае вусны. Але ў вачох замест тужлівае максімавае смугі, так падобнай да багны, у яе ясным шляхам блішчыць вера: перамагу.

Гляджу на фотаздымкі зь вянчаньня Вікі з Раманам у знакамітым Мосарскім касьцёле, на белую з чырвонай шнуроўкай вясельную сукенку — і згадваю: менавіта такія адкрытыя, шчасьлівыя юныя беларускія аблічча на тле бел-чырвона-белага я ўжо бачыў гэтай вясной — на плошчы Каліноўскага.

Тое, што маладыя хочуць жыць на гэтай занядбанай зямлі, хочуць працаваць і рабіць вёску прыгожай, як сад у Мосарскім касьцёле, — першая прыкмета, што нават у глыбінцы, на дне Беларусі, з новым пакаленьнем ужо крынічыць Нацыянальнае Абуджэньне.

## АДКРЫЦЬЦЁ ШЛЯХЦІЦА ЗАВАЛЬНІ

«Пэўна ж, пра гэты край Баршчэўскі ў “Шляхціцы Завальні” піша?» — запытвалі менчукі, прыязджаючы ў Сітна. Менавіта. Ды, шчыра сказаць, да часу мяне гэта абыходзіла: прачытаўшы «Шляхціца…» яшчэ калісьці ў школе, лічыў, што казачны трымценьнік XIX стагодзьдзя — не чытво для сучаснага хрысьціяніна.

Але, калі томік Баршчэўскага прынёс мне Роберт Багарад (той самы, які слухае радыё «Свабода» з пачатку вяшчаньня) і паказаў, што тут тройчы згадваецца Сітна, мне чыста дзеля ветлівасьці давялося перагарнуць колькі старонак. І мой колішні стэрэатып як прыпячатала: «…Вось да чаго даводзіць п’янства і зухаватасьць бязбожная!»

З фантастычнага аповеду яўна патыхала сіценскай рэальнасьцю. Пачаў перачытваць — і перада мной раптоўна адкрылася добра вывучаная за дзесяць

апошніх месяцаў карціна. Настрой тутэйшага насельніка, гэтак выяўна перададзены Баршчэўскім, і праз 150 гадоў застаўся той самы: «Жыхары гэтага краю, а менавіта Полацкага, Невельскага ды Себежскага паветаў, спрадвеку пакутуючы, зусім зьмяніліся характарам: на іх тварах заўсёды адбіты нейкі смутак і змрочная задумлівасьць. У іх фантазіях увесь час блукаюць нядобрыя духі, якія служаць злым панам, чараўнікам і ўсім непрыяцелям простага люду». Адразу пазнаеш зямлю, зь якой 1000 гадоў таму пачалася Беларусь і якая ўяўляе цяпер сабою цьмянае дно. І прыгледзеўшыся — а людцы мае! — бачыш, бачыш тых самых пачвараў, якія насялялі старонкі «Шляхціца Завальні». Лесавікі, п’яныя дык страшнейшыя за фінскіх монстраў зь «Еўравізіі»; кабеты-інсекты, зморшчаныя ад злосьці і «максімкі», якія прагудуць вам вушы пра «нашага прэзідэнта»; карузьлікі, дзеці алкаголікаў, што днямі корпаюцца на сьметніках, ганяюць па вёсцы жывёлу ды птаства і праводзяць мінака дзікаватым позіркам; лёкаі, што сябруюць зь нячыстым (дзесьці ў мясцовых уладных структурах) і маюць праз гэта падазронае багацьце…

Тады, у часы пана Завальні, уся грамада нячыстай сілы хаця і панавала над краем, але адступала перад воляю пабожнага: «У нас яшчэ, дзякуй Богу, шануюць сьвятую веру, а д’ябал ад крыжа і малітвы ўцякае». А цяпер ужо не шануюць. «Бог ёсьць, толькі мы ў Яго ня верым…» Быццам Плачка, блукае багамолка, упрошвае сельсавет ды Полацка-Глыбоцкую епархію пабудаваць тут царкву… Марна. І вось паўстаюць у Сітне страшыдлы куды жахлівейшыя, што і ня сьніліся сучасьнікам Завальні.

Драпежны Леспрамгас, які, быццам агромністы караед, выгрызае лепшыя полацкія лясы гектарамі,

пакідаючы толькі скалечаныя тралёвачнымі гусеніцамі і вываратнямі пусткі.

Гіганцкая Чорная Мытня, што аблытала шчупалкамі ўсе тутэйшыя дарогі, расплядзіла зграі ваўкалакаў у пагонах ды начамі, аж стогн стаіць, высмоктвае зь беларускай зямлі ўсе скарбы.

Жудасны Палігон, які разарыў ды працяў жалезьзем і танкавымі дырэктрысамі цэлы павет і, нібыта дракон, час ад часу прачынаецца з пачварнымі сутаргамі і грымотамі і зарывам да небакраю.

Крэпасьць Івана Жахлівага, даўно спаленая, але няўмольнай зданьню прысутная ў сьвядомасьці кожнага вяскоўца, каб вартаваць рабства паняволенай краіны.

Нарэшце, Максімка, вогненны дух, існы амаль у кожнай сіценскай хаце, які кідае людзей у эпілепсію, прымушае іх дурэць, біцца адно з адным і накладаць на сябе рукі.

Сядзіш у інтэрнаце цёмнымі вечарамі, быццам сам Завальня ў сядзібе, штодня прымаеш усё новых падарожных — вяскоўцаў, «хімікаў», прыезджых паплечнікаў, чуеш усё новыя і новыя страшныя гісторыі — і думаеш рыхтык словамі з Баршчэўскага: «Ня сьпіць злы дух, усюды шкодзіць людзям і заўсёды сябруе з тымі, хто забывае пра бліжніх сваіх».

У наш век вампірскіх жудзікаў, бэтмэнаў і гары потэраў сэнс кнігі Баршчэўскага звычайна зводзяць да аднаго сумнеўнага аргумента — маўляў, нашая беларуская мазгаўня здольная спараджаць жахі ня горшыя, чым у Хічкока ці Кастанэды. Між тым, у адрозьненьне ад згаданага псіхадэлу, кожная (кожная!) гісторыя Баршчэўскага завяршаецца настойлівай і трапнай маральлю: самая жахлівая нечысьць, што плодзіцца ад бязбожжа, страху ды бяспамяцтва, перамагаецца Боскай верай і любоўю ў тваім уласным

сэрцы. Як напісана ў Бібліі: «Упакорцеся Богу, успраціўцеся д’яблу — і ён уцячэ ад вас» (Якава 4:7).

Заключныя словы Завальні да Янкі — запавет кожнаму вандроўнаму беларусу, які раптам апынуўся пасярод пачвараў. «Ідзі ў сьвет, шукай сабе долі, любі Бога, бліжняга і праўду. Воля Творцы цябе не пакіне. Калі спаткаеш дзесьці там шчасьлівейшых ад нас людзей, не забывай пра пакуты сваіх землякоў. Няхай твая малітва да Бога лучыцца зь іх малітвамі. Можа, калі-небудзь і нашыя дзікія пушчы і лясы загучаць весялосьцю. Бог магутны і міласэрны».

У Боскасьці і беларускасьці апошнія стагодзьдзі было багата сьмяротных ворагаў. Але калі не дранцьвець перад імі, не палохацца, не хавацца ў бульбу — раптам адкрыеш, што ўсе гэтыя пачвары народжаныя сном нашага ж розуму. І пераканаесься: каб скончыць валадарства нечысьці на нашай зямлі, нам патрэбнае проста нацыянальнае абуджэньне.

## ОЛЭНА — ЕЛЕНА — АЛЕНА

Алена, прыёмшчыца на леспрамгасаўскай эстакадзе, мажная кабета гадоў сарака, — жывое нацыянальнае пытаньне. Нарадзілася Алена ва Ўкраіне, пад Краменчугом, у пашпарце запісаная Олэнай; затым сям’я вайскоўцаў пераехала на Далёкі Ўсход; якраз там Елена пазнаёмілася зь беларусам Сяргеем з Малога Сітна, што служыў у бацькавай вайсковай часьці, — і перабралася ў Беларусь, дзе на пачатку 90-х атрымала грамадзянства ўжо як Алена. «Не магу зразумець, хто я, — кажа Олэна-Елена-Алена, — украінка? расіянка? беларуска?.. Аж расстройваюся».

У выніку такога «расстройства» (а мо растройства?) Алена штодня выяўляе дзьве, а то і ўсе тры свае натуры. Калі ў леспрамгасе дураць рабочых, «хімі-

чаць» з заробкам або парушаюць Працоўны кодэкс, у Алены закіпае казацкая кроў. Яе гучны выкрывальны голас грыміць у канторы і на эстакадзе; начальству дастаецца і ў вочы, і за вочы; астатнія толькі нясьмела падтакваюць ды ківаюць галовамі. З палаючым позіркам і металёвай лінейкай для вымярэньня дыяметру бярвеньня яна ператвараецца ў праўдзівую Юлю Цімашэнку, толькі што без славутае касы.

А вось падпіўшы, Алена расхінае нараспашку сваю загадкавую рускую душу і сумуе па Далёкім Усходзе. «Гэта — лес? — грэбліва ткне яна пальцам у алешчынскі танкамер. — Во тайга — гэта лес! Азёры… лужыны, якія цінай пазарасталі… А там — акіян!.. Ай, няма тут нічога ў гэтай Беларусі, і чаго я сюды перлася?»

І ўсё ж праца — руплівая, дбайная, засяроджаная — выдае ў Алене чалавека зь беларускім сэрцам. Алена гадуе дваіх дзяцей, урабляе гарод, глядзіць жывёлу, адпрацоўвае зьмену ў Алешчы, займаецца грыбамі-ягадамі, а ў дадатак штовесну разьбівае клумбы ля хаты і канторы. Дарэчы, і размаўляе Алена на класічнай трасянцы, хіба што з тутэйшым мяккім «р»: «ряка», «бряўно», «рябёнак».

Мая «хімія» толькі пачыналася, украінскія «памаранчавыя» былі на хвалі папулярнасьці, і Алена фарсіла па вёсцы: «Вось зьбяруся, паеду да Юшчанкі, я ж украінка!» Пасьля хвалі тэлевізійнае прапаганды і скандалаў у Кіеве аранжавы настрой быў хуценька дэзавуяваны: «Ну хахлы й раздрай навялі! Ды мне ўсё роўна — я ж расіянка, у мяне Пуцін прэзідэнт». А калі чарговы раз грымнула на Каўказе, пачала пляваць цераз левае плячо: «Цьфу-цьфу, каб малых туды не паадпраўлялі. Дзякуй Богу, што мы беларусы».

Найвялікшая мара Алены — зьезьдзіць да радні на Далёкі Ўсход. Але ж і далёка той Усход — што

машынаю, што цягнікам тыдні два, а яшчэ зь дзецьмі… А тут па тэлевізары ўсё гамоняць пра расейска-беларускае братэрства… «Паша, ты ўсе гэтыя вярхі ведаеш — да каго нам зьвярнуцца, каб дапамаглі?»

Ага, мяркую, праверым-ка на вашывасьць гаспадзіна Барадзіна. Знайшоў ёй адрас сакратарыята Саюза Беларусі і Расеі ў Менску. Тыдзень Алена дзяўбла ўсе службы і прыёмныя галоўнага ўпраўленьня славянскага адзінства, дзе яе вадзілі за нос ды адфутбольвалі, ды ўрэшце вылаялася: «Гары ён гарам, той саюз!»

Растройваецца ці раздвойваецца ў Малым Сітне не адна Алена. Кранаўшчык Іван Ярыца са знаўствам распавядае, што ў яго імя расейскае, а прозьвішча — польскае; «польскім» паходжаньнем ганарыцца Вікторыя зь дзявочым (і цалкам ліцьвінскім) прозьвішчам Закрэўская; рабочыя Юры ды Мікалай, самі Невельскія, называюцца расейцамі, але ж жыць ды працаваць у Расеі ня хочуць.

Столькі аказваецца тых, хто сьвядома ці падсьвядома ўнікае сваёй беларускасьці, што ўпару гукаць: а хто там ідзе, хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе?

Тутэйшы люд гатовы называць сябе беларусамі толькі калі гэта нешта дае — а такіх нагодаў што ў Малым Сітне, што ў Полацку, што па БТ для іх вобмаль. Мае расповеды пра ВКЛ ад мора да мора, адну зь першых у сьвеце друкаваных Бібліяў і 10 нобелеўскіх лаўрэатаў, якія паходзяць зь Беларусі, вяскоўцы слухаюць як легенды Старажытнай Грэцыі. Маўляў, калі гэта праўда, дык чаму ў школе ня вучаць? У газетах ня пішуць? Па тэлевізіі не паказваюць?

Вядома, нельга вінаваціць людзей, калі 12 гадоў ім пудраць мазгі пра славянскую еднасьць ды дру-

гасную тутэйшасьць, калі іхнай радзімай называюць то Русь, то эсэсэсэр, то эрбэ, а на адкрыцьці Нацыянальнай бібліятэкі аказваецца, што нам не стае драпежнага нішчыцеля беларускасьці Сталіна… Факт, што рэжым са сваёй ідэалогіяй «інтэрнацыянальнай беларускай нацыі» культывуе ў масавай сьвядомасьці шызафрэнію.

Уратаваць беларускі народ ад такіх расстройстваў, надаць яму пэўнасьці і радасьці адчуваньня самога сябе — унікальнага, непаўторнага, цудоўнага! — каб беларусы дарэмна ня сьнілі сябе «расейцамі», «палякамі», «летувісамі», «украінцамі», можа толькі нацыянальнае абуджэньне.

## ДЗЕЦІ МАЛОГА СІТНА

Аднойчы ў алешчынскую сталоўку, дзе абедалі рабочыя, басанож зайшло мурзатае, ускудлачанае дзіцё гадоў пяці ў бясформеннай вопратцы. Падаючы сталоўшчыцы заціснутыя ў кулачку сто беларускіх рублёў (ледзь дацягнулася да акенца), тоненькім галаском, які выдаў у ёй дзяўчынку, папрасіла:

— Мама сказала, што вы мяне пакорміце…

Сталоўшчыца спачатку разгубілася: «Што ж я табе, дзетачка, на сто рублёў дам?..» Рабочыя загулі: «Ты ўжо нам недалівай, але ёй пакладзі поўную міску!»

Сьлёзы навярнуліся на вочы пазьней — калі дзяўчо, ледзь уладкаваўшыся за вольным столікам, пачало нават ня сёрбаць — прагна хлябтаць той гарачэнны суп, на які дзьмухалі і здаровыя мужыкі.

Недагледжаныя, галодныя дзеці зь сем’яў алкаголікаў — не навіна ані ў Сітне, ані ў Віцебску, ані ў сталічным Менску. Але тут мяне ўразіла напавал тое, адкуль гэтых дзяцей так шмат. Бацькі, імкнучыся атрымаць сацыялку, наўмысна плодзяць па трое-ча-

цьвёра дзіцянят, маюць тыя ж славутыя 250 даляраў дый прапіваюць. Натуральна, дзеці з тых грошай ня бачаць ані цацкі, ані цукерчыны. А тым часам бацькі з забясьпечаных сем'яў скардзяцца, што ад гэтых «алкашовых выпладкаў» у школе вечна бруд і вошы.

Усіх хітрасспляценьняў сіценскае сямейнасьці ня здолее апісаць ніякая генеалогія. Калі мне, удакладняючы сьпісы выбаршчыкаў, давялося высьвятляць ва ўчастковае камісіі прычыну адсутнасьці ў тых сьпісах некалькіх рабочых леспрамгаса і іхніх сваякоў, працэдуру штохвіліны суправаджалі выбухі рогату. «Такі й такі — муж гэткай? Га-га-га! Ды ў яе такіх мужоў па ўсім Сітне… А той — сын гэтага? Гы-гы-гы, ведаем мы, хто ягоны бацька!.. Гэты — сужыцель, тая — сужыцелька, у яе сваё прозьвішча, той увогуле байструк…» Афіцыйна зарэгістраваных мужоў і жонак на кожнай вуліцы Сітна можна пералічыць па пальцах. Вядома, ідзецца пра тых, хто «расьпісаўся» ў мясцовым клубе, які выконвае функцыю загса; пра належнае вянчаньне і царкоўны шлюб няма і гаворкі.

Паўвёскі плаціць аліменты або «ўтрымлівае» кагосьці…

Глыбіню тутэйшае распусты можна ўявіць, жывучы ў адным інтэрнаце з «хімікамі» і рабочымі зь іншых вёсак. Некалькі кабетаў няпэўнага ўзросту штовечара «пасьвяцца» ля рабочых, а адны і тыя ж дзяўчаты 14–20 гадоў «абслугоўваюць» за шклянку «максімкі» і міску супу суседзяў-«хімікаў», якія мяняюцца ці не штотыднёва. Начныя разборкі за сьценкай, калі малалетнія шлюхі нападпітку высьвятляюць, чаму гэта не ў сваю чаргу тут учора начавала Сьветка, а не якая там Алеська і хто каго «кахае», наколькі мярзотныя, настолькі і звычайныя.

Падлічыць, колькі ў Малым Сітне робіцца абортаў, як вы разумееце, практычна немагчыма. Многія з

тых жанчынаў, якія садзяцца на рэйсавы аўтобус або выпраўляюцца ў Полацк па прадукты, дарогаю зойдуць у клініку. Агулам кажучы, амаль у кожным беларускім сельсавеце за апошнія 12 гадоў ціхай сапай адбыўся свой Беслан з сотнямі дзетак-ахвяраў.

Ёсьць у Сітне і дзіцячы садок, малых каля трыццаці. Ды толькі бацькі пастаянна наракаюць то на кепскае харчаваньне, то на серыялы, якія нянькі днямі глядзяць разам зь дзецьмі (а потым якое-небудзь чатырохгадовае дзіцё лезе да мамы цалавацца ўзасос і тлумачыць, што так Хуаніта з Рамірэсам па тэлевізары робяць).

Безумоўна, ёсьць тут і добрапрыстойныя, забясьпечаныя сем’і — але звычайна з адным, максімум дваімі дзецьмі. І гэтыя дзеці, ледзь толькі асвоіўшы машынкі ды лялькі, ужо рыхтуюцца вырасьці, вывучыцца і зьехаць адсюль куды далей.

Якім чынам уратаваць дзяцей Малога Сітна ў Новай Беларусі?

«Дзіцячыя» сацыяльныя выплаты, гарантаваныя нацыянальным бюджэтам, мусіць кантраляваць мясцовая ўлада, а не райвыканкам. Толькі тады, пад штодзённым наглядам, пагроза страты бацькоўскіх правоў прымусіць тых гора-бацькоў траціць грошы на дзяцей.

Моцная сям’я зь вянчаньнем у царкве і афіцыйнай рэгістрацыяй павінна стаць найпершым стандартам сацыяльнай рэкламы. У сужыцельстве? Разьведзеная? Нежанаты? Плаці падатак!

Ліцэнзіі тэлеканалаў, асабліва кабельных, што бамбардуюць падлеткавую аўдыторыю прапагандай распусты, трэба перадаць сямейным, пазнавальным, адукацыйным і хрысьціянскім медыям.

«Ператварыць сваё мястэчка, сваю вёску ўласнымі рукамі ў квітнеючы цуд!» — скразная ідэя новае

дзяржаўнае сярэдняе адукацыі. Плюс — нядзельныя школкі пры цэрквах, касьцёлах і дамох малітвы. Нацыянальны ўнівэрсітэт, ліцэі і гімназіі па-беларуску.

Аборты… Паводле статыстыкі, сёньня іх у Беларусі больш, чым нараджэньняў. Забойства ненароджаных дзяцей мусіць быць забаронена. Нядаўна чытаў, што ў польскіх кляштарах пачалі адчыняць «вокны жыцьця», куды можна таемна перадаць немаўля. Гадаваньнем і выхаваньнем кінутых дзяцей мусіць займацца не дзяржава, а царква з дапамогай бюджэтных субсідыяў.

…Толькі тады, калі беларускія дзеці пачнуць марыць, як вырастуць, стаць не бандытамі або мільянерамі, а дактарамі ды сьвятарамі, — зробіцца ясна, што краіна ахопленая нацыянальным абуджэньнем.

## 120 000 КІЛАМЕТРАЎ

Гэта ў Магілёве ўсё мераюць на кілямэтры. «Тры кілямэтры шчасьця», — казалі мне пра маладую беларускамоўную сям'ю, у якой нарадзіўся сын. «О-о, дзесяць кілямэтраў праблемаў», — так у двух словах аналізуюць стан справаў у мясцовай дэмакратычнай кааліцыі. «Яму да патрыёта сто кілямэтраў», — а гэта пра вядомага земляка, які апошнім часам усё часьцей гаворыць пра незалежнасьць. І ўдакладняюць: «Паўзком. На каленях».

Цяпер у Магілёве на «хіміі» сядзіць маладафронтавец Артур Фінькевіч. Самага маладога палітвязьня штодня прыходзяць падтрымаць магілёўцы, прыязджаюць менчукі. Чытаю пра гэта і згадваю, як пару гадоў таму адзін з тамтэйшых адраджэнцаў безнадзейна махнуў рукой: «Э-э, ды тут нікому нічога ня трэба. Усе самі сабе, хата з краю. Якая салідарнасьць,

пра што ты гаворыш… Дзе яна?» — і дзьмухнуў у паветра і разьвёў рукамі: няма.

Год адседкі на лесанарыхтоўках — самы час, каб спраўдзіць, ці існуе беларуская салідарнасьць. Зьмерыць яе ў Малым Сітне. Па-магілёўску — у кіламетрах.

Кожны візіт, кожны госьць, хто і адкуль, у мяне ў асобным сшытку запісаны. Больш за 260 чалавек. Лічу, колькі праехаў каторы зь іх — сюды і дахаты, — падсумоўваю і атрымліваю неверагодную лічбу 120 000 кіламетраў.

Тры зямныя экватары! Беларускай салідарнасьцю ў адным асобна ўзятым выпадку і толькі за год, аказваецца, можна тройчы абгарнуць зямны шар!

Нават з найбліжэйшага Полацка дасюль далекавата — 50 км. Але менавіта полацкая салідарнасьць усе гэтыя месяцы давала мне і хлеб надзённы, і духовую ежу. Міждэнамінацыйная дэлегацыя полацкіх хрысьціянаў (праваслаўны, каталік ды ўніят з уніяткаю) завезла сюды бульбы і гародніны, а ў дадатак і ката Партызана. Сябры незалежнага прафсаюза «Шкловалакна» ці не штомесяца прыязджалі з пакункамі харчу ды вопраткі, арганізатары агратурызму зь Мёраў — зь вясковымі прысмакамі. Лідары мясцовай апазіцыі Аляксей Трубкін ды Васіль Главацкіх забясьпечвалі газетамі. Каталіцкая пісьменьніца Ірына Жарнасек прывозіла посную ежу ды вітаміны. Грэка-каталікі перадавалі рэлігійную літаратуру. Самым жа частым госьцем быў пісьменьнік Вінцэсь Мудроў зь нязьменным «свабодаўскім» дыктафонам.

Віцебская салідарнасьць, у сваю чаргу, дамагалася для мяне адпачынкаў і арганізоўвала транспарт. Немагчыма апісаць, колькі разоў бацькі падымалі на вушы ветрынскую, полацкую і віцебскую міліцыю пасьля кожнага парушэньня ці абмежаваньня

маіх правоў. Падчас аднаго з такіх вэрхалаў уражаны опер са сьпецкамендатуры прызнаўся: «Самая моцная партыя, Павел Канстанцінавіч, — партыя бацькоў». Сябра сям'і Вадзім Баршчэўскі, Хрыстафор Жэляпаў, лідар абласнога Фронту Кастусь Смолікаў штораз садзіліся ў машыны ды ехалі да Сітна. Валер Шчукін (пасьля якога любога барадатага наведніка сустракаюць захопленыя воклічы сіценцаў: «О! Аляксеіч!»), Яраслаў Берніковіч з Глыбокага, каталіцкія, уніяцкія, пратэстанцкія сьвятары з Полацкага ды Лепельскага раёнаў зрабіліся ў Малым Сітне ўжо сваімі.

Больш за ўсё наведнікаў было зь Менска. Сталічная салідарнасьць арганізавала ў глухой лясной вёсцы агмень цывілізацыі. Рэдакцыя «Нашай Нівы» прывезла сюды побытавую тэхніку ды аптэку лекаў; генерал Фралоў — тэлевізар, маладафронтаўцы — радыёпрымач; дэлегацыя Беларускага ПЭН-цэнтра на чале з Уладзімерам Някляевым, Лявонам Баршчэўскім, Уладзімерам Коласам ды Ўладзімерам Арловым — цэлую бібліятэку мастацкай літаратуры; ініцыятыўная група БХД — кубаметр кансерваў (састаўлены ў масіўную вежу проста на падлозе, ён яшчэ доўга выклікаў у сіценцаў сьвятарнае трапятаньне: «А што, Амерыка ўсіх, хто ў вашай партыі, так забясьпечвае?!»). Падзеі Плошчы, быццам на тэлеэкране, мне паказвалі запісаныя фільмам на ноўтбуку… Вячаслава Сіўчыка, які сябры з «Бацькаўшчыны» прывезьлі разам са сьвяточным сталом (!). Доўга сьмяяліся з прапановы занесьці такі сэрвіс у рэестр паслугаў МУС… Сіценцы і алешчынцы хаваліся ад камеры Юр'я Хашчавацкага, унікалі аб'ектыва фотаапарата Пётры Васілеўскага, скардзіліся на начальства ў мікрафоны Генадзя Барбарыча, Тацяны Мельнічук ды Аляксандра Старыкевіча; узгадвалі, што кніжкі Арлова стаяць у іхняй бібліятэцы, і ня верылі, што гэта

ходзіць па лузе ён сам. Маладафронтаўцы і зуброўцы — гурбы камуфляжнае моладзі зь бел-чырвона-белымі значкамі ды шаўронамі — пакідалі ўражаньне, што ў вёску ўвайшоў сапраўдны беларускі партызанскі атрад і ўлада перамянілася.

Ну, а як сустракалі Аляксандра Мілінкевіча (кавалькада зь некалькіх машынаў, каманда суправаджэньня на чале зь Сяргеем Калякіным, фотаўспышкі), лепш за ўсё сьведчаць вынікі алешчынскіх праймэрыз, дзе адзіны атрымаў 70% галасоў супраць 10% у Лукашэнкі. Падчас другога, нядаўняга візіту сп. Аляксандру ў вёсцы проста не давалі праходу: прасілі дапамагчы з рамонтам хаты, падняць леспрамгас, павысіць заробкі…

Панаехала гасьцей і з астатніх абласьцей. Евангельскі пастар з Койданава цэлы дзень чакаў мяне з Полацкай царквы; мае дзядзькі з Гомельшчыны дабіраліся сюды двое сутак; берасьцейскія маладафронтаўцы арандавалі мікрааўтобус, каб ехаць 700 кіламетраў праз усю краіну, а гарадзенцы на чале з Паўлам Мажэйкам прывезьлі з сабою польскую тэлевізію (адзін зь мясцовых п’янтосаў, падняўшыся з канавы, растапырыў рукі і крычаў аператару: «Здымай! Я тут жыву!..»).

А хто-ніхто дабіраўся сюды і з-за мяжы. Пратэстанты-прадпрымальнікі ехалі з Кіева, каб абмеркаваць беларускую палітычную сітуацыю. Французскія і амерыканскія журналісты рабілі кола зь Менска, каб пацікавіцца быцьцём сіценскай глыбінкі. Прадстаўніку Швецыі ў Беларусі Стэфану Эрыксану, каб перадаць мне кнігі, давялося езьдзіць у Сітна двойчы — першы раз узімку яго разьвярнулі ўжо ў вёсцы, і толькі праз паўгода, захаваўшы інкогніта, ён здолеў пранікнуць у засакрэчаныя гушчары беларуска-расейскай інтэграцыі. Пасьля візіту беларускіх

студэнтаў, якія працуюць у Капенгагене і чые нумары на аўтамабілі мяцовыя віжы зблыталі зь нямецкімі, у навакольлі быў абвешчаны сапраўдны алярм: «Немцы ў лесе!» Ледзь не дайшло да аперацыі «Баграціён»…

Межаў артыкула ня хопіць, каб пералічыць усіх, хто праехаў паўкраіны, каб выказаць сваю салідарнасьць. А яшчэ ж былі сотні лістоў ды пасылак — спадзяюся напісаць пра іх у наступным нумары.

Дарагія людзі! Вялізны дзякуй вам усім! Адведзіны Сітна пераконваюць: беларуская салідарнасьць здольная накарміць, апрануць, абараніць і натхніць кожнага, хто трапіў пад удар рэжыму.

Калісьці, у часы Майсея, Бог вызначыў габрэйскаму народу меру шляху да зямлі абяцанай. Свая такая мера, палічаная ў днях і кіламетрах, пэўна, ёсьць і ў нас. Сьведчу: за апошні год толькі праездам праз Сітна беларусы яшчэ на 120 тысячаў кіламетраў наблізіліся да нацыянальнага абуджэньня.

## СВАБОДА Ў КАПЭРЦЕ

Ніколі дагэтуль не чытаў канадскіх газетаў — бо ня быў у Канадзе. Ня меў у хаце сувеніраў з Рыма — не давялося наведаць Вечнага горада. Ня еў аўстрыйскай чакаляды; ня ведаў, што прадаюць у супермаркетах Фарміндэйла, штат Нью-Ёрк; не знаёміўся зь нямецкімі дзяўчатамі… пакуль ня трапіў у Малое Сітна.

«Абмежаваньне волі», што забараняе перамяшчэньне і прымацоўвае чалавека да працы, парадаксальным чынам дае іншыя свабоды, часта занядбаныя на «вялікай зямлі». Свабоду спакойнае развагі. Свабоду пазнаньня ўсяе Радзімы праз сузіраньне маленькага куточка, які ўвесь час перад вачыма. Нарэшце, свабоду паважных дачыненьняў з Богам, якім не перашкаджаюць сумятня, ілюзіі ды спакусы.

У такім становішчы пачынаеш дацэньваць і тыя каўточкі свабоды, якіх на волі проста не заўважаеш. Напрыклад, магчымасьць прымружыцца ды зазірнуць у нязьведаныя мясьціны Беларусі, у далёкія краіны праз шчыліну паштовае скрынкі.

За год высылкі мне прыйшло 487 лістоў і перадачаў салідарнасьці. Адказваў практычна ўсім, хто пазначаў зваротны адрас. Кожны ліст быў спосабам хоць на хвіліну вырвацца з высылкі, паразмаўляць з тымі, хто дыхае тым жа духам, скарыстаць каліва свабоды з найбольшым эфектам. Урэшце за 12 месяцаў у глухой вёсцы здолеў даведацца пра людзей, зь якімі мы робім адзіную справу, больш, чым за некалькі папярэдніх гадоў.

З-па-за Беларусі мне пісалі з 15 краінаў, у асноўным беларусы дыяспары. Адсюль і канадскія газеты, і мастацкія прывітаньні ад Івонкі Сурвілы, і пасылка з цудоўнымі цукеркамі зь Вены, і пакункі з кнігамі ды канцтаварамі са Стакгольма, і паштоўкі ад беларусаў Польшчы, і парцалянавы Калізей ад рымскіх грэка-каталікоў, і віншаваньні ад Валянціна Грыцкевіча зь Піцера, і апісаньне амерыканскага ладу жыцьця ад звычайных пенсіянераў — беларусаў ЗША. Адсюль і паштоўкі салідарнасьці ад шараговых немцаў, шведаў, бельгійцаў, латышоў, і прапановы супрацы ад украінскае «Просьвіты»…

З самае Беларусі пошта часьцяком прыходзіла зь мясьцінаў, пра існаваньне якіх, шчыра кажучы, і не здагадваўся, — вёска Хілімонаўцы Сьвіслацкага раёна, Лужок паблізу Кармы або пасёлак Энергетыкаў на Койданаўшчыне. На волі ня здолеў наведаць Слоніма, Салігорска, Верхнядзьвінска, Івянца, Бягомля, Іўя, Залесься, Германавічаў, каб пазнаёміцца з тамтэйшымі людзьмі, — аж вось самі людзі пішуць сюды, у Малое Сітна.

Самая вялікая колькасьць лістоў — зь Менска: амаль 45%. Зь іншых гарадоў адрасоў салідарнасьці найболей у родным Віцебску (11%), Полацку (6%) ды Берасьці (5%). Апрача Віцебшчыны, дзясяткі лістоў прыходзяць зь Меншчыны і Гарадзеншчыны.

Калі раней мне здавалася, што звычайныя лісты ў наш электронны век пішуць хіба што пенсіянеры, дык цяпер, падрахаваўшы статыстыку ўласных ліставаньняў, зьдзівіўся: звыш 37% адрасатаў — мужчыны сярэдняга веку (30–35 гадоў); 18% — дзяўчаты ад трыццаці; амаль 15% — хлопцы, маладзейшыя за трыццаць. Мужчыны, старэйшыя за пяцьдзясят пяць, складаюць менш як 13% ліставальнікаў; жанчыны пенсійнага веку — каля 10%.

Ліставаньне аказалася выдатным спосабам нарэшце грунтоўна пагутарыць з найлепшымі знаўцамі беларускасьці.

З гісторыкам Анатолем Грыцкевічам, які адзін працуе за цэлы Інстытут гісторыі (нягледзячы на гады, выкладаньне і бясконцыя аперацыі) — пра стан беларускай навукі, адукацыі і грамадства.

З Валянцінай Трыгубовіч, кіраўніцай «Беларускай пэрспэктывы», якая дзясяткамі рыхтуе да друку найцікавейшыя беларускія кніжкі — ад дзіцячых вершаў да рэлігійных зборнікаў — пра царкву і палітыку.

З хрысьціянскім сацыялістам, адным зь першых беларускіх незалежнікаў, Анатолем Сідарэвічам — пра лявіцу ды правіцу ў айчыннай гісторыі.

З Андрэем Катлярчуком, беларускім гісторыкам са Швецыі, — пра наш прагрэс і рэгрэс у параўнаньні з залатым векам.

З кінакрытыкам Андрэем Расінскім — пра дачыненьні кінематографа і хрысьціянства.

З выдаўцом беларускамоўнага габрэйскага бюле-

тэня «Мы яшчэ тут!» Вольфам Рубінчыкам — пра лёс і значэньне беларускага Ізраіля.

З публіцыстам Алесем Белым — пра магілу Торвальда Вандроўніка і архетыпы Адраджэньня…

З Аленай Макоўскай, старшынёй управы «Бацькаўшчыны», — пра стан справаў на бацькаўшчыне.

З архітэктарам Ірынай Лаўроўскай, найлепшым адмыслоўцам што да берасьцейскае даўніны, — пра Берасьце сучаснае.

З Элай Олінай, адной з арганізатарак Камітэта салідарнасьці, — пра гэтую самую салідарнасьць…

Лічы, цэлы год завочнага навучаньня ў лепшых выкладчыкаў — любая асьпірантура адпачывае!

Праз пошту да мяне даходзіла практычна ўся незалежная прэса, якая яшчэ заставалася ў краіне. Рэдакцыі перасылалі «Нашу Ніву», «Народную волю», «Наша слова», «Беларуса», бацькі — «Белорусы и рынок», «Белгазету», «Комсомолку» і «Свободные новости». На волі ніколі ня меў такое падшыўкі. Кнігі ад Уладзімера Арлова і Ніла Гілевіча, Лявона Баршчэўскага і Міхася Скоблы, музыка ад Уладзімера Цярохіна, «Дзеяслоў» і «ARCHE», «Навіны НІСЭПД» і бюлетэнь «Бацькаўшчыны», «Наша вера» і «Царква»… Усё гэта цяпер ходзіць у Сітне па руках.

Праўда, свабода ў капэрце тут усё-такі абмежаваная. Лісты часта прыходзяць пакамечаныя, надарваныя, пераклееныя; вялікія пасылкі паўскрываныя і з сарамлівым подпісам «пашкоджана пры механічнай апрацоўцы» (толькі чамусьці безь пячаткі Полацкай філіі КДБ), а незалежную прэсу ў пакунках хтосьці рэгулярна папярэдне разьбірае ды перачытвае. Што ж, інфармацыя пашыраецца, і гэта галоўнае.

Пэўна, людзі таксама заўважаюць, што іхнюю пошту чытае яшчэ хтосьці. Але пішуць. Працягваюць ладзіць акцыі капэртаванае салідарнасьці.

Вялізны дзякуй усім тым, хто пісаў і піша ў Малое Сітна, — і даруйце, што не магу пералічыць у гэтым лісьце ўсіх.

Дарагія беларусы! Калі ласка, пішэце лісты. Казуліну, Статкевічу, Фінькевічу, «партнэрцам». Тым, хто за мяжою. Тым, хто жыве ў глыбінцы. Проста адно аднаму. Бо кожны беларускі ліст дадае маленькае, але чэпкае злучво ў агромністую бел-чырвона-белую палатніну Нацыянальнага Абуджэньня.

## КАЛОНІЯ ЗВЫЧАЙНАГА РЭЖЫМУ

Афіцыйна Малое Сітна — калонія-пасяленьне пры Ветрынскай сьпецкамендатуры № 15. Межамі калоніі лічацца межы вёскі, і пакідаць іх без распараджэньня начальніка камендатуры забаронена: парушэньне рэжыму. Такім чынам, купацца ў бліжэйшым возеры, лавіць рыбу або зьбіраць у лесе грыбы ды ягады «хімікі» могуць толькі пад пагрозай арт. 415 Крымінальнага кодэкса: замена «абмежаваньня волі» на пазбаўленьне волі («зону» або калонію агульнага рэжыму).

«Хімічных» сьпецкамендатураў у Беларусі больш як паўсотні. У кожнай зь іх па некалькі працоўных філіяў. Гэтак, кантынгент Ветрына, апроч Сітна, могуць адпраўляць у калгас у вёсцы Нача, на склады ў Вітаржы або на абслугоўваньне «зоны» ў Наваполацку. Калі прыгледзецца, уся Беларусь аблытаная сеткай «калоніяў-пасяленьняў» — і сама паціху ператвараецца ў адну вялікую калонію.

«Хімікі» трапляюць сюды за тое, да чаго ў нас дапускаецца бальшыня насельніцтва. Бытавыя п’янкі з распусканьнем рук, нявыплата аліментаў, пашкоджаньне маёмасьці ці неасьцярожнае прычыненьне шкоды чалавеку. Калі строга (як у Еўропе ці ЗША) да-

трымліватца закону, у калоніях-пасяленьнях мусяць пастаянна знаходзіцца некалькі мільёнаў беларусаў. Гэткі механізм працуе на ўладу. Нязгодныя з палітыкай дзяржавы баяцца пераступіць пэўныя межы (адкрыта выказацца, паставіць подпіс, узяць удзел у маніфестацыі), бо асабіста ім гэта пагражае «ўзмацненьнем рэжыму». Калонія рабскага, генетычнага саўковага страху, гэткі невялікі свойскі архіпелаг ГУЛАГ, займае ладную частку душы сярэдняга беларуса. Увогуле, каланіяльная сьвядомасьць — спадчына двухсотгадовага панаваньня тут расейскага імперыялізму. Вяскоўцы ў Сітне, дый гараджане ў Віцебску ці Менску дагэтуль жывуць як не на сваёй зямлі і задавальняюцца зьбіральніцтвам, дробным крадзяжом ды спажывецтвам — быццам чорныя тубыльцы, вывезеныя кудысьці на пасяленьне. У стане пастаяннага страху пакараньня прасьвядомасьць лёгка выцясьняецца масавай крымінальнай сьвядомасьцю. І мы прызвычайваемся. Звычайны страх. Звычайны прэзідэнт. Звычайны рэжым.

Між тым калонія пашыраецца. Паводле колькасьці вязьняў на душу насельніцтва Беларусь у сьвеце саступае ўжо толькі Расеі ды Амерыцы. А дзяржава вынаходзіць усё новыя віды крымінальна караных дзеяньняў.

Міхаіл Марыніч адседзеў у турме за тое, што прыняў у падарунак ад пасольства ЗША некалькі камп’ютараў.

Сяргей Скрабец сядзіць дагэтуль, бо калісьці быў вылучыўся ў прэзідэнты.

Андрэй Клімаў — на «хіміі» за тое, што заклікаў людзей адсьвяткаваць Дзень Волі і выйшаў на плошчу зь мегафонам.

Мікалай Статкевіч — там жа: не паверыў афіцыйным вынікам рэферэндуму.

Аляксандр Казулін адбывае 5,5 года калоніі, бо нагаварыў па тэлевізіі замнога праўды і разьбіў шкло на партрэце Лукашэнкі. Артур Фінькевіч — у сьпецкамендатуры за надпіс «Мы хочам новага!».

Вячаслаў Сіўчык — пад крыміналкай, бо пад ягоным кіраўніцтвам у намётавым гарадку на плошчы Каліноўскага не аказалася ані выбухоўкі, ані гарэлкі, ані наркотыкаў, ані нават дохлых пацукоў.

Мікалай Аўтуховіч — у ізалятары: сумленна займаўся бізнесам.

Мікалай Астрэйка, Цімох Дранчук, Эніра Браніцкая і Аляксандр Шалайка зьняволеныя за ўдзел у «незарэгістраванай арганізацыі», зарэгістраваць якую ў законным парадку не дазволіла сама дзяржава.

Цяпер суду за тое ж самае чакаюць маладафронтаўцы — а БТ на ўсялякі выпадак распавядае пенсіянерам, што насамрэч у летніках з дапамогаю «афганцаў» «МФ» рыхтуе баевікоў.

Працэсы паказальныя. Больш за тое, паказальна абсурдныя. Маўляў, было б за што саджаць — увогуле б забілі.

І люд баіцца.

Што ж можна супрацьпаставіць страху?

Толькі веру. Вера зьнішчае страх.

Тыя, каму Бог прадугледзеў прайсьці праз зьняволеньне, павінныя памятаць словы Бібліі: «Зь вялікай радасьцю прымайце, браты мае, калі ўпадаеце ў розныя выпрабаваньні, ведаючы, што выпрабаваньне вашай веры робіцца цярплівасьцю, а цярплівасьць павінна мець дасканалае дзеяньне, каб вы былі дасканалыя ва ўсёй паўнаце, безь ніякай пахібы» (Якава 1:2–4).

Адбыцьцё сутак у сьпецпрымальніках, месяцаў у ізалятарах, гадоў на «хіміі» ці ў турме кшталтуе ды гартуе змагароў. Дае час на роздум, грунтоўную аду-

кацыю, духовае ўдасканальваньне. Паверце, дарагія Аляксандр і Артур, Цімох і Мікалай, Сяргей і Андрэй, — Госпад Бог лепш за ўсіх ведае, дзе нам у гэты момант трэба быць. І ў вырашальную хвіліну, калі Беларусі спатрэбяцца найвялікшая цьвёрдасьць, бязьмежнае трываньне, рэдкая адвага, — гэты гарт дасьць плён, і мы зробімся кропкамі апірышча для рычага, што пераверне краіну.

«Шчасьлівыя тыя, каго гоняць за праўду, бо іх ёсьць Валадарства Нябеснае!» (Мацьвея 5:10).

Што ж да спробаў запалохаць судзілішчамі ўвесь народ… Беларусам няма чаго баяцца. Насамрэч калонія звычайнага рэжыму — у галовах. Як і ў выпадку зь Сітнам, мяжа забароны ўмоўная. Зямля беларуская. Людзі нашыя. Параза рэжыму непазьбежная. Калі зразумець гэта, страх проста зьнікае.

Бо Беларусь атрымала незалежнасьць ня дзеля таго, каб быць калоніяй-пасяленьнем на 10 мільёнаў асуджаных да абмежаваньня волі. Божая воля для сучаснае Беларусі — гэта нацыянальнае абуджэньне.

## АДВАЖНАЕ СЭРЦА

Тыя, хто найчасьцей пісалі лісты ў Малое Сітна, атрымлівалі просьбу адказаць на пытаньні своеасаблівай анкеты: «Якія кнігі, музычныя гіты, фільмы вы б параілі прачытаць (праслухаць, прагледзець) кожнаму беларусу?» І найбольш уразіла сваімі вынікамі намінацыя «кіно». Здавалася б, столькі пранізьлівых беларускіх фільмаў: «Дзікае паляваньне караля Стаха», «Ідзі і глядзі», «Чырвонае лісьце», «Акупацыя»... Столькі экранізаваных нацыянальных герояў: Кастусь Каліноўскі, Сотнікаў, Заслонаў... Але ж вось фокус: па-за канкурэнцыяй апынулася «Адважнае сэрца» з Мэлам Гібсанам у галоўнай ролі. (Між іншым, на дру-

гім месцы — «Пакуты Хрыстовы» таго ж Гібсана ўжо як рэжысёра.)

Шатландзец Ўільям Ўолас, просты хлопец, што ў безнадзейным становішчы ўзначаліў паўстаньне супраць акупацыі, трапіў беларусам у самае сэрца.

Чаму — тлумачыць ня трэба.

За гады ўдзелу ў беларускім руху мне пашчасьціла пазнаёміцца зь людзьмі, што не саступалі Ўільяму Ўоласу ў асабістай мужнасьці. З геолагам Вячаславам Сіўчыкам, адным з арганізатараў Менскае вясны — 96, які трымаў галадоўку пратэсту разам зь Юрыем Хадыкам на Валадарцы і якога часьцей, чым іншых, бачылі ля мікрафона ў намётавым мястэчку на плошчы Каліноўскага. Зь лясным інжынерам Яўгенам Скочкам, што кіраваў дружынай «Маладога фронту» і адным сваім зьяўленьнем на вулічных акцыях наводзіў паніку на міліцэйскае начальства. Мастаком Рыгорам Кійком, які адбіваў у амапаўцаў маладзейшых дэманстрантаў і бел-чырвона-белыя сьцягі (за што рэгулярна адседжваў на сутках ды «хіміі»). Палітыкам Зянонам Пазьняком, вайскоўцам Мікалаем Статкевічам, праваабаронцам Валерыем Шчукіным, журналісткай Ірынай Халіп...

Але пры словах «адважнае сэрца» мне заўсёды згадваецца не магутны, з ільвінай грывай, Мэл Гібсан, ня хтосьці з дужых «краёўцаў» у камуфляжы, а невысокі, танклявы, усьмешлівы раўналетак Кастуся Каліноўскага — Зьміцер Дашкевіч.

Мы пазнаёміліся ў камеры на Акрэсьціна пасьля Дня Волі — 2002. Тады, пасьля мітынгу з кветкамі і сьпевамі ля помніка Янку Купалу, АМАП перакрыў выхады з парку, і арганізатары абвясьцілі: разыходзімся. Маладафронтаўцы, якія не ўяўлялі сабе Дня Волі бяз шэсьця, пратачыліся скрозь кардон, узьнялі сьцягі і павялі людзей праспектам. Каля скрыжа-

ваньня з Варвашэні да мяне падляцеў падпалкоўнік Гірэль: «Прыбярыце сьцягі! Зараз выставяць кардон; безь сьцягоў прапусьцяць, зь імі — не. Будзе хапун!» І праўда, праз паўхвіліны ўпоперак прасьпекта пашыхтаваўся АМАП. Сьвята ўсё-такі ж, думаю. Усім, хто нясе сьцягі, камандую: «Згортваем. Падымаем пасьля скрыжаваньня». Згарнулі амаль усе, і толькі наперадзе з самым вялікім палотнішчам працягвае ісьці шараговы маладафронтавец Зьміцер. «Згортвай сьцяг!» — крычу яму. Ён на секунду прыпыняецца, глядзіць на мяне яснымі вачыма: «Гэта ня сьцяг». — «А што гэта?!» — «Гэта нацыянальная сьвятыня!» І рушыць далей. На Зьмітра шыкаюць усе вакол, Гірэль літаральна вісьне на руках. «Загад згарнуць!» — раву яму на вуха. «Пайшоў ты са сваім загадам», — сьцяўшы зубы і падымаючы сьцяг вышэй, адказвае Дашкевіч.

Кардон пераходзіць у наступ. Зьмітра за рукі-ногі ледзь заносяць у аўтобус чацьвёра здаровых амапаўцаў...

У той дзень усе расейскія тэлеканалы паказвалі разгон дэманстрацыі. Дзясяткі мільёнаў даведаліся пра БНР, бачылі бел-чырвона-белы сьцяг і яшчэ раз пачулі: «Жыве Беларусь!». У нашай камеры ўдзельнікі акцыі вырашылі аднадушна: менавіта Зьміцер Дашкевіч выратаваў Дзень Волі.

Памятаю, як потым на выпрабаваньні «Горад — наш!» на забойчай вышыні насупраць Дома друку ён з халоднай галавой ускараскаўся на сьлізкі ад дажджу скат даху (махаю рукой: «Хопіць! Вешаем тут!») і, быццам канатаходзец, балансуючы, прайшоў па вільчаку ды прымацаваў сьцяг да маланкаадводу. Як у момант абвяшчэньня рэферэндуму аб працягу паўнамоцтваў прэзідэнта ў натоўпе ля экрана на Кастрычніцкай завёў скандаваньне «Ганьба!» — і атрымаў 15 сутак. (Дарэчы, гэтым эпізодам заканчваецца вядо-

мая кніга пра Лукашэнку Аляксандра Фядуты.) Як на 18-ы дзень маладафронтаўскае галадоўкі ўжо сёлета тэлефанавала і ледзь ня плакала журналістка: «У яго ўжо костачкі прасьвечваюцца, як у вязьня Бухенвальда, з рота пахне ацэтонам — у арганізме незваротныя зьмены!..»

Прыхаджанін евангельскай царквы, Дашкевіч распачаў Рэфармацыю «Маладога фронту». Усталяваў сярод сяброў руху маральны стандарт: «Калі мы змагаемся за Адраджэньне на хрысьціянскіх прынцыпах — ня маем права піць, паліць, блудзіць». І такое выхаваньне, на якое, прызнаюся, не заўсёды ставала адвагі ў нас са Скочкам, загартоўвала вакол Зьмітра моладзь сапраўды сумленную і самаахвярную.

Самыя моцныя супраціўнікі для бязбожнага, хлусьлівага, састарэлага рэжыму — менавіта такія. Рашучыя, маладыя, вернікі. Іх ня могуць спалохаць або купіць. І вось ужо абвінавачваюць у рабаўніцтве (між іншым, у Дзень беларускай вайсковай славы) 15-гадовага капітана салігорскага «МФ» Івана Шылу. Вось ізалююць у чатырох сьценах магілёўскае камендатуры Артура Фінькевіча. Арыштоўваюць і кідаюць на Валадарку ў «справе “Маладога фронту”» Зьмітра Дашкевіча.

Але, спрабуючы разьбіць, спыніць і стрымаць моладзевы рух праз крыміналку аб «незарэгістраванай арганізацыі», спадкаемцы Цанавы і Вышынскага добра-ткі схібілі. Сотні беларусаў, сярод якіх Уладзімер Арлоў, Ніл Гілевіч, Лявон Вольскі, гатовыя сьведчыць на судзе ў абарону «Маладога фронту». Больш за тое, ужо 1,5 тысячы чалавек падпісалі зварот ад імя сяброў «незарэгістраванага “Маладога фронту”» з патрабаваньнем спыніць перасьлед моладзі і вызваліць палітвязьняў. Калі судзьдзя заслухае іх у якасьці сьведкаў, яму давядзецца адпраўляць у турму сотні (а можа, і

тысячы) людзей. Калі ж суд адмовіцца выклікаць іх у якасьці сьведкаў абароны — значыць, за ўдзел у «незарэгістраванай арганізацыі» і выступ ад яе імя судзіць ужо ня могуць.

Рэжым сам загнаў сябе ў гэтую пастку антызаконнымі, у духу 1937 года, папраўкамі ў Крымінальны кодэкс. Спрабуючы забараніць «Малады фронт», ён дзесяцікроць яго раскручвае.

Сёньня ў кожнага беларуса ёсьць магчымасьць на некалькі хвілінаў апынуцца на месцы Ўільяма Ўоласа. Стаць адважным сэрцам. Падтрымаць маладафронтаўцаў і Зьмітра Дашкевіча. З трыбуны суду абвінаваціць рэжым у твар. Супраць такой нашай салідарнасьці пракуроры і гэбісты бясьсільныя.

Толькі так — разам! — можна супрацьстаяць масавым працэсам. Бо на чарзе ўжо палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі. Толькі так мы, беларусы, здолеем абараніць усіх і кожнага. Трымаемся побач! Бярыцеся за рукі! Глядзім дзяржаўным злачынцам у вочы! І кажам: «І я маладафронтавец!» «І я!» «І я таксама!..»

Многія, хто ведае, што такое «Малады фронт» і хто такі Зьміцер Дашкевіч, ужо наважыліся стаць сьведкамі салідарнасьці. Ці гатовы ты стаць у шэраг?

Абавязкова прыходзь на суд.

Справа «Маладога фронту» зробіцца адной з самых яскравых падзеяў нацыянальнага абуджэньня.

## ТАБЛІЦА МЕНДЗЯЛЕЕВА

Дзед з Полацка ў гасьцях у сіценцаў цікавіцца, хто пасяліўся ў інтэрнаце. «Хімік», — адказваюць вяскоўцы. «А, вучоныя прыехалі», — з разуменьнем хітае галавою дзед.

«Зычу табе хутчэй адолець гэтую табліцу Мен-

дзялеева», — завяршае свой ліст чытачка «Нашай Нівы» зь Пінска.

«Хімія» — гэта насамрэч перыядычная сістэма элементаў. Крымінальныя і паўкрымінальныя элементы, што перыядычна трапляюць у Сістэму «абмежаваньня волі», складаюць упарадкаваную заканамернасьць сучаснага грамадска-палітычнага жыцьця. Як спадчына разьвітага сацыялізму, «хімію» ў Расеі і большасьці постсавецкіх краінаў ужо скасавалі. Але ж вось у Беларусі саўковую «табліцу Мендзялеева» дагэтуль штудыююць тысячы.

Сучасная беларуская «хімія» — кландайк для крымінальніка-навучэнца. Тут прафесійныя выкладчыкі дадуць яму поўнае ўяўленьне пра метады сімуляцыі з дапамогаю ёду, жалезныя паняцьці турмы і значэньні цынку (прастукваньне праз сьцяну). Тут навучаць, як перакрываць кісларод адміністрацыі ўстановы, як пазьбягаць ужываньня брому (дадаецца ў пітво ў ізалятарах і калоніях дзеля падаўленьня лібіда) і здабываць высакародныя металы ў кватэрах даверлівых грамадзянаў.

Сэрца крывёю абліваецца, калі бачыш гэтых хлопцаў, аднагодкаў ці крыху маладзейшых, — Пакаленьне Маладога Фронту! — якія днямі слухаюць блатны шансон ды «Таганку», размаўляюць на сумесі турэмнага жаргону і расейскага мату і лічаць гэта найвышэйшай рамантыкай. Іхняя сьвядомасьць ужо скалечаная дашчэнту. Мой 22-гадовы сусед з Новалукомля шчыра абураўся: «Угон аўтамабіляў — гэта мой хлеб, мая праца, разумееш? Я працую ня менш за іншых — дык за што мяне пасадзілі?!»

Злосны неплацельшчык аліментаў зь недалёкае вёскі; полацкі нумізмат, у якога на выставе паспрабавалі скрасьці ягоныя манеты (крыўдзіцель апынуўся ў рэанімацыі, калекцыянер — у Сітне); малады кіроўца,

што зьбіў хлопчыка з роварам; жыхар Наваполацка, які ўтапіў у балоце дыпламат зь міліцэйскімі дакументамі; лепельскі мужык, які на глебе рэўнасьці «вынес санкі» (зламаў сківіцу) жонцы; здаровы хуліган, на якога пасьля чарговае бойкі суседзі-пацярпелыя падалі заяву… Як і ў перыядычнай сістэме элементаў, тут ёсьць артыкулы лёгкія (аліменты, махлярства, п’янкі, выпадковы ўшчэрбак) і цяжкія (цяжкія цялесныя пашкоджаньні, ненаўмысныя забойствы): першыя часьцей падпадаюць пад амністыю ці ўмоўна-датэрміновае вызваленьне.

Мая «арганізацыя масавых беспарадкаў» робіць на «калегаў» моцнае ўражаньне. Даведаўшыся, што ў «беспарадках» на галоўнай плошчы сталіцы ўдзельнічала некалькі тысячаў чалавек, паглядзеўшы на машыны наведнікаў і пераканаўшыся, што паслабленьняў у камендатуры не даюць, яны прысьвістваюць і па-змоўніцку цісонуць руку: «Трымайся!»

Ужо неаднойчы пераканаўся на «сутках», у ізалятарах, «адстойніках» на той жа «хіміі»: да «палітычных» у месцах пазбаўленьня ці абмежаваньня волі ставяцца з выключнай павагай. Прынцыповасьць, адукаванасьць і беларуская мова — візітоўка «палітычных» — вітаецца зваротна прапарцыйна непрыязнасьці да гэтых рысаў у афіцыйных установах навукі, культуры і адукацыі. Прыхільнікаў Лукашэнкі сярод сядзельцаў не сустракаў: тут улада — ненавісны апарат падаўленьня. Слова «рэжым» выклікае тыповую хімічную рэакцыю. У крымінальнага інтэрнацыяналу ёсьць нават адпаведная класіфікацыя РБ — «чырвоная (г. зн. кантраляваная адміністрацыяй) рэспубліка». Дзіва што сімпатыяў да міліцыі тут яшчэ меней, чым сярод удзельнікаў вулічных маніфестацыяў. Можаце сабе ўявіць, якім попытам карыста-

юцца ў «мясьцінах ня надта аддаленых» значкі «За свабоду!».

Разам з тым «папраўчая ўстанова адкрытага тыпу», як ніводная іншая структура пэнітэнцыярнай сістэмы, не папраўляе, а горшыць чалавека. Для «новенькіх» гэта асяродак страшэннага разлажэньня, а для злачынцаў — паўсюдная спакуса: за мінімальным кантролем выпіць, пабалдзець, а заадно і «выхаваць маладняк» — не праблема. І канвеер працуе: «Скраў, выпіў — у турму».

За год у Малым Сітне праз мой інтэрнацкі пакой прайшло 14 «хімікаў». Чацьвёра зь іх сустрэліся ў адной камеры ў Віцебскай калоніі (даведалася тутэйшая жанчына, якая возіць перадачы майму былому суседу). Здавалася б, чаму б тым небаракам не адбыць свой тэрмін ціха і спакойна?.. Але сістэма працуе як гадзіньнік: прымусовая праца зранку + адносна вольны вечар = начная п’янка + пахмельле назаўтра. Пошукі выпіўкі, хованкі на працоўным месцы, сваркі і скандалы працягваюцца да тае пары, пакуль камендантка інтэрната ці майстры на працы ня выклічуць «эвакуатараў» з камендатуры. «Хімікі» добра ведаюць, што Мендзялееў вынайшаў ня толькі перыядычную сістэму, але і рэцэпт расейскае гарэлкі. Пасьлядоўнікі вялікага хіміка эксьпэрыментуюць з усім, што гарыць, ужываючы ці ня ўсю згаданую табліцу.

Многія, дабыўшы «да званка», застаюцца ў Сітне на ўсё астатняе жыцьцё: знаходзяць сужыцельку, уладкоўваюцца ў лепрамгас, падсаджваюцца на «максімку»… Так абмежаваньне волі ператвараецца ў пажыцьцёвы прысуд.

У Новай Беларусі ніякіх «хіміяў» ня будзе. Тыя, хто парушыў закон ненаўмысна, будуць плаціць вялікі заклад (а не даваць хабар «каму трэба»). Эканамічныя злачынцы будуць карацца, адпаведна, эканамічна. За-

бойцы ж, гвалтаўнікі і падлеткі-хуліганы будуць адбываць свой тэрмін не ў рассадніках крымінальнае сьвядомасьці і міліцэйскага садызму, а сам-насам з уласным сумленьнем і Бібліяй, пад гутаркі са сьвятаром.

Бо насамрэч ідэальныя дачыненьні чалавека і ўсяго грамадства выяўляе ня хімія і ня фізіка, а нацыянальнае абуджэньне.

## КІСЛАЯ ГЛЕБА

У самы разгар эпахальнай для кожнага беларуса пары капаньня бульбы ў сіценскіх ваколіцах бязьлюдна. Вяскоўцы ў лесе — хто ў лісічках, хто ў брусьніцах, хто ў журавінах. Калі запытваесься ў народу, які выстройваецца ў чаргу ў краме па прывазную бульбу, чаму сіценцы не саджаюць самі, адмахваюцца: «Ай… Не расьце нічога. Глеба кіслая».

Глеба ў Сітне і праўда кіслая — пераўвільготненая. Ападкі перавышаюць сьцёк. Вакол балоты. Але, вось дзіва, ля хаты дзеда Роберта (таго самага, які больш за паўстагодзьдзя слухае «Свабоду») — і бульба, і гуркі, і перцы, і морква, ды дабрэнныя, ды яшчэ клубніцы, ды вінаград… «У вас што, — пытаюся, — мясцовая анамалія?»

«Так, анамалія, — сьмяецца дзед. — Во, прывязу вапны воз… кіслую ж глебу вапнаваць трэба, ну і гною, вядома, колькі тачак… Вось і родзіць. Калі вапны няма — можна попелу зь печы».

Пэўна ж, нездарма Госпад Бог даў Паазер’ю, апроч кіслых глебаў, яшчэ і найбуйнейшае ў Эўропе радовішча даламіту ў Рубе пад Віцебскам — даламітавая мука акурат і прызначаная для таго самага вапнаваньня!

Але вяскоўцы штовосені, як манны нябеснай, ча-

каюць машыны, што завозіць у сельпо дзясяткі мяхоў гародніны. Купляюць малако — заводскае, у пакетах — кефір, тварог. Па мяса едуць у Полацк на кірмаш…

На тэрыторыі сельсавета 10 гадоў таму было тры калгасы. Цяпер не засталося ніводнага. Ворыва засеялі… лесам. (Во зьдзівіліся б продкі-палачане часу Ўсяслава, што гэты лес немалою сілаю калісь карчавалі пад палі!..)

Гародзікі ў саміх вяскоўцаў зусім сьціплыя. Лапінка ля хаты, колькі яблыняў. Трактара ці камбайна на людскіх сотках тут і ня ўбачыш — не разьвернуцца. Аруць канём ці матаблокам. Зямля вакол вёскі ўвогуле пустуе.

Ну добра, няхай і праўда, як той сьпяваў, не расьце какос… Але ж травы ў сіценскіх ваколіцах — мора. Жывёле — раскоша. Дзе ж жывёлагадоўля? У Сітне адна карова прыпадае на… 20 жыхароў. Сьмешна глядзець, як «статак» зь некалькіх мілкаў шпацыруе цэнтральнай вуліцай. «Каровы ідуць!» — тут ужо не падзея, а нейкая недарэчнасьць. Паводле дзіцячых успамінаў, вырашыў быў, што ў бабулінай вёсачцы на Дняпры, пад Рэчыцай, справы лепшыя. Ані! Распытаўся — амаль тое самае. Старым трымаць карову ўжо й сілаў няма, а маладзейшыя п’юць, дык дзе яны тую худобу дагледзяць…

Тых, хто трымае сьвіньні, у Сітне можна пералічыць на пальцах. Відаць, парсюкі й тыя на кіслай глебе не растуць.

І гэта ня сіценскі «кулёр лякаль». Ва ўсёй Беларусі ўжо колькісот гадоў прагрэсуе паразітычная звычка. З кіслай мінай махаюць рукой на беларускую зямлю дзеячы, і робіцца зусім горка. Уздыхі і нараканьні на глебу чуюцца ў нас рэгулярна: гэтым звычайна

апраўдваюць нежаданьне ды няўменьне працаваць — што на зямлі, што з грамадствам.

100 гадоў таму купка гэткіх жа, як і мы, беларусаў перасіліла ўнутраны стогн з прычыны несалодкае ды нятлустае глебы і пачала ўрабляць Нашу Ніву. Так, было цяжка, быў і пот, і сухоты, і кроў, і сьлёзы — але ж узаралі. І на гэтым не такім ужо вялікім кавалачку, бадай, вырасла ўсё беларускае нацыянальнае адраджэньне пачатку XX стагодзьдзя: тут і БНР, і БССР, і беларусізацыя, і каранізацыя… Як у біблійнай прыпавесьці: «Узышло, і вырасла, і ўрадзіла: адно трыццаць, другое шэсьцьдзясят, трэцяе сто» (Марка 4:8).

На беларускай зямлі апошнія стагодзьдзі шмат хто спрабаваў жыць на дурняк. За кошт прыгоннага сялянства, калектывізацыі, меліярацыі. Але Госпад, даручыўшы Адаму зямлю ў валоданьне, сказаў: «У поце твару твайго будзеш есьці хлеб, пакуль ня вернесься ў зямлю, зь якое ты ўзяты» (Быцьцё 3:19). Цяжка, укладваючы ўвесь час, усе высілкі, усю душу! — працаваць. Толькі тады тутэйшая глеба зьдзівіць сваёй плоднасьцю.

Няпростая беларуская зямля дадзеная беларусам дзеля выпрабаваньня іхняй хрэстаматыйнай цярплівасьці, руплівасьці, працавітасьці. Калі некаму хочацца есьці ананасы і жаваць рабчыкаў без асаблівых намаганьняў — ласкава просім на Канары. Патрыёт? Тады ўлягай, як за плугам, як у выбіраньне бульбы, як у штогадовае вапнаваньне, угнойваньне, баранаваньне кіслае глебы.

Ня будзем працаваць належным чынам ня зямлі — так і застанемся прыхаднямі-зьбіральнікамі.

За сто гадоў «Нашай Нівы», пэўна, гэта і ёсьць галоўным урокам для ўсіх беларусаў.

Толькі калі ўзаром, палепшым, акультурым гра-

мадскую глебу кожны на сваім кавалачку,ператром уласнымі рукамі кожны камячок беларускіх праблемаў, цяжкасьцяў, сумненьняў — пасеяныя слова, вера і любоў дадуць нацыянальнае абуджэньне.

## КАМЕНДАНТ І СТРАХ СЬМЕРЦІ

Усе клічуць яго Камендантам. Зрэдчасу пачуеш — «Цімафеіч», а так усё Камендант ды Камендант. Такое ўражаньне, што сапраўднага ягонага прозьвішча ў Алешчы ня ведае ніхто. Калі ж запытаесься, ён уважліва прасьвідруе цябе пільным позіркам празрыста-шэрых вачэй з прымружанага змаршчыньня: «А навошта табе?»

Камендант так і размаўляе — задае пытаньне і пранізьліва ўзіраецца, маўляў, я цябе наскрозь бачу. Ён амаль ніколі не падвышае голасу і ня лезе ў парожнія гутаркі. Трымаецца наводдаль. Назірае.

Камендант, прынамсі афіцыйна, не зьвязаны ані са сьпецкамендатурай у Ветрыне, ані з камендантам інтэрната (хаця, пагадзецеся, замнога тут камендантаў) і няўлоўна нагадвае хіба *камандантэ* Фідэля. Цімафеіч, праўда, маладзейшы, яму мо пад 65, і без барады, але вось гэты позірк, пільны і крыху шалёны, гэтая вайсковая пастава і манера *пытаць* суразмоўніка іх дужа прыпадабняе.

Ну і, вядома, погляды.

Камендант лічыць, што ён сумленна пражыў жыцьцё, служыў Радзіме, ахоўваючы зэкаў у «зоне» ў 1970–1980-я. Шчыра не даўмеецца, калі Сталіна назавуць тыранам, і скажа, што сёньняшняя ўлада слабаватая — «разбаўтаўся народ».

Чым займаецца Камендант у Алешчы, наўрад ці хто скажа пэўна. «Парадак наводзіць», — пацісьне плячыма брыгадзір. Нейкі час ён вастрыў сякеры,

правіў вілы, рыдлёўкі і кручкі для адкаткі. Але як што снадзіва на эстакадзе ўвесь час کралі ды прапівалі (нат не заставалася чаго вастрыць і рамантаваць), ён кінуў гэты занятак ды перабраўся за эстакаду, куды кранамі ў вялізныя горы адносяць вецьце ды сьмецьце.

І пачаў паліць вогнішчы.

Калі Камендант утылізуе тое вецьце — усю Алешчу, бы туманам, зацягвае дымам. Яловае гольле разгараецца, дае полымя на некалькі метраў і час ад часу трэскае агромністымі феерверкамі — тады здаецца, што за эстакадай прарвала жарало невядомага вулкана.

Сам са Смаленшчыны, у 1960-х Цімафеіч скончыў школу; адслужыўшы на Ўрале, застаўся наглядчыкам у тамтэйшай калоніі і з часам вырас да загадчыка ўчастка, дзе адбывалі пакараньне 2,5 тысячы зэкаў. Выйшаў на пенсію, пасяліўся ў Алешчы, і з тых часоў ягоная прывідна-шэрая постаць за эстакадай — неад'емная частка тутэйшага краявіду.

«Бачыш, які развал? — ківае Камендант на алешчынскі склад, дзе некалькі п'яных рабочых ужо каторую гадзіну «перакурваюць». — А ведаеш чаму? — і не даючы сказаць *чаму*, адказвае сам. — Бо вашая дэмакратыя добрая ў іншым месцы. А нашаму чалавеку трэба пуга. Так-так, не матляй галавой, пуга. І страх сьмерці. Інакш працаваць ня будуць».

Камендант спрытна цыркае сьлінай, уладным рухам рукі спыняе мае пярэчаньні і працягвае: «Галоўнае — абнесьці тэрыторыю калючым дротам. Стралкоў на вышкі. Страх сьмерці патрэбны, разумееш? Тады ты кантралюеш сітуацыю. А там, унутры, ужо справа тэхнікі. Падзяліць, каб не групаваліся самі, дзесьці пасварыць, асьведаміцеляў там... І парадак».

«Ага, парадак, — не вытрымлівае хтосьці з ра-

бочых, — такім, як ты, дай волю, вы ўсю Беларусь па периметры абгародзіце».

Мне згадаліся гэтыя словы Каменданта, калі пасьля выпадку зь сіратою Вікцяй Мароз, навучэнкай Вялейскага інтэрната, сотням беларускіх дзетак было забаронена выязджаць на аздараўленьне ў Італію.

Тая ж прамова Каменданта пра страх сьмерці ўзьнікла ў памяці, калі аднаго зь лідараў «Маладога фронту», Паўла Красоўскага, арыштавалі паводле падазрэньняў ва ўчыненьні віцебскіх выбухаў (маўляў, падобны да фотаробата): згодна з гэтым артыкулам Крымінальнага кодэкса ўжо можна асудзіць да пакараньня сьмерцю. Баючыся размаху маладафронтаўскай справы і *сьведкаў салідарнасьці* на судзе, рэжым падае сігнал сапраўдным злачынцам, якіх так і не знайшлі: «Узрывайце далей — замест вас пасадзім палітычных!»

Вялізная постаць Каменданта вырастае цяпер па-над сотнямі менскіх галадоўнікаў-хрысьціянаў з царквы «Новае Жыцьцё», якіх пазбаўляюць іхняга дому малітвы.

Але хрысьціяне не баяцца сьмерці. Яны баяцца толькі Бога, Які ўладны і над сьмерцю, і над жыцьцём. «*Новае Жыцьцё*» — назва тут зусім не выпадковая. Вось чаму страх сьмерці не ўратаваў ад краху ані Рымскую імперыю, ані Трэці Райх, ані Савецкі Саюз. Былі тыя, хто не баяўся сьмерці, — і гэта азначала, што калючы дрот, стральцы на вышках і нават каменданты бясьсільныя.

Для Цімафеіча такое непамысна.

А хрысьціяне і маладафронтаўцы ведаюць: працаваць, падтрымліваць парадак і жыць шчасьліва беларусам дасьць ня страх сьмерці, а нацыянальнае абуджэньне.

## БІБЛІЯТЭКА Ў ПРЫБІРАЛЬНІ

Мае інтэрнацкія суседзі штодня чытаюць класіку. «Як нам рэарганізаваць Рабкрын» Уладзімера Ільліча Леніна, «Пётр І» графа Аляксея Талстога, «Трывожнае шчасьце» Івана Шамякіна ці, на скрайні выпадак, «Тэхніку бясьпекі ў лясной вытворчасьці» з прадмовай, прысьвечанай вынікам XXII зьезду КПСС. Прычым дзеля таго, каб даведацца, якія глыбіні філасофскае думкі вымяраюць «хімікі» ды работнікі сёньня, не абавязкова наведвацца да іх у пакой. Дастаткова зайсьці ў драўляную прыбіральню (дзьве кабінкі ў паўсотні метраў ад інтэрната), ёмка ўладкавацца і прабегчы вачыма па радкох на шчодра раскіданых вакол ашмётках кніжных старонак. Некалькі цэлых клапатлівыя чытачы пакідаюць наступнікам: заткнутыя ў шчыліны паміж дошкамі, яны ўтвараюць зручны каталог з формуламі самае папулярнае літаратуры за апошні тыдзень.

Ані Борхесу, ані Оруэлу і ня сьнілася такая бібліятэка — абавязковыя 10 хвілінаў штодня, індывідуальныя кабінкі замест агульнае чытальнае зале, і напрыканцы — непазьбежная ўтылізацыя.

Здаецца, яны не чыталі Рабле, але…

Можна зразумець роспач сіценскай бібліятэкаркі, пенсіянеркі Людмілы Пятроўны, якая скардзіцца: «Раней жа ў нас 5 тысячаў тамоў было — а цяпер некалькі соцень. Разьбіраюць і не вяртаюць. На самакруткі скурваюць іх, ці што?..»

Ці што, Людміла Пятроўна, ці што.

І застаецца ў выніку ў сіценскай бібліятэцы няпоўны Збор твораў Леніна, Маркса, рэшткі фундаментальных савецкіх серыяў накшталт «ЖЗЛ» ды «Замежная літаратура», «Васёк Трубачоў», «Паўка Карчагін»… Беларуская літаратура захоўваецца кры-

ху лепей (пэўна, у прыбіральні чытаецца тугавата) — Крапіва, Чорны, Караткевіч. Ёсьць нават «Таямніцы полацкай гісторыі» Ўладзімера Арлова.

Але ўсё гэта — тоўшчай на дальніх пыльных паліцах. На самым бачным месцы (там, дзе раней быў чырвоны куток), вокладкамі навонкі, быццам пірамідa чакалядак ці кансерваў у сельпо, — «Дзяржаўная ідэалогія». Тут, натуральна, ніякіх табе сяброў СБП. Афіцыйная біяграфія Аляксандра Рыгоравіча, глянцавы агітпрап «Мы — беларусы», тлумныя тамы пра інтэграцыю з Расеяй. Калі бярэш у рукі які-небудзь з гэтых нарожных камянёў сучаснай, так бы мовіць, нацыянальнай дзяржаўнасьці — Людміла Пятроўна войкае і сумятліва бяжыць папраўляць, каб піраміда раптам ня рухнула. «А газетныя падшыўкі ёсьць?» — пытаюся. «Канечне», — выкладвае бібліятэкарка «Советскую Белоруссию» і тутэйшы «Полацкі весьнік». Зьвяртаю ўвагу, што раёнка месцамі папсаваная. «А, гэта з райвыканкама загадалі сьпісы ўчастковых камісіяў з усіх мінулых выбараў выразаць і ім адправіць». Ага. Вось, значыцца, як.

Вяскоўцы наведваюцца ў сіценскую бібліятэку параўнальна часта (апроч «Первого канала», «максімкі» і суботніх танцаў зь дзяжурнай бойкай забаваў тут небагата) — штодня чалавек па пяць-сем. Першае, што пытаюцца, — дэтэктывы. Маецца на ўвазе pulp fiction данцовых-варанцовых — «Фінал краба» таварыша Чаргінца браць чамусьці ня хочуць. Інжынеры ды майстры просяць адмысловую літаратуру, прысьвечаную лясной гаспадарцы. Астатняе бяруць гады ў рады.

Гісторык Андрэй Катлярчук напісаў мне, што яшчэ ў XVII–XVIII стагодзьдзях у беларускіх вясковых бібліятэках можна было трапіць на цудоўныя зборы замежнай літаратуры на некалькіх мовах.

На пачатку 3-га тысячагодзьдзя бібліятэка ў родных краях Еўфрасіньні Полацкай, Францыска Скарыны, Сімяона Полацкага ня мае ані Бібліі, ані слоўнікаў, ані інтэрнэту. Затое зь перадавіцы «Саўбелкі» ў падшыўцы ганарыста пазірае «дыямэнт» Нацыянальнай бібліятэкі — агромністая спаруда, напханая камуністычным ды расейскамоўным чытвом, куды людзі заходзяць хіба што падзівіцца на грандыёзныя перакрыцьці са шкла ды бетону. Паводле сьведчаньня наведнікаў, амаль пустая. А чаму б не паставіць у тых беларускіх бібліятэках, куды людзі ўсё яшчэ ходзяць, хаця б па адным камп'ютары, падлучаным да інтэрнэту, — і плату за карыстаньне пускаць на набыцьцё новых кніг?.. Апроч іншых выгодаў — электронныя тэксты прынамсі не прападуць у чорнай дзіры.

Уладзімер Арлоў прывёз у Сітна колькі кніг зь бібліятэкі Саюза пісьменьнікаў, наваполацкая літаратарка Ірына Жарнасек — каталіцкія часопісы, «Бацькаўшчына» пераправіла серыю кніжак са свайго выдавецтва. Дамовіліся, што перадам у школу падчас месячніка беларускай культуры, ладжанага мясцовай суполкай ТБМ. Падрыхтаваў каля сотні тамоў хрысьціянскай і беларускай літаратуры са сваіх або падараваных кніг і для Людмілы Пятроўны. Адзінае, трэба будзе яе папярэдзіць, каб не выдавала дахаты.

Якую ролю выконваюць цяпер вясковыя бібліятэкі ў Беларусі? Бясплатнага складу туалетнай паперы? Мясцовага інфармацыйнага цэнтра артадаксальнага марксізму і ваяўнічага атэізму? Установы, якая дапамагае жыхарам забіваць час?..

Занядбаньнем Бібліятэкі, непавагай да кнігі і ўвогуле сваёй хлусьнёй дзяржава культывуе недавер і нават грэблівасьць да друкаванага слова. Людзі ня вераць кнігам (аказваецца, Ленін — такая ж фантастыка, як і Гары Потэр), ня вераць газетам, ня вераць указам

ды дырэктывам. А непавага да напісанага чорным па белым, у сваю чаргу, разбурае падмуркі самой дзяржавы. Культуру. Адукацыю. Закон. Тое, што нашчадкі Скарыны на ягонай радзіме падціраюцца друкамі, насамрэч сьведчыць пра руйнаваньне 500-гадовай цывілізацыі.

Дзе-небудзь у Пакістане ці Інданезіі знаходка вырваных старонак з Карана адразу выклікае шматтысячныя маніфестацыі пратэсту. А ў Малым Сітне на нашае з майстрыцай пытаньне: хто скарыстаў прынесеную евангелісткамі кніжку з цытатамі зь Бібліі?! — работнікі абыякава цепаюць плячыма: тае бяды…

Адной з надзённых задачаў новай улады ў Беларусі будзе паўсюдная адбудова, упарадкаваньне і мадэрнізацыя бібліятэк і напаўненьне іх хрысьціянскай, патрыятычнай, беларускамоўнай літаратурай.

Новай Беларусі давядзецца пачынаць з таго ж, з чаго паўтысячы гадоў таму пачынаў палачанін Скарына. З Кнігі кніг. Зь бібліятэк Бібліі.

Бо на пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам, як напісана ў Евангельлі паводле Яна 1:1.

Бібліятэка любое еўрапейскае нацыі вам пацьвердзіць, што менавіта з гэтага Слова пачынаецца нацыянальнае абуджэньне.

## ЗНАЙСЬЦІ МУЖЫКА

У Малым Сітне асабліва ясна разумееш, чаму Лукашэнка просіць падтрымкі ў жэншчын. Справа ня ў тым, што жанчыны складаюць большасьць насельніцтва Беларусі. І нават ня ў тым, што ў асноўным яны галасуюць за таго, паводле вызначэньня папулярнай савецкай песенькі, сапраўднага мужчыну, які гуляе ў

хакей. Рэч у тым, што ўласна мужчыны ў нас у краіне — ужо даўно вялізны дэфіцыт.

Здавалася б, дзе яшчэ шукаць у Беларусі «мужоў моцных», як не на радзіме Ўсяслава Чарадзея, Андрэя Полацкага і Францыска Скарыны, у вёсцы, лясным ды азёрным краі паляўнічых, рыбаловаў і змагароў за волю? Калі ўжо ня рыцараў ці джэнтльменаў — дык хаця б проста нармалёвых мужыкоў?

Але на сіценскіх мужыкоў глядзець шкада. Што і казаць, калі нават у поўных сем'ях тут жонка піша заяву на аліменты, каб спагнаць з мужавага заробку з дапамогай участковага прынамсі нейкую суму?.. Калі ісьці на выбары супраць старшыні сельсавета ў Сітне (дарэчы, таксама жанчыны) пагадзіліся адны жанчыны? Калі з п'янкамі, злоўжываньнямі і крадзяжом лесу ў прамгасе змагаецца хіба што выпускніца вучэльні майстрыца Вікторыя Віктараўна (мужчыны з такой працы проста зьбягаюць)? Калі нават у ТБМ ды МФ тут запісваюцца дзяўчаты, а хлопцы сарамліва аднекваюцца: «Я ў палітыку ня лезу»?

Пэўна, толькі гены Еўфрасіньні ды Зінаіды Тусналобавай-Марчанкі, што ў апошнюю вайну вынесла з поля бою сотні параненых, а сама засталася бяз рук і ног, ратуюць Полаччыну… Ды ці яе адну? «Грубая мужчынская праўда» заключаецца ў тым, што жанчыны вымушаныя працаваць на эстакадзе, узворваць палеткі, калоць дровы, браць на сябе ўсю адказнасьць за сям'ю і лёс цэлых вёсак. І, як той казаў, ані табе сьлёз, ані сантыментаў.

Узгадваю размову з адным балгарынам, які прыязджаў сюды дзеля абмену досьведам у справе «аксамітных рэвалюцыяў» — у свой час ён быў актыўным удзельнікам вулічных выступаў, што зрынулі спачатку камуністаў, а затым і іхніх спадкаемцаў — сацыялістаў. «Праглядаў запісы ўсіх вашых апошніх

дэманстрацыяў, — казаў мне ён, — і нічога не разумею. Чаму ў вас наперадзе заўсёды ідуць дзеці? У нас студэнтаў, а тым больш школьнікаў запіхвалі паглыбей у калону — тут жа справа сур’ёзная. Тое самае ў грузінаў, азербайджанцаў, сербаў… Увогуле, дзе вашыя мужыкі?»

І праўда: увогуле, дзе нашыя мужыкі?

Мужчынскія ўчынкі ў сёньняшняй Беларусі — зьява настолькі рэдкая, што кідаецца ў вочы. Вось Аляксандр Казулін галадуе больш за месяц. Вось Аляксандр Мілінкевіч, запісаны ў ініцыятыўныя групы больш як 200 апазіцыйных кандыдатаў, езьдзіць па ўсёй краіне і добрасумленна зьбірае подпісы. Вось Мірон уздымае чарговы бел-чырвона-белы сьцяг па-над Віцебскам. Маладафронтаўцы, у якіх перасаджалі ўсіх лідараў, пад пагрозай 193-га артыкула Крымінальнага кодэкса працягваюць акцыі пратэсту і выходзяць на плошчу.

Беларусь — краіна хрысьціянская, і таму патрыярхальная. Мужчына — кармілец і абаронца, апірышча сям’і і лідар грамадства. Калі цяперашнія мужыкі не адчуваюць роднае зямлі пад нагамі і Госпада Бога па-над сабой, сьпіваюцца, губляюць волю і гонар, ператвараюцца ў мэблю ва ўласнай хаце — гэта разбурае і сям’ю, і працу, і нацыю.

Беларусі наканавана трымацца на моцных мужчынах. Бо «жонцы галава муж» і «кожнаму мужу галава — Хрыстос» (Да Карынфянаў 11:3).

На жанчынах Беларусі ня выцягнуць. Горы работы і нетры занядбанага багацьця, вяршыні творчасьці і даляглядзы духу, вуліцы і начныя дахі чакаюць сапраўдных беларускіх мужчынаў.

Мужыкі! Досыць сьпявацца, лайдачыць і хавацца па кухнях. Пад’ём!

Гэта нашая рызыкоўная, руплівая, цяжкая мужчынская справа — нацыянальнае абуджэньне.

## ІНТЭРНАТ

Здалёк сіценскі інтэрнат нагадвае вялікую вясковую хату: доўгі драўляны барак з двума ўваходамі, па дзесяць вокнаў з кожнага боку. Збудаваны ў 1961-м, у год палёту Гагарына і хрушчоўскай грашовай рэформы, сьпярша ён прызначаўся для прыезджых работнікаў леспрамгаса; пазьней, за Машэравым, сюды пачалі засяляць «хімікаў». Першы за 45 гадоў рамонт зрабілі толькі летась — надалі цывільны выгляд некалькім «хімічным» пакоям акурат перад маім прыездам — а начальства з аб’яднаньня, напалоханае чуткамі пра візіт нейкага важнага зэка зь Менска, завезла сюды раскошныя ложкі з уласнай мэблевай фабрыкі.

У нашай частцы інтэрната чатыры пакоі. У адным жывуць майстрыца з мужам, у іншых двох — «хімікі», і адзін пакой зарэзерваваны за міліцыянтамі, якія падчас падзеяў у Менску наладжваюць тут «ганаровую варту». Увогуле, міліцыянты — участковы, супрацоўнікі полацкага райаддзела або ветрынскае сьпецкамендатуры — завітваюць у інтэрнат рэгулярна. Прычынаю таму, апроч менскіх, віцебскіх і замежных гасьцей, нефармальны статус інтэрната як тутэйшае «маліны». Вясковыя алкаголікі, беглыя «хімікі» і асобы бяз вызначанага месца жыхарства штовечар цягнуцца сюды, бо тут можна каўтнуць «максімкі» пад блатны шансон, радзей — закусіць і нават, калі пашэнціць, пераначаваць на адным ложку зь якой-небудзь сіценскай прынцэсай.

Паколькі санвузел у інтэрнаце не прадугледжаны, шматлікія «госьці» нападпітку, як іх ні выхоўвай, спраўляюць малую патрэбу проста з ганка або пад вокнамі (добра, што па вялікай хаця б адыходзяць за плот).

Узгадваю інтэрнаты, дзе даводзілася жыць раней. Рабочы ў Барані, пад Воршай, дзе бацькі з трыма дзецьмі туліліся ў адным пакойчыку. «Алімпіядныя» ў Наваполацку і Менску, дзе школьная эліта — выдатнікі! — дапаўшы да волі, жлукціла гарэлку і зацягвала пад гітару мацерныя песенькі. Студэнцкі на прасьпекце Машэрава (калі ў ім у 70-х гадох мінулага стагодзьдзя жылі бацькі, гэта была яшчэ Паркавая; цяпер, калі жывуць нашыя наступнікі, — Пераможцаў), дзе «афганцы» ўвесь час біліся зь «юрыстамі», а потым прыязджалі «географы» і ўкладвалі на падлогу ўсіх без разбору, улучна з камендантам; дзе курсанты Акадэміі міліцыі ўначы трэніраваліся выносіць дзьверы, і калі ў пакоі аказваліся хлопцы — яны мусілі за свае грошы бегчы па гарэлку ў бліжэйшы «начнік», а калі дзяўчаты — піць ды гуляць да раніцы з будучымі ахоўнікамі правапарадку.

Узгадваю і думаю, што па-іншаму, пэўна, у інтэрнаце і не бывае. Не свая ж хата, у рэшце рэшт.

Каля паўмільёна насельнікаў Беларусі дагэтуль жыве ў інтэрнатах. А калі дадаць яшчэ і тых, хто здымае пакоі або кватэры… Тых, хто займае дзяржаўныя «квадратныя метры»… Дзясяткі тысячаў беларусаў усё сваё жыцьцё ад народзінаў да сьмерці пражываюць вось так, паміж агульнай кухняй і пропускам на вахце. Адсутнасьць уласнага дому — прычына многіх дзівосаў псіхалогіі. Тыповыя насельнікі інтэрната і да жыцьця ставяцца як да чарговага жытла, у якім пасьля іх застанецца хіба што пыл за спружынным ложкам ды пара пустых бутэлек.

Дый сама цяперашняя Беларусь пасярод Еўропы штогод усё больш нагадвае сіценскі інтэрнат: вакол свойскія хаты, сады ды гароды, а тут — камуналка, камендант замест гаспадара, праблемы, скандалы,

міліцыя, і наведнікі — то які-небудзь мясцовы Іран, то тутэйшая Венесуэла.

Апошні барак сацлагера, кажучы моваю застою.

Ва ўсёй Еўропе ўласны дом — прадмет асаблівага гонару; у сучаснай жа Беларусі — найперш прадмет падазрэньняў (пачынаючы ад катэджаў за акружной дарогай і да дома Домаша). «Жыльлёвае пытаньне» ў нас працягвае па-савецку разбураць, а не будаваць людзей.

Вось жыхарам беларускага інтэрната Брусель прапануе еўрарамонт. Гатовы зрабіць з барака гатэль. Адно некалькі ўмоваў: прыбірацца ў хаце, не буяніць, перастаць хадзіць па патрэбе пад вокны — словам, паводзіць сябе, у еўрапейскім разуменьні, як дома. Ды для завадатараў сіценскага інтэрнацкага «парадку» і для цяперашняга рэжыму значна цікавейшае пытаньне — а ці будзе ў гэты гатэль, так сказаць, у належных аб'ёмах дастаўляцца з Расеі гаручае?..

І ўсё ж беларусы, якія ўжо даўно абжылі інтэрнат, ня хочуць заставацца жыць у інтэрнаце.

Беларусі патрэбен Дом.

А падмурак для ўтульнага Дома на дзесяць мільёнаў чалавек у цэнтры Еўропы — гэта нацыянальнае абуджэньне.

## ДОМ ЛЯ ПАГОСТУ

Маласіценскі сельскі Савет стаіць на ўскрайку могілак. З вокнаў відаць хіба што зарослыя стагадовымі хвоямі ўзгор'і, дзе ляглі ў зямлю пакаленьні вяскоўцаў. Насупраць увахода — стандартны савецкі абеліск над брацкім пахаваньнем часоў Другое сусьветнай вайны. Раней там стаяла царква, разабраная на бліндажы ў 1943-м.

Цяпер жа вакол галоўнага на бліжэйшыя тысячу

квадратных кіламетраў дома — магільная ціша. Цагляныя сьцены з арнаментам па перыметры, музейнага выгляду чырвоныя шыльды, а наверсе, як, памятаю, жартаваў у пачатку 1980-х бацька, самотна матляецца загадка: «Зімой і летам адным цьветам (гэта сьцяг над сельсаветам)».

Адчуваньне пакінутасьці ўзмацняе і тое, што ў вокнах амаль ніколі няма сьвятла. Нехта зь сельскага выканкама забяжыць удзень, старшыня пасядзіць гадзінку-другую… Наведнікі заходзяць вельмі рэдка — няма сэнсу. Паказальны фурор, які зрабіла нядаўняя поўная, ва ўсе восем вокнаў, вечаровая ілюмінацыя сельсавета. Рэакцыя сіценцаў была такой, быццам у цэнтры вёскі раптам адкрыўся «Дыснэйлэнд». «Што за сьвята?!» — «Ды выбары ж хутка, сядзяць, нешта хімічаць» — «А-а-а… выбары…»

У гэтым месцы гутарка звычайна абрываецца, і вяскоўцы губляюць усякую ахвоту яе працягваць. А ці можа быць інакш, калі кандыдатаў у той сельсавет тут ніколі не вылучалі, альтэрнатыўнага галасаваньня ніколі не было? А на апошніх «выбарах» дзясяткі сіценцаў, што пазначылі ў бюлетэнях Мілінкевіча, хадзілі і перапытвалі: а дзе нашыя галасы? Калі ад любое патрэбы вяскоўцаў сельсавет адхрышчваецца — «няма грошай»? Калі першым і адзіным абаронцам сельсавета ў вёсцы аказалася старшыня гэтага самага сельсавета?..

«Ага, купілі ў Савет машыну. Дык толькі старшыня на ёй па сваіх справах езьдзіць». «А колькі ў іх, сельсавецкага начальства, дома камп’ютараў ды бытавой тэхнікі, бачыў?!» «“Максімкі” або брагі — на кожным рагу, сьпіваецца вёска!» «Ліхтароў па вёсцы няма, памыйкі паўсюль, ніхто не штрафуе!» «Агульныя студні нячышчаныя стаяць, а грошы на гэта зьбіралі!»

Вяскоўцы ня ведаюць, што, паводле Закона аб мясцовым самакіраваньні, сельсавет:

— распараджаецца землямі, нетрамі, водамі, лясамі, паляўнічымі і рыбалоўнымі ўгодзьдзямі, а таксама камунальнай уласнасьцю адпаведнай адміністрацыйнай адзінкі;

— атрымлівае ўвесь падаходны падатак, які сплачваюць на ягонай тэрыторыі фізічныя асобы;

— уводзіць мясцовыя падаткі, зборы і мыты, зьбірае штрафы;

— стварае пазабюджэтныя, рэзервовыя і валютныя фонды;

— разьмяркоўвае паводле ўласнага разуменьня рэшту, якая застаецца пасьля выкананьня бюджэту…

Вядома, у большасьці выпадкаў на ажыцьцяўленьне ўсіх гэтых паўнамоцтваў сельсавет мусіць атрымаць «дабро» з раёна. Але нават і пры гэтай вертыкальна-каманднай сістэме здольны гаспадар, як павялося з савецкіх часоў, «выбівае» з райвыканкама ўсё, што трэба.

Аднаго падаходнага падатку з рабочых леспрамгаса штомесяц атрымліваецца 2–2,55 тысячы даляраў! А яшчэ ж на тэрыторыі сельсавета некалькі лясьніцтваў. Чыгунка. Крамы. Пошта…

І дзе грошы, як той казаў?!

Сярод двух дзясяткаў вяскоўцаў, апытаных перад кампаніяй «мясцовых выбараў», жаданьне адкрыта выступіць супраць «максімкі», разьбітых дарогаў, паўсюдных сьметнікаў і гідры карупцыі выказалі сямёра.

Загадчыца гаспадаркі вясковага дзіцячага садка адмовілася пасьля гутаркі са сваячкай, у якой у 30-х гадох XX стагодзьдзя рэпрэсавалі бацьку. Фермер з бліжэйшага хутара думаў тры тыдні, урэшце спаслаўся на ўзрост і сказаў «пас». Былы «афганец», калі дай-

шло да афармленьня дакументаў, ня змог знайсьці ўласнага пашпарта.

Але тыя, хто дайшоў да рэгістрацыі, паводзінамі сельсавета былі шакаваныя. Кандыдатаў ад народа ў выбарчай камісіі сустрэлі… ухвальнымі вітаньнямі і гарачай гарбатай. «Вось-вось, менавіта вас мы і хацелі прапанаваць!»

Сельсавет у апошні момант зьняў сваіх вылучэнцаў у Малым Сітне і Алешчы па тых акругах, дзе зьбіраліся ісьці народныя ад леспрамгаса, чыгуначнай станцыі і сіценскай школы, — і пачаў актыўна «акуччаць» апошніх. Савецкая ўлада ўхілілася ад адкрытага супрацьстаяньня і зрабіла стаўку на перацягваньне апазіцыі.

Дзе ж рэвалюцыйны запал нашчадкаў бальшавікоў? Дзе спаборніцтва, прадугледжанае сістэмай волевыяўленьня? Дзе тая падаўляючая сіла наменклатуры, калі кавалак улады аддаецца бяз бою «чужым», якія толькі праявілі жаданьне?

Шкада толькі — тых ахвотнікаў аказалася замала, каб узяць у сельсавеце большасьць.

Праўда, старшыню дэпутаты ў нас выбіраюць толькі па прадстаўленьні райвыканкама і ў выпадку, калі не прагаласуюць, сельсавет распускаецца — але паводзіны нізавое наменклатуры ох якія паказальныя.

Савецкая ўлада ў вёсцы адмірае, гэта факт. Для Галіны Дзьмітрыеўны пытаньне ўжо ня ў тым, каб трымаць пад кантролем наваколле, а ў тым, як дасядзець да пенсіі.

Дом ля пагосту нагадвае сядзібу з прывідамі. Улада быццам бы ёсьць, а быццам і няма, і старшыня сельсавета дама ў чорным — персанаж амаль легендарны: у хатах яе бачаць раз на некалькі гадоў, калі перад чарговымі «выбарамі» надыходзіць час зьбіраць у бабулек подпісы за Лукашэнку.

Дом ля пагосту паціху асядае і растрэскваецца. Так і ўяўляецца праз тыя чатыры гады каробка з пустымі вокнамі на ўзор «вымяральніцкага» інтэрната, а потым і руіны, што паволі пераходзяць у могілкі.

Беларусі не патрэбны мёртвы сельсавет з прывіднай уладай і сцэнамі маўчаньня ў чаканьні рэвізора з вобласьці. Савецкая ўлада зрабілася рытуальнай. Беларусь памірае без жывога мясцовага самакіраваньня — са сходамі й дэбатамі, тэндарамі й сапраўднымі выбарамі.

Беларусі патрэбная не стабільная магільная ціша, а нацыянальнае абуджэньне.

## САБАЧАЕ ШЧАСЬЦЕ

Вось ужо некалькі тыдняў наведнікаў сіценскага інтэрната сустракае шматгалосы віск ды скавытаньне з-пад ганка. Якраз на сьвяты ў дашчанай скрынцы з прыступкамі ашчанілася дварняжка Мільда.

Нягледзячы на бадзяжны выгляд, рост 30 сантыметраў і вагу кіляў пяць, Мільда — псіна баявая. Службовая. Рабочы Сяргей, які вартуе на лесапавале тралёвачныя трактары, бензін ды вагончык зь лесьніковым снадзівам, заўжды бярэ Мільду з сабою. Доўгімі зімовымі вечарамі, калі гаспадар глушыць «максімку» або адсыпаецца, задача Мільды — гаўкаць пры набліжэньні чужых ці начальства, а раніцай — будзіць Сяргея да прыезду вахтоўкі. На Каляды, убачыўшы ў сваёй карацупы добрае бруха, вартаўнік кінуў яе ў вёсцы.

У маразы Мільдавы шчанюкі наўрад ці б выжылі, але дзякуючы еўрапейскай зіме бадзёра пішчаць. Цяпер Мільду, якую раней пінком адганялі ад форткі, ласкава кормяць і «хімікі», і майстрыца, і вясковыя рабочыя. Цешацца ўсе — трэба меркаваць, да тае пары,

пакуль з-пад ганка ня вылезуць чатыры ці пяць новых дварняжак.

Увогуле, сабакаў у Сітне больш, чым кароваў ды сьвіньняў, разам узятых. Апроч свойскіх, пераважна аўчарак, па вёсцы гойсаюць колькі дзясяткаў дзікіх — калматых, пярэстых, вялікіх ды маленькіх, невядома якое пароды. Шыльды «Асьцярожна: злы сабака!» тут ня маюць сэнсу: злы сабака ў двары — гэта само сабою (хаця вартаваць у большасьці хатаў няма чаго). Ані ў бацькавай Унорыцы на Дняпры, ані ў матчыным Лунінцы столькі сабакаў ня бачыў.

Увечары дзікія сабакі Сітна ператвараюцца ў сапраўдных валадароў вёскі. Некаторыя гаспадары спускаюць сваіх азьвярэлых братоў меншых з ланцугоў — і ў выніку ў сельсавет штотыдня трызвоняць напалоханыя або пакусаныя жыхары.

Абмяжоўваюць колькасьць сіценскае зграі хіба начныя ваўчыныя рэйды ў моцныя маразы — бывае, рэжуць нават аўчарак на падворках.

Харчуецца ўся папуляцыя на вясковых сьметніках, ад чаго памыйныя кучы набываюць надзвычай маляўнічы выгляд. Найвялікшае ў вёсцы сабачае шчасьце разьмяшчаецца якраз за нашым інтэрнатам — апроч «хімікаў» ды рабочых, у яму ў 50 метрах ад барака зносяць адкіды жыхары суседніх дамоў. У выніку, як ты ні закопвай пакункі са сьмецьцем, за ноч сабакі растрыбушаць усё да апошняга шматка. Уяўленьне такое, быццам тут выбухнула бомба, начыненая памыямі, пакінула глыбокую варонку, а ўдарная хваля разьнесла бляшанкі, цэлафан, паперкі ды невядомую клятчатку.

Часам здаецца, што сабакам у Сітне жывецца лепш, чым людзям. Калі чуеш, як п’яныя вяскоўцы брэшуць на сваіх дзяцей, бачыш, зь якой сабачай прагай малыя зь «ненадзейных» сем’яў кідаюцца на тую

пячэніну ці цукерчыну або як школьнікі сігаюць за плот ад вялізнага барбоса, спушчанага з ланцуга, — думаеш, што сабакам тут якраз пашанцавала.

Задаволена павіскваюць Мільдавы шчанюкі, аб'ект усеагульнае ўвагі ды клопату. Мітусяцца вакол людзі. Глядзіш на такую рэдкую ў гэтых краёх чалавечую ласку, пяшчоту, ціхую радасьць — і згадваеш, што вось гэты вясковец, які, пацмокваючы, падкладае Мільдзе костку, нядаўна выгнаў на вуліцу сужыцельку зь дзіцём; кабеціна, у якой аж вочы сьвецяцца каля тых шчанюкоў, пазбаўленая бацькоўскіх правоў за хранічны алкагалізм; а мужык, што пачухвае дварняжку за вухам, адбывае «хімію» за нявыплату аліментаў.

І ўсё-такі: гэта любоў.

…На Раство да мяне прыязджалі пратэстанты-прадпрымальнікі зь Менска. Пачаставалі на вуліцы параю мандарынаў тых дзетак, убачылі, як зьбегліся астатнія, ды, пакінуўшы 50 тысячаў, папрасілі павіншаваць усіх малых у Малым Сітне. Мне кінулася ў вочы адно: і загадчыца сельпо, у якой закупаў цукеркі, печыва ды садавіну, і супрацоўніца дзіцячага садка, і настаўніца ў школе, якім адносіў ласункі з просьбай раздаць на Раство «ад евангельскіх хрысьціянаў», і бацькі на ёлцы — апускалі вочы.

Значыць, няёмка. Сорамна.

Значыць, ёсьць надзея, што ня вытаптаныя, ня згаслыя канчаткова агменьчыкі сумленьня і спагады ўрэшце разгарацца. Што беларусы адчуюць любоў Божую, любоў да блізкага свайго, да братоў — і большых, і меншых… Што адшукаюць яны шлях да Вялікага Чалавечага Шчасьця. Шлях, якім ёсьць нацыянальнае абуджэньне.

## ЗЛАЧЫНСТВА І ПАКАЯНЬНЕ

— Ну што, раскайваемся? — намесьнік начальніка сьпецкамендатуры выпрабоўна прымружыўся, узважыў на руцэ маю асабовую справу з аркушыкам атэстацыі на ўмоўна-датэрміновае вызваленьне і агледзеў прысутных чальцоў камісіі. — Прызнаём віну, становімся на шлях выпраўленьня — і на свабоду, так сказаць, з чыстым сумленьнем…

Прагучала двухсэнсоўна — нібыта самі міліцыянты сабраліся перад судом ды вырашаюць прызнавацца ў парушэньнях закону.

Давялося нагадаць «жандару», што менавіта пытаньне аб пакаяньні будзе першым, якое незалежны суд у дэмакратычнай Беларусі задасьць усім супрацоўнікам «органаў», што ўдзельнічалі ў палітычных рэпрэсіях у перыяд дыктатуры.

І з маральнага, і зь юрыдычнага гледзішча пакаяньне — кульмінацыйны момант у драме злачынства і пакараньня. Мяжа. Маладафронтаўцам, якіх нядаўна арыштаваў КДБ, гэтаксама прапаноўвалі напісаць пакаянныя лісты. Зь іншага боку, з пакаяньня, ужо перад сябрамі, пачаў «агент “Вектар”», студэнт праграмы Каліноўскага.

Цяпер у Беларусі багата кажуць пра нацыянальнае яднаньне, супольную абарону незалежнасьці, супрацоўніцтва апазіцыі ды ўлады. Справа, як паказвае досьвед «Салідарнасьці», гістарычна апраўданая — і найлепш з усіх гэта сфармуляваў у сваім вядомым лісьце Аляксандр Мілінкевіч.

Так, разбойнік сапраўды можа раптам зрабіцца праведнікам, разбуральнік дзяржавы — яе будаўніком, а былы фарысей — апосталам. Уся Біблія і гісторыя хрысьціянства сьведчаць не адно пра магчымасьць, але і пра пэўную заканамернасьць падобных

пературэньняў. Урэшце, кожны грэшнік, прымаючы Ісуса Хрыста, атрымлівае ачышчэньне ад граху… і права на Валадарства Нябеснае. Ёсьць толькі адна ўмова — Пакаяньне. Шчырае, ад сэрца. І — дзея, што пацьвярджае такую шчырасьць: «Прынясеце ж годны плод пакаяньня!» (Мацьвея 3:8). У іншым выпадку гэта гульня або ваенная хітрасьць, якая рана ці позна вядзе да краху.

Заўважце, у розных інтэрв'ю для еўрапейцаў нейкае падабенства прызнаньня віны (маўляў, наша памылка — ляцелі на адным крыле) гучыць. Хаця бясконцыя скандалы, прапагандысцкі бруд і Дразды вымагалі б яўна чагосьці грунтоўнейшага. А вось пакаяньня перад уласным народам — нават не канкрэтнага спавяданьня ў злачынствах (таптаньне закону, фальсіфікацыі, зьнікненьні, рэпрэсіі, русіфікацыя, прыніжэньне беларускай мовы і культуры, апраўданьне бальшавізму і г. д.), а хоць бы агульнага — «Даруйце, людзі!» — Беларусь дагэтуль так і не дачакалася.

«Адліга», паварот, еўрапеізацыя? Ані.

Няма пакаяньня? Ня веру.

А калі не зьбіраецца каяцца ўлада — перад Богам мусіць прасіць прабачэньня за грахі ўся нацыя. Беларусь без пакаяньня за злачынствы рэжыму асуджаная на паўтарэньне рабства ды хамства, хіба што ў розных формах. Самому беларускаму грамадству ёсьць у чым каяцца за апошнія 13 гадоў. Маўклівая згода зь беззаконьнем. Патураньне злу. Лянота. Абыякавасьць. Адчай. Збаўленьне ад раку дыктатуры нават не ў судох ды люстрацыях, а менавіта ў духоўным пературэньні народа: «Бо смутак дзеля Бога прыносіць нязьменнае пакаяньне на збавеньне, а смутак зямны чыніць сьмерць» (ІІ да Карынфянаў 7:10).

Узор усенароднага пакаяньня — другая палова 1940-х гадоў у Нямеччыне. «Ніколі больш!» — адна-

душна вырашылі немцы пасьля жудасьцяў нацызму. Касьцёлы і кірхі былі перапоўненыя. Адраджэньне разгромленае краіны, феномен магутнае нямецкае хрысьціянскае дэмакратыі ды нават ідэя аб’яднаньня Еўропы — адтуль.

Нацыянальнае пакаяньне ў свой час перажывалі ангельцы ды італьянцы, палякі ды японцы. Хвалі пакаяньня (такога, як пасьля Вялікай дэпрэсіі або в’етнамскай вайны) ад часу да часу пракочваюцца па ЗША — што перадвызначае духоўныя, а далей і палітычныя, эканамічныя і культурныя ўздымы Амерыкі. Уся гісторыя народа ізраільскага, апісаная ў Старым Запавеце, — гэта чаргаваньне духоўных заняпадаў, народнага пакаяньня — і наступнага росквіту.

Але калі пачынаеш размаўляць зь беларусамі Сітна пра пакаяньне, сутыкаесься з насьцярожаным і зьнерваваным неразуменьнем: «Каяцца?.. Нам?! А за што?..» Бязбожжа, эпідэмія «максімкі», недагледжаныя дзеці, развал гаспадаркі?.. Разводзяць рукамі: «Жысьць такая».

Не зьмяніўшы людзей, мы ня зьменім Беларусі. Сэнс пераменаў — не ў перабудове сістэмы ўлады ці развароце замежна-палітычнай арыентацыі, а ў перамене людскіх сэрцаў. У веры, любові, маральнасьці і адказнасьці, якія выплаўляюцца ў сьлязох пакаяньня.

Нацыянальнае пакаяньне — брама нацыянальнага абуджэньня.

## ЦЭНТР ЦЯЖАРУ

У любога паселішча ёсьць сэрца. Сэнсавы цэнтар. Месца, якое найбольш ясна выяўляе повязь гісторыі й сучанасьці і сьведчыць пра дух, што пануе сярод жыхароў.

У сэрцы Малога Сітна разьмяшчаюцца могілкі.

Не, на мапе ўсё прыгожа: геаграфічны план Сітна нагадвае сонца. Абапал кола, утворанага трыма галоўнымі вуліцамі, тоўпяцца сельсавет, крама, пошта, леспрамгасаўскі гараж, фельчарска-акушэрскі пункт ды абеліск з чырвонай зоркай (на тым месцы, дзе калісьці стаяла царква), а на прамянях-дарогах, што разыходзяцца ў розныя бакі, — рагі хатаў ды леспрамгасаўскія спаруды. Але ў самім сонечным коле — вялікі пагост. Так ці інакш усе вясковыя шляхі ды сьцежкі скрыжоўваюцца на могілках. Сьвяты масава адзначаюцца тут сама, за адмысловымі сталамі. Ды й галоўная вясковая будоўля цяпер тут: штогод да некропаля дадаюцца цэлыя кварталы пахаваньняў. І штаб мясцовае ўлады, і ўстанова аховы здароўя, і агмяні спажывецкае цывілізацыі, і індустрыйны комплекс асуджана пазіраюць, як пашыраецца сіценскі цэнтр.

Тым часам на саміх могілках ідзе стоенае змаганьне сімвалаў і сэнсаў: саўковага кшталту помнікі канкуруюць з усё больш пашыранымі крыжамі, а тут сама, наўзбоч (бо цэнтр жа!) раскладваюць тавар аўталаўнікі ды заезджыя гандляры.

У маленькім сэрцы Малога Сітна адбываецца ўсё тая ж нябачная бітва, што і ў сэрцах вялікіх беларускіх гарадоў.

За савецкім часам у цэнтрах местаў ды мястэчак панавала пустэча. Храмы, ратушы ды іншую ідэалагічна варожую архітэктуру руйнавалі, і чыгунны Ільліч пільна сачыў, каб утвораную сакральную пустку люд запаўняў толькі на афіцыйныя камуністычныя сьвяты — 1 траўня ды 7 лістапада. Калі ў еўрапейскіх гарадох цэнтр спрадвеку згруджаны, запоўнены, зьмястоўна моцны — у БССР было заведзена ганарыцца адсутнасьцю аўтамабільных затораў, найвялікшымі ў сьвеце плошчамі ды забаронай паспалітаму

люду на гэтых плошчах зьбірацца. Да цяпер пустое савецкае сэрца да апошняе кроплі крыві бароніцца ад наступу офісаў, крамаў, кавярняў ды паркінгаў — і супраціўляецца аднаўленьню храмаў.

Так заўжды было ў пераходныя эпохі: гарадскі цэнтр ператвараецца ў цэнтр цяжару прыняцьця гістарычнага рашэньня.

І вось па ўсёй краіне распачынаецца сапраўдная вайна за дамінаваньне ў цэнтры. Ідзецца нават ня столькі пра цану квадратнага метра дарагое зямлі або прэстыж — гаворка пра тое, што надалей стане восьсю беларускага жыцьця.

У Віцебску на месцы царквы Параскевы Пятніцы, разбуранай бальшавікамі, плануюць будаваць забаўляльны комплекс. У Горадні пракладаюць каналізацыю праз падмуркі сярэднявечных храмаў і руйнуюць унікальныя будынкі дзеля будаўніцтва даходных муляжоў. У Берасьці зачыняюць «Стары Горад», што дамагаўся аднаўленьня гістарычнага места.

Але найбольш вострае сутыкненьне адбываецца цяпер у сэрцы Менска, у самай сярэдзіне Верхняга горада. Былы манастыр бернардзінцаў, адабраны ў Касьцёла пасьля паўстаньня Каліноўскага і за саветамі ператвораны ў архіў, цяпер зьбіраюцца перабудоўваць у гатэль. Вось ужо трэці год вернікі менскіх касьцёлаў ды грэка-каталіцкіх парафіяў штовечар а 19-й моляцца за вяртаньне сьвятыні. Менавіта гэтак — малітваю, постам і грамадскімі акцыямі — яшчэ ў камуністычнай Беларусі сьвятары ды вернікі дамагаліся вызваленьня Чырвонага касьцёла і катэдры. Але цяпер на месца ў менскім сэрцы прэтэндуюць не адно саўковы пыл ды шэрасьць, але яшчэ і элегантны грашавіты гламур — пяцізоркавы гатэль з казіно і саўнай. Скварка ў чакалядзе.

Супольная малітва, стаяньне ля сьценаў ды збор

подпісаў за вяртаньне касьцёла Сьв. Язэпа — справа ўсіх беларускіх патрыётаў ды вернікаў усіх канфесіяў. Ацаленьне беларускага сэрца сёньня адбываецца менавіта тут.

Бо насамрэч змаганьне за сьвятыню ў цэнтры Менска — гэта змаганьне за сэрца кожнага беларуса. Вызначэньне, што ж запануе ў храме нашае душы.

Выгнаньне гандляроў з храма — 2000 гадоў таму з гэтага ўжо пачыналася адно нацыянальнае абуджэньне.

## БАЦЬКІ, ДЗЕЦІ І СУДЗЬДЗІ

«Усе мы ведаем, што сістэма дрэнная, — усьміхаецца майстар, — але ж паспрабуй сказаць штонебудзь, калі кантракт на год, у цябе дзіцё, а іншай працы няма». — «Мы таксама супраць, але калі начальства прыязджае — маўчым, — падтаквае жонка чыгуначніка, — а я што, у мяне сын у Менск паступае». — «У іх улада, міліцыя, войска, суды, — завяршае сусед-«хімік», — вось і паспрабуй рыпніся».

«Каб хто-небудзь абараніў нас ды нашых дзяцей, — гучыць у падтэксьце, — пайшлі б за вамі».

Днямі мая маці атрымала пастанову аб звальненьні. Настаўніца найвышэйшае катэгорыі з 36-гадовым стажам, працавала і ў вёсках роднага Лунінецкага раёна, і ў Пагосьце ды Барані пад Воршай, і ў Віцебску; два гады да пенсіі — і вось, загад райана. Зуб на яе тачылі даўно: увесь час прынцыпова выступала на сходах, абараняла маладафронтаўцаў, якіх хацелі выдаліць са школы, займалася стварэньнем Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі ў Віцебску, удзельнічала ў выбарах ды назіраньні (дарэчы, у 2004 годзе з усёй ініцыятыўнай групы сабрала за мяне найбольш подпісаў — 600)… То бел-чырвона-белы сьцяг, скіну-

ты з асьвятляльнае вежы амфітэатра міліцыянтамі, падбярэ, то нейкія падазроныя беларускія сьпектаклі паводле Караткевіча зь дзецьмі ладзіць, то шоу беларушчыны замест класнае гадзіны. На вясновых школьных вакацыях атрымала пісьмовы (!) дазвол на тыднёвую паездку ў Варшаву, дзе, апроч іншага, пахаваны мой прадзед, праваслаўны сьвятар; падрыхтавала дакументы, зрабіла замежны пашпарт… У апошні момант з райана патэлефанавалі і папярэдзілі: на Дзень Волі ніякіх паездак. Маці паехала.

Школьны прафкам, сабраны на тэлефанаваньне «згары», бурчэў: от, кіраўніцтва нашымі рукамі хоча такую настаўніцу выгнаць!.. Пабурчэлі, апусьцілі вочы — і прагаласавалі за звальненьне.

Здавалася б, чарговае пацьверджаньне ўсёмагутнасьці рэжыму.

Але назаўтра пасьля звальненьня з 27 бацькоў школьнікаў, што навучаюцца ў матчыным 5 «А», 24 падпісалі зварот у яе абарону. Самі школьнікі склалі ліст дырэктару. Віцебскія калегі-дэмакраты і праваабаронцы распачалі кампанію салідарнасьці. Дыпламаты даслалі запыт у Міністэрства адукацыі. Даведаўшыся праз інтэрнэт, ліст у падтрымку маці напісаў нават адзін зь яе колішніх вучняў, што зьехаў у Ізраіль. Знаёмыя вернікі пачалі метадычна абтэлефаноўваць школьнае начальства. І вось ужо ўся настаўніцкая чытае выразкі зь незалежнае прэсы ды раздрукоўкі зь сеціва і перашэптваецца: ага, найшла каса на камень!

У 16-гадовай школьніцы Насты Палажанкі, абвінавачанай у справе «Маладога фронту», звальняюць з працы бацьку, які адзін гадуе дзьвюх дачок. Крысьціну Шацікаву ды Ўладзімера Шылу пагражаюць пазбавіць бацькоўскіх правоў…

Дзякуй Богу, мы з бацькамі адзін аднаго падтрым-

ліваем. Але ведаю, што многім маладафронтаўцам даводзіцца змагацца і з матчыным адчаем, і з бацькавай злосьцю. І калі на вуліцы Менска выходзяць тысячы юнакоў і дзяўчат, не дае спакою пытаньне: а дзе ж іхнія бацькі? Гэта ж так проста: быць побач са сваімі дзецьмі!

Наймацнейшая салідарнасьць — гэта калі бацькі за дзяцей, а дзеці за бацькоў. У час, калі Лукашэнка рыхтуе дзеля ўмацаваньня ўлады сваіх сыноў, а раённая наменклатура кварталамі скупае для нашчадкаў нерухомасьць у Менску, супрацьстаяць рэжыму здолеюць толькі дружныя беларускія сем'і. Пазьнякі й Вячоркі, Сіўчыкі й Хадыкі, Мілінкевічы ды Казуліны, Вольскія ды Арловы, Навумчыкі ды Шылы.

Рэжым гэта ведае, таму і б'е: дзяцей па бацьках, бацькоў па дзецях.

Прычым робіцца гэта ў афіцыйна абвешчаны Год дзіцяці.

А вось судзьдзя Таманаў, якому даручылі весьці працэс «Маладога фронту», адмовіўся судзіць дзяцей за тое, што яны хочуць свабоды, праўды і справядлівасьці: падаў заяву на доўгатэрміновы адпачынак у сувязі са станам здароўя. Незапэцканага ў палітычных рэпрэсіях Таманава хацелі ўключыць у рэжым — але судзьдзя, відаць, чытаў у школе «Маладую гвардыю». Як для судзьдзі ў сёньняшняй сітуацыі — сумленны выбар. Цікава, а што: у нас іншыя судзьдзі абсалютна здаровыя? А чыноўнікі? А генералы?..

Бацькі віцебскіх школьнікаў і судзьдзя Таманаў — не апазіцыянеры. Яны проста беларусы. І калі супрацiўляцца рэжыму пачынае не адно апазіцыя, а паспаліты беларускі люд — рэжым асуджаны на паразу.

Падтрымаць сваё дзіця, бацьку ці маці; падпісаць зварот; не падняць руку, калі галасуюць за «палітыч-

нае» звальненьне; прыйсьці на суд да маладафронтаўцаў або своечасова сысьці ў адпачынак па стане здароўя — гэта супраціў, на які здольны кожны. І паверце: у мільёнаў беларусаў ёсьць усе прычыны да такога супраціву далучыцца. Задача дэмакратаў — арганізаваць. Растлумачыць. Даць прыклад.

Калі за дзецьмі падымаюцца бацькі, калі супраць хлусьні і несправядлівасьці паўстаюць і старыя, і малыя; калі судзьдзі адмаўляюцца за гэта судзіць — значыць, ужо блізка нацыянальнае абуджэньне.

## СВАБОДА

Свабода, як і ўсякі Божы цуд, прыходзіць неспадзявана. Свабода дае напоўніцу ўдыхнуць слодыч паветра, якое дагэтуль проста ня мела паху. І тая ж свабода абавязкова пакідае па сабе гаркавы прысмак.

Пасьля амаль двух гадоў абмежаваньня волі ўсьведамленьне, што заўтра ў Менск, адчуваньне пашпарта ў кішэні і шквал тэлефанаваньняў на мабільны, які нарэшце працуе, — уражаньні галавакружныя. Але разумееш: на «вялікай зямлі» чакае ўсё тое ж абмежаваньне волі, хіба што павялічанае ў маштабах, усё тое ж прыніжэньне, усё той жа рэжым.

Атрымаць свабоду ў пару, калі квітнеюць яблыні, вішні ды бэз, вядома, файна. Ды бачыць, што большасьць суайчыньнікаў даўно прамяняла гэтае паветра свабоды, гэты эфірны водар на волю п’янак, кірмашоў ды бяздумнага забойства часу, — проста балюча.

Выходзіш у сьвет якраз напярэдадні суду над маладафронтаўцамі ды Кангрэсу, дзе трэба падтрымаць Мілінкевіча, — і адначасна разумееш, што гэта абмен на мільённыя прэферэнцыі.

Свабода — гэта і абдымкі новапалачанаў на ганку суда, і бел-чырвона-белыя гвазьдзікі ад хрысьціян-

скай пісьменьніцы Ірыны Жарнасек, і першае за два гады «вольнае» інтэрв'ю для Вінцэся Мудрова.

Адразу заходзіш у наваполацкую краму, каб адзначыць вызваленьне кубкам гарбаты. «Это что, водка по-польски?!.» Запаўненьне кнігі скаргаў, гістэрыка прадаўшчыцы і выкрык «фашыст!» у адказ на пажаданьне вучыць родную мову. Толькі ў чацьвёртым універсаме пасьля хвіліннае паўзы — «Чаю, что ли?..» Так, смак свабоды — гэта цяпер і смак тае самае гарбаты-з-чацьвёртае-спробы.

Згадваю, як у 1993-м, у 11-м класе, пасьля абласной алімпіяды па хіміі атрымаў у Полацкім унівэрсітэце ад рэктара запрашэньне «ганаровому хіміку» паступіць без іспытаў. Праз 14 гадоў — усё тая ж «хімія», і ў судзе ў трох кроках ад таго ж унівэрсітэта — выпісваньне «выпускнога дыплома» «за ўзорныя паводзіны».

Свабода — гэта і бліскучыя вочы нявыспаных маладафронтаўцаў, што а чацьвёртай ранку стракаюць на менскім вакзале. Свабода — поціскі моцных рук на Варвашэні/Машэрава, 8. Свабода — рух Мілінкевіча пасьля таго, як апазіцыйная бюракратыя абірае сваёй стратэгіяй «эвалюцыю», круглыя сталы ды дамовы з рэжымам.

«Свабода! Свабода!» — шчасьлівы роў моладзі перад будынкам Савецкага суда пасьля прысуду маладафронтаўцам: безь зьняволеньня! Але разам гэта і вялізныя штрафы, і новыя допыты, і чарговыя крымінальныя справы супраць лідара Салігорскага «Маладога фронту» Івана Шылы ды Баранавіцкага «МФ» Яраслава Грышчэні.

Як і спрадвеку, свабода застаецца і найвялікшым дабраславеньнем, і найбольшым цяжарам. Воля, харастыво, марнасьць марнасьцяў і тамленьне духу.

Дзякую Богу за гэтую свабоду. І за два гады ў Ма-

лым Сітне, і за маіх любых няшчасных вяскоўцаў, за 1500 лістоў ды паўтысячы наведнікаў, за клопат бацькоў і падтрымку аднадумцаў, за нашаніўскія публікацыі і тое кшталтаваньне, той гарт, якое Госпад заўсёды дае ў выпрабаваньнях.

«Павел, безь Перамогі сюды не вяртайся», — казалі мне на разьвітаньне сіценцы.

Цяпер я ведаю: «Малады фронт» і аб’езд беларускіх гарадоў ды мястэчак, адкуль да мяне ліставалі і прыязджалі, і Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя, і ўдзел у руху «За Свабоду!» — усё гэта цяпер дзеля таго, каб аднойчы вярнуцца ў Сітна зь перамогай.

Тысячу гадоў таму адсюль, з Полаччыны, пачалася Беларусь, еўрапейская і хрысьціянская. Мне гэты лес, гэты лёс быў дадзены, каб нарэшце адштурхнуцца ад дна і вярнуцца да сапраўднай, поўнай і найвышэйшай свабоды — нацыянальнага абуджэньня.

# САМ-НАСАМ З БОГАМ

Калі Бог хоча сур’ёзна пагаварыць з табою сам-насам, Ён ня будзе тлумачыць нешта мімаходзь, напаўвуха, займаць паўгадзінкі твайго часу на кухні ці ў офісе, дзе ты думаеш адкупіцца мітусьлівай і наморшчанай малітвай, ня стане шпурляць наўздагон табе знакі ды цуды — Ён проста дасьць табе змарыцца ад уласнай сумятні да поўнага тамленьня духу, а потым моўчкі ўвойдзе і зачыніць за Сабой дзьверы.

І толькі тады, баючыся падняць вочы, ліхаманкава спрабуючы адкашляцца і зрабіць гатоўны выгляд, ты пачуеш гэтае непаўторнае, ні з чым не параўнальнае чакальнае і дакорлівае Божае маўчаньне.

Э-а… Госпадзе… Ну, Ты Сам усё бачыў, праўда?.. Што тут сказаць. Прабач, канечне. Прабач. Вядома, я мусіў сам здагадацца, у царкве раз на тыдзень як сьлед асабіста не паразмаўляеш. Тут было столькі справаў, Ты проста не паверыш…

Відовішча жаласнае, і, тлеючы ад сораму, разглядаючы мыскі ўласных ботаў, разумееш, што Яму ня гэтае ганьбішча трэба, не дзіцячае лепятаньне і не насякомыя ў тваіх мазгах. Ён ня выбаршчык, не журналіст, не дыпламат, не супрацоўнік унутраных органаў і не на добрыя міны пры кепскай гульні глядзіць.

Таму Ён маўчыць — і цярпліва чакае, пакуль ты перастанеш мітусіцца і нарэшце на патрабаваньне вертухая здымеш з шыі свой срэбны ключык у форме крыжа.

Госпадзе, Ты дакладна хочаш паглядзець маё сэрца?..

Нібыта з таго сьвету, чуеш сваё мармытаньне: здаецца, павінна быць больш-менш, прынамсі нічога страшнага. Ты ж быў зазірнуў пару дзён таму і маўчаў. Я і падумаў…

Божа, прабач…

Крыжык заядае ў заржаўленай ключавіне. Рукі трасуцца, дасадліва крэкчаш, спрабуеш павярнуць… і з затхлым душком здагадваесься, што насамрэч справы дрэнь, хоць і не адчыняй зусім. О не, не, Госпадзе, не дакранайся, ня трэба, я сам, са-ам!

Тут ужо ня зманіш — уласнае сэрца ўсё-такі.

Даруй, Божа! Сюды, канечне, ня тое што зайсьці, а і стаяць побач немагчыма. Што ж там так стухла?!. Зараз… Хто б мог падумаць, мг… Пастараюся дакапацца.

Сьцяўшы дыханьне, залазіш, сьпярша навобмацак, потым з галавою, жахаесься, клянеш сябе — і пачынаеш вывальваць, куды тут… Сьмярдзючыя грахі, нейкія шыльды і адсоткі ўперамешку з газетамі ды плакатамі. Падгнілая пыха і марнаслоўе, груды скамечаных, у нервовую клетку, размоваў з бацькамі, братамі і сёстрамі, тоны павышанага тону і шматкі неператраўленага сеціва, усе ў пляўках рэплікаў, разьвітаньні на вецер і раздражнёныя вокрыкі, маладушныя стогны; столькі сказанага і ня зробленага, столькі забытых і пакрыўджаных душаў, агульная разгубленасьць, нарэшце, суцэльная млявасьць і абыякавасьць да жыцьця — ох, і правалы, ніяк ня выграбеш да дна.

А Ён проста стаіць перад табою, трывае і маўчыць, як маўчаў калісьці перад Пілатам. І ты разумееш, што Яму так балюча, і гарыш, і баісься зірнуць і ўбачыць у гэтым вечным маўклівым Позірку сьлёзы, сьлёзы!.. зь якіх ты ніводнай сьлязінкі ня варты.

І раптам, каўтаючы соль, ачомваесься ад званоў з пляца Волі.

Сабор. Ратуша.

Пранізьліва і мерна.

Раптам згадваеш, што ты ў самым-самым сэрцы Менска. Такое месца!

Колькі часу трэба яшчэ — месяц, год, дзесяць, — каб навучыцца з гэтага п а ч ы н а ц ь, а не з а к а н ч в а ц ь?

І тады ты даеш абяцаньне пачаць усё зноў, і вырашаеш абысьціся бязь лішніх словаў — каб Нарэшце Пачуць ЯГО.

# БЕЛАРУСКАЯ ГЛЫБІНЯ

## І. БЕЛАРУСКАЯ ГЛЫБІНЯ

*Ён адкрывае глыбокае і стоенае,*
*ведае, што ў змроку,*
*і сьвятло жыве зь Ім.*
***Даніілa 2:22***

У турме адзін мудры чалавек сказаў мне: «Не пытай сябе ў няволі — “За што?”. Спытай — “Дзеля чаго?”».

Дзеля чаго Госпад дае табе крыж часу і прасторы, новы пачатак каардынатаў у жыцьці, новых людзей, новыя вобразы і падабенствы Свае? Чым ачысьцяць, адновяць і напоўняць яны тваё сэрца?

У параўнаньні з Малым Сітнам у Купліне сьвятлей. Раённыя Пружаны чысьценькія, вымеценыя, у кветачкі.

Больш сонца: як-ніяк, паўтысячы кіламетраў на поўдзень.

Сьвятлейшы лес — ня елка ды хвоя, а ясень, бяроза, таполя, дуб, клён. Сьвятлейшыя вочы — тут усё-такі Заходняя Беларусь, няма сіценскага адчаю.

Сьвятлей ад жывое веры і мовы. Сьветла ў царкве — ад белых галоваў мужыкоў і дзяцей.

І глыбіня.

«Шырокая руская душа, — сказаў праз Івана Карамазава найглыбейшы расейскі пісьменьнік і беларус Дастаеўскі, чыё родавае гняздо Дастоева ў гадзіне язды ад Купліна, — я б звузіў».

Дык вось, наколькі расейская душа шырокая, настолькі беларуская глыбокая. Як беларуская пакута. Беларускае цярпеньне. Беларускае балота.

Беларусы, у адрозьненьне ад расейцаў, украінцаў, палякаў, — інтраверты, заглыбленыя ў сябе. Таму беларуская *глыбінка* — гэта не правінцыя. Багна? Бездань? Глыбіня.

Тут — патаемная глыбіня: пад Белавежскай пушчай у савецкія часы разьмяшчаліся стратэгічныя аэрадромы, нацэленыя на Еўропу. У самай такой беларускай глыбіні без адзінага стрэлу зруйнавалі найвялікшую імперыю зла: Віскулі у Пружанскім раёне.

Увогуле, гэта берасьцейскае навакольле паміж Палесьсем і Літвой, паміж Белавежай і Выганашчанскімі балотамі — Пружаны, Бяроза, Івацэвічы, Кобрын — глыбокае. Глыбокае, як род Сапегаў, чый замак у Ружанах уражвае падзем’ямі ў некалькі паверхаў, прызначанымі для вялікалітоўскіх скарбаў; як унікальны тэнар Міхася Забэйды-Суміцкага, ураджэнца тутэйшых Шэйпічаў; як тысячы народных мелодыяў са збору пружанца Рыгора Шырмы; як балады Андрэя Макарэвіча з «Машыны часу», чые дзяды з ваколіцаў Малеча; як 600 тамоў прозы Юзафа Крашэўскага, які калісьці валодаў Старым Куплінам; як хрыплы крык, вырваны з самага сэрца Ўладзіміра Высоцкага, чые продкі — зь Сяльца Бярозаўскага раёна; як верлібры Алеся Разанава (з таго ж Сяльца); як бас Анатоля Папанава, вязьня з «Халоднага лета 53-га» і Ваўка з мультфільма «Ну, пачакай!», чыя матуля перадала сыну непаўторна ёмісты тутэйшы выгавар; як кнігі Васіля Сёмухі з блізкага хутара Ясенец, асабліва

калі чытаеш Слова Божае ў Сёмухавым перакладзе; як вера ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага (мястэчка Поразава адсюль рукой падаць), аднаго з заснавальнікаў БНР і Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі, таго самага ксяндза, што распачаў імшу па-беларуску і быў расстраляны ў Трасьцянцы гестапаўцамі ў ноч на Раство 1942 года; як веданьне Бібліі беларускімі баптыстамі, чыёй сталіцай ёсьць Кобрын; як удых волі Тадэвуша Касьцюшкі зь Мерачоўшчыны, за паўсотні кіламетраў адсюль; як мясцовыя тарфяныя балоты, у адным зь якіх, Гатча-Восаўскім, знайшлі адзінае ў Беларусі прамысловае радовішча бурштыну; як пружанскі антыалкагольны рух сялянаў 1846–1848 гадоў, што перакінуўся на суседнія губерні; як здрада Азэфа, ураджэнца вёскі Лыскава, кіраўніка баявой арганізацыі эсэраў, які арганізоўваў забойствы вышэйшых чыноў імперыі і адначасова «здаваў» паплечнікаў; і, урэшце, як бездань падзеньня курсу беларускага рубля пасьля сыходу пружанскага вылучэнца, Пятра Пятровіча Пракаповіча...

І вось Госпад дае акунуцца ў гэтую глыбіню — акунуцца разам з сотняй насельнікаў куплінскай «хіміі», наведнікамі і міліцыянтамі.

Глядзіш у вочы юным беларусам, у бяздонныя вочы пакаленьня незалежнасьці, бачыш будучыню, што пакутуе, п’е да анабіёзу, перакідаецца мацюкамі і мроіць пра шчасьце — і аж правальваесься, колькі тут глыбока роднага і глыбока чужога!

Дзеля чаго — ёсьць час падумаць. Час адкрыць новыя цуды ў звыклым, забытым і занядбаным.

І зразумець, што сёньняшнім нашым беларускім скрыжаваньнем часу і прасторы валодае не Лукашэнка і не Расейская імперыя, а Сам Госпад Бог.

*8 верасьня 2011 г.*

## II. КАМЕНДА

*...Прапаведаваць палонным*
*вызваленьне, сьляпым празрэньне,*
*адпусьціць спакутаваных на свабоду.*
***Лукі 4:18***

Сьпецкамендатура № 7, або, прасьцей, каменда, — былая савецкая казарма ў колішнім вайсковым гарадку. Саўком, пахаваным дваццаць гадоў таму зусім непадалёк, у Віскулях Пружанскага раёна, тут тхне дагэтуль. Ужо на ўваходзе лёгкія да самых глыбіняў напаўняюцца камунальным духам агульнага карыстаньня, уласьцівым рабочым інтэрнатам ды маласямейкам. «Ленінскі пакой» з партрэтам Лукашэнкі, чырвона-зялёным сьцягам і гімнам пра гэты самы «радасьцісьцяг» нудзіць пылам старых тамоў эпохі застою, ад Чарнышэўскага да Чаргінца. У кухні па-над умывальнікам, калі возьмесься спаласнуць твар жаўцявай вадзіцай, б'е ў нос прысмак іржавага металу і крыві. Балотнае жалезьзе. «Хімія» з такім знаёмым савецкім пахам арганічна спалучаная з КДБ, вуліцай Карла Маркса, «лініяй Сталіна» ды іншым савецкім хлудам.

Каменда — двухпавярховы казённы дом з закратаванымі вокнамі; перад уваходам — дзьве альтанкі (камеры назіраньня выведзеныя ў дзяжурку). Тры дзясяткі пакояў: кабінеты міліцыянтаў, кухні ды інтэрнацкія пакойчыкі зьмяшчальнасьцю ад двух да сямі чалавек. Наш — на трох: ложкі, тумбачкі, стол. Сярод сотні асуджаных у асноўным маладыя хлопцы — берасьцейскія, баранавіцкія, пружанскія. Хтосьці за бойку, хтосьці за «хуліганку», хтосьці за нявыплату аліментаў. Людзі і размовы такія самыя, якія пачуеш у любым двары: маё пакаленьне, пра якое сьпяваў Воль-

скі (дарэчы, «N.R.M.» тут можна пачуць з мабільніка часьцей, чым чакаеш). Міліцыянты, у адрозьненьне ад жылістых «хімікаў», мужчыны мажныя і сабе наўме. Хтосьці пераконвае сябе, што змагаецца са злом; хтосьці стомлена гумарыць («Пясчаны кар'ер — два чалавекі!.. Калі нехта вырашыў выпіць — пакой нумар такі, увага! — і не запрасіў вас — чакаем у дзяжурцы»); хтосьці механічна афармляе «нарухі» (парушэньні) з прычыны п'янкі або ўцёкаў дахаты і рыхтуе чарговаму «хіміку» дакументы на зону.

Дзяжурка з карцарам-клеткай. І званкі. Адзін — выклік днявальнага першага паверха. Два — другога паверха. Доўгі — на пераклічку.

6:00. Доўгі званок: пад'ём. 6:10 — пераклічка: уватнуць сваё «тут» сярод бясконцых «здесь» у адказ на прозьвішча і ісьці кіпяціць ваду. Малітва. Біблія. Сьняданак. Дзынькнуць ключыкам на шчыце ў дзяжурцы, абмяняць пропуск на табель і праз рэзкі, да сьпіннога мозгу пранізьлівы віск жалезных кратаў у дзьвярах — на працу.

Каменда, як і любая няволя, сьцінае і калечыць час, выхоўвае ўмоўныя рэфлексы, прымушае слых вылоўліваць староньнія шоргаты і шэпты, супастаўляць міліцэйскія позіркі з размовамі суседзяў. Каменда прымушае жыць у Беларусі Абмежаванай Волі.

Абмежаваньне волі скразіць тут у кожнай драбніцы. Выхад з каменды на агароджаную тэрыторыю — з дазволу дзяжурнага. Выхад у горад — праз заяву на імя начальніка (падпіша — не падпіша?). Тыя, што застаюцца ў камендзе і не ідуць на працу, у першай палове дня мусяць зачыняць свае пакоі: абавязковы прагляд тэлевізара ў актавай зале. Кухні адчыняюцца і зачыняюцца паводле нейкага дзіўнага распарадку, адзінае разумнае тлумачэньне якому — прывучыць

асуджаных, што бяз ласкі адміністрацыі нават супчыку не згатуеш. Здаецца, што і перыядычныя адключэньні электрычнасьці на нашым другім паверсе (афіцыйная версія — дзеля эканоміі) робяцца з той жа мэтай. Прыбіральня адна (і можна здагадацца, ува што ператвараюцца чатыры «ачкі» без пісуараў пад напорам ста мужыкоў). Памыцца ў камендзе няма дзе: пішаш заяву, каб наведваць лазьню ў Пружанах.

Зрэшты, за ўсё дзякуеш Богу: Дашкевіч, Санькіаў, Статкевіч, Бандарэнка ня маюць і гэтага.

Каменда — прыпынак між турмой і воляй. За гэты год было ўмоўна-датэрмінова вызвалена 13 асуджаных і адпраўлена ў зону 16. Лік на карысьць няволі. Людзі, вырваныя са свайго асяродзьдзя. Адбываюць. Церпяць. Зрываюцца. Цішком п’юць.

Каменда ня толькі на мяжы волі, але і на мяжы веры. Першае, што мне кінулася ў вочы ў пакоі, — драўлянае расьпяцьце, кардонны абразок Збаўцы, абраз Маці Божай на покуці, сёлетні царкоўны каляндар і ўзятае ў рамку выданьне Жыровіцкай абіцелі «Якім будзе чалавек безь любові». Тут, на паўдарозе паміж усемагчымымі спакусамі ды кратамі, хлопцы прыпыняюцца перад Богам, бо спадзяюцца «праскочыць».

Мой сусед Лёха, якога пару тыдняў таму за дзевяць «нарухаў», апрануўшы кайданкі, адправілі ў баранавіцкі ізалятар, казаў: «Жыву — грашу. Памру — атвечу!»

І ўсё-такі ты ведаеш: гэтая загрузлая ў лясах савецкая выспа, і родныя беларускія хлопцы-«хімікі», і напружаныя дзядзькі-міліцыянты — дзеля таго, каб палюбіць Бога. Усім сэрцам, усім розумам, усёй душою, усімі сіламі тваімі і бліжняга, як самога сябе. Палюбіць Беларусь. Глядзі, пазнавай: у стоеных, схаваных вобразах і падабенствах, сярод абразоў і кратаў,

не заўважаны, апляваны, укрыжаваны, у асуджаных і наглядчыках, у сынах чалавечых, сынах беларускіх — прысутны Бог.

*25 верасьня 2011 г.*

## III. ЛАСТАЎКІ Ў СТРЭСЕ

*І птушка знаходзіць сабе жытло,*
*і ластаўка гняздо сабе,*
*дзе пакласьці птушанят сваіх,*
*каля алтароў Тваіх, Госпадзе сіл,*
*Цару мой і Божа мой!*
***Псалом 83:4***

О, гэта праца дык праца — падсобным рабочым у Вялікай канцэртнай зале ластаўчынага ціўканьня імя Міхася Забэйды-Суміцкага!

Былы ангар савецкай вайсковай тэхнікі, а цяпер склад аўтазапчастак у Купліне аблюбавалі ластаўкі. Насамрэч гэта першае, на што зьвяртаеш увагу: панад гасподай цяжкага, зубчастага, пачварна перакручанага, ашчэранага жалезьзя — імпэтныя росьпісы і ціўканьне дзясяткаў ластавак. Прыслухаесься — філармонія. Пад дахам — гнёзды, гнёзды, гнёзды. Выходзіш са склада — і літаральна з-за вуха куляй выстрэльвае бліскучая птушка, і слых узьлятае ў нябёсы: што-што?..

Хіба ж можа быць інакш на радзіме найвялікшага беларускага опернага тэнара, раскручанага для сучаснасьці ўнікальным дыскам народных сьпеваў «Ластаўкі ў стрэсе»? Там, дзе табе наканавана адбываць два гады ў жалезабетонным амфітэатры, збудаваным для рову савецкіх танкаў, а цяпер поўным пяшчотнага

посьвісту, ды яшчэ побач з інжынерам — аднавяскоўцам і цёзкам Вялікага Міхася? А ягоны бацька бачыў жывога Суміцкага і дагэтуль напявае ягоныя арыі.

Як мне пашчасьціла трапіць менавіта сюды? Большасьць «хімікаў» працуе ў Пружанах і навакольных калгасах. Пешкі, калі найкарацейшым шляхам, з каменды да горада 40 хвілінаў. Ідзеш шукаць працу: падпісваеш адмысловы «маршрут руху асуджанага», дзе пазначаецца, па якіх вуліцах трэба перамяшчацца.

Найперш — да дырэктара Палацыка, пружанскага краязнаўчага музея, маладога Юрыя Зялевіча. Бяседа прыязная, але кароткая: яму, вядома, адкуль трэба ўжо патэлефанавалі. Цэнтральная бібліятэка з партрэтамі славутых беларусаў у фае: Саюз беларускіх пісьменьнікаў і кніжкі — гэта, канечне, добра, але, выбачайце, вакансіяў няма (і ў вачах у кіраўнічкі адчайнае: «вы ж разумееце…»).

Разам з пчаляром Міколам Папекам заходзім у «Раённыя будні» (так паэтычна называецца галоўная газета сёньняшняй Пружаншчыны): калі будзеце нешта пісаць без палітыкі — прыносьце, але… Маючы на ўсё пра ўсё тры гадзіны часу, лётаеш па тых канторах, толькі ластаўкі ціўкаюць увушшу. Грузчыкам у краму — о, ім непітушчыя трэба, бяруць, бяруць! — але ўжо назаўтра робіцца ясна, што «кадры рашаюць усё»: э-э, выбачайце, ня можам. Ды хоць дворнікам, падмятаў жа пісьменьнік Платонаў вуліцы — не-не-не, гэта нейкая вулічная акцыя атрымліваецца!

Горад Пружаны для палітычнага ссыльнага зачынены: кастрычніцкая ж рэвалюцыя неўзабаве. Карацей, ластаўкі ў стрэсе.

Пакаштуеш, як актывісты руху ў глыбінцы грукаюцца ў дзьверы працадаўцаў гадамі і чуюць у лепшым выпадку: ізвініце, мы ўсё з вамі панімаем, но-о-о…

Няхай. Дамаўляемся з Тайсам, паўднёваафрыкан-

скім пратэстанцкім місіянерам, што побач, у тым жа былым вайсковым гарадку разводзіць авечкі ды трымае кавярню «Афрыка». Пастухом, як Давід, ды яшчэ ў хрысьціяніна… Тэма біблейская — чаму б не.

Але назаўтра з самага ранку — выклік у дзяжурку і загад: прыбыць на працу ў фермерскую гаспадарку «Бардо», у 300 метрах ад каменды. «Бардо», арандуючы былыя ангары, вырошчвае бульбу, бычкоў і гандлюе запчасткамі. Сховішчы, склады, майстэрні і — о, цуд! — Вялікая канцэртная зала імя Забэйды-Суміцкага.

У Вялікай канцэртнай зале — аншлаг слухачоў: дырэктары, інжынеры, кіроўцы з гаспадарак усяго раёна. Пружанскі райаграсэрвіс, пракаповіцкае «Отечество», фермер-місіянер Тайс, Аранчыцкая птушкафабрыка… Апошнім часам меламанаў усё больш — грошай усё менш, а склад «Бардо» можа выпісаць матэрыяльныя каштоўнасьці паводле безнаяўнага разьліку ці ў доўг.

«Як жа ён дастаў!» — скрозь зубы, пад ластаўчын пошчак, падсьвістваюць дырэктары. «Калі ўжо, калі?!» — ціўкаюць і ўзводзяць вочы да ластаўчыных гнёздаў прыватнікі.

Склад аўтазапчастак — памерам з добры супермаркет. Падшыпнікі, дэталі «МАЗаў» ды трактараў «Беларус», сельгастэхнікі; гума, балты ды гайкі, фільтры ды фарба — аж да шуфляў і звонкіх гаечных ключоў. Пакуль пакупнікі слухаюць ластавак, мая справа — знайсьці дэталь, аформіць паперы, выгрузіць ды падпісаць новыя порцыі халоднага жалезьзя і раскласьці яго так, каб ластаўчын сьвіст зрабіўся яшчэ больш пранізьлівым.

Вось, значыць, дзеля чаго ў «амерыканцы» давялося сядзець з буйным прадпрымальнікам, што марыў разгарнуць на мяжы зь Беларусьсю еўрапейскі аўта-

сэрвіс з продажам запчастак, дырэктарам фірмы, сьпецыялізаванай на метале, ды галоўным інжынерам Мінскага трактарнага (ён да драбніцаў распавядаў тэхналагічны працэс, трэба ж было слухаць!)…

Кладаўшчык Леанідавіч летуценна аглядае дах:

— Ластаўка — істота Божая, грэх кранаць. А вось голуб, хоць і птушка міру, але часам бралі тут паветраную стрэльбу, білі ды ў бытоўцы гатавалі. Ох і смачна!

Ластаўкі радочкам, нотамі ля скрыпічнага ключа, усаджваюцца на лініі дроту і расшыфроўваюць тэлефонныя паведамленьні шалёным цёхканьнем.

Крызіс, крызіс, кошты, курс рубля… Не сьвісьці, грошай ня будзе!

Але што ім, насельнікам неба, тыя рублі?

Насамрэч глядзяць яны на сумятлівых, спалоханых, раздражнёных людзей згары, са шкадаваньнем — і гэтак жа звонка і пранізьліва, як і сто гадоў таму, у часы Забэйды-Суміцкага, зь беларускай глыбіні славяць Госпада Бога.

*1 кастрычніка 2011 г.*

## IV. ПЕРАЎТВАРЭНЬНЕ ГОСПАДА

*…І ўзьвёў іх на гару высокую адных,*
*і пераўтварыўся перад імі,*
*і зазьзяла аблічча Ягонае,*
*а ўбраньне Ягонае стала белае,*
*як сьвятло.*

***Мацьвея 17:2***

За колькі тыдняў да адпраўкі на «хімію» да мяне ва «ЎКантакце» пагрукаўся нейкі барадаты малады чалавек са сьветлымі вачыма і даслаў допіс, адна толькі назва якога прымусіла мяне паморшчыцца:

«Бог, у якога я ня веру». Ну вось, думаю, зноў праваслаўны атэізм.

Але пост аказаўся цытатай з Хуана Арыяса, іспанскага каталіка, і зь першых словаў мне стала зразумела — я таксама ня веру:

— У Бога, які любіць боль.

— У Бога, які прымушае сябе баяцца.

— У Бога-дзядулю, якім можна злоўжываць.

— У Бога, які аддае сябе ў манаполію адной царквы, нацыі, культуры ці касты.

— У Бога, які «гуляе» ў людзей, каб асудзіць іх.

— У Бога, які маўчыць у гісторыі і абыякавы да пытаньняў, што трывожаць спакутаванае чалавецтва.

— У Бога тых, хто думае, што любіць Бога, бо ня любіць нікога.

Ужо ў пружанскай Спаса-Праабражэнскай царкве, паглядзеўшы на маладога бацюшку, я ахнуў: барадач са сьветлым позіркам аказаўся айцом Сергіем, у якога мне спавядацца.

Вось і ня вер пасьля гэтага.

Айцец Сергій чытае Меня і Бярдзяева, цікавіцца гісторыяй і філасофіяй, мае вялізную бібліятэку, неяк служыў у блізкіх Засімавічах набажэнства па-беларуску, выхоўвае дачку Арыну, беларускамоўную верніцу і слухачку «N.R.M.».

Гляджу на яго і думаю: у Якога Бога вераць тут, у беларускай глыбіні?

Няўжо Бог пратэстанцкага місіянера Тайса з Купліна, Бог каталіцкага ксяндза Казіміра Сьвёнтка, што пачынаў свой крыжовы шлях у Пружанскім касьцёле, Бог праваслаўнага перакладчыка Бібліі Васіля Сёмухі зь Ясенца і Бог айца Сергія — Адзін і Той жа?

У гэтай беларускай глыбіні тэолаг, славіст, выкладчык экзэгетыкі і герменеўтыкі Віленскага ўнівэрсітэта Міхал Баброўскі, высланы з колішняй сталіцы

па справе філаматаў, шукаў Бога ў адзінстве хрысьціянаў — сьпярша як уніяцкі, потым як праваслаўны сьвятар. І няхай Баброўскага называлі то сваім, то чужым і ў заходняй, і ва ўсходняй царкве — ён усім сваім жыцьцём сьцьвярджаў: веру ў Бога, вышэйшага за міжканфесійныя зьвягі.

У гэтых самых Пружанах у сярэдзіне XIX стагодзьдзя каталікі, ня маючы грошай завершыць вялікі касьцёл на 1000 чалавек, перадалі камяніцу праваслаўным, а тыя дабудавалі царкву Раства Хрыстова (па-каталіцку, алтаром на захад), і заадно непадалёк — касьцёл, што стаіць дагэтуль: пэўна ж, людзі верылі ў Бога, у Якога не каменнае сэрца, а жывое.

Казімір Сьвёнтак, першы беларускі кардынал з XVIII стагодзьдзя, сваё служэньне пачынаў у тым самым пружанскім касьцёле, быў арыштаваны і засуджаны на сьмерць, прайшоў сталінскі ГУЛАГ і ўсё-такі ўбачыў бел-чырвона-белы сьцяг Хрыста па-над урадавымі будынкамі — верыў у Бога, Які не дае выпрабаваньня звыш сілаў.

Айцец Канстанцін Пілінкевіч, настаяцель пружанскай Прачысьценскай царквы, што за польскім часам абараняў правы беларусаў і, выступаючы перад тагачаснымі дзяржаўнымі дзеячамі, казаў: «Наша думка аб тым, каб не глядзелі бы на нас, праваслаўных, коса, каб не лічылі бы нас за грамадзянаў ніжэйшага гатунку» (за што і быў адхілены ад пасады) — верыў у Бога, Які даў беларусам зямлю, мову і права людзьмі звацца.

Тутэйшыя пратэстанты, чые бацькі друкавалі ў Белавежскай пушчы Бібліі для ўсяго былога Савецкага Саюза, пратэстанты, што прапаведуюць Евангельле на гарадскім дне і толькі цярпліва ўсьміхаюцца, калі чуюць грэблівае «сектанты», сярод якіх і патомныя баптысты-антысаветчыкі, і місіянер-пастар Тайс, —

верацъ у Бога, Які не пакіне чалавека ані ў Афрыцы, ані ў Беларусі, Які моцны выцягнуць з жыцьцёвага гною і скончанага п’яніцу, і апошняга падонка.

А пружанец Васіль Сёмуха, адзін з найлепшых беларускіх перакладчыкаў, уклаў у свой пераклад Бібліі столькі глыбокае беларускае прыгажосьці і ласкі, столькі моўнага хараства, што, нават нягледзячы на багаслоўскія недахопы, і вернікі, і сьвятары згаджаюцца: дзядзька Васіль верыць у Бога, Які ёсьць Любоў.

* * *

Ісус пераўтварыўся перад вучнямі на гары.

Пружанская царква Пераўтварэньня, куды мне дазволена выязджаць у нядзелі, таксама стаіць на горцы, на праваслаўных могілках. Насупраць, праз дарогу, — капліца каталіцкая, і могілкі адпаведныя. Вуліца так і называецца — Горка. Дужа беларуская Горка: так і чуецца ў гэтым магільным разьдзяленьні штосьці горкае. Але менавіта тут, калі народ хорам сьпявае на царкоўнаславянскай зь яўным беларускім маўленьнем, акунаесься ў тую глыбіню, дзе калісьці жыў Скарына.

Тады, у залатым XVI стагодзьдзі каралева Ганна з дазволу Жыгімонта Аўгуста пабудавала на Горцы, на землях, адведзеных Зьмітром Сапегам, царкву. Храм разбураўся, гарэў і ўваскрасаў. Ужо ў нашыя дні айцец Ігар адбудаваў Спаса-Праабражэнскую царкву, у 1943-м адноўленую пад нямецкай акупацыяй, а ў 1985-м спаленую за камуністамі. Бацюшка з глыбокім зычным голасам апякуецца «хімікамі» і часьцяком заседжваецца ў дзяжурцы зь міліцыянтамі. Уся царква любуецца, як ён прычашчае дзяцей:

— Прычашчаецца раба Божая Анастасія… Ад-

крываем роцік. Та-ак. Прычашчаецца раба Божая Ксенія… Ксенія, не грызі пазногці. Прычашчаецца раб Божы Раман… ну, і дзе мы прападалі?

Тут, у царкве Пераўтварэньня, вобразы і падабенствы Хрыстовыя выяўляюцца ва ўсёй прыгажосьці і разнастайнасьці. У абліччах, малітвах, жыцьцях сьвятароў і вернікаў, у літургіі і прычасьці, перагукаюцца званамі з касьцельнай імшой і хорам з праслаўленьнем у евангелістаў — і вось у беларускай глыбіні, пакутлівай і трапяткой, скрозь стагодзьдзі нараджаецца Той, у Каго верылі Сапега і Жыгімонт Аўгуст, Баброўскі і Сьвёнтак, вераць Тайс і Сёмуха, у каго верыш ты, — Справядлівы і Міласэрны, Адзіны і Нязьменны Бог.

*13 кастрычніка 2011 г.*

## V. СЕМ СЫНОЎ ЁВА

*І сказаў Гасподзь сатане:*
*ці зьвярнуў ты ўвагу сваю*
*на раба Майго Ёва?*
***Ёў 1:8***

Толя Крачко — «хімік». Робіць зваршчыкам, працуе — глядзець любата. Заходзіць на склад па ключы ды электроды. Адбывае год за парушэньне рэжыму. Негаваркі.

— Вось патлумач мне, — Толя аблягае бар’ер склада. — Чытаў я Біблію, кнігу Ёва. Бог пакараў яго, не магу разабрацца за што.

Ого. Кніга Ёва — самая глыбіня Бібліі. Кніга пакутаў, надзвычай шчымлівая, надзвычай беларуская. Выпрабоўваючы веру праведнага Ёва, Госпад дапусьціў, каб д’ябал забраў ад яго дзяцей ды зьнішчыў га-

спадарку. Але Ёў, увесь у струпах праказы, у пыле і попеле, аточаны непрыязнымі сябрамі ды сваякамі, усё ж застаецца верны. Ёў — гэта такая вера, калі нават надзеі няма.

Пачынаю тлумачыць пра Божую справядлівасьць, пра тое, што вера Ёва сталася прыкладам для мільярдаў вернікаў.

— Стой. Вось у яго было сем сыноў, — Анатоль зачэрпвае з бліжэйшай скрыні, ня гледзячы, жменю гаек. — Давай разьбяромся, так прасьцей.

З грукатам выкладвае гайкі на бар'ер, іх сапраўды аказваецца сем.

— Дзяцей-та за што?

Гайкі зьмеценыя, Толя дапытліва глядзіць на мяне:

— Чаму ён пасьля гэтага яшчэ і верыць?

Просты беларус зусім ня просты. Простых беларускіх токара ды сьлесара судзяць па абвінавачваньні ў тэрарызме, а просты беларускі зваршчык намагаецца разабрацца ў таямніцах Божых — і паспрабуйце дастаць дна ў душы аднаго, другога ды трэцяга. Той, хто думае, што беларускую душу можна задаволіць спажывецтвам, запоўніць страхам або вычысьціць на ўзор мінскіх вуліцаў, да стану сьвятарнай пустаты, моцна памыляецца. Беларуса прасьцей утапіць у самім сабе.

Такім чынам, чаму Ёў усё-такі верыць? Самае пытаньне для восені 2011-га.

Чаму дагэтуль верыць вулічны баец, маладафронтавец Зьміцер Дашкевіч, трыццацігадовы пратэстант, бяздоказна абвінавачаны ў хуліганстве і зьмешчаны ў зону для рэцыдывістаў, Дашкевіч, якога гнояць на этапах ды ў адзіночках і ў якім мы толькі скрозь краты разгледзелі і пяшчотнага закаханага, і пранізьлівага публіцыста, — верыць, ня піша прашэньня аб памілаваньні і застаецца сьцягам для няскоранай беларускай моладзі?

Чаму дагэтуль верыць беларускі адмысловец-рэкламшчык Зьміцер Бандарэнка, якога, хворага, нізавошта калечаць у зоне пасьля найскладанейшай аперацыі на хрыбце, а ён асэнсоўвае беларускую нацыянальную ідэю як глыбока хрысьціянскую — Бог, Айчына, Сям'я — і, кульгаючы па камеры, толькі паўтарае: «Слава Ісусу! Жыве Беларусь!»?

Беларускі дыпламат, патомны інтэлігент Андрэй Саньнікаў, аказваецца, можа трываць не адно непрыемных субяседнікаў на перамовах, але і месяцы зьдзекаў у СІЗА, калоніі, «прэс-хатах» — і верыць у тое, што праўда ўрэшце пераможа.

Беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі, якога «здалі» дробныя еўрапейскія чыноўнікі, цярпліва чакае няправеднага суда і па-ранейшаму верыць у еўрапейскую будучыню для Беларусі.

Беларускі юнак Мікіта Ліхавід, атрымаўшы 3,5 года турмы за «ўдзел у пагромах» дзеля таго, каб не называцца асуджаным, гатовы месяцамі сядзець паўгалодным у камеры і адціскацца начамі, калі ад холаду не заснуць, — і верыць, што пераможа.

Беларускі афіцэр Мікалай Статкевіч, чые продкі-магнаты калісьці будавалі Сьвята-Петра-Паўлаўскі сабор на Нямізе, той самы Статкевіч, ад якога і ўлада, і апазіцыйны бамонд моршчыліся як ад зубнога болю, з мужнасьцю сапраўднага шляхціца вытрымлівае галадоўку, няволю, прыніжэньні, — верыць, што ягоная ахвяра ня марная.

Беларускі журналіст Яўген Васьковіч, усьмешлівы і зычлівы каталіцкі вернік, зь якім у двары вітаюцца ўсе бабулькі, кідае бутэльку з запальнай сумесьсю ў будынак раённага КДБ, на судзе, у клетцы надзявае майку з «Пагоняй», атрымлівае 7 гадоў — і верыць, што рэжым усё-такі будзе разбураны.

Зваршчык Анатоль не дачытаў кнігу Ёва да канца.

А напрыканцы Госпад узнагародзіў пакутніка, вярнуў яму дзяцей, здароўе і даў удвая больш маёмасьці.

Колькі іх, беларусаў, хто заблукаў пасярод кнігі Ёва? Цярплівыя і цярпімыя, мы корпаемся ў пытаньні апраўданьня пакуты настолькі зацята, наколькі іншыя народы вышукваюць нацыянальную ідэю ці сэнс жыцьця. Беларусы недаўмяваюць: за што?!

Пакуты ніколі не бываюць марнымі ці выпадковымі. Гэта заўжды напаўненьне пэўнае меры, адкупленьне, накшталт сарака гадоў блуканьня ў пустыні ці сямідзесяці гадоў вавілонскага палону. Свабоду і незалежнасьць трэба адпакутаваць, выседзець, вынасіць гэтак жа, як выношваюць дзіцё або выціскаюць зь сябе па кроплі раба. Валадарства нябеснае высілкамі дасягаецца.

Беларусы XXI стагодзьдзя, дзеці Ёва, вымяраюць глыбіню волі і незалежнасьці ў правалах народнай абыякавасьці, турмах ды катаваньнях. Бо калі мы хочам падняць па-над краінай бел-чырвона-белы сьцяг Уваскрасеньня, трэба прайсьці і суд, і бічаваньне, і крыж — так, як калісьці зрабіў гэта Сам Бог.

*15 кастрычніка 2011 г.*

## VIII. КАРАНІ Ў КРЫВІ

*...корань зла знойдзены ўва мне.*
***Ёў 19:28***

Расейскае сеціва, даступнае з майго польскага мабільніка, ніяк ня можа разблытацца зь беларускай назвай, у каторай не прастаўляюцца кропкі над «і»: «Ласасін».

«Магчыма, вы шукалі “асасін”», — упарта паўтарае гугл па-расейску. Асасіны — банда наёмных за-

бойцаў, адурманеных, зьдзічэлых, што ўчыняюць жорсткую разьню. Тысячы гадоў татарскія ды царскія, крыжацкія ды казацкія, гестапаўскія ды бальшавіцкія асасіны наталялі гэтую зямлю беларускай крывёю. А Ласасін — маёнтак у Пружанскім раёне, дзе ў пачатку XVI стагодзьдзя нарадзілася маці Івана Жахлівага і дзе ўлетку 1863-га палеглі ў баі сорак паўстанцаў Каліноўскага.

Пяць гадоў таму, на Полаччыне, мне давялося жыць ля развалінаў крэпасьці Івана Жахлівага часоў Інфлянцкай вайны. І вось, пагружаюся яшчэ на паўсотні гадоў глыбей, спрабую разабрацца, дзе яно, беларускае дно, і на Пружаншчыне дакопваюся да Ласасіна, адкуль матуля таго самага Івана Васільевіча, Алена Глінская. Дачка вялікалітоўскага баярына з татарскага роду (чый продак на Ворскле ўратаваў Вітаўта) Васіля Глінскага ды сербкі Ганны Яншыч.

Рыжавалосая «басурманка», як яе называлі, увяла ў Масковіі адзіную *капейку* (0,68 г срэбра, і вершнік зь дзідай — кап’ём), вынасіла і выхавала найстрашнейшага расейскага цара — і ўрэшце згарэла, атручаная ртуцьцю. Ці не адсюль, зь бездані беларускіх балотаў, зьвярыная, крывавая, шалёная лютасьць маскоўскага цара?

Жахлівае, народжанае Аленай Глінскай, вярталася ў Ласасін кожнае стагодзьдзе, з кожным новым прылівам гвалту з усходу, і здавалася, што за 300 гадоў край затапіла цалкам. Паміраючы, радзіма Алены здрыгалася адчайнымі закалотамі.

13 лютага 1863-га паўстанцы Каліноўскага, узброеныя паляўнічымі стрэльбамі і косамі, бяз бою занялі Пружаны.

Месьцічы віталі вызвольнікаў, акупанты паўцякалі. Але ўжо празь некалькі тыдняў, з прыбыцьцём карных войскаў, пачалося дзікае паляваньне.

4 чэрвеня 1863-га паўстанцкі атрад пружанскага шляхціца Фелікса Влодка (Шчаснага), у афіцыйных расейскіх дакументах называны шайкай, уступіў у бой з царскімі войскамі на ўзьлеску пушчы, ля Ласасіна. Сорак каліноўцаў палеглі, Валер Урублеўскі з рэштай атрада здолеў вырвацца.

Над вялікай брацкай магілай вырас крыж. У 1933-м, за палякамі, тут усталявалі гранітны помнік. За саветамі — разбурылі. У 1989-м, у час беларускага адраджэньня, з дапамогаю Пружанскага ПМК і радыёзавода (якія, дарэчы, прыязджаюць па запчасткі на склад у Купліне) — аднавілі.

І вось у сьнежні 1991-га, праз паўтысячы гадоў пасьля нараджэньня Алены Глінскай, праз 428 гадоў пасьля таго, як яе сын захапіў і зрабаваў Полацк, праз 128 гадоў пасьля Каліноўскага тут жа, у Белавежскай пушчы, дзе была галоўная стаўка паўстанцаў, — імперыя, губляючы знакі ўлады, ад вайсковых базаў да тых самых маскоўскіх капеек, рассыпалася ў пыл.

Здавалася б, тутэйшая зямля так набрыняла гнільлю тыраніяў і крывёю нявінных ахвяраў ды змагароў, што, апроч праведнікаў і волатаў духу, нікога іншага ня тое што нараджаць — насіць ужо ня зможа.

Але з чыёй крыві растуць карані тых беларускіх вайскоўцаў з бліжэйшага палігона, якія ўжо ў незалежным 1998-м расстрэльвалі помнік паўстанцам (дзеля пацехі ці са злосьці) зь верталёта?

Чыя кроў карэніцца ў тых, хто абыякава трывае ў гэтых запаветных мясьцінах вуліцы, названыя імёнамі забойцаў іхніх дзядоў, помнікі катам, уладу праваслаўнага атэізму?

Чыя, скажыце, кроў напаўняе сэрца навучэнца Пружанскага сельгастэхнікума, калісь участковага інсьпектара Пружанскага РАУС, а цяпер намесьніка начальніка ГУУС Мінгарвыканкама, палкоўніка Ігара Яўсеева?..

Глыбіні беларускай забыўлівасьці, беларускага страху, беларускага граху — гэткія ж невымерныя, як і бездань беларускага генію. Тыя, хто разбураў старажытнае Берасьце, будуючы з цэглы храмаў крывавую крэпасьць, і тыя, хто паляваў на каліноўцаў на Пружаншчыне, і тыя, хто асушаў беларускія балоты пад бункеры ды палігоны, намагаліся вырваць адсюль беларуса ўсяго.

Але як жа перапляліся ў кожным з нас крывыя карані зла са скрываўленым карэньнем свабоды — як счапіліся, сьцяліся, як ірвуць, разрываюць кожнага тутэйшага!..

8 кастрычніка 2000-га ксёндз Януш і бацюшка Ўладзімір асьвяцілі адноўлены пружанцамі і фундаваны Інай Кулей помнік паўстанцам — каменны, з «Пагоняй». Але дагэтуль назву Ласасін тут ведаюць адзінкі.

А зь беларускіх нетраў, з балотаў, сатлелых касьцей і пераблытаных каранёў ціха растуць крыжы. Незьнішчальныя. І на іх, аддаючы Сваю кроў за нашу абыякавасьць, здраду і слабасьць, расхінае прабітыя рукі і ўсё спрабуе абняць гэтую няшчасную краіну Бог.

*20 лістапада 2011 г.*

## XI. ВІСКУЛІ

*Ісус спытаўся яго:*
*як тваё імя?*
*Той сказаў: «Легіён»,*
*бо шмат дэманаў*
*увайшло ў яго.*
***Лукі 8:30***

Друзлы ўсходні чалавек з чорнымі вачыма, задышлівы, цяжкі, купляе ў нас на складзе ў Купліне жалезьзе.

— Герой, — ціхенька піхае мяне локцем галоўны інжынер Максімавіч, — ваяваў у Прыбалтыцы, Югаславіі, Чачні…

— Што, праўда? — пытаюся ўсходняга чалавека.

— Ну.

— Як у французскім Замежным легіёне?

— Легіёне? Ну, так, як у легіёне.

— І людзей забівалі?

— А як і ўсе.

— І цяпер пайшлі б?

— Канечне.

— А чаму?

— Я прысягу даваў.

— Каму, Савецкаму Саюзу?

— Так, Савецкаму Саюзу.

— Дык Савецкага Саюза ўжо няма.

Друзлы ўсходні чалавек ускідвае на мяне чорныя-чорныя вочы і бахае ва ўпор:

— А што, лепш, каб туды Амерыка ўлезла?!

Разваліўся, рассыпаўся СССР, а яго асколкамі, вінцікамі і цэлымі механізмамі, быццам запчасткамі нейкага гіганцкага кібарга-трансформера, Беларусь дагэтуль проста кішыць.

Савецкі Саюз зьнік роўна 20 гадоў таму. Тады назва маленькай вёсачкі *Віскулі* ў Пружанскім раёне, у глыбі Белавежскай пушчы, зь нясьцерпным віскам успарола ўвесь сьвет. Тое, што не ўдалося ніводнаму магутнаму ворагу савецкай імперыі, раптам адбылося ў Беларусі.

Калі чуеш «Віскулі», увушшу — рэзкае сьнежаньскае вясковае рэха: дзень, калі б’юць кабана.

Ён крычыць, раве знадрыўна, аж душу выварочвае — і сьвіньні па ўсёй вёсцы пачынаюць масавы суладны віск. Пералівісты, шматгорлы, дзікі, у гулкім марозным паветры асабліва жудасны. Віскулі на ўсё

навакольле. Як у Евангельлі, калі Ісус выгнаў легіён бесаў з вар'ята ў гурт сьвіней, і тыя ашалелі, «і кінуўся гурт з урвішча ў мора, і патануў».

Днямі праз пушчу пусьцілі новую дарогу — Брэст – Гродна. Прыгажосьць. Краявіды. Падземныя пераходы ў месцах міграцый жывёлаў. Турыстычныя знакі. Ціха, урачыста. І ніхто не вішчыць.

Пушча, заўсёднае, з часоў Вітаўта, логвішча загнаных беларусаў — змоўшчыкаў, канфедэратаў, паўстанцаў, партызанаў, сховішча Ўрублеўскага, Харэўскага, Рагулі, Урбановіча; радзіма Нямцэвіча, Карпінскага, Крашэўскага, Панятоўскага… Месца грандыёзнага забою зуброў і ласёў для Вялікай вайны перад Грунвальдам; паляўнічы рай Жыгімонта Аўгуста, Мікіты Хрушчова, Леаніда Брэжнева; зямля, зрытая на невымерную глыбіню сакрэтнымі бункерамі і ракетнымі шахтамі.

Толькі ў глыбокіх беларускіх лясах ды балотах магчыма было ўтапіць такую аграмаду зла.

Памятаю: мне чатырнаццаць, за вакном бела-бела, сьветла-сьветла ад сьнегу, сьвежа-сьвежа, і навіна: СССР больш няма. Беларусь.

Маленькі, утульненькі паляўнічы дамок. Крышталёвыя кілішкі. Сьветлы, сьвежы бел-чырвона-белы сьцяжок. Упалявалі-такі зьвера!

*Векавечны напеў, далячыняў смуга*
*У чаканьні зары, што заблішча сьляпушча…*
*Як свая мне твая векавая туга,*
*Белавежская пушча,*
*Белавежская пушча!*

А такое ж хараство, асабліва ў сьнежні!

Ох, як сёньня хочацца ім, чыё імя легіён, каб ані Белавежскай пушчы, ані таго сьнежаньскага дня не

было ніколі! Саюзная дзяржава… Мытны саюз… Еўразійская эканамічная прастора… Еўразійскі саюз… І агукаецца: Віскулі, Віскулі, Віскулі!

Зноў імперыя? Ласкава запрашаем у Белавежскую пушчу.

З часоў Вавілонскай вежы чалавецтва будуе каласальныя імперыі, а Госпад іх разбурае. Сьветла, ціха і лёгка. СССР, найвялікшая ў гісторыі бязбожная імперыя, была разбураная ў Беларусі гэтак жа, як і калісьці Егіпецкая, Асірыйская ці Рымская: надыходзіць час — і з подыхам духу спаруды людской пыхі рассыпаюцца ў прах.

Чалавечая веліч вечна пнецца адгарадзіцца ад свабоды, любові і праўды бетоннымі сьценамі, бункерамі, грудамі зброі і горамі трупаў. Але на зямлі ёсьць месца, дзе ў туманнай смузе, цудам, быццам прывіды, зьнікаюць цені і сьцены, змрок і страх, лютасьць і самое зло — і, як тады, у Гадарынскай краіне на беразе Галілейскага мора, людзі раптам спыняюцца перад пранізьлівым адчуваньнем: тут Бог.

*11 сьнежня 2011 г.*

## XII. УСЬМЕШКА ВАСЬКОВІЧА

*Бывала, усьміхнуся ім —*
*яны ня вераць,*
*і сьвятла твару майго*
*яны не азмрочвалі.*
***Ёў 29:24***

Яўгена Васьковіча ведаюць усе бабулькі ў раёне. «Наш Жэня!» Калі сябры БХД паўтара года таму абыходзілі бабруйскія вуліцы Мінскую ды Кастрычніцкую, мне самому стала цікава, чаму 21-гадовы бела-

рускамоўны актывіст-пачатковец карыстаецца такой папулярнасьцю сярод «электарату». Аказалася — элементарна: Яўген пры сустрэчы заўсёды ўсьміхаецца і вітаецца нават зь незнаёмымі — шырока, адкрыта і, галоўнае, шчыра.

Усьмешлівы Яўген працаваў сабе журналістам у «Бабруйскім кур'еры», як хадэцкі народны дэпутат зьбіраў подпісы за добраўпарадкаваньне свайго раёна — і аднойчы быў жорстка зьбіты мясцовай міліцыяй падчас хакейнага матчу ў падтрыбунным памяшканьні лядовага палаца за тое, што ўзьняў бел-чырвона-белы сьцяг.

Калі мяне ў Мінску вызвалялі ў зале суда для «хіміі», даведаўся, што Яўгена Васьковіча судзяць за напад на бабруйскую ўправу КДБ.

У ноч з 16 на 17 кастрычніка 2010-га бабруйскія хлопцы ўтрох закідалі будынак раённага аддзела КДБ бутэлькамі з запальнай сумесьсю. Афіцыйна страты склалі 253 тысячы беларускіх рублёў, але абвінавачваньне заявіла: раз хацелі спаліць усё — лічым за шкоду кошт усёй канторы, 2 мільярды.

Доўга ня мог уцяміць, як юны, абаяльны, усьмешлівы каталік шпурляе «кактэйль Молатава» разам з анархістамі. Дастаць яно, канечне, дастала — але трэба разумець, што такі ўчынак раўнавартасны стрэлу «Аўроры». Гэта вайна, у тым ліку і з самім сабой.

У судзе Яўген Васьковіч трымаўся героем, паказіноўску. Бел-чырвона-белая майка. Распраўленыя плечы. І, канечне, усьмешка.

«Маёй мэтай было запалохаць КДБ. Аб тым, што зрабіў, не шкадую. Я ліцьвін, і мой сьвяты абавязак — абараняць беларускія нацыянальныя каштоўнасьці. За іх я памерці гатовы, бо жыцьцё кароткае, а Радзіма вечная. Жыве Беларусь!»

Сем гадоў узмоцненага рэжыму.

Адвакат, які ўпершыню наведваў Васьковіча ў турме, быў у шоку ад бадзёрага настрою схуднелага Яўгена. «Думаў, бравіруе, — прызнаўся ён пасьля, — а потым гляджу, ён так жыве».

У адказ на пяць маіх дасланых лістоў дайшоў адзін. Затое які! «Усьміхаюся ўсім — і вязьням, і канваірам. І яны пачынаюць усьміхацца ў адказ». Радкі проста праменяць. А напрыканцы — лаціна: «З Богам да ўсяго гатовы». Першае, за што Васьковіч атрымаў карцар, — адмова аддаць канваірам Біблію.

Пішу Яўгену, што мы пераможам бяз гвалту — так, як гэта рабілі нашы продкі, суседзі, еўрапейцы, так, урэшце, як гэта зрабіў Ісус. Васьковічу даходзіць мой канверт, а ўсярэдзіне — чысты аркуш з надпісам: «Перапіска зь Севярынцам забароненая».

Праваабаронцы размаўляюць пра Васьковіча неахвотна — сам прызнаўся ў гвалце. Але — парадокс: патрабаваньне свабоды Васьковічу робіць нас саміх вольнымі, асуджэньне ці абыякавасьць (маўляў, ведаў, на што ішоў) робіць нас рабамі гвалту, які чыніць рэжым.

Увогуле, свабода і гвалт несумяшчальныя. Вось чаму беларусы дамагліся незалежнасьці не ў выніку збройных паўстаньняў XIX стагодзьдзя, а пасьля духовых і культурных адраджэньняў XX стагодзьдзя.

Зазвычай тыя, хто кідае бутэльку з агнём, закрываюць твар. Каб не пазналі і каб ня бачылі злосьці, ад якой перакошвае аблічча.

Яўген Васьковіч твару не хавае. Ён усьміхаецца. І ўсьмешка Васьковіча-Карнэгі робіць значна больш, чым запальны «кактэйль Молатава»-Васьковіча.

За парушэньне рэжыму ўтрыманьня Яўгену Васьковічу прызначылі тры гады крытай турмы — паўгалоднай ізаляцыі і поўнай безабароннасьці.

Але ён усьміхаецца. Думаю, гэта сьведчаньне

біблійных словаў: «Ня будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром».

Трымайся, наш Жэня!

Мы верым. Мы можам. А значыць, мы пераможам — беларускім словам і добрай справай, воляй і надзеяй, усьмешкай і любоўю. Так, як дзьве тысячы гадоў таму перамог Сам Бог.

*17 сьнежня 2011 г.*

## XVII. ЛЁГКІЯ ЛЁГКІЯ

*Прыйдзеце да Мяне,*
*усе струджаныя і прыгнечаныя,*
*І Я супакою вас;*
*вазьмеце ярмо Маё на сябе*
*І навучэцеся ад Мяне,*
*бо Я лагодны і пакорлівы сэрцам;*
*і знойдзеце супакой душам вашым;*
*бо ярмо Маё добрае*
*і цяжар Мой лёгкі.*
***Мацьвея 11:28–30***

Чалавек не адчувае сваіх лёгкіх. Там проста няма нерваў. Мы лёгка дыхаем, лёгка ўдыхаем і выдыхаем паветра, поўнае волі, страху і духаў злосьці паднябесных, — аж да тае пары, пакуль аднойчы не пачынаем харкаць крывёю.

Сухотнікаў з «закрытай формай» або залечаных на сутках і «хіміях» хапае. Такі адразу пачынае задыхацца ад сырасьці і сьмяротна баіцца плесьні. Гледзячы на гэтых хударлявых, пракураных і закашляных, кашчавых у літаральным сэнсе лёгкіх асуджаных (тут іх называюць «арганізмамі»), адразу згадваю Валеру Ганчарэнку.

Ганчар, Ганчарык, Ганчарэнка… Беларусы, што жывуць на цяжкой ды коўзкай глiністай глебе, —

прыроджаныя ганчары. Усё спрабуюць вылепіць са сваёй цяжкай зямлі штосьці вартае, а гэны беларускі суглінак, перасыпаны пясочкам, усё трэскаецца, крышыцца ды б’ецца… Віктар Ганчарэнка — наймаладзейшы трэнер, які лепіць з БАТЭ каманду еўрапейскіх чэмпіёнаў. Вячаслаў Ганчарэнка — пастар царквы «Новае Жыцьцё», адзіны з хрысьціянскіх іерархаў, хто адкрыта падтрымаў матуляў і жонак палітвязьняў, вылепіў з былога кароўніка цудоўны дом малітвы. І вось яшчэ адзін з племені ганчарэнак-беларусаў, здольных завязваць зямную плоць вузлом, — Валер.

З гэтым сухотнікам я пазнаёміўся, калі мы стваралі БХД: ён пераслаў поштай ліст ды аб’ёмісты рукапісны трактат па хрысьціянскім багаслоўі.

Сам ён то адлежваўся ў шпіталях, то бадзяўся па электрычках, пераязджаючы зь месца на месца, то знаходзіў прытулак у віцебскіх ксяндзоў; сям-там яго бачылі нападпітку.

Увосень мінулага года Валер Ганчарэнка чарговы раз загрымеў у Багушэвіцкі абласны сухотны шпіталь.

Нават для чалавека, знаёмага з выпадковымі начлегамі, умовы ўтрыманьня тут выклікаюць агіду. Сырыя пакоі ды калідоры. Абы-які догляд. Ну а сухотнікі, яны ж вельмі чуйныя на гніль.

Ганчарэнка кінуў выклік галоўнаму доктару шпіталя Натальлі Лясной.

Супрацьстаяньне сапраўды атрымалася эпічным: хворы бадзяга-вальнадумец у атачэньні гэткіх жа адрынутых — і жалезная лэдзі ў белым халаце, з мужам — галоўным паталагаанатамам раёна і цэлым сьпецназам санітараў, міліцыі і пракуратуры за сьпінай.

Валер абвясьціў галадоўку пратэсту, прычым зьвязаў гэта з прысудам Канавалаву і Кавалёву: «Лепш памерці, чым жыць у такіх умовах!»

А Багушэўск яшчэ памятае май 2008-га, масавую галадоўку пацыентаў таго ж шпіталя… У выніку Ганчарэнку (маўляў, «пагражае нанесьці шкоду свайму здароўю») зьмясьцілі ў псіхіятрычнае аддзяленьне і пачалі калоць псіхатропы.

Ганчарэнка ўцёк.

Валеру злавілі ў Віцебску, прывезьлі назад у шпіталь і зьмясьцілі ў палату з кратамі на вокнах і дзьвярах.

Мабільныя, асадкі і паперу адабралі ва ўсяго аддзяленьня. Цяпер нават у прыбіральню — толькі ў суправаджэньні санітара.

Часам пачуеш: каго вы ўзяліся абараняць? Бамжа, невылечнага скандаліста?

Але ўмовы ў Багушэўскім шпіталі сапраўды нялюдскія. Урэшце, ад тых самых «антысацыяльных» сухотаў памерлі Шапэн, Гашак, Оруэл, сьвятая Тэрэза, Жылка ды Багдановіч.

Увогуле, да траціны людзей вакол нас — носьбіты палачкі Коха.

Хвароба забірае хіба аслаблых: штогод у Беларусі захворвае да 5 тысячаў чалавек. Ды і сама краіна, якую зь яе балотамі ганарова называюць «лёгкімі Еўропы» (так і хочацца дадаць — «апошнія лёгкія Еўропы», еўрапейцы нервова кашляюць), ужо даўно ў закратаванай сухотнай палаце пад псіхатропамі.

«Лёгкія-лёгкія нашы далёкія, — сьпяваў Лявон Вольскі, — цяжкія-цяжкія блізкія нашыя!»

Часам, здаецца, набіраеш глыбока паветра ў грудзі — і зь цябе на волю рвецца, ніяк ня вытхнецца пачварны, ніколі дагэтуль не выдыханы беларусам паветраны шар.

Невыносная, як той казаў, лёгкасьць быцьця — таго самага, што вызначае сьвядомасьць.

Тое, што мы па жыцьці лёгка дыхаем і пакуль не

хрыпім, яшчэ нічога не азначае. Бо кожны з нас — і жалезная лэдзі ў белым халаце, і хворы бадзяга-вальнадумец, і санітар, каторы таго вальнадумца водзіць у прыбіральню ды зачыняе на ключ, і той чытач, якому ўсё гэта фіялетава, — у рэшце рэшт зробіць сваімі лёгкімі, здаровымі або гнілымі, апошні ўдых і лёгенькай душою выправіцца туды, дзе чалавеку вызначыў месца паводле справаў ягоных Госпад Бог.

*5 лютага 2012 г.*

## XXI. БЕЗДАНЬ АЗЭФА

*Хай не паглыне мяне багна,*
*хай не замкне нада мною*
*прорва пашчы свае...*
***Псалом 68:16***

Далёка-далёка, недзе на краі зямлі, ёсьць такія месцы, глыбіня якіх невымерная. Кінеш туды камяньчык — і не пачуеш ані гуку ў адказ.

У Беларусі такое месца раптам разьвярзаецца перад табою на 52° 51′ 17″ паўночнай шыраты і 24° 36′ 54″ усходняй даўгаты, на мяжы Берасьцейшчыны і Гарадзеншчыны, паміж Ружанскай ды Белавежскай пушчамі. Вёсачка Лыскава на колькідзясят двароў, месца пахаваньня класіка польскага сентыменталізму Францішка Карпінскага, нараджэньня біскупа Аляксандра Мікалая Гараіна і радзіма найвялікшага правакатара XX стагодзьдзя, лідара партыі расейскіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, тэрарыста Азэфа.

Цяпер Лыскава — гэта 40 кіламетраў ад Пружанаў, 443 жыхары, сярэдняя школа, Дом культуры, бібліятэка… валы былога каралеўскага замка XVI стагодзьдзя, касьцёл Найсьвяцейшай Тройцы, царква

Раства Божай Маці… вялікія старадаўнія могілкі. Але калі паглыбляесься ў мінулае — займае дух і зямля сыходзіць з-пад ног.

Адсюль Азэф.

Народжаны ў Лыскаве ў 1869-м у сям'і беднага габрэйскага краўца, Еўна зь юнацтва ўдзельнічаў у гуртках рэвалюцыйнай габрэйскай моладзі.

Звычайны габрэйскі хлопчык зь беларускага мястэчка… Але на фота з дасье ахранкі (фас, профіль) ужо цяжкі чорны позірк няголенага, зьвераватага твару.

Калі ж пачалася пачвара?

Яшчэ падлеткам, скраўшы вялікую суму грошай, юны Еўна выязджае за мяжу. Падман, буйныя грошы і пераход усялякіх межаў цяпер стануць знакам ягонага жыцьця.

Пачынаў вялікі правакатар XX стагодзьдзя гэтак жа, як і які-небудзь агент Вектар — за 50 рублёў у месяц ад сакрэтнага дэпартамента паліцыі Расейскай імперыі пайшоў пастукваць на сваіх аднакурсьнікаў у політэхнічным інстытуце ў Карлсруэ. Аказаўся надзвычай спрытны: у выніку пасьпяховай шпіёнскай працы вылучыўся на першыя ролі ў расейскім сацыял-рэвалюцыйным руху, удзельнічаў у яднаньні разрозных падпольных гурткоў — і вось пасьля арышту літоўскага габрэя Гершуні ўжо ў 1903-м стаў кіраўніком Баявой арганізацыі эсэраў. Тэрарыстам № 1 у імперыі. На гэты момант жалаваньне Еўны Фішалевіча Азэфа («інжынера Раскіна», паводле паліцэйскага дасье) дасягнула 1000 рублёў.

Азэф арганізаваў больш за 30 тэрарыстычных актаў, ажыцьцявіў забойствы ключавых дзеячаў царскага ўрада, у тым ліку сваіх начальнікаў: міністра ўнутраных справаў і шэфа корпуса жандараў Плеве (якога лічылі галоўным арганізатарам габрэйскага пагрому ў Кішынёве ў 1903-м), генерал-губернатара Масквы,

вялікага князя Сяргея Аляксандравіча, пецярбургскага граданачальніка фон дэр Лаўніца, галоўнага вайсковага пракурора Паўлава…

Менавіта Азэф ініцыяваў ліквідацыю Гапона як правакатара. І ён жа выдаў увесь склад эсэраўскага ЦК ды дзясяткі эсэраў-баевікоў.

Раскрыты ў 1908-м, уцёк за мяжу, дзе і памёр ад хваробы — празь месяц пасьля таго, як на ягонай радзіме была абвешчаная незалежнасьць БНР.

Ударамі сваёй здрады Азэф, быццам малатабойца, наносіў страшныя прабоіны Расейскай імперыі зь сярэдзіны. Кожны выбух ці арышт патрабаваў усё большай і большай лютасьці, нянавісьці, крыві і ад дзяржавы, і ад народа.

Негаваркі, змрочны, але надзвычай вымудраны, Азэф віртуозна, зь більярдным разьлікам і нечалавечай вываротлівасьцю ўзрываў сваіх куратараў і другой рукой тут жа здаваў выканаўцаў. Адзіны, каму Азэф заставаўся верным, напэўна, быў д'ябал, чый дух і почырк у бясконцых крывавых здрадах і забойствах відавочны.

На магіле Азэфа пасадзілі куст шыпшыны.

О Беларусь, мая шыпшына, зялёны ліст, чырвоны цьвет!.. Хто б мог уявіць, што прэ з тваёй прэлай балоцістай зямлі і што ў тваёй глыбокай і пакорлівай душы народзяцца Азэф, Дзяржынскі, Шэйман і нават Генадзь Давыдзька!..

Ноччу ля закратаванага акна сьпецкамендатуры ў Купліне, на паўдарозе паміж Лыскавам і Дастоевым, глядзіш у бездань, поўную далёкіх агеньчыкаў, — і думаеш: страшна стаць Азэфам.

Свая маленькая, як радзімка, вёсачка Лыскава ёсьць у кожным беларусе.

Цярушыш шчэпцю гэтую зямлю і шукаеш зьместу: чый ген пераможа? Паэта? Сьвятара? Здрайцы?..

А здрада роднаму чалавеку? Бліжняму? Здрада Радзіме? Веры? Памяці?

Насамрэч мы здраджваем штодня, і праўда ў тым, што нашы бясконцыя маленькія і вялікія здрады спрычыняюцца да духоўнай сьмерці многіх і многіх.

Хто можа зразумець Азэфа? Даравацъ Азэфу? Вырваць Азэфа з самага прадоньня свайго сэрца?

Чалавеку гэта немагчыма.

Але ўсё магчыма Госпаду.

*4 сакавіка 2012 г.*

## XXII. У ГАСЬЦЯХ У СЭРЦА

*Больш за ўсё запаветнае*
*захоўвай сэрца твае,*
*бо ў ім крыніца жыцьця.*
**Выслоўі Саламонавы 4:23**

Хто б ты ні быў і дзе б ні апынуўся — калі хоць трохі аглядаесься ды прыслухоўваесься, рана ці позна пачынаеш адчуваць побач нейкі жывы стоены пульс. Пругкі, упарты. Усё вакол дыхае і варушыцца надзіва заканамерна, падзеі маюць таемны цэнтр, і ледзь заўважнымі штуршкамі людзей, сустрэчаў, справаў аднекуль падхлынае дабро і ласка.

Тут-тук, чуеш пранізьлівы рытм. Тук-тук, ёсьць кантакт, радасна адгукаецца ўсярэдзіне ў цябе, і раптам усё становіцца з галавы на ногі. І ты кажаш сабе: ага. Вось яно дзе. Ну прывітаньне, Сэрца.

Айцец Сергій Сысаляцін — той самы, які калісьці вылавіў мяне ва «ЎКантакце» і зараз служыць у Спаса-Праабражэнскай царкве ў Пружанах, — вобраз з абразоў.

Малады, вайсковай выпраўкі; прыгожае, мяккае, поўнае ўнутранага спакою ды годнасьці аблічча, кароткая чорная барада — тыпаж, у якім любяць выяўляць сьвятых і апосталаў.

Жыве бацюшка ў вайсковым гарадку пад Пружанамі. Новыя Засімавічы — постсавецкі Вавілон на ўзьмежжы Белавежскай пушчы. Сярод дзевяці вайсковых часьцей, што складалі ўдарны кулак савецкай армады на заходнім фарпосьце — у засадзе, за пушчай на самай мяжы, — атабарыліся ракетчыкі, лётчыкі, зенітчыкі, танкісты ды сувязісты з усёй імпэрыі. Вядома, зь сем'ямі. І калі 20 гадоў таму тут жа, у Віскулях, Савецкі Саюз быў раптоўна рассаджаны на кавалкі, у вялізным разварушаным мурашніку з пылам эпохі асеў і ўвесь савецкі інтэрнацыянал, якому не было куды падзецца.

Тутэйшы Сяргей Сысаляцін служыў у верталётчыках — і, пабываўшы ў небе, прыйшоў да Бога.

Сьпярша наведваў евангельскую грамаду, дзе былы зампаліт Барыс ліха граў на гармоніку хрысьціянскія гімны, затым шукаў паўнаты і глыбіні веры ў Спаса-Праабражэнскай царкве. Нарэшце настаяцель айцец Ігар і епіскап уладыка Іаан прапанавалі маладому здольнаму панамару прыняць сьвятарскі сан і ўзяць на сябе нялёгкі прыход зь недабудаванай царквой у Новых Засімавічах.

Айцец Сергій просты. Жыве як дыхае. Выдатна размаўляе па-беларуску. Мае вялізную бібліятэку: сьвятыя айцы, Мень, Бярдзяеў, Фларэнскі, хрысьціянская класіка ўсіх канфесіяў, духоўныя часопісы, гісторыя Беларусі… Заўсёды прапануе нешта пачытаць. Вучыцца ў Жыровіцкай духоўнай сэмінарыі — між іншым, разам з расейскімі бацюшкамі з Бранска. Сьмяецца: «Зьдзіўляюцца — гэта ж, маўляў, па-нашаму — “бурак”, “вёска”, “услон”»… Прастадушныя.

Працуюць, каб зарабіць, хто настаўнікам, хто механікам, а ўвечары ў царкву, набажэнства правіць — “ня тое, што ў нас”…» Расказвае ім пра Браншчыну беларускую, часы ВКЛ, пра карані.

Айцец Сергій найчасьцей чытае казані ў Спаса-Праабражэнскай царкве — і, скажу вам, рэдка чую тлумачэньне Слова такой простасьцці і глыбіні нават у сталіцы. Прапаведуе ў Новых Засімавічах забытаму савецкаму пакаленьню, ва «ЎКантакце» — бездапаможным хлопчыкам і дзяўчатам, заблытаным у сеціве, у наркалогіі — напаўразбураным мужыкам, у нядзельнай школцы — дзецям і бабулькам і, як многія-многія сьвятары ды вернікі апошнія гады, штопятніцы моліцца за Беларусь. І трэба бачыць, зь якой надзеяй уваччу няшчасныя беларусы моўчкі глядзяць у ягонае аблічча — быццам на абраз, быццам успамінаюць кагось таго, хто вучыў іх, бацькоў і продкаў праўдзе і справядлівасьці ўжо тысячу гадоў.

Дзед айца Сергія (які калісьці працаваў у Купліне качагарам) колькі месяцаў ваяваў у 1944-м ва Ўсходняй Прусіі. Аднойчы быў убачыў у акопе забітага немца і ўсім гэта распавядаў. З гадамі і склерозам мёртвы немец ператварыўся ў жывога, а пад старасьць…

«Зазіраю я ў бункер, — на поўным сур’ёзе расказваў дзед, — а там Гітлер. Ну, праўда, кажу табе. І жонка ягоная. І двое дзетак. Дзяўчынкі. Ну, зараз, думаю, фашыст, ты ў мяне атрымаеш за ўсё!.. І… ня змог. Застрэліць Гітлера ня змог».

Сям’я Сысаляціных — гэта і матуля бацюшкі, гасьцінная спадарыня Зінаіда Мікалаеўна, і валявая матушка Людміла, выхавацелька ў дзіцячым садку, і іх дачка Арына — тонкая дзесяцікласьніца з доўгімі вітымі валасамі і выразнымі вачыма, беларускамоўная

пераможца алімпіядаў, заўсёдніца канцэртаў Вольскага ды Вайцюшкевіча. Пасьля нядзельнай літургіі часьцяком заходзіць у касьцёл, арганізоўвае ў школе сустрэчы з пружанскімі краязнаўцамі…

Беларускі гісторык, сьпявак, пісьменьнік у Пружанах — Сысаляціны запрашаюць знаёмых. Трэба дапамагчы? Сям'я прымае гасьцей.

І Сэрца б'ецца.

Менавіта сябры Сысаляціных, сярод якіх і праваслаўныя, і евангелікі, і каталікі, падвозілі мяне штодня ў царкву і назад у маразы. Так і давялося перазнаёміцца з глыбокімі і пабожнымі пружанцамі.

Айцец Сергій — звычайны прыходскі сьвятар. Герой, практычна адсутны ў сучаснай масавай сьвядомасьці ды беларускай літаратуры.

Але менавіта сьвятар на працягу ўсёй хрысьціянскай гісторыі Беларусі быў душою мясцовай супольнасьці, самакіраваньня, культуры дачыненьняў, сямейнай традыцыі, прыстойнага выхаваньня. ня «Бацька» — «бацюшка».

Сёньняшняя Беларусь задыхаецца і губляе прытомнасьць якраз з-за відавочных праблемаў з сэрцам. Хто цэнтр жыцьця ў вёсцы, мястэчку, раёне, горадзе? Чыноўнік? Пасьпяховы бізьнесовец? «Сілавік» з дубінай?

Але прыйдзе час — і ў беларусаў, да якіх пагрукаецца прыходскі сьвятар, сэрцы пачнуць адгукацца моцна і радасна: Бог! Бог! Бог!

*10 сакавіка 2012 г.*

# XXIV. ЭРНСТ САБІЛА

*Будзь мне трывалым прыстанішчам,*
*куды я заўсёды*
*мог бы схавацца;*
*Ты наказаў ўратаваць мяне,*
*бо цьвярдыня мая*
*і крэпасьць мая — Ты.*
***Псалом 70:3***

Калі ўпершыню бачыш пастара Эрнста Сабілу — каржакаватая постаць, вялікая галава зь літымі скуламі, пільныя вочы ў глыбокіх вачніцах і валявое падбародзьдзе старадаўняе, шырокае ліцьвінскае косьці, — ня можаш пазбыцца ўражаньня: такія трымаюць на сабе беларускае неба. Усю шэрую, пахмурную глыбу да самага далягляду.

Пастару Сабілу — восемдзесят. «Дзён гадоў нашых — семдзесят гадоў, а пры большай моцы восемдзесят гадоў, — сьпяваецца ў 89-м псалме, — і лепшая іх пара — праца і хвароба, бо праходзяць хутка, і мы ляцім».

Але і ў свае восемдзесят пастар Сабіла магутны.

Гэта ж такую моц даў чалавеку Бог, што і пасьля трынаццаці гадоў ГУЛАГа, дзесяцігодзьдзяў уціску, цярпеньняў і барацьбы цягае мяхі з цэментам на будоўлі Дома малітвы.

Сабіла прымружваецца (вочы як байніцы) — і ў далёкім-далёкім позірку пазнаеш вялікіх вернікаў, уладароў ВКЛ, ваяводаў і правадыроў, што верылі ў Госпада і стаялі за сваю Айчыну не на жыцьцё, а на сьмерць. Радзівілаў. Скарыну. Сапегу.

Нарадзіўся ў Дзегцяроўцы, пад Мінскам. Сям'я Сабілаў як ненадзейная была выселеная падалей ад савецка-польскай мяжы — у Бабруйск. Падчас нямец-

кай акупацыі далучыліся да евангельскіх хрысьціян-баптыстаў. Партызанілі.

У 1951-м студэнт медыцынскага інстытута ў Мінску Эрнст Сабіла быў арыштаваны гэбістамі.

Арытыкул 72б савецкага Крымінальнага кодэкса: «Актыўная антысавецкая агітацыя з ужываньнем рэлігійных і нацыянальных забабонаў». Прысуд — расстрэл. Расстрэл быў заменены на 25 гадоў пазбаўленьня волі.

І быў голад. Былі зьдзекі. Былі хваробы. Сьпярша ў Падмаскоўі, потым на ўранавых шахтах ва Усьць-Каменагорску. Сабіла двойчы ўцякаў з лагера. Стралялі. Выжыў цудам: у найлепшага стралка аховы, які стаяў на вышцы, раптам заклініла зброю.

Вызвалены, жыў пад пастаянным наглядам КДБ.

У 1988-м, ледзь толькі дыхнула Адраджэньнем, Эрнст Сабіла арганізоўвае ў Мінску Беларускую Евангельскую Царкву.

Вернікі з усёй Беларусі ехалі ў Сабілаву кватэру на Паўднёвым Захадзе…

У 1989-м на І зьезьдзе БНФ у Вільні менавіта пастар Сабіла зачытваў Божае Слова, а затым і правіў малітвы на першых фронтаўскіх мітынгах.

У 1990-я Сабіла як прадстаўнік пратэстантаў быў адным з сустаршыняў Беларускай Хрысьціянска-Дэмакратычнай Злучнасьці.

30 мая 2006-га ўлады пазбавілі Беларускую Евангельскую Царкву рэгістрацыі.

У адказ пастар Сабіла (сам — крэпасьць Божая сярод беларускіх руінаў) збудаваў у Асіповічах гэткі ж магутны малітоўны дом.

На будоўлі здарыўся цуд. Цікаўныя хадзілі глядзець на ўласныя вочы: дом меўся стаяць у нізіне, і нават лужыны тут не высыхалі, але вялізны катлаван, у якім магла б зьмясьціцца цэлая хата з дахам, застаўся сухі.

Усе апошнія гады і рэшту сваёй цялеснай дужасьці пастар Сабіла ўклаў у будынак на краі балота. Эрнст Канстанцінавіч верыць, што неўзабаве гэтыя вялізныя залы будуць запоўненыя евангельскімі вернікамі, якія славяць Бога па-беларуску.

На сустрэчах з Сабілам, палітвязьнем савецкіх часоў, моладзь замірае. І ў цішыні словы ягонага сьведчаньня кладуцца, быццам камяні ў падмурак.

Сабіла сьведчыць пра Бога ў сваім жыцьці.

Сабіла расказвае пра Беларусь, ягоны крыж.

Цярплівы пастар Сабіла не разумее, як можна быць цярпімым да зла, як можна ўваходзіць у кааліцыі з камуністамі.

І ўжо сёньня менавіта пастар Сабіла, патрыярх беларускага евангельскага руху, прабіваецца на Валадарку да Сяргея Каваленкі, які памірае за бел-чырвона-белы сьцяг…

Сабіла гаворыць важка, вытрымлівае паўзы, і гэтыя паўзы цяжкія, як ягоны спакутаваны, але спакойны позірк спадылба, — каб да слухача дайшло.

— Набліжаецца мой час стаць перад Госпадам, — ціха, павольна, але так, што мурашкі па скуры, выгаворвае Эрнст Канстанцінавіч, — і ўжо адчуваю: сьвет рыхтуецца да таго, хто прыйдзе перад Хрыстом. Антыхрыста. Адчуваю вакол гэты дух.

Дух апошніх часоў…

«Мы жывём сярод страшнага народа, які выракаецца сваіх продкаў», — сказаў калісьці Сабіла.

Маладыя і ня вельмі пастары, якія нават ня мысьляць шырынёй народа і глыбінёй краіны, дадзенай ім Богам, якія цураюцца казані на роднай мове, не заўважаюць тых нямногіх, хто, па грудзі ў твані, з астатніх сіл трымае на сваіх плячах і ўсю Беларусь, і іх саміх.

Глядзіш на Сабілу і думаеш: здужае…

Але вытрымаць такі крыж чалавеку пад сілу толькі тады, калі ў ягоным знадрыўным сэрцы, у ягоных зраненых руках, у ягоных напружаных жылах жыве сам Збаўца. Бог Скарыны, Сапегі, Сабілы — Ісус Хрыстос.

*24 сакавіка 2012 г.*

## XXV. ЗАРОК

*Цьверазейце, чувайце,*
*бо супраціўнік ваш д'ябал*
*ходзіць, як рыклівы леў,*
*шукаючы, каго праглынуць.*
***I Пятра 5:8***

Наш кіроўца, мужык талковы, у одуме. Усё зьбілася з тропу: машына ламаецца, у сям'і раптам бязладзьдзе, начальнік бяз дай прычыны надоечы вызьверыўся. Карацей, жыцьцё дало расколіну. Раіцца: маўляў, ты ж вернік, ведаеш — можа, гэта з-за таго, што я расьпяцьце без цьвікоў набыў?.. Аказваецца, днямі ў краме да яго падышоў нейкі п'янтос, ледзь трымаецца на нагах і просіць: купі, за бутэльку. Расьпяцьце матчына, хіба што дзіркі замест цьвікоў… Глядзіш кіроўцу ў трывожныя шырокія зрэнкі і бачыш адну чорную дзірку.

Безь цьвікоў укрыжоўваюць, Госпадзе. Прапіваюць і спадчыну, і розум, і душу — калі б маглі, і Цябе прапілі б.

Тут, сярод замкаў ды пушчаў, п'юць, жлукцяць, квасяць, гасяць, бухаюць, заліваюць горла — бо зеўрае, зеўрае чорная дзірка ў сэрцы, а сьвятое месца пустым не бывае. Рабочыя, вяскоўцы, «хімікі»… Ня так адчайна і жорстка, як у Малым Сітне з «максімкай», але грунтоўна, пасьлядоўна, засяроджана, зь яўнай мэтай калісьці дапіцца-такі.

А гэта ж ня дзе-небудзь, менавіта тут, у беларускай глыбіні, у 1846–1848-м пачаўся знакаміты Пружанскі антыалкагольны рух, які даў першы штуршок небываламу паводле размаху ацьверазеньню ў 1850-я па ўсёй Расейскай імпэрыі.

Пра гэты самы «пружанскі бунт» як пачатак найбуйнейшай агульнарасейскай кампаніі абстыненцыі з гонарам паведамляе, між іншым, Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта РБ — і рэкамендуе выкарыстоўваць такі факт, уявіце сабе, на лекцыях «адзінага дня інфармаваньня». Вядома, аднэй рукой, праз капеечную гарэлку, піўную рэкламу і батарэю бырла, падліваюць ды падліваюць (і ня тое што закусіць — занюхаць не даюць), а другой, заграбаючы грошы ў касу, часам усплёскваюць: авохці, бяда!... вой, што твораць… П’юць жа, паскуды, ну што ты ім зробіш!..

Усё пачалося ў 1846-м у мястэчковых прыходах ды парафіях, зь нейкім веяньнем духу. Рэй вялі сьвятары. Хопіць піць!.. Вёска за вёскай на заклік бацюшкі ці ксяндза беларус станавіўся перад алтаром ці абразом і заракаўся: болей не дакранацца да сьпіртнога. Так і ўяўляеш: глядзіцца чалавек у абраз — і вобраз і падабенства Божае ажываюць у ім самім.

А між тым *зарок* быў злачынствам: закон Расейскай імперыі забараняў даваць нейкія клятвы, апрача прысягі цару.

Масавае ацьверазеньне ахапіла сьпярша гістарычную Літву: на Гарадзеншчыне зарок далі 220 тысячаў сялянаў, на Віленшчыне — 140 тысячаў, на Міншчыне — 84 тысячы. Вакол цэркваў ды касьцёлаў ствараліся таварыствы ці брацтвы цьвярозасьці. Кабакі зачыняліся праз адсутнасьць прыбытку; чыноўнікі паўсюдна адзначалі рэзкі ўздым сьвядомасьці і да-

брабыту. І вось ужо шэф жандараў дакладае Аляксандру II: «Здарылася ў нас падзея, зусім нечаканае…»

Зь беларускіх земляў і Ковеншчыны рух цьвярозасьці перакінуўся на суседнія — і ўрэшце да канца 1850-х гадоў ачомаліся 32 губерні Расейскай імперыі. Цьвярэзьнікі засноўвалі свае школы, прытулкі, стваралі касы ўзаемадапамогі — і, быццам з зародку, з зароку перад Богам стыхійна нараджалася самакіраваньне. Месцамі адмова ад віна і гарэлкі прывяла да бунтаў: абураныя мужыкі грамадой громілі манапалькі. Урад, напалоханы размахам непадуладнага руху і стратай каласальных грошай (імперскі бюджэт трэснуў па швах), выправіў на падаўленьне непітушчых рэгулярныя войскі. Звыш 11 тысячаў актывістаў руху былі арыштаваныя, бітыя розгамі і высланыя ў Сібір (зь іх 780 — у беларускіх губернях).

Ані Раманавы, ані бальшавікі, ані Лукашэнка не адступілі ад загаду Івана Жахлівага: спойваць. Ня будуць піць? Адключым газ.

«Ну, першы тост за Галоўнакамандуючага, ты ў курсе», — напаўголаса папярэджвае начальства пружанскіх вайскоўцаў на 23 феўраля. І тады, і цяпер дэманстратыўна ня выпіць было выклікам. Толькі ходзіць, бродзіць нехта вакол, кружыць, як рыклівы леў, шукаючы, каго б праглынуць нагбом.

Пружанскія сяляне ўжывалі віно і хлеб у Прычасьці — і прымалі Кроў і Плоць Хрыстовыя. Сёньня віно бяз Бога і хлеб зь відовішчамі ператвараюць беларуса ў жывёлу.

Няўжо лёс беларускай глыбіні — дапіць горкую чашу да дна, да поўнай п’яненькай рабскай павіннасьці, да выраджэньня асноўнай масы народа, да нацыянальнага гена алкагольнай залежнасьці?

Ды ня ўтопім мы нічога і нікога ў тае чарцы, апроч саміх сябе.

«Кадзіроўкі» ды палітінфармацыі — хіба апахмелка апасьля дзяржаўнай палітыкі спойваньня. А вось масавы рух, пачаты Царквой, у спалучэньні з падтрымкай сям'і і моладзевай модай на цьвярозасьць — насамрэч куды большая пагроза для існага рэжыму, чым уся сёньняшняя апазіцыя.

Таму зблявацьь чорта, каторы ў глыбіні беларускай душы сушыць, і пячэ, і смокча, і ссе, можна адным-адзінюткім спосабам, ужытым простымі пружанцамі 165 гадоў таму, — не адкаркоўваць новую нуль-пяць, а адчыніць душу Богу.

*31 сакавіка 2012 г.*

## XXVI. СЬМЕРЦЬ І СЬЦЯГ

*Калі ж тленьне гэтае*
*апранецца ў нятленнасьць*
*і сьмяротнае гэтае*
*апранецца ў несьмяротнасьць,*
*тады збудзецца слова напісанае:*
*«Паглынута сьмерць перамогаю».*
***І да Карынфянаў, 15:54***

Пасьля сарака дзён галадоўкі з чалавека пачынае сыходзіць жыцьцё. Тонкае на прасьвет цела, зь якога разам з наедкам зьнікае ўсё набытае, трапечацца па хадзе на касьцях, бы сьцяг на тронках, — і застаецца толькі сутнасьць. Тое, чым чалавек ёсьць.

Вось чаму Ісус сорак дзён нічога ня еў, каб вытрымаць д'яблавы спакусы.

А беларуса Сяргея Каваленку, які галадае на сьмерць за бел-чырвона-белы сьцяг і волю, вязуць у вар'ятню.

«Там, на самым версе ёлкі, калі я прымацаваў вуду і адпусьціў вялікі сьцяг, я адчуў, як мая душа ад-

дзялілася ад цела». Так Каваленка расказвае пра той самы дзень, сьвята Нараджэньня Хрыстовага.

Сьцяг у Віцебску быў феерычны. Увесь год аблвыканкам зьбіраў з раёнаў сродкі на ўпарадкаваньне плошчы Перамогі, найвялікшай у краіне. На Новы год тут усталявалі самую вялікую ёлку ў Беларусі. Эх, ёсьць чым ганарыцца!.. І вось 7 студзеня, на плошчы сьвяточны канцэрт, і сярод белага дня, апоўдні бяляві, спартовага целаскладу хлопец перасякае брук, сігае за плот, па-альпінісцку ўзьбіраецца на 35-метровую вышыню.

І найвялікшая ў краіне плошча ўмомант ператвараецца з плошчы савецкай перамогі ў пляц перамогі беларускай.

Зараз Каваленка бледны-бледны ад голаду. Усё, што засталося ад моцнага нашчадка колішняга вялікалітоўскага каваля, крутаскулага, з масіўнай сківіцай сапраўднага байца, героя з горада Альгерда, Шагала, Мірона, — палатніна белага цела і кроў, у якую гвалтам колюць глюкозу.

Чалавек-сьцяг ператвараецца ў чалавека-сьмерць.

Тут, у камендзе, Каваленку часам блытаюць з Кавалёвым — ну, гэты, як яго, зь Віцебска, каторага расстралялі…. І, разабраўшыся, спачуваюць як свайму брату-«хіміку»: правёў сына ў Лядовы палац пасьля 19:00 — парушэньне і ў турму. Таго, хто гатовы аддаць жыцьцё за бел-чырвона-белы сьцяг, паважаюць. Але не разумеюць.

А ці разумеем мы?

Тое, што Каваленка памірае пры нашай агульнай млявасьці ды абыякавасьці да ягонага жыцьця, — гэта нацыянальная ганьба.

Гісторыя чалавека-сьцяга, а гэта, паверце, ужо самая сапраўдная беларуская гісторыя, — сёньняшні адказ на пытаньне: ці верым? Ці можам? Ці пераможам?

Бо насамрэч наш бел-чырвона-белы сьцяг — гэта і ёсьць самы ясны на сьвеце сімвал перамогі жыцьця над сьмерцю. Даўгая льняная палатніна, у якую загортвалі цела памерлага ў Палесьціне. Белая з крывавай паласою.

Хрыстос паміраў за нас — і па Ўваскрасеньні пакінуў нам бел-чырвона-белы сьцяг як знак Сваёй перамогі.

Мы пазнаём яго ў штандарах хрысьціянскіх краінаў — Англіі, Швейцарыі, скандынаваў, Польшчы, Грузіі, у бел-чырвона-белых стужках патрыярхаў і нават на гербе РПЦ. Ад белых, чырвоных і белых хваляў сэрца захлынаецца сьвятлом, пяшчотай і воляй.

І вось у Вялікі пост, у тыднях цярпеньня і пакуты, расьцятая на турэмных прасьцінах, памірае душа Сяргея Каваленкі.

Мы блытаемся ў сеціве, спрабуем вырвацца і ўвесь час тыцкаемся ў тое, што паміраць за Беларусь — дарма, а жыць дзеля яе немагчыма. Наракаюць: Каваленка занадта рэзкі, няправільна сябе паводзіць, ня слухае ані родных, ані кіраўніцтва сваёй партыі, і ўвогуле, самагубства — грэх… Але мы ня маем права асуджаць яго. Толькі на волі можна спрачацца зь Сяргеем, пераконваць, даводзіць. А зараз адзіна магчымы спосаб дзеяньня для нас, тых, за каго і памірае Каваленка, — ціснуць на рэжым, а не на Сяргея. Даць чалавеку-сьцягу годна з гэтай сьмяротнай галадоўкі выйсьці.

Ці хоча жыць Каваленка, бацька дваіх дзяцей, муж, беларускі патрыёт? Канечне, хоча.

У свой час, галадуючы больш як 50 дзён, Аляксандр Казулін дамогся таго, каб беларускае пытаньне было вынесена на разгляд Рады Бясьпекі ААН.

Дзеля жыцьця беларуса адна звышдзяржава —

ЗША — паставіла на парадак дня тэму Беларусі, а іншая ядзерная дзяржава — Расея — была вымушаная гэты разгляд блакаваць.

Дзякуй Богу — Казулін застаўся жывы.

Глыбокі беларускі супраціў заўжды адчайна ахвярны. Пад кропельніцай, прывязаны да ложка, паміж жалезнымі дзьвярыма з вочкам і закратаваным небам пакутліва і балюча Каваленка аддае сябе. Па кроплі — кожнаму з нас. І цяпер кожны дзень жыцьцё Каваленкі мусіць стаць днём бел-чырвона-белага сьцяга. Хаця б аднаго сьцяга штодня.

Думаю, Каваленка даможацца выніку, вартага галадоўкі не на жыцьцё, а на сьмерць. І будзе жыць.

І тады ў сьветлыя велікодныя дні і для яго самога, і для кожнага з нас стане трошкі ясьней, як паміраў на крыжы і як уваскрос пад бел-чырвона-белым сьцягам, каб жылі мы, Сам Госпад Бог.

*7 красавіка 2012 г.*

## XXXVIII. ІСКРЫ НЕРАСКАЯНАСЬЦІ

*...Але калі не пакаецеся,*
*Усе гэтак сама загінеце.*
***Лукі, 13:3***

Паабяцалі мне нашы куплінскія рабочыя стагадовую газету. Няўжо, думаю, дзесьці на белавежскім хутары заціхарылася «Наша Ніва»? Прыносяць, складзеную ў чатыры разы, у пакеціку з-пад сушак. Газета не газета — улётка. Друк аднабаковы. Папера навобмацак цьвёрдая, колеру бэжавага, добрая, унізе выходныя дадзеныя па-нямецку: Лейпцыг. На абароце шарыкавай ручкай нейкі мабільны нумар… І — чорным па белым: «Іскра», № 1, 1900 г.

Падумаў, падробка. Перадрук. І каму яно тут у Пружанах спатрэбілася?.. Але на ўсялякі выпадак прашу паглядзець малецкага краязнаўцу Алеся Кенду. Алесь бярэ на прасьвет, цярэбіць краі — і, бачу, пальцы заўважна пачынаюць трымцець: «Гэта арыгінал».

Першы нумар «Іскры» па маскоўскіх коштах — ад некалькіх соцень да 3,5 тысячы даляраў, у залежнасьці ад стану.

У камендзе іскру камунізму трымаць небясьпечна. Большасьць асуджаных, лічы, жабракі. А тут такі, выбачаюся за каламбур, капітал. Спакуса.

…Калі з боку Пружанаў уязджаеш у былы вайсковы гарадок Куплін, пасьля разбуранага КПП цябе сустрэне стод правадыра сусьветнага пралетарыяту з растрэсканым тварам. Аблуплены, ля памыйкі, поруч з шыльдай «Прием овощей», Ленін прымружана азірае сваю разварочаную бункерамі ды фермерамі, зарослую бур'янам спадчыну, рыхтаваную дзеля планетарнай рэвалюцыі.

Камунізм, здаецца, ляснуў, а ідал стаіць.

Чакае.

Бо камуністычная спадчына тут, у беларускай глыбіні, — ня толькі помнікі ды сатанінскія пентаграмы, ня толькі паўсьцёрты тэкст гімна СССР на крывава-цагляным фасадзе пружанскага тэхнікума па вуліцы Чырвонаармейскай.

Усё нашмат глыбей — у душы, якая з чатырох галоўных арыфметычных дзеяньняў ня можа ані «дадаць», ані «памножыць», а ўсё хоча «адняць» і «падзяліць»; у бездані быцьця, якое вызначае сьвядомасьць, у пустаце духу.

Мігціць, дыміць, быццам жар на тарфяніку… Раптам зірнеш, а вакол у вачах большасьці — рабочых, міліцыянтаў з «зорачкамі», асуджанай пралетарскай галоты, «чырвоных» калгасных начальнікаў — усё гэ-

так жа іскрыцца навуковы атэізм, знаёмая нянавісьць да «прыватніка», агіда да царквы, грэблівасьць да інтэлігенцыі ды невыносны сум па сусьветным савецкім страху.

Камуністы… Крок наперад, два крокі назад.

Іскры страшэннага зла, што ўспыхнула тут стагодзьдзе таму, і занялося ўсечалавечым пажарам, і вынішчыла цэлыя народы і краіны, і спапяліла мільярды сэрцаў ад Расеі да Афрыкі, ад Кубы да Кітая, дагэтуль тлеюць у кожным з нас: яны нікуды ня дзеліся. Нельга падманвацца: з камунізмам ня скончана. Ня трэба думаць, што мы як народ ці кожны з нас ад яго вольныя.

Нецярпімасьць да чалавечай асобы, спалучаная зь цярпімасьцю да зла, гэткая каінава пячатка бальшавізму — ці ня іх мы бачым у жыцьці большасьці беларусаў скрозь і побач?..

А бязбожжа, то ваяўнічае, то абыякавае, непрыманьне ўсяго, зьвязанага з Хрыстом, на руінах дыялектычнага матэрыялізму?..

А зайздрасьць да суседа, нянавісьць да заможнага, да чужой уласнасьці?..

А калектыўная безадказнасьць, што сярпом ды молатам кроіць і крышыць краіну і ва ўладзе, і ў апазіцыі?..

А абагаўленьне чалавека — або ўсе мы ведаем якога, або самога сябе?..

Не, як народ мы не пакаяліся.

У зьнішчэньні людзей, у якім беларусы масава ўдзельнічалі за саветамі, у выкараненьні царквы і сьвятарства (чаго вартыя адны гісторыі пра разбуральнікаў храмаў, вядомыя ці ня ў кожнай вёсцы), у вырачэньні ўласнай мовы і культуры…

Нават у гэтым!

Чаму немцы, унукі жаўнераў вермахта, прыязджа-

ючы ў Беларусь, плачуць у Хатыні, а мы робім сьметнікі, палім вогнішчы ды выгульваем сабак на месцах сталінскіх расстрэлаў?..

Што ўжо казаць пра пакаяньне ў абыякавасьці да зла, маўчаньні і бязьдзеяньні, у недапамозе і забыцьці?..

Прычына правалаў усіх пачынаньняў апошніх 20 гадоў — ад дэмакратызацыі і беларусізацыі да ўсялякіх яднаньняў і адраджэньняў — у адсутнасьці нацыянальнага пакаяньня. Мы асуджаныя вяртацца да камунізму, да бязбожжа ў розных абліччах — да той пары, пакуль не пакаемся. Гэта — найважнейшы духоўны закон. Закон жыцьця. Інакш няма чаго здзіўляцца: зямля, набрынялая неспавяданай, нераскаянай крывёю, штогод будзе даваць толькі дым і попел.

Думаеш, каб беларусы нарэшце сталі нацыяй, дастаткова выплочваць кожнаму 500 даляраў на месяц?.. Ці, наадварот, не атрымаўшы $ 500, усім разам выйсьці на Плошчу?

«А мне-та за што каяцца?!.» — ня проста абурыцца — вызьверыцца беларус.

Страх, здрада, бязвольнасьць, агульная млявасьць і абыякавасьць да жыцьця, ды ўрэшце нармальнасьць граху ўжо так прарасьлі ва ўсіх кутках нашай істоты, так пашкодзілі пухлінамі і метастазамі тканкі ды органы, што выціснуць зь сябе раба па кроплі, як прышчыкі на твары, — не-а, ня ўдасца. Толькі балюча, да надрыву, да горкай жоўці выбляваць з самага сэрца праз пакаяньне.

Яшчэ жывыя відавочцы галадамору, сталінскіх чорных начэй з «варанкамі», курапацкіх стрэлаў, ад якіх лопаліся патыліцы… Для іх ясьней яснага: д’яблавы чырвоныя зоркі — усё гэта з распаленых глыбіняў самога пекла.

Для іх ясна. А для нас?..

Загасіць, затушыць тут, у Беларусі, іскры нераскаянасьці можа адно Той, Хто асудзіў ворага роду людскога навечна гарэць у возеры вогненным. Толькі Госпад Бог.

*14 ліпеня 2012 г.*

## XXXIX. КАРТУЗ-БЯРОЗА

*А Я кажу вам: любіце ворагаў вашых,*
*дабраслаўляйце кляцьбітоў вашых,*
*рабіце дабро ненавісьнікам вашым*
*і маліцеся за крыўдзіцеляў вашых*
*і ганіцеляў вашых.*

***Мацьвея 5:44***

Бяроза — горад з вырваным сэрцам.

Старое места Бярозы — зьнішчаны кляштар манахаў-картузіянаў. Вялізная руіна разбуранай крывава-цаглянай сьцяной агароджвае пустку, поўную забытага гвалту і пакутаў на некалькі стагодзьдзяў углыб.

Гэтак жа, ранай у сэрцы, зеўрае і бліжняе Берасьце з крушнямі крэпасьці, і разварочаная Горадня, і стары Менск.

Але Бяроза — выпадак асаблівы. Аддаецца рваным болем, калі чуеш тутэйшых: маўляў, Бяроза Картузская — гэта ад картуза, які павесіў на прыдарожную бярозу ці то Пётр I, ці то Сувораў.

Насамрэч Бяроза як горад пачыналася вакол кляштара Сьвятога Крыжа. У 1648-м Казімір Леў Сапега, сын славутага канцлера ВКЛ, выдаткаваў 10 тысячаў чырвоных злотых закону картузіянаў — самаму строгаму з усіх каталіцкіх. Манахі ордэна, заснаванага ў 1084-м сьвятым Бруна ў французскай пустэльні

Шартроз (Cartusia), давалі зарокі маўчаньня, фізічнай працы, увесьчаснай малітвы, посту — і поўнай самоты. У мурах кляштара для манахаў прызначаліся адмысловыя *эрэмы* — глухія кельлі з таўшчэзнымі сьценамі: нават ежу самотнік атрымліваў праз адтуліну з двума паваротамі, каб ні з кім не сустрэцца.

Велічны барокавы ансамбль з касьцёлам і дазволам на кірмашы зрабіўся асновай мястэчка: неўзабаве Бяроза мела два цагельныя заводы, пяць млыноў, вяла гандаль сольлю, хлебам і мёдам, віном і півам.

Ці прадчуваў Казімір Леў Сапега, глыбокі вернік, містык, які вучыўся ў чатырох эўрапейскіх унівэрсітэтах і быў пахаваны ў паўднёвай сьцяне кляштара ў 1666-м, што будаваў для сябе магілу, а для беларусаў — Крыж?..

Ціхамірнае жыцьцё скончылася з расейскай акупацыяй.

У 1823-м царскія чыноўнікі спрабавалі засудзіць кляштар за тое, што быццам бы выдаткаваў паўстанцам Касьцюшкі мільён злотых. А ў 1831-м, выставіўшы трох манахаў як удзельнікаў чарговага паўстаньня, кляштар зачынілі, ягоныя землі сканфіскавалі, а лісты медзі з даху адправілі на будоўлю праваслаўнай царквы ў Горадні.

У кляштарных мурах разьмясьціўся расейскі полк. Бярозу Картузскую перайменавалі ў Бярозу Казённую.

Менавіта гэтыя расейскія казармы ля руінаў старога кляштара ў 1930-я ўлады II Рэчы Паспалітай прыстасавалі пад турму для соцень беларускіх і ўкраінскіх камуністаў ды незалежнікаў.

Пасьля гучнага забойства дзеяча «санацыі», міністра ўнутраных справаў Польшчы Перацкага 15 чэрвеня 1934-га прэм’ер Леон Казлоўскі пры падтрымцы Юзафа Пілсудскага дамогся распараджэньня

прэзідэнта Ігнацыя Масьціцкага — і ў краіне «залатой вольнасьці» запрацаваў першы канцэнтрацыйны лагер на ўзор сталінскіх ды нацысцкіх. Месца, дзе дазвалялася катаваць людзей без суда і сьледства.

Пабудка — а 4-й ранку. 6:30 — баланда. Увесь дзень стаіш тварам да сьцяны пад наглядам.

Ноч — кладзесься на падлогу, але кожныя паўгадзіны — пад'ём і праверка. Зьдзеклівая гімнастыка па сем гадзінаў запар, да мленьня.

Усе загады выконваць бегма. Размаўляць забаронена — карцар. Прыбіральня — раз на дзень, агульная для ўсіх, на некалькі секундаў, пасьпееш толькі зьняць ды надзець порткі. Правініўся — чысьціць выграбныя ямы голымі рукамі (мыць потым забаронена). Бессэнсоўная егіпецкая праца: капаць і засыпаць ямы, перасоўваць зь месца на месца цяжкія камяні кляштарнай муроўкі… Адмаўляесься?.. Ад пяці да пяцідзесяці ўдараў у твар.

І клічуць цябе цяпер — «быдла».

Галоўная мэта — прынізіць дашчэнту, давесьці да скрайняга зьнемажэньня і зламаць. Людзі паміралі, выходзілі зь Бярозы калекамі ды вар'ятамі. Расказваць пра ўмовы ўтрыманьня было забаронена пад страхам вяртаньня ў «кляштар».

Празь пекла Картуз-Бярозы прайшлі тысячы беларусаў, падазраваных у супрацы з КПЗБ і БХД, у тым ліку адзін зь лідараў хадэкаў, праваслаўны багаслоў і сенатар польскага Сейма Вячаслаў Багдановіч, рэдактар часопіса «Шлях моладзі» і аўтар кнігі «Беларусь учора і сёньня» Язэп Найдзюк, а таксама правадыры ўкраінскага нацыянальнага руху: атаман Украінскай Паўстанцкай Арміі Тарас Баравец і камандуючы УПА Раман Шухевіч.

Што ж зрабіла савецкая ўлада на месцы польскага канцлагера, у якім нішчылі камуністаў?.. Зноў казар-

мы, ды яшчэ са сьвінарнікам. У сутарэньнях, дзе былі пахаваныя Сапегі, гніла бульба. І — чаканная фраза краязнаўца: «Толькі ўлетку 1989-га з кляштара былі выведзеныя сьвіньні Мінабароны СССР».

Бяроза — гэта беларускі пароль з Нагорнай казані, Евангельля паводле Мацьвея, 5:44: «Любіце ворагаў вашых…»

Бо як інакш жыць побач з суседзямі, якія разбуралі твае храмы, вешалі найлепшых людзей твайго роду, каталі тваіх сьвятароў і паэтаў, прымушаючы капаць ды засыпаць ірвы, крычаць ад удараў палкамі ды ботамі, поўзаць на каленях па бясконцай, усыпанай бітай цэглай і шклом крывавай дарожцы?..

Гэтак жа ненавідзець? Высочваць час, каб урэшце адпомсьціць? Выхоўваць дзяцей са смакам крыві на вуснах?..

Але як можна забыцца, калі твае бліжнія дзеля абароны сваёй свабоды і годнасьці топчуць ды забіваюць цябе?

Не, прабачэньне — гэта не забыцьцё. Прабачаеш — гэта калі бярэш увесь боль на сябе і аддаеш яго Богу. Калі надсілу, як цяжка б гэта ні было, расхінаеш уласнае сьцятае сэрца для аднаўленьня адносінаў, да вызваленьня ад пекла ўсярэдзіне. «Хіба я не зьнішчаю ворагаў, калі ператвараю іх у сяброў?..» — спытаўся калісьці адзін мудры ўладар.

«Не будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром», — паўтарае апостал тым, хто не зразумеў пра ворагаў зь першага разу.

Мы нават не ўяўляем, як гэта…

Любіць, днямі да атупеньня і страты прытомнасьці стоячы перад каменнай сьцяной.

Любіць, калі цябе лупяць па твары, бо дапамог падняцца таварышу. Любіць, калі рукі, запэцканыя ў кале, трасуцца і рассыпаюць крохі лагернай пайкі

хлеба. Любіць, калі, ашалелы, ледзь перастаўляеш змачаленыя да косьці кульці-калені па нясьцерпных зубах бітага шкла…

Любіць палякаў, расейцаў, немцаў… і саміх сябе — забыўлівых, абыякавых, запалоханых беларусаў.

Калі мы ня хочам жыць на гэтай зямлі са скрываўленай вырванай пусткай замест сэрца — кожнаму з нас трэба вучыцца любіць. Любіць настолькі моцна, як Той, Хто прыняў на Сябе ўвесь наш грэх і ўвесь наш боль на Крыжы.

Каб «Бяроза» аддавалася ў грудзях не пагрознай злосьцю, а гулкім кляштарным рэхам: «Бог ёсьць любоў».

*23 ліпеня 2012 г.*

## XLI. РВАНЫЯ РАНЫ ВОРЫВА

*Пяты анёл затрубіў,*
*і ўгледзеў я зорку,*
*што ўпала зь неба на зямлю,*
*і дадзены ёй ключ*
*ад калодзежа бездані.*
***Адкрыцьцё, 9:1***

Куплінскі склад аўтазапчастак, на якім мне даводзіцца працаваць за трыста метраў ад каменды, найбольшы ў Пружанскім раёне. У былым танкавым ангары на 400 квадратных метраў — жалеза да трактароў «Беларус», «МАЗаў», савецкіх грузавікоў, сельгастэхнікі; падшыпнікі, фільтры, рамяні ды шлангі розных калібраў, эмалі, гаруча-змазачныя матэрыялы, разнастайныя інструменты — ажно да аптэчак і электрапастухоў. Калгасы раёна, калісьці перайменаваныя ў ААТ, затаварваюцца менавіта тут.

Склад — гэта звыш чатырох тысяч найменьняў, дзе памылка ў нумары акумулятара ці трактарнай шыны будзе каштаваць табе месячнага заробку; гэта зморанныя, бегма, купцы, інжынеры і механікі; гэта некалькі дзясяткаў сваіх рабочых, чорных ад мазуты і пылу, якім трэба выдаваць снадзіва і рыштунак, а таксама процьма ластавак, што напаўняюць былы ангар шчабятаньнем, лепяць гнёзды ў скрыжаваньнях бетону, віртуозна вылоўліваюць мух ля вокнаў і дзьвярэй і выводзяць маленькіх, якія шэрагам, не раўнуючы ноты, сядзяць на лініях дроту ды пачаргова, быццам у мульціках, вучацца ціўкаць.

Месячны абарот тут ідзе на мільярды, вага жалеза — на тоны, і спаленыя нервовыя клеткі — напэўна, адзінае, што ўліку не паддаецца.

Калгасу, які прыязджае, трэба паказаць, што ёсьць, запісаць выбранае, аддаць накладныя і выдаць, а часьцяком і дапамагчы пагрузіць.

Жалезная плынь.

Дзякуй Богу, кладаўшчык — баптыст Слава: за парадак можна не хваляваццa. Брат Слава прайшоў і турмы, і бамжаваньне, пакаяўся, прыняў Хрыста — і цяпер адзін з кіраўнікоў тутэйшай памеснай царквы. Дапамагае галоўны інжынер Максімавіч — сьціплы ды ўсьмешлівы беларус-тэхнар зь вёскі Забэйды-Суміцкага, знаўца ўсяго неверагоднага жалезьзя, вечна на тэлефоне, на запраўцы або ў майстэрнях…

Але сам, маючы з тэхнікі хіба што ровар, часам зьнемагаеш ад атупеньня.

А Госпад жа папярэджваў… У СІЗА КДБ тры месяцы прапускаў міма вушэй бясконцыя аповеды галоўнага інжынера МТЗ пра карданы, рэлюшкі і гідрацыліндры — і вось трапляеш акурат туды, куды едуць па запчасткі для 850 «Беларусаў»!

Большасьць усяго металу, гумы ды хіміі са складу

сыходзіць *у малако*: менавіта «малочка» дае 9/10 экспарту Пружанскага раёна. Трактары, сеялкі ды касілкі працуюць на кармах і збожжы для фермаў; шлангі, вёдры ды вілы ідуць наўпрост у кароўнікі; грузавікі развозяць малако па гіпермаркетах.

Прыязджаюць тыя, каго гараджане мімаходзь называюць «калхозьнікамі», — няшчасныя, дабрадушныя і простыя сімпацягі: то стрыманыя, то жартуны, то змрочна-засяроджаныя, каржакаватыя дзядзькі або асаністыя маладзёны з густымі брывамі ды галасамі, кожны зь непаўторнай паляшуцкай ці ліцьвінскай гаворкай — адразу ўяўляюцца дрэвы, выкарчаваныя дзесьці ў пушчы!..

Размаўляеш — і разумееш: калгасы, што засталіся на Пружаншчыне, або выцягваюць за кошт колішніх пракаповіцкіх уліваньняў Нацбанка, або выязджаюць на некалькіх трывушчых беларусах-працаголіках, прыроджаных земляробах, хто яшчэ ня сьпіўся; імі затыкаюць усе дзіры. У стратнай, друзлай, яшчэ саўковай сістэме апошні запас — унутраная, валовая тутэйшая працавітасьць.

Невынішчальныя, вечныя беларусы, зьнявечаныя калектывізацыяй ды атэізмам, яны ўсё захоўваюць у кутках вачэй, у вуснах, у цяжкім маўчаньні сваю беларускую таямніцу — як удаецца выжыць, карміць горад ды трымаць для дзяцей і ўнукаў дзесь глыбока-глыбока гарчычнае зерне надзеі.

А гаспадарыць на беларускай зямлі па-ранейшаму сталінскі калгас.

З размоваў з інжынерамі высьвятляецца, што львіная доля трактароў у гаспадарках стаіць; што ў галандскіх комплексаў, закупленых на фермы за вялізныя грошы, зімой замярзаюць паілкі (не разьлічылі — іншы клімат); людзі саромеюцца нават казаць, колькі зарабляюць; крадзеж, п’янства, безадказнасьць —

норма; гісторыі пра калецтвы і сьмерці (таму тэхніка на полі раструшчыла косткі, той упаў у жатку, таго забіла токам) несканчоныя… і ўсе, усе згаджаюцца, што ўсім усё абыякава.

Вёска нават тут, у Заходняй Беларусі, як жывы арганізм — гніе.

Зь зямлі рвуць тое, што аддасьць. Гвалтам. Бо трэба вал. Бо (гарачы кам. прывет) — загад.

Пастѹпае каманда: 20-га сеяць! І хоць аграном ведае, што зямля яшчэ не адтаяла, што палова плошчаў — яшчэ балота і сеяць па загадзе — значыць гробіць тэхніку і насеньне, дзецца няма куды: на палях ужо кантралёры, і гора тым, хто ня вывеў трактар на пашу. Клянуць начальства і асабіста вярхоўнага галоўнакамандуючага — і едуць у Куплін закупаць плугі, трактарныя карданы ды генератары: ведаюць, што дурных паломак ды перасеваў будзе да горла.

Уборка? Зноў: усе на бязьлітасную барацьбу з ураджаем.

Або «семінары» (раённыя ці абласныя накачкі з выездам на палі ўзорных гаспадарак). За два-тры дні да «семінара» замест 10–12 калгасаў штодня прыязджае па 15–20 і разьмятаюць фарбу, шчоткі, рыдлёўкі, вілы ды лямпачкі — каб, раптам што, было чыста і мігцела.

На куплінскім складзе рваны рытм калгаснага жыцьця, бы хвароба сэрца, толькі аддаецца знадрыўным, зь перабоямі, грукатам жалеза.

Краіна Беларусь — адна з найбагацейшых зямлёю ў сьвеце: плошча ворыва на душу насельніцтва — амаль 0,7 га.

Але пакуль бязбожжа — Беларусь бяз збожжа. Ані пабытавай сялянскай веры, ані прыватнай уласнасьці — а інакш у зямным жыцьці ніяк.

У ворыва па-ранейшаму няма гаспадара.

У людзей па-ранейшаму няма волі.

Па-ранейшаму дае свае ўсходы кроў, пралітая падчас калектывізацыі: раскулачаныя, сасланыя, забітыя, замораныя голадам; разрабаваныя сем'і, закінутыя вёскі… Колькі яшчэ пяцігодак зямля будзе вывяргаць, выціскаць зь сябе, выкідаць разам зь неўраджаямі боль і выпладні таго гвалту?

Даваць беларусам горкі хлеб з прысмакам крыві і поту?

Зразумець бы гэта мілым, зьдзіўленым і спакутаваным інжынерам…

А нам, гарадскім едакам, — убачыць бы, як часам дажджамі плача над гэтай зьнявечанай ірванымі ранамі зямлёю Бог…

*4 жніўня 2012 г.*

## XLV. АДКРЫЦЬЦЁ ХРЫСТА

*Бог, Які сказаў зазьзяць*
*зь цемры сьвятлу,*
*азарыў нашыя сэрцы*
*пазнаньнем славы Божай*
*у асобе Ісуса Хрыста.*
***II да Карынфянаў 4:6***

Спытай беларуса пра Бога — і ўбачыш чалавека, які раптоўна прачнуўся. Усхапіўся, таращчыць вочы і не разумее, дзе ён.

«Ісус?.. — крыва ўсьміхаецца, блішчыць залатым зубам муляр Лёнь, павольна ачомваецца. — А… Ён мне не перашкаджае».

«Ці веру… я… у Бога?.. — задуменна, па складах, спрабуе «ўехаць» токар Валянцінавіч. — Гэта пы-

таньне, як табе сказаць… якое навука яшчэ… точна не ўстанавіла».

«Не, штосьці-то ё, — зваршчык Анатоль апускае вочы, цяжка думае, чухае сівую галаву і пераключаецца ўбок. — Але — ну дзе справядлівасьць, а?! Вось паглядзі…»

Асэнсаваньне прабіваецца на тварах скрозь забыцьцё, павольна, ненадоўга — і на нейкі момант у вачах праблісквае водсьвет чагосьці сьветлага, прыгожага… Страчанага…

Так хочацца, каб яны не аплывалі зноў у сваю змрочна-зморшчаную кому!

Але — махне рукой, адвернецца ці выдыхне: вось такія, маўляў, пірагі — і брык. Зноў напаўжывы.

Мы вечна губляемся, пачуўшы самае важнае пытаньне. А між тым, штотыдня паўтарае наш баптыст-гарманіст, каторы прапаведуе ў камендзе, гэта галоўнае — вызначыцца, дзе ты хочаш правесьці вечнасьць.

У справах жыцьця і сьмерці нават няверуючыя набываюць прытомнасьць перад Ім.

Але, быццам у вадзе, у іншай стыхіі — а ці можна тут хаця б дыхаць?! — спохапам надзімаюць шчокі, мычаць ды ліхаманкава кубатураць, куды б адсюль дзецца.

Заўсёды, калі рэч у праўдзе, свабодзе, справядлівасьці, заўсёды, калі час надломваецца ў змаганьні дабра і зла, калі людзі пакутліва напружваюцца, высільваюцца, церпяць з астатніх сіл і пад невыносным напорам граху і гвалту здаюцца — усяму народу даводзіцца кожны раз наноў адкрываць адну простую і глыбокую ісьціну. Чалавечымі сіламі гэта адолець немагчыма. Сумарнага зараду зла, якое тоіцца ў сэрцы кожнага з нас, насамрэч хопіць, каб у трэскі разьнесьці ўсю Беларусь. І цемра ўнутры чалавека, не

пераможаная Богам, будзе тлець роўна столькі, колькі трэба для канчатковага вызначэньня: хочам мы вечнага жыцьця — ці вечнай сьмерці.

Аднойчы такое даводзіцца перажыць і чалавеку, і пакаленьню, і цэламу народу.

Гэта адкрыцьцё прыходзіць пасьля вялікага болю, расчараваньня ці спусташэньня, як цуд. Як спатканьне з каханьнем зь першага позірку. Раптоўна. Працінае сэрца так, што ты трапечаш, бы злоўлены матылёк.

І ціха.

Ты раптам спахопісься: у тваім жыцьці Нехта ёсьць.

Ты пазнаеш Яго ў цёплых вачах верніка — напарніка, які бярэцца падмяняць цябе, хворага, на працы; у вінаватых усьмешках жанчын, якія пасьля набажэнства ў царкве абвешваюць цябе пакункамі зь ежай; у раптоўным болі параненага на разгрузцы жалеза «хіміка», які заціскае рукой сіфон крыві і тут жа сьцінае зубы, каб усё-такі ня лаяцца.

Ты пазнаеш Яго ў Беларусі — незямным позірку азёраў, што глядзяцца ў вышыні, у пяшчотнай смузе, якая сьцірае межы зямлі і неба; у міры і супакоі, што закалыхваюць дыханьнем лагчынаў ды ўзгор'яў любую далечыню; у адчуваньні прысутнасьці і пранізьлівай сьветліні; у такіх пакорлівых і такіх патрабавальных вачах беларускіх дзетак.

Ісус з тым, каму цяжка, хто церпіць несправядліва, хто плача ў адчаі. Ісус — зь бясьсілымі. Тымі, хто разумее, што самі зьмяніць мы краіну ня зможам, бо ня ў сілах нават зьмяніць сябе.

Ісус нараджаецца ў нашым сэрцы — Маленькі, зь вераю. Пакутуе ў змаганьні з грахом. Памірае на крыжы нашага цела, калі мы выбіраем зло… і ўваскрасае пад бел-чырвона-белым сьцягам, скрываўленай плашчаніцай — калі мы даём Яму перамагчы.

Выжываньне беларусаў як нацыі залежыць толькі

ад таго, ці набярэцца ўрэшце крытычная маса людзей, гатовых дазволіць выявіцца ў сабе Ісусу Хрысту.

Калі Беларусь адкрывалася Ісусу — яна нараджалася і адраджалася. У X стагодзьдзі, з прыняцьцем хрысьціянства, расквітнела Полацкае княства. Пасьля XII стагодзьдзя, эпохі вялікіх Еўфрасіньні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Аўрамія Смаленскага — расьце і мацнее ВКЛ. У XVI стагодзьдзі з Рэфармацыяй і адначасовым абуджэньнем Касьцёла ды праваслаўя ўспыхвае залаты век Беларусі — са Скарынам, найлепшымі з Радзівілаў ды Львом Сапегам… У XX стагодзьдзі напачатку і напрыканцы — два нацыянальныя Адраджэньні на хвалі духовых абуджэньняў.

Як гэта ні дзіўна, большасьці сапраўдных герояў беларускай гісторыі мы і ня ведаем.

Тых, хто штодня шэптам вымольвае ад зьнішчэньня цэлыя гарады; тых, чые ўлюбёныя Богам сэрцы захлынаюцца крывёю за нас, хворых, жорсткіх, раздражнёных; тых, чые невымернай глыбіні вочы каўтаюць неба, наталяючы ўвесь народ…

Што мы наогул ведаем пра іх? Тое, што яны і сярод праваслаўных, і ў касьцёлах, і ў малітоўных дамах? Тое, што яны і ёсьць празрыстай таямніцай Цела Хрыстова — Ягонай Сапраўднай Царквой? Тое, што яны пазнаюць Ісуса адзін у адным як зьміргнуць — і гэта дае ім слёзы любові і натхнёныя ўсяночныя, пашырае іх сэрцы да памераў цэлай краіны ды распасьцірае перад імі зорныя шляхі?

Колькі іх, сёньняшніх беларускіх сьвятых? Дзясяцера, дзеля якіх Госпад не зьнішчае нашыя Садом і Гамору? Сем тысячаў стоеных, верных Яму, як у гісторыі прарока Ільлі?

Беларусу, які сядзіць у сабе, бы ў зачыненай хаце, дробна калоціцца ад страху ды роспачы ці змучана ные ад бессэнсоўнасьці працы, пара адчыняцца.

Адчыняць дзьверы, у якія Ён дзень і ноч ледзь чутна стукае.

Калі адкрываеш Яму сваё сэрца — у табе самім раптам праглядвае Ягонае.

Калі задыхаесься ад граху — ірві сэрца, як кашулю на грудзях. І расхінай, намаганьне за намаганьнем, справа за справаю, усю краіну, невядомую Беларусь пад белымі крыламі сьцяга Хрыста.

Бо Беларусь збавіць ня снайпер.

Беларусь збавіць Ісус.

*16 верасьня 2012 г.*

## XLVIII. БЯЛЯЦКІ

*...І асьвяціце пяцідзясяты год,*
*і абвясьціце свабоду на зямлі*
*ўсім жыхарам яе:*
*хай будзе гэта ў вас юбілей.*
***Лявіт 25:10***

Галасаваў я ўпершыню ў жыцьці менавіта за Бяляцкага.

Улетку 1994-га, калі ўся наша сям'я пазначыла ў бюлетэнях выбараў першага прэзідэнта Зянона Пазьняка, мне было толькі сямнаццаць з паловай. А ў 1995-м, на выбарах у Вярхоўны Савет, наш студэнцкі інтэрнат насупраць Палаца спорту апынуўся ў акрузе Бяляцкага. Геолагі-першакурсьнікі БДУ, мы самі змайстравалі бел-чырвона-белы сьцяг і пайшлі на сустрэчу з кандыдатам у сквер на пляцы Волі.

Тады для нас, захопленых студэнтаў, гэты малады і сьнежна-сівы, сьціплы і ў той жа час поўны ўнутранага гонару франтавец увасабляў само Адраджэньне.

Потым на соймах, у Музеі Багдановіча, на мітын-

гах Вясны-96 і ўрэшце ў «Вясьне» ягоная нешматслоўная дзелавітасьць і простасьць толькі пераконвалі: у эпоху незалежнасьці хіба зь Бяляцкага і варта пісаць карціну «Беларус».

Гэта ён, дэпутат Мінгарсавета, першым занёс на сесію бел-чырвона-белы сьцяг, каб узьняць яго на плошчы Незалежнасьці.

Гэта ён у 1990-м згуртаваў Беларускую Грамаду — рух, што спрыяў беларусізацыі Касьцёла. Гэта ён узначаліў Літаратурны музей Багдановіча ў Траецкім — сталічны культурны агмень, зь якога многія супрацоўнікі пасьля перайшлі ў «Вясну».

Бяляцкі цярплівы. Гаворыць рэдка, нягучна, але цьвёрда, асабліва не ўгаворвае ды не перапытвае. Сказаў — далей думай сам. Бяляцкі спакойны. Раздражнёным, у гневе, пакрыўджаным бачыць яго не даводзілася. Бяляцкі *белы* — бездакорна сівыя хвалістыя валасы толькі падкрэсьліваюць рэпутацыю.

Памятаю, на фронтаўскіх соймах Бяляцкі выступаў рэдка, больш слухаў і, як ад зубнога болю, моршчыўся кожнага разу, калі чуў пафас, амбіцыю ці фальш. Па-беларуску не выпінаўся, а рабіў, рабіў, рабіў…

І зрабіў.

«Вясна», створаная Бяляцкім, цяпер насамрэч — адзін з найбольш трывалых і жыцьцяздольных арганізмаў падтрымкі незалежнага грамадства.

Рэдкая сярод беларусаў агульнанацыянальная талака дзеля дапамогі ў бядзе сапраўды незаменная. Перадачы вязьням, падтрымка сем’яў, аплата адвакатаў у палітычных справах — Бяляцкі займаўся тым будзённым ды надзённым клопатам, трываласьць і спор якога вызначае моц паняцьця «салідарнасьць».

Заходні сьвет таму і патрабуе хорам вызваленьня Бяляцкага, бо ведае кошт маральнай салідарнасьці,

стагодзьдзямі выхоўванай у еўрапейцаў касьцёлам ды дамамі малітвы.

Якраз на пяцідзясяты дзень народзінаў Алеся мне ў каменду, на агульны таксафон, патэлефанаваў колішні куплінскі «хімік», які паехаў ад нас на бабруйскую «зону» і перасёкся там зь Бяляцкім. Бяляцкаму там цяжка. Чапляюцца да любой дробязі, пазбаўляюць спатканьняў, перадачаў… «Усе ведаюць, што мужык, што церпіць за праўду, — казаў суразмоўца, — але, сам разумееш: толькі падыдзеш парай словаў перакінуцца — у атрадзе выдзернуць і апрацуюць».

У «зоне» Бяляцкі вырабляе міліцэйскія пагоны. Думаю, шмат хто зь ягоных турэмшчыкаў здагадваецца: знак. Лёс іхніх «зорачак» неўзабаве будзе вызначацца тым, праз чые рукі яны прайшлі.

«Час цяпер такі, што праваабаронцу самае месца ў турме», — напісаў Алесь у адным са сваіх лістоў.

Час… І вось сустракае ў «зоне» Бяляцкі сваё 50-годзьдзе. Юбілей.

Першакрыніца паняцьця *юбілею* — Біблія, кніга Лявіт, дзе ідзецца пра сьвятарства і асьвячэньне: на пяцідзясяты год кожны з выбранага Богам народа мусіў вяртацца ў сваё валоданьне і вызваляць прададзеных у рабства. Каб юбілею вызваленьня ўрэшце дачакаўся ўвесь народ — камусьці дадзена лічыць гэтыя гады. Дзень пры дні. Самотна.

У апошнім лісьце, датаваным якраз днём свайго юбілею, 25 верасьня, Алесь згадвае: «Жыцьцё як ранішні туман… Сьцелецца па лагах, то гусьцее, то рвецца на камякі, а як пачынае днець — танчэе, мадзее і зьнікае ўрэшце. І застаецца ад яго пару кропель расы, а потым і яна высыхае. Марнасьць марнасьцяў, рэха ў бясконцасьці, крык птушкі нябачнай…»

Амаль Эклезіяст.

І менавіта гэтым туманам пачынаецца вечнасьць, каторая нас чакае і вымяраецца ўжо не гадамі.

Бяляцкі, празь якога ў пару «Вясны» дапамогу атрымалі тысячы перасьледваных беларусаў, цяпер сам у турме і мае патрэбу ў салідарнасьці. Закон жыцьця. Зараз беларускае нацыянальнае адраджэньне жыве цярпеньнем і пакутай за ўвесь народ.

Але бяз гэтага шлях да вызваленьня беларусам не прайсьці — і каталік Бяляцкі гэта цудоўна ведае.

Бо менавіта так, дарогаю дапамогі людзям, трываньняў і болю да збаўленьня ад зла, да праўды і любові, да перамогі над гвалтам пад белым-белым сьцягам з крываваю паласой калісьці праз Свайго Сына прайшоў па гэтай зямлі Сам Бог.

*15 кастрычніка 2012 г.*

## XLIX. НАШЧАДКІ

*І, паклікаўшы дзіця,*
*Ісус паставіў яго сярод іх*
*і сказаў: праўду кажу вам,*
*калі не навернецеся*
*і ня будзеце як дзеці,*
*ня ўвойдзеце ў Царства Нябеснае.*
***Мацьвея 18:2–3***

Штотыдня ў каменду прылятае процьма рознакаляровых, у кветачкі, лістоў і паштовак, сьпісаных мілымі дзіцячымі почыркамі.

Чароўныя нябесныя, смарагдавыя, рубінавыя, зіхотка-сонечныя матылькі цудоўным чынам віюцца вакол цябе і ўлетку, і ў залатой восені, і нават зімою — і ледзь чутна трапечуць у руках. Лісточкі па-беларуску, зь вершамі ды малюнкамі, і зваротнага адрасу ў

іх ніколі няма — тыя, хто піша, падпісваюцца толькі імёнамі.

Марыя. Хрысьціна. Кірыл. Паліна. Аленка. Віка. Воля.

Кожны лісточак — твор.

Вось на стале, засланым ручніком, — Маці Божая Вастрабрамская, партрэт Максіма Багдановіча і ягоныя кнігі, васількі і запаленая сьвечка. Фотаздымкі прапускаюцца праз каляровую друкарку, выразаюцца і аздабляюцца гелевымі асадкамі з блёсткамі.

Вось «Пагоня». Вось маленькія паштовачкі-складаначкі зь біблейскімі карцінкамі. Калядныя фоты. Музей Белага ў Старых Дарогах. Будзьмаўскія прыгажосьці. Вось цэлыя серыі па 10–20 самаробных паштовак. «На родных вуліцах». Царква, касьцёл. Парк… Сумны анёл на могілках… «Сны аб мінулым». «Дарагія сэрцу сябры». Кветкі: «Летняя ружа». «Валошка». «Ірысы», «Званочкі». «Чабор-2012».

Школьныя закладкі з выявамі беларускіх вандровак.

Малюнак на Грунвальд: вершнік зь мячом і подпіс «Перамога ад Госпада».

«Раство». Маленькі Ісус у яськах. Пастухі, мудрацы. Марыя і Іосіф.

«Вялікдзень» — Хрыстос уваскрасае і выходзіць з магілы пад белым з чырваньню сьцягам…

Месца, дзе жывуць маленькія беларусы і беларусачкі, — вёска ў гадзіне дарогі ад Купліна.

Першы раз, калі туды запрасілі, падумаў: ня можа быць. Праз глухія лясы, бары і дубровы машына вынырнула на нейкай згубленай абжытай высьпе. І калі сам убачыў грамаду дзетак з кветкамі, караваем на адмысловым бел-чырвона-белым ручніку з вышытымі сінімі віфлеемскімі зоркамі (адмыслова для БХД!) і харавое вітаньне — «Каго любіш?..» — адказ «Лю-

блю Беларусь» выдыхнулася як нешта само сабой зразумелае.

Калісьці сюды дайшла хваля беларускага Адраджэньня канца XX стагодзьдзя. Вырас і зацьвіў беларускі гурток, дзеткі ўзяліся чытаць Купалу і Караткевіча… і *дэбеларусізацыя*, што скавала краіну з 1995-га, напэўна, проста заблукала, захлынулася ў тутэйшых гушчарах ды гурток не вымаразіла.

Звычайныя школьнікі 5–10-х класаў, такога ж веку, як іх гарадскія аднагодкі, што захоплена раскрываюць раты на «Шоў беларушчыны» — але самі ведаюць і разумеюць непараўнальна болей за большасьць дарослых. Трымаюцца разам, ладзяць чытаньні ды вечарыны і на выходных езьдзяць у вандроўкі, якія лепей назваць паломніцтвамі. Мінск. Полацк. Навагрудак. Мір. Гродна. Ліда. Солы. Вязынка.

І — прымаюць гасьцей. Алеся Камоцкага з «Псальмамі» пад гітару, Алену Макоўскую з «Будзьмай», Антона Астаповіча з расповедамі пра страчаную спадчыну, Франака Вячорку з інтэрнэт-праектамі, Паўла Мажэйку, Эдуарда Акуліна, Віктара Шніпа, Віктара Шалкевіча…

Тут, у лагчыне ціхай рачулкі, — таполевая алея, пасаджаная гасьцямі. Тут, на могілках, ля пахаваньня слыннага шляхціца — постаць самотнага анёла, да якога дзеці ўскладаюць сьвежыя кветкі. Тут — старажытная царква, у якой штонядзелі маленькія беларусы моляцца і сьпяваюць.

Выхавала дзетак Настаўніца — моцная, негаваркая, але вельмі сьветлая спадарыня Натальля. Летам дзеці разам зь ёй зьбіраюць ягады, а грошы пералічваюць беларускім краязнаўчым выданьням.

Калі б у кожнай з тысячаў беларускіх школаў існаваў хаця б адзін такі гурток — ужо ў 2010-х Беларусь была б беларускай.

Але… «*У нашай мясьціне жыцьцё спынілася і замерла,* — пішуць дзеці. — *Сумна і непамысна, як на закінутых могілках*». Ва ўнікальнай дзіцячай супольнасьці ўражвае глыбіня адчаю, нейкі недзіцячы надрыў, яснае ўсьведамленьне страху і безнадзейнасьці.

«*Як скрушна жыць у гэтым жорсткім сьвеце! Чаму дабро бывае пакараным? Чаму зазвычай крыўдзяць безабаронных? Вы кажаце, трэба пацярпець. Але калі мы ўсе будзем толькі цярпець, ці не пераможа тым часам зло канчаткова?*»

Як яно, такое пяшчотнае, чыстае, можа быць настолькі беларускім, настолькі глыбокім, настолькі пакутлівым?

*«Я папрашу ў Цябе, Вялікі Божа,*
*З маёй зямлі сагнаць адчай-смугу,*
*Прашу Цябе — бо хто ёй дапаможа?..*
*Я так хачу, але ня ўсё магу»*, —
піша Воля.

Шчырая, ранімая вера і роспачная беларускасьць… Калі і ёсьць штосьці, здольнае перамагчы сёньняшнюю безнадзейнасьць, — дык гэта вось такая дзіцячая вера.

«*У сваёй нянавісьці да ўсяго роднага, у ганебнай спакусе на салодкі танны газ і тлустую нафту беларусы губляюць Радзіму. Чаго ж тады ад Госпада просім? А бывае, і патрабуем… Не выконваючы Ягоныя запаветы: “Любіце адно аднаго”. Нас, беларусаў, няшмат ужо на Беларусі. Мы павінны адшукаць адно аднаго і злучыцца ў адзін неразрыўны ланцуг. Толькі так пераможам. І Божая падтрымка — будзе!*» — піша Паліна.

Многія з нас моцна зьдзівяцца ў Валадарстве Нябесным, кажуць сьвятары. Бо там вакол будуць дзеці. Такія дзеці. Напэўна, там іх увогуле большасьць.

«Але Ісус сказаў: пусьціце дзяцей і не заважайце

ім прыходзіць да Мяне, бо такім належыць Царства Нябеснае» (Мацьвея 19:13).

Толькі тады мы згадаем Маленькага Ісуса, Якога малявалі на нашых абразах падобным да беларускіх дзетак, — і ўведаем, што калісьці менавіта такім, мілым, пяшчотным і безабаронным, зь вялікімі нябеснымі вачыма прыйшоў сюды, каб адкрыць у нашых сэрцах далёкую радзіму, Бог.

*3 лістапада 2012 г.*

## L. СЛАВА

*Ад краю зямлі*
*мы чуем песьню:*
*«Слава Праведнаму!»*
***Ісаі 24:16***

Зьявіўся ён на складзе ўвесну — невысокі, сьціплы, негаваркі. Гадоў сарака пяці на выгляд, з каротка стрыжанай сіваватай галавой. Слава, а як па-бацьку?.. Ды называй проста Слава.

Баптыст.

Баптыста Славу наняў наш гаспадар.

Найбуйнейшаму ў раёне складу аўтазапчастак з абаротам у мільярды штомесяц запатрабаваўся сумленны, адказны і цягавіты распарадчык, а тут ведама, што такога (ды яшчэ і незадарага) знойдзеш хіба толькі сярод пратэстантаў.

Адзінае, от, не працуюць у нядзелю.

За савецкім часам ад Славы, скончанага алкаша і хулігана, ванітавала ўсю ваколіцу. Больш за 40 прыводаў у міліцыю, бойкі, п’янкі, суды…

З развалам Саюза страціў Слава і тое, што меў, — дзяржаву, сям’ю, працу, кватэру… Некалькі гадоў

увогуле бамжаваў (у пашпарце дагэтуль пропуск у рэгістрацыі — дзе жыў?). Дзевяць страсеньняў мозгу, хворыя ногі, рука, якой не падымеш цяжар. Ён згадвае, і ўсе колішнія шнары ды расколіны растрэскваюць твар балючымі зморшчынамі. Руйнаваў д'ябал, ірваў, каб зьнішчыць, бо, пэўна, прадчуваў, што ў нейкі момант гэты бомж выдыхне, раптам убачыць па-над сабой неба і застогне… Госпадзе, ну ўсё… Я ж чалавек. Я так больш не магу. Божа, нават ня веру… Памажы мне!

Слава пакаяўся — і пайшоў у царкву. Абсталёўваў дом малітвы.

Прапаведаваў Таго, Хто яго ўратаваў, у навакольных вёсках. Знайшоў жонку — верніцу, кіраўніцу тутэйшага Чырвонага Крыжа.

У царкве прапаноўвалі: ты ж нясеш гаспадарчае служэньне, будзем утрымліваць. Слава адмовіўся: апостал Павел, прапаведуючы, зарабляў на хлеб вырабам намётаў. Машыны няма — ровар. І вельмі хворы бацька.

Ну вось, падумаў я, пачуўшы ягоную гісторыю, трапіў ты, дзядзька: два вернікі ў заваленым запчасткамі танкавым ангары. Сказаць па шчырасьці, на момант зьяўленьня Славы я ўжо тут трохі даходзіў.

Калі праца прымусовая, ды яшчэ нудная, нервовая, калі даводзіцца забіваць і без таго занятую галаву тысячамі мёртвых жалезак, колькасьцяў, адзінак вымярэньня, прыходаў, расходаў, памылак, калі хранічна ператамляесься і ў адказ на град пытаньняў тупа праварочваеш у мазгах толькі здагадкі, раз-пораз, губляючы трываньне, пачынаеш тлумачыць заклапочаным інжынерам ды механікам, чаму ты тут, — сама патрэбнае цярплівае, ключык за ключыкам, навучаньне з адмыканьнем сэнсу: чаго ад цябе менавіта на гэтым месцы хоча Бог.

Што насамрэч кожная дробязь, кожная дэталька пасьлядоўна падлучаецца да механізма наладжваньня стасункаў, рытму сэрцаў, руплівага рамонту сьвядомасьці.

Што кожная сьвяча запальваньня можа даць іскру да зьмены жыцьця, а кожная гайка, ня ўлічаная на шалях, перапоўніць чашу цярпеньня.

Што ў кожным пытаньні, і кожным чалавечым раздражненьні, і ў кожным недаўменьні — зерне тонкай размовы і ключавіна магчымага адкрыцьця.

Што якраз дзеля гэтага Госпад гадамі выхоўвае і навучае…

— «Вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца», — пасьмейваецца Слава, — сказаў таварыш Ленін, і камуністы ўсё вучацца. А Ісус сказаў: «Навучыцеся»… «Навучыцеся ад Мяне, бо Я лагодны і пакорлівы сэрцам, і знойдзеце супакой душам вашым».

Слава цытуе Біблію разьдзеламі — на памяць.

Парадак на складзе Слава навёў за пару тыдняў, ціха і непрыкметна: сьпярша днямі дасьледаваў і перакладваў жалезьзе, потым узяўся за справаздачы і накладныя і нарэшце прыступіў да людзей.

Трэба было бачыць, як ён адным-двума словамі ў адказ на запыханыя ды задыханыя скаргі на жыцьцё і працу ачомваў рабочых ды інжынераў: «Пачакайце хвілінку… Вы думаеце, гэта дапаможа? А вы ня чулі, як Бог хоча дапамагчы вам?»

Слава дзяліў свой абед з «хімікамі» і кіроўцамі, размаўляў з бухгалтарамі і жанчынамі, што перабіраюць бульбу, выклікаў на шчырасьць і недаверлівага гаспадара, і рабочых.

— О-о, Ігар! Прысаджвайцеся. Магу пачаставаць вас кафеінам… зь пячэнькам, а? Ну, расказвайце, як яно.

Слава размаўляе проста і пераканаўча. Бог ёсьць.

Верыш? Добра. А куды ты пасьля сьмерці збіраесься? Вырашай, што табе трэба. Хочаш жыцьцё вечнае? Бяры.

Гэткі душахват з гарачанькай гарбаткай і шчоўканьнем грэцкіх арэшкаў.

У свой час, жывучы ў інтэрнаце, Слава сьведчыў пра Бога глуханямому суседу. Той ледзь чуў. Даводзілася крычаць — і слухаў цэлы паверх.

Калі на складзе выдавалася зацішная хвіліна, Слава даставаў заўсёдную Біблію і трапна, амаль без дагортваньня, раскрываючы патрэбны разьдзел, зачытваў. Бывала, заходзіш на працу — і ўнутрана зьбіраесься, як у прысутнасьці Божай.

— Законы? А я жыву па нябесных законах — тут.

Дапаможа заўжды, але і праўду скажа ў вочы. О, такім і ў царкве нялёгка — ды ці не на такіх камянях будуе Госпад Свой дом?

Дбаньне аб сваіх абавязках у сапраўднага верніка ў крыві: робіш не для сябе і нават не для людзей — для Бога. Сьведчыш пра Хрыста? — тады ня маеш права ня быць прыкладам сам. Але Слава ясна разумеў, што на складзе галоўная сутнасьць ягонай працы — адчыніць душам, якія блукаюць і пруцца ў пекла, выйсьце. Дзелавіты, засяроджаны, як жа перажываў ён кожную памылку, кожны крок, які зрабіў у сумненьні!..

Ён сьведчыў усім, каго сустракаў, — позіркам у вочы, ад сэрца. Не цягнуў, не валок сілком. Проста прыходзіў, паіў гарачай гарбатай і прапаноўваў: «Хочаш жыцьцё вечнае? Бяры».

— Заканчваецца мой час тут, — неяк сказаў мне Слава, — адчуваю, Бог дасьць нешта іншае.

Славу спрабавалі ўлучыць у «каманду» фірмы. Размовы. Нарады. Прэміі. Скідваемся на дні народзінаў. Але ў людзей, зьяднаных зарабляньнем грошай,

насамрэч няшмат агульнага з самотным і ўпартым вернікам. І «каманда» пачала Славу адпіхваць як чужака. Закон жыцьця: слабое звяно.

Урэшце Слава паклаў заяву на стол.

Пасьля бурнай, на некалькі гадзінаў, размовы з гаспадаром той ня спаў усю ноч. Нараніцу — падпісаў звальненьне безь ніякіх прэтэнзіяў, кантрактаў і рэвізіяў. Сказаў: уначы прачнуўся, а ўвушшу голас: «Адпусьці!»

«Шчасьліва вырваўся», — напаўголаса праводзілі Славу рабочыя.

Склад апусьцеў. Стол, за якім сядзеў Слава, перацягнулі ў бухгалтэрыю. Жыцьцё пайшло сваёй чарадой — але так, быццам жуеш бяз солі.

І раптам зваршчык Анатоль, зь якім Слава гутарыў у абед, прытарабаньвае ў бытоўку мех падабраных драўляных абрэзкаў: палі, Паш, печку. І раптам сусед-сьлесар Генадзь, маўклівы і ўнураны, зьнячэўку пачынае штодня частаваць цябе яблыкамі. А трактарыст-«хімік» Саня, якому Слава распавядаў пра Ісуса і якому вось-вось вызваляцца, просіць: «Ня кідай мяне! Выйду — сап’юся. Завядзі ў царкву…»

Слава Богу, ёсьць яшчэ такія людзі, як Слава. Самотныя. Ціхія. Непрыкметныя. Вандроўнікі.

Тыя, хто не шукае славы сабе, а жыве паводле апошняга правіла Евангельскай Рэфармацыі, распачатай паўтысячы гадоў таму Радзівілам менавіта на Берасьцейшчыне: Адзінаму Богу слава.

*10 лістапада 2012 г.*

## LIII. РАЖКОЎСКІ ЦУД

*Каля крыжа Ісуса стаялі Маці Ягоная,*
*і сястра Маці Ягонай Марыя Клеопава,*
*і Марыя Магдаліна.*
*Ісус, убачыўшы Маці і вучня,*
*які тут стаяў,*
*якога любіў, кажа Маці Сваёй:*
*Жанчына! Вось сын Твой.*
***Лукі 19:25–26***

У нетрах Белавежскай пушчы, на адлегласьці мігценьня начнога маяка з камянецкае Белае вежы, ёсьць вёсачка. Вецер там заблытваецца і сьціхае ў найгусьцейшым вецьці, хаты тонуць у туманах да комінаў, сьпеўныя і драпежныя птушкі робяць у небе кола, выглядваючы чалавечую выспу сярод хваляў вечнага лесу, і высакародныя алені прыходзяць на падвор'і — пяшчотнымі цёплымі вуснамі падбіраць залатыя яблыкі.

Вёсачку клічуць Ражкоўка.

У верасьні 1942-га савецкі самалёт скінуў тут парашутыстаў-дыверсантаў. Немцы не ўпалявалі аніводнага, але ў перастрэлцы загінула двое патрульных.

Парашутысты зашыліся ў пушчу — ведама, далучыліся да партызанаў (потым такія на заданьне Масквы адстрэльвалі тутэйшых камандзіраў-незалежнікаў, каб падначаліць рух камуністам). А жыхароў вёсачкі сагналі разам, 57 сем'яў, і — па сотні за забітага жаўнера — павялі забіваць.

Дзяцей аддалі ў бліжэйшае мястэчка, падлеткаў і моладзь падрыхтавалі для адпраўкі чыгункай у Нямеччыну… Мужчынам загадалі капаць велізарную яму — два метры глыбіні, чатыры метры шырыні і дваццаць чатыры метры даўжыні.

Гэтая магільная яміна агаломшана зеўрае там і дагэтуль.

28 верасьня 1942-га, разявіўшы пашчу, яна ўбачыла ўсё. Расставілі куляметы. Зачыталі загад: «За дапамогу бандытам і перахоўваньне савецкага парашутыста»…

Ашчэраная, гатовая скаўтнуць яшчэ цёплыя, сьсечаныя кулямі целы, яна прымружылася… І раптам убачыла ў небе самалёт зь нямецкімі крыжамі. Той пачаў зьніжацца, зрабіў кола і прызямліўся на ўзьлеску.

Ражкоўцы стаялі на краі ямы. Плакалі. Маўчалі. Маліліся…

А з самалёта вылез афіцэр, падышоў да зондэркаманды, прад’явіў там свае дакументы і папрасіў дзьве гадзіны пачакаць.

Нават яме, страшнай яме два метры глыбінёй, чатыры метры шырынёй і дваццаць чатыры метры даўжынёй, за гэтыя дзьве гадзіны зьвяло сківіцы.

Афіцэр аказаўся егерам Герынга, адкамандзіраваным для ўладкаваньня ўзорнай паляўнічай гаспадаркі Райха ў Белавежскай пушчы. Роўна праз дзьве гадзіны ён прывёз расстрэльнай камандзе новае распараджэньне са штаба.

І здарыўся цуд.

Вяскоўцаў распусьцілі па дамах. Дзяцей і моладзь вярнулі бацькам. Толькі яму засыпаць не дазволілі: маўляў, будзеце дапамагаць партызанам — прысуд уступіць у дзеяньне.

Нямецкі афіцэр прыехаў у ацалелую Ражкоўку праз два тыдні. І прывёз з сабой выразаную з дрэва выяву Мадонны, расфарбаваную сінім, чырвоным і залатым, зь Дзіцём у белым. На ягоную замову паводле падрабязнага апісаньня скульптурку зрабіў паранены жаўнер вермахта ў шпіталі.

— Вось што я бачыў у небе, калі пралятаў над

вамі, — тлумачыў немец праз перакладчыка. — Мадонна паказвала на зямлю, дзе былі вы. Калі б не Яна, я б не прызямліўся. Яна сказала мне спыніць расстрэл.

За некалькі месяцаў ражкоўцы сваімі сіламі пабудавалі ў вёсцы царкву і памясьцілі туды выяву Марыі. Зробленую немцам. Неканані́чную. З надпісам «28.9.1942».

Ужо ў 2000-х, пасьля адбудовы епархіі, царкоўныя ўлады распарадзіліся напісаць адмысловы абраз, згодна з праваслаўнымі канонамі, і дзе-нідзе на Палесьсі пачалі пераймаць традыцыю: Маці Божая Ражкоўская.

Цуд відавочны. Як не паверыш? Зьезьдзіце, самі паслухайце, пераканайцеся: ня казка. Яшчэ жывыя сьведкі ды іх нашчадкі. Выява Мадонны з Маленькім у Царкве. Зарослая яма на ўскрайку вёскі. І алені ўсё гэтак жа прыходзяць па залатыя яблыкі — не баяцца людзей…

Што можа сказаць чалавек няверуючы тым, хто быў уратаваны? Галюцынацыя пілота? Зьбег абставінаў? Гэта ж трэба было асу Герынга ляцець рыхтык там, дзе трэба, у той час, калі трэба, і прымроіць у небе самае тое, што трэба… А як пасьля палітрукі ды выкладчыкі навуковага атэізму мірыліся з Ражкоўскім цудам?

У тым і рэч, што ніяк.

У пушчу ня лазілі, у царкву не паткнуліся ды зрабілі выгляд, што нічога ў верасьні 1942-га ў той Ражкоўцы не адбывалася.

Інакш — давялося б пагалоўна расстрэльваць тых самых ражкоўцаў як непапраўна веруючых ужо самой бязбожнай уладзе.

У Ражкоўскім цудзе ёсьць нешта такое, што пераўзыходзіць і нянавісьць да нацыстаў ды камуністаў, і бездань нявер’я, і міжканфесійныя спрэчкі.

Які праваслаўны тут адмовіцца прыняць цуд, што прайшоў праз каталіка зь Люфтвафэ?.. І які пратэстант абвінаваціць лётчыка ў ідалапаклонстве?..

Мы дзівімся Віфлеемскаму агню. Мы шукаем знакаў веры, рэліквіяў і прарываў у Няведамае ў сеціве і па ўсім сьвеціве.

А тут — побач…

«Першы раз такое чую».

Дык прыслухайцеся: пачуеце яшчэ і не такое.

Як бы ні было страшна ды безнадзейна, якія б магільныя ямы ні прымушалі нас рыць на гэтай зямлі, часьцей падымайма вочы да неба. Няма такіх цудаў, каторых дзеля любові да людзей не зрабіў бы ў Беларусі Той, Хто нарадзіўся ў глухім кутку сьвету, у хляве, ад беднай Жанчыны маленькім безабаронным Дзіцём.

*2 сьнежня 2012 г.*

## LIV. ТРЫАДЗІНАЯ КРАІНА

*Бо тры сьведчаць на небе:*
*Айцец, Слова і Сьвяты Дух,*
*і гэтыя Тры — адно.*
***I Яна 5:7***

— Праваслаўная?.. Усе мы праваслаўныя, правільна славім Бога, — кажа бацюшку шляхетнага выгляду каталічка, што вянчае сына з тутэйшай прыхаджанкай.

— Ну дык царква ж кафалічная, усяленская, — узаемна ўсьміхаецца малады бацюшка, — значыць, каталікі мы ўсё-такі!..

— Ды баптысты мы ўсе, баптысты, — далучаецца

сам сын, які ходзіць у дом малітвы, — усе ж хрышчаныя, а «баптызо» і значыць «хрышчэньне».

Тут, у беларускай глыбіні, паспаліты люд часьцяком дзеліць уцаркоўленых на «нашых», «хрысьціянаў» і «веруючых». «Нашы» — гэта праваслаўныя, «хрысьціяне» — адпаведна, каталікі, ну а «веруючыя», вядома, — пратэстанты.

І як не пагадзіцца з пружанскімі суразмоўцамі — усе яны, хто верыць у Хрыста, *нашы*. Усе яны *хрысьціяне*. Усе яны *веруючыя*.

Ва ўнутраным беларускім моры, заліваным то царкоўнаславянскімі, то лацінскімі, то рэфармацкімі хвалямі, распушчаюцца і пераліваюцца адно ў адно ўсе адрозьненьні і вострыя грані, спароджаныя сусьветнымі разьдзяленьнямі. І праблісквае, прасьвечвае і калышацца ў беларускіх зьявах — глыбока, прамяніста — найвышэйшая любоў, зь якой калісьці ствараў гэты сьвет Госпад.

На цэнтральнай плошчы ў беларускім горадзе ці мястэчку спрадвеку праваслаўная царква, каталіцкі касьцёл і евангельскі збор прыязна глядзелі ў вокны адно аднаму: нарэшце сустрэліся!

Разыходзіліся, расколваліся, разьдзяляліся шмат дзе — у Рыме, Канстанцінопалі, Маскве, Аўсбургу, Трыдэнцы… Але вярнуліся адзін да аднаго ў Беларусь.

Містыка і ўзвышанасьць праваслаўя, выкшталцоная логіка і рацыя каталіцтва, пратэстанцкая простасьць і прага аднаўленьня — у трыадзіным беларускім хрысьціянстве наноў сышлася ўся поўня вучэньня Ісуса Хрыста, расьсеяная за дзьве тысячы гадоў па ўсім сьвеце.

«Дзе двое ці трое сабраліся ў Імя маё, там і Я сярод іх» — найвышэйшы сэнс беларускага сінтэзу, сфармуляваны ў Евангельлі. Талеранцыя, унія, унікальны

іканапіс, віленскае барока касьцёлаў, цэркваў і збораў — вынік хрысьціянскага трыадзінства па-беларуску. «Беларусь — краіна найперш хрысьціянская, а затым ужо праваслаўная, каталіцкая, уніяцкая… Нас аб’ядноўвае крыж», — піша Адам Мальдзіс.

Бог-Айцец, Бог-Сын і Бог-Дух. Неспасьціжна, нязьлітна і непадзельна зьяднаныя любоўю — бо Бог ёсьць любоў.

І трыадзінства як уласьцівасьць Бога скразіць ува ўсім тварэньні, праблісквае ў сутнасьці чалавечай асобы ды будове народаў, праменіць у духовых фенонах.

Нябесныя іерархіі, паводле айцоў Царквы, траістыя — і, не забудземся, менавіта траціна анёлаў на чале з сатаной адпала ад Бога. Чалавек — трыадзінства цела, душы і духу. Ідэальная ўлада — трыадзінства заканадаўчай, выканаўчай і судовай галінаў. Нацыянальныя ідэі фармулююцца ў трыядах… Пасьля гэтага ня варта зьдзіўляцца таму, што мы існуём у трохмернай прасторы.

Тым больш — сусьветная царква, тая самая, «адзіная, саборная, апостальская». Бачная царква падзеленая — гэта факт. Але… Праваслаўныя найбольш ушаноўваюць Бога-Айца (згадайма, што ў Сімвале веры крыніцай паходжаньня Сьвятога Духа ўважаецца Бог-Айцец, тым часам як у каталікоў — «філіёквэ» — Айцец і Сын); каталікі зь іх хрыстацэнтрызмам, згаданым філіёквэ і асаблівым ушанаваньнем Панны Марыі найперш засяроджваюць увагу на Богу-Сыне, а пратэстанты, што сьвяткуюць на Пяцідзясятніцу дзень спасланьня Сьвятога Духа, Дзень царквы і шмат увагі надаюць дарам Духа, наймацнейшыя ў вучэньні пра Бога-Духа.

Таму, хто хоча адчуць усю поўню беларускага

хрысьціянства, найлепш адзначыць Раство ў Касьцёле, Вялікдзень — усяночнай у праваслаўных, а Тройцу (яна ж Пяцідзясятніца) — у пратэстантаў.

Гістарычна менавіта хрысьціянскае трыадзінства было кропкай кіпеньня і пунктам грамадскага росту ў ВКЛ і Беларусі. Узаемапранікненьне, канкурэнцыя і сумоўе трох канфесіяй далі нам абуджэньне залатога веку — час найвышэйшых дасягненьняў. Праваслаўная Расея, каталіцкая Польшча, пратэстанцкія Нямеччына ды Швецыя ў розныя часы расьцягвалі Беларусь на кавалачкі. Але для краіны, што тысячу гадоў жыве на геапалітычным крыжы, увесь сэнс цэласьці ня ў выбары якой-небудзь адной канфесіі, а якраз ва ўсьведамленьні ўласнага трыадзінства.

Так беларускі геній Скарына, праваслаўнай традыцыі, на каталіцкай працы, паводле перакананьняў евангелік, сумясьціў у сабе ўсё найлепшае з канфесійнай Тройцы — і стаў постацьцю № 1 у нацыянальнай гісторыі.

Так трыяда сімвалаў — герб, гімн і сьцяг — у Беларусі адпаведная Боскім іпастасям: «Магутны Божа» ад Бога-Айца, бел-чырвона-белы сьцяг Хрыста ад Бога-Сына і імклівая «Пагоня», што перадае палымяную моц Духа Сьвятога.

Скразіць, пераламляецца гранямі хрысьціянскае трыадзінства і ў беларускай глыбіні, на Пружаншчыне, вазьмі хаця ж апошняе стагодзьдзе: тут і заснавальнік евангельскай царквы на Берасьцейшчыне пратэстант Лукаш Дзёкуць-Малей, і найсьвядомейшы перакладчык Бібліі на беларускую мову праваслаўны Васіль Сёмуха, і першы з часоў падзелу Рэчы Паспалітай беларускі кардынал Казімір Сьвёнтак — усе ўтрох сьведчылі пра Бога і аддалі жыцьцё Беларусі.

Перад крыжовымі пакутамі, у страшную ноч Та-

емнай вячэры Ісус маліўся за адзінства вучняў, якое мае захаваць чалавецтва любоўю: «Хай будуць усе адзіна, як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, так і яны хай будуць у Нас адзіна — хай паверыць сьвет, што Ты паслаў Мяне. І славу, якую Ты даў Мне, Я даў ім: хай будуць адзіна, як Мы адзіна. Я ў іх, і Ты ўва Мне: хай будуць паяднаныя ў адно, і спазнае сьвет, што Ты паслаў Мяне і палюбіў іх як палюбіў Мяне»... Палічыце, колькі разоў у гэтых трох біблійных вершах сказана пра адзінства!

Пакуль у нацыянальным маштабе ня будзе ўсьвядомлена хрысьціянскае трыадзінства, пакуль любоў паміж вернікамі розных вызнаньняў ня сталася сутнасьцю дачыненьняў — шматканфесійнасьць Беларусі будзе яе слабасьцю.

І, наадварот, дасягнутае яднаньне ў справе адраджэньня народа і ацаленьня грамадства сфармуе капітальную маральную платформу для пераменаў ды шматкроць павялічыць жыцьцяздольнасьць і моц беларускасьці.

Гэта наш народ, складзены з вобразаў і падабенстваў Божых. І гэта не з Лукашэнкі, і не зь ягоных дзяцей ці чыноўнікаў, а з нас будзе спытана там — ці адпалі мы сьледам за трацінай анёлаў, ці ўтрая мацней высільваліся, каб быць хоць трошкі бліжэй да белай-белай, зьзяючай чысьцінёй і сьвятасьцю краіны Айца і Сына і Сьвятога Духа…

*9 сьнежня 2012 г.*

## LVI. КАТАКОМБЫ КУПЛІНА

*Схаваліся ў пячоры і ў цясьніны гор,*
*І кажуць гарам і камяням:*
*упадзеце на нас і схавайце нас*
*ад аблічча Таго, Хто сядзіць на троне,*
*і ад гневу Гасподняга.*

***Адкрыцьцё 6:15–16***

Куплін — адна зь нямногіх назваў, якія ўзьніклі на мапе Беларусі дзякуючы незалежнасьці.

У СССР *Купліна* не было, а тым, хто цікавіўся, куды ж правалілася родавае гняздо самага плоднага пісьменьніка ў сьвеце Юзафа Крашэўскага, раілі прыкусіць язык, у іншым выпадку адправяць туды, дзе «ўсякія крашэўскія» заканчвалі.

Нават цяпер усюдыісны джыпіэс толькі робіць выгляд, што Куплін ведае: прыемны жаночы голас кідае аўто вандроўнікаў то на грунтоўкі, то на затравелыя прасёлкі, то ў ямы бруду. А хто ўсё-такі заехаў у зарослыя, вышчарбленыя руіны — і не здагадваецца, што апынуўся не ў забытай беларускай вёсцы, а на вяршыні цэлага падземнага горада.

Пасьля Карыбскага крызісу менавіта тут, у беларускай глыбіні, вакол колішняга аэрадрома, разбомбленага немцамі ў першы ж дзень вайны, імперыя рыхтавалася нанесьці ўдар па ўсім астатнім сьвеце.

Звышсакрэтны пункт сувязі Варшаўскай дамовы, ракеты, палі антэнаў, бэтээры, верталёты, самалёты — усю сваю магутнасьць Савецкі Саюз сьціскаў у бранявана-ядзерны кулак у глухой прорве за Белавежскай пушчай — хай толькі прыдзе час!..

І час прыйшоў.

Тут, у гэтым месцы, палеская раўніна зь пералескамі раптам сутаргава здрыгаецца. Горы бункераў. Лагчыны. Скалы жалезабетону.

Менавіта ў Купліне прарываўся з-пад зямлі, ярасна роў, грыз і ўздыбліваў узгор'і агромністы зьвер з таго сьвету.

Курганы, растрэсканыя ад udaraў зьнізу, зеўраюць жэрламі, зуб'ем раскрышанага бетону і вострай арматуры. Мёртвай сырасьцю і тленьнем тхне з гэтых гіганцкіх нораў.

На кіламетры вакол — паўзасыпаныя акопы, каналы, зарослыя мохам ды ўзламаныя выбухамі кустоўя асфальтавыя плацы, кінутыя, пачарнелыя генеральскія альтанкі… Толькі дагэтуль па восені сыплюцца, то адзіночнымі, то з парывам ветру, чаргою, грукаюць у зямлю, спраўджваюць закон сусьветнага прыцягненьня яблыкі з дрэваў, зарослых падлескам.

Падсьвечваеш ліхтарыкам, мабільнікам, забіраесься ў засыпаныя выбухамі эмчээсьнікаў, а потым адкапаныя прагным беларускім народам пячоры — і заміраеш ад страхавітага захапленьня. Вялізныя залы з рабрыстымі паўкруглымі скляпеньнямі па 8–10 метраў вышынёй, са сьценамі трупнага адценьня, зь бетоннымі траншэямі да пояса (як сьведчаць мясцовыя, былі запоўненыя браняванымі кабелямі, з жыламі ў руку, медзь, тры даляры кіло)… Ёмішчы, дзе стаялі гіганцкія рухавікі, пліты, лядоўні… Падземныя галерэі на сотні метраў… Усё выбрана, выламана, вышчарблена — і нема…

Калі вялікая армада адпаўзала адсюль назад, у нетры імперыі, у вайсковым гарадку пакінулі толькі вартаўніка.

І вось тут беларускі народ адарваўся за акупацыю, русіфікацыю, страх і прыніжэньне напоўніцу. Партызанскія групы пружанцаў з усяго навакольля перабежкамі атачылі калісьці недаступную крэпасьць, сьціскаючы ў руках «фугасы» чарніла… Хвіліна — і вартавы ціха-ціха абяцае нічога ня бачыць.

І вывозілі, выносілі, цягнулі пушчанскія мсьціўцы — лядоўні са сталоўкі і стэлажы зь бібліятэкі, сталы з бункера і сьвяцільні з бамбасховішча, дываны з кабінетаў і засаўкі з прыбіральняў… Прытарабаньвалі акумулятары, каб сьвяціць пад зямлёй цэлы дзень, санкі для цэглы, вёдры для балтоў і гаек… Рэзалі, пілавалі, выдзіралі зь мясам, нішчылі — а, халера на вас, таварышы камуністы, як дратавалі вы нашу зямлю, нашу вёску, наш лес — да голага каменя.

Трохпавярховую казарму, што стаяла за сёньняшняй камендай і на тарцы якой мясцовыя ўмельцы збудавалі Холмскую браму Брэсцкай крэпасьці з вышчарбінамі ад куляў, вайскоўцы збурылі танкам Т-72, згрэблі, згрудзілі ў вырыты катлаван самі — каб хоць гэта не пакінуць тутэйшым.

І засталіся толькі сутаргі вялізных земляных гарбоў, чорныя, затхлыя горлы, жылы тросаў ды запеклыя пацёкі ржаўчыны. Аграмадная напаўвырытая дамавіна.

Наш электрык Ігар узьдзіраў падлогу ў адным з бункераў (дошка-саракоўка, не прападаць жа дабру), знайшоў бутэльку з-пад сітро, 1969 года, з запіскай двух салдатаў з хатнімі адрасамі. Напісаў абодвум, ніхто не адгукнуўся.

Часам у ваколіцах Пружанаў пачуеш уздых пра Савецкі Саюз: «Эх, была дзяржава… Усе баяліся!»

І расхінаюцца ў душы пячоры, робіцца гулка ў галаве, і разумееш. Адтуль. Вось яно, падземнае рэха крышанага бетону і ржавага жалезьзя.

Пустата падземнага Купліна насьцярожвае. Гэтак жа, як і вайсковая форма старшыняў аблвыканкамаў, прызначаных генераламі. «Мы ответим на ПРО»… Пра што гэта яны? Ды ўсё пра тое ж.

Яны ўсё яшчэ адкрытыя, гэтыя ўваходы ў пекла.

Яны пазяхаюць у чаканьні. Яны не зачыняюць сваіх кратовых ратоў.

Тое, што не пахавана, бясьсіла і бессаромна зеўрае ў неба. Разлагаецца. Заражае.

Велізарныя куплінскія катакомбы — гатовы музей для аблупленых ленінаў, гранёных шклянак, расстрэльных загадаў, крывавых сьцягоў, усіх выкапняў, помнікаў і сьведчаньняў той, яшчэ не пахаванай эпохі, калі чалавецтва вырашыла жыць бяз Бога.

*23 сьнежня 2012 г.*

## LVII. МОВА ЛЮБОВІ

*Калі я гавару мовамі*
*чалавечымі і анёльскімі,*
*а любові ня маю,*
*дык я — медзь звонкая або кімвал гулкі.*
***І да Карынфянаў 13:1***

Размаўляеш па-беларуску — быццам цалуеш.

Павольна. Меладычна. Зь ціхай пяшчотай. Зь ненатольнай мяккасьцю. У плыні цеплыні, калі зацінае дыханьне… Вусны наліваюцца роднасьцю, пякуча спалучаюцца і балюча расстаюцца, насычаюцца смакам блізкасьці, растуляюцца, каб прыняць ласкавыя штуршкі языка, і час ад часу нецярплівае прыцмокваньне дзеканьня і цеканьня кроплямі падтаквае ў тахт: так, так, так крынічаць толькі сэрцы, якія б’юцца любоўю і каханьнем.

Чаму ж сёньня беларусы сплёўваюць сваю родную мову з рота як лішнюю сьліну?..

Ня любяць…

А можа, пытаньне ў іншым? *Навошта* Госпад даў краіне на скрываўленым скрыжаваньні мову настоль-

кі празрыстую, пяшчотную, мілагучную? Навошта ня рэзкую, гартанную, цьвёрдую, каб зь металам у канчатках або з прысмакам жоўці — а вось такую, дазваньня сьціплую, поўную ласкі, мяккую настолькі, што мяккі знак робіцца знакам яе якасьці?..

Беларуская — мова сэрца Еўропы.

Скрышталізаваная хрысьціянскім сярэднявеччам, яна загучала, калі мы яшчэ былі вольныя, у эпоху вялікага еўрапейскага абуджэньня. Мова першадрукароў Бібліі ва Ўсходняй Еўропе, мова евангельскіх місіянераў у Расеі, Прыбалтыцы, Украіне, Польшчы, афіцыйная мова цывілізацыі ВКЛ, сродак паразуменьня і дыпламатычных дачыненьняў ад Кракава да Масквы, ад Валахіі да Інфлянтаў…

Толькі мове любові, найчысьцейшай са славянскіх, было пад сілу сплавіць праваслаўе, каталіцтва, пратэстанцтва ў адным народзе, дасягнуць адной пасьпяховай уніі за ўсю гісторыю чалавецтва, перажыць зьнішчальныя войны і нянавісьць імперыяў — каб сьледам за Хрыстом раздаваць сябе, адрываючы па кавалках, суседзям. І гэта яна мігціць, пульсуе, пераліваецца і нават не патрабуе перакладу ў любові Міцкевіча, Сянкевіча, Манюшкі да Польшчы, Мсьціслаўца ды Сматрыцкага — да Ўкраіны, Дастаеўскага, Буніна, Глінкі — да Расеі…

Далікатная, трапяткая, самаадданая да самазабыцьця, яна спалучае шчымлівую яснасьць і ласкавую сьціпласьць, пакутлівасьць і ахвярнасьць, еўрапейскую вытанчанасьць і славянскую сілу.

У якой яшчэ мове так празрыста іграюць памяншальна-ласкальныя формы імёнаў — Кастусі, Міхасі, Андрусі, Марусі ды Алесі!.. У якой яшчэ мове так бруіць раскоша міленькіх да апошняй літаркі ўлюбёных суфіксаў, ад якіх уся гаворка прыпадабняецца да птушынага шчабятаньня?.. Унікальна поўнагалосая…

Другая ў Еўропе пасьля італійскай паводле сьпеўнасьці… Мігціць, прасьвечвае далёкая лёгкасьць і амаль незямная сьветліня — ці то казачнай эльфійскай, ці то нябеснай анёльскай.

Беларуская мова спалучае ў сабе ўсё багацьце пачуцьцяў, але любоў зь іх найбольшая.

«Мова наша сьвятая, бо яна нам ад Бога дадзеная» — патрыярх беларускага Адраджэньня пацэліў у самую сутнасьць.

Сувязь паміж асабістай сьвятасьцю, нацыянальнай сьвядомасьцю і роднай мовай у Беларусі наўпраставая.

Сёньняшнія беларусы, перасавецкія, бледнарускія, недапалякі, з падазрэньнем на лёгкую габрэйскасьць, напаўразваранымі вываленыя з плавільнага катла імперыі ў калгасную дыктатуру, аглушаныя глабалізацыяй, абязбожаныя — ды куды там, пакуль проста ня ў стане адчуць сябе носьбітамі найчысьцейшага цуду Слова.

Як у роце, запоўненым бырлам, матам, ванітамі, сярод адрыжак спажывецтва і вострай злосьці, дзе варочаецца барвовы, разбухлы ад сварак і пустаслоўя язык, выжыве пяшчотная, сатканая з дыханьняў, адценьняў і гармоніяў, натхнёная евангельскім зьместам *мова любові*?

Беларускасьць (і ўвогуле сэнс існаваньня 10-мільённага народа ў глыбіні Еўропы) можа ўратаваць толькі ўсенароднае пакаяньне, скразная евангелізацыя, нацыянальнае абуджэньне перад Богам. І вырашальны, пераломны момант беларусізацыі — усьведамленьне каштоўнасьці мовы Царквою. Касьцёл, дальнабачны Касьцёл гэтае пытаньне ўжо вырашыў. Калі заўважная доля праваслаўных і пратэстанцкіх супольнасьцяў прыме беларускую як код хрысьціянскай ментальнасьці, як уласную спадчыну, як мову веры і мову любові — Адраджэньне ўспыхне зь небывалай сілай.

«Бог ёсьць любоў, і хто жыве ў любові, той жыве ў Богу, і Бог у ім» (I Яна 4:16).

Беларусь, пакліканая быць сэрцам Еўропы, ня можа размаўляць інакш чым па-беларуску. У адваротным выпадку сэрца сьцінаецца, захлынаецца і выклікае інфаркты на Захадзе ды ў Расеі.

Беларуская непазьбежна будзе моваю нашага вяртаньня прытомнасьці, моваю пераменаў — бо толькі найвышэйшай любові пад сілу адолець паміраньне грамадства, гвалт тыраніі і зло імперыі.

Беларускай наканавана крышталізаваць нацыянальную ідэю сутнасна хрысьціянскай — толькі тады мы адкрыем гэтую краіну Таму, Хто любіць нас мацней за нас саміх.

Бо што значыць стаць беларусам?

Гэта значыць аднойчы паверыць, што за кожнага з нас і за ўвесь народ аддала сябе на пакуты і сьмерць дасканалая, найчысьцейшая, сьвятая Любоў, якая ўцелавілася ў Слове.

*26 студзеня 2013 г.*

## LXI. ПАШЫХТАВАНЫЯ НА ШЫБЕНІЦАХ

*І стаялі людзі і глядзелі.*
*А насьміхаліся разам зь імі*
*і начальнікі, кажучы: іншых ратаваў,*
*хай уратуе Сябе Самога,*
*калі Ён Хрыстос,*
*выбранец Божы.*
***Лукі 23:35***

31 студзеня 1863-га, праз тыдзень пасьля абвяшчэньня паўстаньня супраць Расейскай імперыі, атрад з двухсот узброеных паляўнічымі стрэльбамі і пісталетамі хлопцаў увайшоў у мястэчка Шарашова.

Паўстанцы пад кіраўніцтвам шляхціца Рамана Рагінскага ішлі з пушчы: менавіта туды па сігнале сьцякалася моладзь, падлеглая раптоўнаму рэкруцкаму набору ў заходніх губернях — так царскі ўрад разьлічваў абяскровіць хваляваньні, выкліканыя адменай прыгону. Ішлі як гаспадары: у адрозьненьне ад расейскай жандармерыі, жаўнераў і чыноўнікаў, яны былі на сваёй зямлі. І сустракалі іх як вызваліцеляў: «Нашы!..»

У Шарашове вітаць герояў каля касьцёла сабралася ці ня ўсё мястэчка. «Нашых» забясьпечылі паўкажушкамі, лекамі, бялізнай, ежай…

Потым былі Пружаны, таксама ўзятыя бяз бою (начальнік аховы ўцёк, пераапрануты селянінам), першыя сутычкі з вартавымі залогамі акупантаў, бітвы з рэгулярным войскам, далёкія рэйды ў глыбіню Беларусі (атрад Рагінскага прайшоў усё Палесьсе, самога шляхціца паланілі пад Туравам), дэвіз «межы Айчыны пазначым крывёю!». І паразы. І дзікае паляваньне — аблавы па ваколіцах ды лясах. Арышты. Сьледства. Катаваньні… Касьцёлы, ператвораныя ў турмы.

І, нарэшце, укрыжаваньні — шыбеніцы Мураўёва-вешальніка.

Навакольле пушчы як логва паўстаньня Расея вырашыла выпаліць жахам. Замардаваных «інсургентаў», што некалькі месяцаў таму трыумфальна ўваходзілі ў Шарашова ды Пружаны, вешалі ўздоўж дарогі на Купічы — гасьцінец на Вільню, тры кіламетры шыбеніцаў.

Каб нават у астатніх сутаргах змучаныя беларусы не даставалі нагамі роднай зямлі. І забаранілі здымаць — пад страхам сьмерці.

Ужо потым, калі шлях ад смуроду зрабіўся нясьцерпным, здранцьвелыя трупы сьцягвалі ў ямы пры дарозе — па дзесяць–пятнаццаць у кожную.

З тае пары захаваліся тут хіба два ўпотай пастаўленыя крыжы — каталіцкі і праваслаўны, — назва дарогі *Магілаўка* і ўрочышча *Каліновец*, дзе, кажуць, быў паўстанцкі штаб.

Праз 150 гадоў такім жа ціхім сінім вечарам па талым сьнезе, па якім паўстанцы калісьці ўваходзілі ў Шарашова, на гэтай дарозе сабраліся людзі з бліжэйшых Пружанаў, Малеча, Бярозы…

Сабраліся, каб нарэшце запаліць на знак памяці сьвечкі ад Шарашова да самых Купічаў. А пасьля — на канцэрт Андрэя Мельнікава, які прыехаў у Пружаны сьпяваць свае найлепшыя баладкі.

Тыя, хто тады перамог, чамусьці не сьвяткуюць. Ані дату далучэньня беларускіх земляў да Расеі, ані дзень народзінаў Мураўёва, ані дзень сьмерці Каліноўскага.

Але нашчадкі тых, каго вешалі, памятаюць.

Дарога з Шарашова на Купічы цяпер асьветленая агнямі — каб Богу згары быў бачны той шлях. Жыць жыцьцё сярод страху, дзеля некалькіх месяцаў волі ў безнадзейнай вайне, выступіць — і памерці…

А можа, і праўда паўстаньні 1830 і 1863 гадоў насамрэч былі правакацыямі царскага шэфа жандараў, Бенкендорфа, ды ягоных наступнікаў, якім карцела адабраць маёнткі ў беларускіх магнатаў ды шляхты?

Няўжо дваццацігадовыя, узброеныя дубальтоўкамі ды косамі супраць рэгулярнага, шматкроць большага войска, ды з гарматамі, не разумелі, што паўстаньне асуджана?

Тыя, хто возьмуць меч, ад мяча і загінуць.

Але — колькі сьвятых, ды і сам апостал Пётр, за меч усё-ткі хапаліся, гатовыя аддаваць сваю душу за іншых!

Сумленны беларус, народжаны ў час Каліноўскага, мог выбраць шлях Дастаеўскага. Служыць ім-

перыі, каб як мага глыбейператвараць яе знутры праўдай і прыгажосьцю. Мог выбраць шлях Міцкевіча — выгнаньне і змаганьне за волю на чужыне. Шлях Баброўскага, урэшце, сьпярша ўніята, а потым праваслаўнага, — упакорыцца сіле, але ціха і настойліва ратаваць людзей вакол сябе…

Гарачыя маладыя сэрцы выбралі паўстаньне. І вось пытаюся самога сябе: ці ня ёсьць дарога на Купічы, устаўленая шыбеніцамі, шляхам да самагубства?

Ключавая падзея эпохі беларускага адчаю, паўстаньне насамрэч было вялікай ахвярай. Да гэтага вузкая, шляхецкая патрыятычная сьвядомасьць раптам пашырылася да ўсенароднай, незалежніцкай. Польскасьць пачала пераплаўляцца ў беларускасьць. А разгром паўстаньня абудзіў у тых, хто застаўся жывым, пякучае жаданьне знайсьці выйсьце. Пераможнае. І вось Багушэвіч (сам колішні паўстанец, паранены, доўга хаваўся ва Ўкраіне) бярэцца абараняць сялянаў у судах, выдае хрысьціянскія вершы і распачынае Адраджэньне. Хвалю падхопліваюць Дунін-Марцінкевіч, Эпімах-Шыпіла, народнікі-грамадоўцы і ксяндзы з БХД…

І былі і БНР, і Рэспубліка Беларусь, і вуліцы Кастуся Каліноўскага.

Сёньняшняя і будучая наша незалежнасьць аплочаная ў тым ліку і крывёй каліноўцаў. Тых, хто ў апошнім шыхце паўз дарогу на Купічы выцягваўся, курчыўся і не дастаў нагамі да сваёй зямлі, чые вочы вылазілі з арбітаў, каб у апошні міг убачыць неба, са сьцятымі ззаду намёртва, да крыві, крыж-накрыж рукамі, са здушаным горлам, адкуль так і ня выбухне крык волі, — юных, моцных, скалечаных, гатовых ірвануць з астатніх сілаў…

За Ім.

За Асуджаным, Катаваным і гэтак жа Расьпятым на дрэве зь перакладзінай, у спазмах паміж небам і зямлёй — каб збавіць кожнага з нас Сабою.

*23 лютага 2013 г.*

## LXIV. СТАСЕВІЧ, СЬВЯТЫ АНТЫСАВЕТЧЫК

*Хіба ня ведаеце,*
*што сьвятыя будуць*
*судзіць сьвет?*
**І да Карынфянаў 6:2**

Значыць, вы нічога ня чулі пра сьвятога Лявонція Стасевіча?..

Беларусы-беларусы, хрысьціянскі мы народ… Як гэта выйшла, што нават пасынкі саўка і дзеці перабудовы, зацятыя антысаветчыкі, дагэтуль ня ведаюць пра вялікіх, хто згараў у самай глыбіні імперыі, каб хоць трошкі падсьвяціць бацькам выйсьце? Тыя, чыя штодзённая пяшчота ў рэшце рэшт дала магчымасьць Станіславу Шушкевічу ў адзін цудоўны засьнежаны момант паставіць у Віскулях свой зьнішчальны росчырк?.. Тых, чыя веліч выявіцца з часам, калі нам прыйдзе пара рассыпацца ў прах і ўгнойваць беларускую зямлю сабою?... Чыё жыцьцё — адказ на пытаньне, што рабіць сярод страху, хлусьні, безнадзейнасьці, а лёс — жывая, пакутлівая і агаломшвальная беларуская місія…

Героі вечнасьці чакаюць на нябёсах. Толькі адтуль відаць, наколькі дробязныя нашыя высілкі па-чалавечаму вылучыцца і наколькі велічныя дробязі, каторымі мы так звыкла і настойліва грэбуем.

Леў, будучы Лявонцій Стасевіч, нарадзіўся ў Тар-

наградзе на Падляшшы, непадалёк ад Белавежскай пушчы, за стагодзьдзе ад Віскулёў.

Зь сялянскай сям’і, юны, поўны сілаў, беларускі Леў аднойчы крадком увайшоў у Яблачынскі праваслаўны манастыр і быў пастрыжаны ў манахі пад імем Лявонція. У час Першай сусьветнай эвакуяваны ў Маскву і накіраваны, дарэчы, патрыярхам Ціханам у разрабаваны бальшавікамі Суздаль.

Першы раз айца Лявонція арыштавалі ў 1930-м за звон. «Захацеў Госпада звонам праслявіць — а звон ужо забаронены быў. Доўга званіў. Спускаюся са званіцы — а мяне ўжо з кайданкамі сустракаюць».

Адбыў тры гады, але як непапраўны сьвятар толькі вынырнуў каўтнуць волі.

Царкву ўжо апанавалі застрашаныя чэкістамі «абнаўленцы» ды сергіяне — і ўпартасьць антысавецкіх бацюшак і манахаў старога гарту была для іх невыноснай. Даносы… Сьледства… і ў Караганду.

Ужо на пероне некалькі арыштаваных сьвятароў запяялі хорам малітву. У пакараньне вагоны з асуджанымі на некалькі марозных дзён загналі ў тупік. Было шмат замерзлых — і толькі ў вагоне айца Лявонція, які заахвочваў усю ноч маліцца з паклонамі, не загінуў ніхто.

Лагернае начальства ўзялося айца Лявонція перавыхоўваць. У ноч на Вялікдзень, напрыклад, Стасевіча прывязвалі да вяроўкі і апускалі галавой у прыбіральню. Падымалі і крычалі:

— Выракаесься?!

А ён ім:

— Хрыстос уваскрос, хлопцы…

Выйшаў, вярнуўся ў Іванаўскую вобласьць. Прызначаны ў аддалены прыход, адкрыта сароміў тых сьвятароў, што дагаджалі ўладзе болей, чым прыхаджанам. І, вядома, дачакаўся трэцяга арышту — за

тое, што «тлумачыў рэлігійныя пісаньні ў антысавецкім духу». Далі 10 гадоў — у Комі.

Ужо 70-гадовым старым айцец Лявонцій выбраўся з ГУЛАГа ў сяло Міхайлаўскае ўсё той жа Іванаўскай вобласьці.

Накіраваны ў храм Міхаіла Арханёла, пераможцы д'ябла, штодня адпраўляў набажэнствы і пешшу абыходзіў усю ваколіцу з трэбамі — спавядаў, прычашчаў, сабораваў… Жыў па-манаску, у пакойчыку, дзе стаялі адно стары жалезны ложак, стол і некалькі зэдлікаў для гасьцей. На ананімныя даносы, што сыпаліся з усіх бакоў і на кожны зь якіх трэба было абавязкова адказваць, айцец Лявонцій пісаў: «Слава Госпаду Богу! Жыў і жыву з братамі ў міры, усім і ўсімі задаволены. Госпад ім судзьдзя. Скарга не адпавядае праўдзе. Я ні на каго не злуюся».

Калі яго, зьнямоглага, шкадавалі прыхаджане: «Бацюшка, ты ж зусім хворы», — ён адказваў: «У Бога хваробаў няма, гэта грахі нашы хварэюць».

Калі ён спаў, людзі ня бачылі: адпрацаваўшы дзень, ноччу маліўся. Штодня на памяць прачытваў увесь Псалтыр.

Тым, хто прызнаваўся, што ня можа адмовіцца ад нейкага граху, айцец Лявонцій прапаноўваў патрымаць далонь над сьвечкай, і калі спаведнік зь пякучым сіпеньнем прыбіраў руку, бацюшка зьдзіўляўся: у вечным полымі гарэць збіраесься, а сьвечкі баісься.

Савецкія бацюшкі лагерніка травілі. А людзі сьцякаліся ў такой колькасьці, што ўладам давялося адмяніць бліжэйшы прыпынак чыгункі — ехалі да яго…

Відавочцы згадваюць ашаламляльныя прароцтвы айца Лявонція — і пра лёс ягоных ганіцеляў, і пра сьмерць патрыярха Алексія, і пра крыніцу, што праб'ецца на вясковых могілках з-пад ягонага ўласнага пахаваньня. Перад сьмерцю за апошняй літургіяй

айцец Лявонцій радасна падымаў угору аслабелыя рукі: «Да Бога ідзём… да Бога ідзём!»

Дарогі беларусаў Стасевічаў за апошнія сто гадоў разбрыліся па ўсім сьвеце. З гэтага роду — і знакаміты амерыканскі скрыпач, дырыжор Павел Стасевіч, і савецкі і расейскі мастак Аляксандр Стасевіч, і футбаліст мінскага «Дынама» ды зборнай Беларусі Ігар Стасевіч.

Але з сучасьнікаў найбліжэй да роду айца Лявонція Сяргей Стасевіч з той жа беларускай глыбіні, з-пад Івацэвічаў. Грэка-каталіцкі сьвятар, што скончыў папскі ўніверсітэт сьвятога Тамаша Аквінскага (Анжэлікум) у Рыме, магістар кананічнага права, рэканструюе «Марыйны дом» (Marian House) у Лондане ды будуе там царкву, пераймаючы справу айца Аляксандра Надсана.

Два сьвятары-беларусы аднаго кораня, адзін — у глыбіні Расеі, другі — у глыбіні Захаду, аддаюць свае жыцьці іншым. Як сама Беларусь, расьпятая на крыжы — ад таго месца, дзе сонца ўзыходзіць, да таго, дзе яно хаваецца ў цемры. Перабіраеш лёсы, бліскучыя ды невядомыя імёны і думаеш: найбольш разбуральным выклікам для змрочных рэжымаў урэшце аказваецца ня зброя, палітыка ці культура, а ціхая асабістая сьвятасьць.

Сьвятасьць — гэта калі ты цалкам аддаеш усе сілы, час, волю Богу і людзям, не пакідаючы анічога сабе. Такая сьвятасьць перасоўвае горы і перамяшчае краіны — зь мінулага ў будучыню.

Сьцежка Стасевіча на першы пагляд непрыкметная, сьлед крочыць ціхенька, часам пераходзіць на шэпт — але потым высьвятляецца, што гісторыя прайшла менавіта гэтым шляхам.

Бо гэты шлях на зямлі штодня абірае Ісус.

*13 красавіка 2013 г.*

# LXV. УБОГІЯ ДУХАМ

*Дабраславёныя ўбогія духам,*
*бо іх ёсьць Валадарства Нябеснае.*
***Мацьвея 5:3***

Камеры «амерыканкі» падобныя да трунаў. Турма круглая, памяшканьні па коле, шырэй да акна, вузей да жалезных дзьвярэй, і калі дранцьвееш на нарах, гледзячы ў столь, нагамі на выхад, слухаеш глухое рэха і чуеш, як памірае чарговы дзень, — раптоўны голас суседа вырывае цябе зь містычнага одуму зь сілаю ўваскрасеньня.

— Слухай, вось Пасха, Біблія, — гэта раскацісты барытон палкоўніка Ягоравіча, — узяўся за Евангельле і адразу ўпёрся… Што значыць *убогія духам*?

З дамавіны «амерыканкі» трапляеш на дно Пружаншчыны, у край забытай і занядбанай велічы, у колішнюю медсанчасьць, а цяпер каменду, поўную няшчасных асуджаных і іх змучаных ахоўнікаў з сумнымі вачыма, а пытаньне пра «ўбогіх духам» аддаецца і аддаецца рэхам увушшу ўжо трэці Вялікі пост — і робіцца зразумела, што аднойчы пра гэта зь беларусамі трэба пагаварыць усур'ёз.

«*Шчасьлівыя ўбогія духам, бо іх ёсьць Валадарства Нябеснае*».

Хвілінку. Тут трэба ўчытацца яшчэ раз. «Шчасьлівыя ўбогія духам…» Калі вы не імкняцеся хутчэй прабегчы вачыма і пракаўтнуць паміж салодкімі «шчасьлівымі» і «Валадарствам Нябесным» у залацістым зьзяньні такіх няёмкіх, недарэчных і ўрэшце проста абуральных «убогіх духам», калі вы запаволіце перахопленае сэрца і з намаганьнем правернеце ў галаве менавіта гэтыя два ключавыя словы — вы зьдзейсьніце самае глыбокае пагружэньне і ў сутнасьць хрысьціянства, і ў зьмест беларускасьці.

Хочацца ж быць «духоўна багатым», ці ня так? Ці ня гэтага ад нас вымагаюць гісторыя, цывілізацыя, школа, бацькі… і, напэўна, Бог?

«Шчасьлівыя ўбогія духам, — першае, што кажа Ісус у Нагорнай казані, сэрцы Евангельля, — бо іх ёсьць Валадарства Нябеснае».

Беларуская ўбогасьць — найрадчэйшы феномен у Еўропе. Агледзімся вакол. Расейцы — шырокія душы, але ганарлівыя. Украінцы — эх, казакі, ды ганарлівыя! Палякі, чаго і казаць — шляхта. Нават балты, нетаропкія, павольныя — поўныя ўнутранага гонару.

А беларусы… гэта беларусы.

Адсутнасьць нацыянальнай пыхі, крайняя кволасьць адасабленчых рэфлексаў кругом у сьвеце тоесныя дыягназу: народ не жылец.

Але Ісус кажа: шчасьлівыя…

Насамрэч у сёньняшнім разгубленым, сырым, паўмёртвым стане беларускай нацыянальнай сьвядомасьці нічога самакаштоўнага няма. Галоўнае — пад рабскай падбітасьцю, халуйствам, ніякавасьцю ўгледзець першапачатковы евангельскі падмурак, глыбокі, асноватворны дар Бога беларусам.

Убогасьць духу.

Прыроджаная сьціпласьць замест ганарлівай крыклівасьці, ціхая моц прыстойнасьці, пакора перад Богам, здольнасьць зь любоўю аддаваць сваё бліжняму, простая праўдзівасьць і чысьціня, унутраная, а не паказная, свабода, ахвярная міласэрнасьць — вось якой убогасьцю дыхае Нагорная казань у Беларусі.

Таму сёньняшні беларус баіцца быць беларусам. Куды прасьцей ірвануць на грудзях славянскія карані — «ну ты чё как нерусский!» — або спаслацца на бабку-каталічку ды атрымаць карту паляка, ды хоць выкалупаць нямецкае гучаньне ў беларуска-габрэйскіх, праз ідыш, прозьвішчах, каб быць як усе.

І як жа прыемна бывае, хай сабе і тут, на сьметніку чалавечым, смачна схаркнуць, плюнуць на ўсіх і ўсё, расправіць плечы ды адчуць сябе гаспадаром жыцьця…

Хай грамадзянін начальнік дастане вантробы адным позіркам, хай прадавачка скрывіць вусны, быццам твае зашмальцаваныя грошы даводзіцца каштаваць на смак, хай бывалы зэк уваліць высьпятка новенькаму і ржэ ўся хата — затое пры выпадку ты сам, зьмерыўшы якога-небудзь мужычка вачыма, грэбліва тыцкаеш пальцам: чуеш, ты…

І вось мы гніем і гінем ад задушлівасьці ўласнага духу, што расьпірае знутры.

А можа, яшчэ і пашкадаваць сябе? Беларусы, бедненькія…

Нам так часта шкада сябе — хоць плач, вакол так цяжка, нам так дасталося, як было балюча, мы столькі пацярпелі... Яшчэ адна з праяваў бяздоннага, невынішчальнага сябелюбства, енк параненай пыхі, якой палудзенны бес закусвае на абед.

Не, убогасьць духу ня ў гэтым. Глыбей.

Адчай актывістаў, што прыязджаюць спустошаныя ў госьці і разводзяць рукамі: нічога не ўдаецца, людзі… Затурканасьць калгасьнікаў, асуджаных за п’янкі і няшчасныя выпадкі на працы, зь якіх кпяць нават у камендзе… Маўчаньне жанчынак, каторыя гадамі, з ранку да вечара, уручную перабіраюць бульбу… Нешта такое роднае, але нераскрытае, недагаворанае, безнадзейнае…

Сёньняшняя наша ўбогасьць самасьвядомасьці захавала ад хрысьціянскай убогасьці духу толькі форму. Пад беларускай пакорай і маўклівасьцю 2013 года цэлае балота на сем сьмяротных грахоў углыб.

Дык што — склаўшы ручкі, тонем? Не. Але што рабіць, калі рабіць і як рабіць, можна ясна зразумець

толькі тады, калі прызнацца самому сабе ў сваёй нішчымнасьці перад Богам.

Яна тут жа, побач: непрыкметная соль тутэйшых вернікаў, ціхае сьвятло настаўнікаў беларускай, сарамлівая сумленнасьць тэхнароў, нечаканая дапамога людзей, якія ўзьнікаюць у тваім жыцьці на гадзіну-дзьве і якім ты ніколі ня зможаш адплаціць за дабрыню; пранізьлівыя лісты падтрымкі без зваротнага адрасу; грошы, перададзеныя з рук у рукі ў камэнду — «каму-небудзь, хто там мае патрэбу», і лёгкае, быццам ветрыкам зьдзьмула, прабачэньне тваёй уласнай рэзкасьці і раздражненьня — усё гэта сапраўднае беларускае багацьце дзеля Хрыста.

Дык што ж аддаць беларусу, каб увайсьці ў Валадарства Нябеснае? Адчуваньне, выпушчанае ў сьвет яшчэ немаўлём, зь першым крыкам нашага ўлюбёнага яканьня: *Я* самы галоўны, і гэта іншыя павінныя, а *Я* — хачу.

Паміраючы для сябе, сваіх страхаў, прагненьняў, разьлікаў, грахоў — ажываеш для Бога, і раптам ачомваесься: жыве Беларусь.

Выцярэбліваньне нацыянальнай пыхі, чалавечай ганарыстасьці, здаволенай самаўпэўненасьці — абавязковая перадумова беларускага Адраджэньня.

Беларускі асабісты эгаізм, звыродлівы, скурчаны, скончаны, і наша нацыянальнае бясьсільле — два бакі аднаго медаля. Беларуская супольная моц, сьвядомасьць і салідарнасьць зробяцца маналітам толькі тады, калі беларус адмовіцца ад надзіманьня сябе, любімага, на зайздрасьць і злосьць усім астатнім і адкрыецца Ўбогаму, Які палюбіў яго больш за ўсіх.

Найвялікшы парадокс беларускай нацыянальнай ідэі: выракацца сябе, каб атрымаць паўнату ўсяго. Пазбавіцца пыхі і даць выявіцца Хрысту — каб усьвядоміць сябе нацыяй.

Кожны, каму кідае выклік сьвет зь ягоным багацьцем, гонарам, сілаю, раскошай, гвалтам ды абыякавасьцю, ня можа супрацьпаставіць сьвету самога сябе і не пацярпець паразы. Тут патрэбны Нехта большы за сьвет.

Часам даводзіцца патраціць цэлае жыцьцё, каб нарэшце праняло да дрыжыкаў: як голымі і ўбогімі прыйшлі мы на гэтую зямлю — так голымі і ўбогімі зь яе пойдзем.

І шчасьлівы, сапраўды шчасьлівы той, хто зразумее: няма ў беларуса, вандроўніка і жабрака ў вечнасьці, нікога і нічога, акрамя Ўсёмагутнага і Ўсёдаравальнага Збаўцы, Чый белы з крывавым сьледам сьцяг успыхвае з труны як запрашэньне ў Валадарства Нябеснае:

— Хрыстос уваскрос!

*28 красавіка 2013 г.*

## LXXIII. ШЛЯХ І КРЫЖ АЎТУХОВІЧА

*...хто хоча ісьці за Мною,*
*зрачыся сябе,*
*і вазьмі крыж свой,*
*і ідзі за Мною сьледам.*
***Марка 8:34***

Почырк у яго проста любата. Буйны, цьвёрды, літары гранёныя, кожнае слова нібы надпіс, адчаканены на гербе.

Радкі шыхтуюцца па-гвардзейску, выступаюць роўна, стройна, пячатаюць кропкі і коскі так, што чытаеш і чакаеш: вось-вось грымне «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Менавіта такі почырк мусіў быць у летапісцаў, манахаў, што ад рукі выводзілі ў

скрыпторыях Біблію, або ў рыцараў, якія выклікалі супраціўніка на бой.

«Фізічна чалавек можа вытрымаць амаль усё, ён толькі гэтага ня ведае, пакуль не паспрабуе, — піша Мікалай Аўтуховіч у лісьце з прастакутнай байніцай штэмпеля «г. Гродна. турма № 1». — Лічу, што кожны мужчына павінен абараняць сваю годнасьць і гонар, быць абаронцам сваіх родных і абавязкова — Радзімы».

І ён адказвае за гэтыя словы. Год за годам у каменных мурах ды падвалах, праз галадоўкі, якія трымае месяцамі, сьціскае ныючыя зубы, каторыя не даюць лячыць, — і зьлёгку ўсьміхаецца канвою.

Аўтуховіч ваўкавыскі: горада, чый сімвал — ашчэраны воўк.

О, гэтая векавечная Літва!.. Гэтыя халодныя празрыстыя далячыні з калыханьнем пералескаў на ўзгор’ях і ціхімі зьмеямі рэчак, гэтае сатканае з малітваў і шэптаў натхнёнае Панямоньне… Усё тая ж таемная і бяздонная беларуская глыбіня.

Маленькаму ліцьвіну з Ваўкавыска ня споўнілася і шасьці, калі зь сям’і сышоў бацька. Матуля працавала па зьменах на хлебазаводзе, мыла посуд у школе. Мікалай гадаваўся на вуліцы. Вуліца, паводле ягоных словаў, і выхавала байца, нецярпімага да маладушша, хлусьні і здрады. Сярод аднагодкаў быў важаком, таму класны кіраўнік як мог стараўся зрабіць зь яго старшыню піянерскага атрада. Як і ўсе савецкія дзеці, Мікалай ненавідзеў капіталістаў — і верыў настаўнікам, што амерыканцы робяць цукеркі з нафты. (Потым, на прыёме ў амбасадаркі ЗША Карэн Сьцюарт, убачыўшы на стале цукерніцу, Мікалай папросіць пакаштаваць… Салодкі дзіцячы міф растане на языку пад дружны сьмех прысутных.)

Вучыўся на механіка, зарабляў на разгрузцы вагонаў. Потым — войска, кіроўца ў ракетных частках асаблівага прызначэньня. І Афганістан. За аперацыі, у тым ліку ахову моста пад Кандагарам, узнагароджаны медалямі «За адвагу» і «За баявыя заслугі», а таксама ордэнам Чырвонай Зоркі.

У 1991-м імперыя, якая пасылала яго паміраць у горы, рухнула. Аўтуховіч вярнуўся дахаты — і трапіў у горад пад бел-чырвона-белым сьцягам. Пачаў будаваць жыцьцё. Заняўся бізьнесам. Наладзіў у Ваўкавыску службу недарагіх таксовак — гаражы пачыналіся адразу за домам. Зрабіў горад зручным для тых, хто сьпяшаецца.

Як высьветлілася, пасьпяшаўся.

Працаваць не далі. Знайшоўся, бач: занадта разумны.

І што ж загадаеце рабіць герою вуліцы, байцу-афганцу шляхецкай крыві, калі ў родным горадзе лоб у лоб сутыкаесься з высокапастаўленай подласьцю і афіцыйным рабаўніцтвам? Аўтуховіч прымае выклік, ідзе на «выбары»-2004 — і пачынае прылюдна адно за адным выварочваць бярвёны зь бессаромных вачэй раённага начальства.

Ясная рэч, крымінальная справа. Прычым сьледчы Аліхвер, аформіўшы «ўхіленьне ад падаткаў» на самога Аўтуховіча, празь некалькі гадоў ірване на ПМЖ у ЗША: фотаздымкі шчасьлівага вандроўніка ў сонечнай Атланце цяпер можна шукаць у сеціве як адказ на запыт «Кожнаму сваё. Карцінкі».

Вось менавіта, а Аўтуховічу — турма. 74-дзённая галадоўка ў гродзенскім СІЗА, падчас якой чалавек губляе ня толькі 40 кг, але і ўсё здароўе.

І такі дамогся свайго — вызваленьня перад судзілішчам на хатні арышт.

Ледзь ачуняўшы, Мікалай сыходзіць у падпольле і, быццам Робін Гуд, рассылае звароты да ўсіх жыхароў краю. Два месяцы ідзе аблава, па ўсіх райаддзелах расклеена фота з папярэджаньнем пра ягоную паляўнічую зброю — і ўся карная машына ледзь-ледзь дае рады Аўтуховіча затрымаць.

«Мне спадабаліся словы зь Бібліі — “ня будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром”, — піша Мікалай. — Чалавек ня можа, ці, лепш казаць, не павінен схіляцца перад злом, перад зьнявагаю сваёй годнасьці».

Зона. Галадоўкі. Прызнаньне палітычным вязьнем. І вызваленьне.

Мікалай дачакаўся вяртаньня свайго бацькі: той пачаў працаваць на ягонай фірме. Але не пасьпелі патлумачыцца, адкрыць адзін перад адным душы: бацьку забрала сьмерць, а на сына зноў абвясьцілі дзікае паляваньне.

Кожны ліцьвін, кожны шляхціц, кожны мужчына, у рэшце рэшт, мусіць быць гатовы: калі ты ўвязаўся ў вайну, ды яшчэ за праўду — гэта звычайна не на жыцьцё, а на сьмерць. Усяго некалькі месяцаў на волі — і зноў сьледства, на гэты раз — абвінавачваньне ў тэрарызме. Праславуты гранатамёт, «падрыхтоўка замаху» на гарадзенскіх абласных чыноўнікаў…

У судзе справа развальваецца на дымныя руіны, і ўся краіна бачыць, што сярод рэчавых доказаў «злачынства» валяюцца ўсяго пяць патронаў, выпадкова знойдзеных падчас ператрусаў. Прысуд — 5 гадоў і 2 месяцы строгага рэжыму. Івацэвічы. Зноў галадоўкі. Адмовы лячыць хворыя зубы. Карцары. Штрафныя ізалятары. Умовы, якія ва ўсім сьвеце называюць катаваньнямі. І, нарэшце, глухая турма ў Гродне, у цені вежаў езуіцкага касьцёла, дзе сядзелі яшчэ Напалеон

Орда, паўстанцы Каліноўскага, Прытыцкі і Браніслаў Тарашкевіч.

«Бог глядзіць за ўсім, — нагадвае Аўтуховіч. — Таму кожны атрымае тое, што зарабіў».

Адзін з апошніх лістоў ад Мікалая прыйшоў у самаробнай капэрце, склеенай з вокладкі ад школьнага сшытка. Дажыліся, думаю, у палітвязьня капэртаў няма. Дасылаю — і атрымліваю адказ:

«Не хвалюйся, усё ёсьць. Проста няма жаданьня працаваць на тых, хто мяне пасадзіў за краты. А душа хоча штосьці рабіць… Вось і майструю капэрты з усяго, што ёсьць пад рукамі. Іншы раз прашу, каб дасылалі каляровыя лісты, клею зь іх».

Хаця б разок каўтніце вольнага паветра — за яго. Уявіце, як рассылае з гродзенскіх турэмных муроў па ўсім краі лёгкіх паштовых птушак з каляровымі крыламі паланёны шляхціц з Ваўкавыска…

Як глядзіць на шэрае беларускае неба, укрыжаванае чорнымі квадратамі… І як ідзе праз калідоры, па завучаных на памяць прыступках былога калегіума езуітаў, зьбіваючы ногі, увесь збалелы ад галадовак, ранаў і шнараў, сашчапіўшы тыя клятыя зубы, сьцяўшы плоць у кулак, са сваёй заўсёднай ціхай — не дачакаюцца — усьмешкай, па сьлядох манахаў і інсургентаў…

Тым самы шляхам, якім дагэтуль мерае крокі па цесных камерах нашых каменных сэрцаў зьняволены, зьнясілены, асуджаны на неба праз крыж Хрыстос.

*28 ліпеня 2013 г.*

## LXXIV. КРАЛІ І БУДЗЕМ КРАСЬЦІ

*А мытнік, стоячы воддаль,*
*не адважваўся нават*
*падняць вочы да неба;*
*але, б'ючы сябе ў грудзі,*
*казаў: Божа! Будзь літасьцівы*
*да мяне, грэшніка!*
***Лукі 18:13***

— Пілі і будзем піць! — здаравезны мужык, што падвозіць мяне да царквы на зачыненым абшарпаным белым бусе, у адказ на мае маралі з усяе сілы лупіць кулаком у стырно. — Кралі і будзем красьці!

«Немец» нервова ўздрыгвае і калоціцца, ці то ад ямаў на дарозе, ці то ад уладарнага ўдару, ці то ад грымотападобнага басу. О, колькі сьпірту, цыгарэтаў ды каляровага лому перавёз гэты палонны «фальксваген» праз бліжэйшыя межы — ня сьнілася аніякаму Гудэрыяну, генію тылавога забесьпячэньня, танкаваму генералу, што ужо на другі дзень вайны абсталяваў пад свой штаб пружанскі Палацык.

Кіроўцу, плячыстага бугая, можна лёгка ўявіць і разбойнікам, які выходзіць на шлях з чаканам, і савецкім партызанам, што, ярасна дыхаючы, прэ зь вёскі ў лес тушу рэквізаванага вепрука, і ваяром, які глыбей насоўвае на галаву шалом перад Грунвальдам.

Яны такія, ціхія героі нашага часу. Каржакаватыя. Суворыя. Ведаюць цану жыцьця, сьмерці і дзьвесьце дваццаць восьмага артыкула Крымінальнага кодэкса.

У заўсёдных трэніках, моўчкі адмыкаюць гараж; сапучы, расьпіхваюць ва ўсе шчыліны салона ды кузава дабро, выходзяць на двор, дастаюць з задняе кішэні зашмальцаваную мабілу, чухаюць грудзі і буркаюць: «Ну давай там... Як заўсёды, ага…»

*А ў кантрабандыста сталёвыя нервы, ён гуляе ў цемры ў небясьпечныя гульні…* Так і плыве, і віруе празь межы эпохаў ды гушчары, затканыя імглою, «Народны альбом».

На Каменным Логу затрымана 30 тысяч кантрабандных ружаў… У Горадні выяўленая фура зь няўлічанымі камп'ютарнымі камплектуючымі на мільён даляраў… У Мінску канфіскавана 10 тон нелегальных бананаў на мільярд рублёў… Дзясяткі тысяч дзіцячых шапачак без аніякіх дакументаў… Дзесяць вясельных галубоў у скрыні для пальчатак…

З амаль 30 мільярдаў штук цыгарэтаў, што вырабляюцца ў Беларусі за год, 10 мільярдаў вывозіцца за мяжу краіны кантрабандай. Гадавы абарот ценявога цыгарэтнага бізнэсу ацэньваецца ў 690 мільёнаў даляраў. А колькі мы там вымольваем з чарговым расейскім траншам?

Мяжа з Украінай — пад 900 км. Мяжа з Расеяй — каля тысячы. Мяжа зь Еўразьвязам — 1,3 тысячы кіламетраў. Вось і лічыце.

І можна толькі здагадвацца, колькі мільярдаў складае кантрабанда самога рэжыму. Праслаутыя растваральнікі, продаж зброі ў абыход санкцыяў і «вокны» на мытнях, калі міма чэргаў зачараваных дальнабояў праходзяць караваны трэйлераў ды эшалоны цыстэрнаў, даюць толькі туманнае ўяўленьне: пяць блокаў цыгарэтаў, затараныя замест паветранага фільтра ў «газелі» пружанца — лёгкая зацяжка.

Але ж якія партыі для кантрабаса з аркестрам выконваюцца людам на памежным стане душы!..

Вось знакаміты берасьцейскі «сьпіртавоз». Беларускі народ увальваецца ў вагоны, выломвае сядзеньні, здымае борцікі ды сьмецьцевыя бачкі, агаляецца, з трэскам зьдзірае зь сябе серпанціны скотчу ды пе-

ралівістых пакункаў, запоўненых мутнай вадкасьцю, піхае іх ва ўсе дзіркі… заціхае да мяжы, шклянымі вачыма глядзіць міма мытнікаў, каторыя ўсё ведаюць і каторым даўно абрыдлі гэтыя невідушчыя і запляваныя раніцы… а потым раптам зрываецца зь месцаў, з грукатам адчыняе фрамугі і пачынае шпурляць пад адхон скруткі — быццам цягнік зьнянацку атакавалі вампіры.

Такім чынам: што незаконна ўвозяць у Беларусь? Машыны, бытавую тэхніку, вопратку, ежу, золата, дыяменты.

А вывозяць зь Беларусі?

Цыгарэты. Сьпірт. Наркотыкі. А яшчэ — будучых прастытутак.

Зь Еўропы — лепшае жыцьцё ў асартыменце.

Зь Беларусі — поўны набор граху.

Увозім дабро.

Вывозім зло.

Няўжо злачынства — абкрадаць рэжым, які абкрадае нас? Анягож: тады мы самі проста робімся такімі, як яны.

Вядома, возяць, каб забясьпечыць сям’ю; вядома, што насамрэч беларусы цяністымі сьцежкамі праз раскроеныя акупантамі межы цягаюць скрыні да такіх жа карэнных беларусаў Падляшша, Віленшчыны, Смаленшчыны, Латгаліі…

Але ж гэта крадзеж.

Пагадзіцеся, адно — нелегальна перапраўляць шрыфты і паперы для друку Бібліяў у падсавецкую Беларусь, маючы з гэтага не прыбытак, а сьмяротную рызыку; другое — вывозіць з Ваўкавыска да гайнаўскіх сваякоў кабанчыка, забітага ў час афрыканскай чумы, прычым, магчыма, з той самай чумой; і ўжо зусім трэцяе — у прамысловых маштабах перці

да суседзяў выпіўку, курыва… гераін… што там далей? Афганскіх падлеткаў?.. Цэлы вагон міс Брэст?..

Пружаны — ціхая сталіца дробнай беларускай кантрабанды. Польшча. Украіна. Расея. Літва… Растуць, растуць на ўзьлесках Белавежскай ды Ружанскай пушчаў за высокімі платамі катэджы, быццам састаўленыя з агромністых цыгарэтных блокаў.

А навошта працаваць за тыя тры мільёны беларускімі, калі адзін удалы цыгарэтны рэйс — і маем тысячу еўра?

Дзеля крэдыту, над якім дзесяць гадоў дрыжаць і расплачваюцца? Дык на старэнькім бусіку за колькі месяцаў здабудзеш і болей. Катэдж. Кватэра дзецям. І расьсякаюць па дарогах Пружаншчыны «мерсы» ды «бумеры», «пантыякі» ды «паршэ-каен».

— Ня ссы, у нас у раёне толькі трое чужыя, — кажуць тутэйшыя знаўцы дабра і зла. — Начальнік райаддзела, галоўны гэбіст і пракурор. Астатнія ўсе свае.

Усенародна зьмірымся, што красьці, хлусіць і кантрабасіць — норма? Тады ня трэба зьдзіўляцца, што годнасьць і сьвядомасьць запіхваюцца ў выпадковыя парожніны, свабода і мараль машынальна пералічваюцца на даляры, а дабро, у рэшце рэшт, паводле выгаднага курсу абменьваецца на зло.

А можа, мы, беларусы, так і спадзяёмся па жыцьці — цішком, з абыякавым тварам ды шклянымі вачыма праскочыць мяжу, якая аддзяляе Рэспубліку Беларусь ад Валадарства Нябеснага? Пачухаць грудзі, зрабіць пару званкоў, націснуць на газ — і прасьлізнуць у такі блізкі і такі недасяжны рай міма Госпада Бога?..

*4 жніўня 2013 г.*

# LXXV. БАБУЛЯ МАРЫЯ. ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЖЫЦЬЦЯ

*І гаворыць Ёй анёл:*
*«Ня бойся, Марыя,*
*бо знайшла Ты*
*ласку ў Бога»*
***Лукі 1:30***

Бабуля памерла.

Паклалі яе ў сьветлы пясок побач з мужам, маім дзедам-франтавіком, пад дубамі на высокім правым беразе Дняпра. Дняпро тут шырокі, ціхі, калі доўга глядзіш, здаецца, што крыж на могілках разам зь вёскай адплывае кудысьці на поўнач.

У нашай сям'і бабуля Марыя (або, як усе называлі, баба Маруся) была апошняй з галоднага ваеннага пакаленьня. Нарадзілася ў часы беларусізацыі, у 1926-м, пад Рагачовам.

Дзіцём ледзь ацалела ў галадаморы. У вайну зь вяскоўцамі з роднай Крушынаўкі сышла ў лес. У партызаны? Не, проста ў лес, было страшна і кругом забівалі. Пра партызанаў гаварыла цішком, гледзячы кудысьці міма: «Розныя былі, унучак… Хтосьці мо й ваяваў, а каторыя хадзілі ў людзей апошняе забіралі». Не было чаго есьці. Варылі і лебяду, і крапіву. Недаяданьне, голад, прага пад'есьці дасыта — мы ўжо і забыліся, як яно жарэ чалавека знутры.

Пасьля вайны ў цельніку, зьнятым з забітага немца, і двух гумавых ботах рознага колеру Марыя прыехала ў вучэльню ў Жыровічы. На ўсю стыпендыю купляла хлеба ды булачак, каб везьці галодным сваякам — не заставалася грошай нават на квіток дахаты, ехала на падножцы вагона.

Потым уладкавалася на пошту і мусіла перавозіць

вялікую торбу зь лістамі лодкаю цераз Дняпро — масты стаялі ўзарваныя.

Гэта тады бабуля злавіла рукамі аграмаднага шчупака: увесну на залітым Дняпром лузе ў адной з пратокаў паўзло-перакочвалася паласатае *бервяно*. Бабуля кінула торбу на сухое, упала пластом на пачвару, абняла яе і загаласіла на увесь сьвет: «А людцы! А родненькія! Ратуйце!..»

Выцягвала, смажыла ды ела таго шчупака ўся вёска.

І аднойчы пасьля танцаў, з кавалерам, што няўклюдна пераступаў пратэзам, яны выцягнулі лодку на дняпроўскі пясок і зайшлі ў тую хату на крутым правым беразе, сярод ігрушаў, яблыняў ды вішняў, хату, у якой замест падлогі быў ток, хату, поўную пакінутых маёй памерлай ад тыфу прабабкай Тацьцянай дзетак.

— Пашкадавала я тады… ня столькі яго, колькі малечу сіроцкую, — казала потым бабуля Марыя і ціха, стрымана ўсьміхалася. Высокі, прыгожы дзед Павел ужо тады, 26-гадовы, быў без адной нагі, адцятай на фронце мінамётным выбухам па калена. І хай як заўгодна збыткуюць з каханьня-шкадобы — я за, і заўжды буду за, бо сам унук шкадобы.

Потым, калі ў дзеда спаралізавала палову цела са здаровай нагой і ён мусіў перасоўвацца ў калясцы, адзінай здаровай рукой упарта сек дровы, прыбіраў на двары, лушчыў «квасолю» ды кукурузу — бабуля любоўна пасьмейвалася і ціхенька ківала суседкам — бач, з адной рукой застаўся, а гаспадар. Кажу вам, гэта было каханьне, хай сабе за семдзесят, але сапраўднае, перад якім хочацца проста заплюшчыць вочы.

Бабуля Марыя дала мне жыцьцё двойчы. Першы раз — калі нарадзіла сына Кастуся, майго бацьку, што даглядаў і дзеда, і яе апошнія гады. Другі — калі ўратавала мяне, гадавалага, ад сьмерці.

«Дактары ад цябе ўжо адмовіліся, — расказвалі бацькі. — Сказалі: куды, такая дызентэрыя, не жылец...» Прывезьлі ў вёску — развітацца з бабуляю ды закапаць. «Ты быў маленечкі, сіненькі-сіненькі, і ня еў анічоганькі, толькі енчыў, — згадвала бабуля. — Адпаіла цябе конскім шчаўем ды малачком». І бабуля Марыя ледзь заўважна пасьмейваецца: перамагла-такі яе, злую сьмерць.

Калі агаломшаныя тата з матуляю прыехалі з аршанскага Пагоста, дзе тады жылі і працавалі, і радасна кінуліся мяне абдымаць, я з крыкам «Мама!» схаваўся на руках бабулі.

Жывыя, нават гарэзьлівыя чорныя вочы, шчокі здаровага румянку, срэбная сівізна, каржакаватая постаць, і ўсё цела нахіленае наперад, як супрацьвага ношы за плячыма.

Невысокая, ёмістая, зараджаная, яна пасьпявала ўправіцца ў хляве, і на гародзе, і на рэчцы зь бялізнай, і на далёкіх *пайках* зь сенам для каровы, і зьбегаць у лес па чарніцы ды баравікі.

І гэта ёй, працаўніцы, каторая цягнула, лічы, дзьве сям’і, сталінская дзяржава не выдавала пашпарта, каб замацаваць савецкі прыгон, ажно да часоў застою.

Неяк спрачаліся з бабуляй, на якой мове яна размаўляе. «Ай, можа й па-руску», — зухавата адбівалася яна. Некалькі дзён занатоўваў яе самыя ўжывальныя словы. Дзьве трацiны аказаліся чыста беларускія, 30% — трасянкі (расейскія словы з тэлевізара, прагаворaныя зь беларускай фанетыкай), астатняе — тутэйшыя дыялектныя.

«Мама, калі вы прагаласуеце за Лукашэнку — вашага ўнука Пашку пасадзяць», — яшчэ ў 2001-м даводзіў ёй тата. Так бабуля Марыя стала выбаршчыцай дэмакратаў.

Цяпер, па яе сьмерці, адчуваеш пранізьліва й вос-

тра: летнія месяцы, калі бацькі адпраўлялі нас у вёску, былі проста сьвятам жыцьця.

Унорыца. Вёска, выцягнутая ў дубах ды бярозах уздоўж высокага правага дняпроўскага берага. На дзень нараджэньня бабулі Марыі, пад Вялікдзень, — быццам нявеста, у аблоках квітнеючых садоў, уся ў россыпах белых пялёсткаў… Каменка, малады лясок побач, поўны чырвонагаловых падасінавікаў і ўлюбёных бабуліных крэпкіх зялёных *сыравежак*… Рака. Неаглядная плынь вады, далёкі пошум маторак. Хата на беразе, з гарода прыступкі спускаюцца ў самы Дняпро, там калінавы зарасьнік і раптоўны выбух язьміну…

Бабуліна Ўнорыца зь яе гародам, кароўкаю, сьвежынной, сырадоем, рыбаю, ягадамі ды яблыкамі заўжды была раздольлем ядомага, раем сакавітае смакаты.

Бабуля, што недаядала ў сваю найлепшую пяшчотную пару, заўжды выстаўляла на стол усё, што было ў хаце — ад вяндліны ды кілбасаў, заліўное рыбы і вантрабянак да пірагоў, тваражкоў, ягадаў з цукрам і сьмятанкаю. Прападала ў бульбе ды ў лесе, здавала яблыкі, рабіла закаткі, разьмяркоўвала і ўраджай, і пенсію, і заробкі на кірмашы з грыбоў-ягадаў паміж сынамі і ўнукамі, нягледзячы на іх пярэчаньні, каб, крый Божа, ніхто не застаўся галодны.

Колькі гадоў таму ў бабулі адабралі апошняга кабанчыка. Забаранілі сыны — бо васьмідзесяцігадовая, з анямелымі рукамі, яна ўсё надрывалася, цягала вываркі ў хлеў. Было шмат угавораў, крыку і сьлёзаў… Сышліся на курах.

Апошні месяц бабуля, каторая цэлае жыцьцё карміла ўсіх блізкіх, піла толькі ваду. Сьцюдзёную-сьцюдзёную. Нават ад булёнчыка ці кампоціка ёй рабілася млосна.

А вакол усё аж буяла, сьпела, налівалася сокам, смажылася да духмяніла…

І тады простая беларуская сялянка зь біблейскім імем Марыя, падобная то на сястру Марфы, то на Марыю Магдаліну, то на Матулю Госпада, маці трох сыноў, бабуля сямёх унукаў і прабабка сямёх праўнукаў, стомлена легла ў сьветлы, амаль празрысты днепроўскі пясочак. І паплыў над ракою крыж.

І паляцела душа, лёгкая-лёгкая, зрабіўшы разьвітальнае кола па-над плоднай, у яблыках белага наліву, кроплях парэчак, з пахам цёплага хлеба Ўнорыцай, над грыбной Каменкай, лугам, дзе пасьвілі кароў, царквой у суседняй Азершчыне, туды, дзе нарэшце няма ані голаду, ані клопату, ані сьмерці, — куды паклікаў Марыю Бог.

*11 жніўня 2013 г.*

## LXXVI. ГЕНІЙ БЕЗ ГРАМАДЗЯНСТВА

*Яна пайшла і абвясьціла тым,*
*што былі зь Ім,*
*што плакалі і галасілі,*
*але яны, пачуўшы, што Ён жывы*
*і яна бачыла Яго — не паверылі.*
***Марка 16:10–11***

У лістах у каменду мне часта дасылаюць вершы. Купалу, Багдановіча, Караткевіча, Гілевіча, Барадуліна… Але яе вершаў больш, чым астатніх. Можа быць, таму, што яна хрысьціянка з празрыстым сэрцам. Можа, таму, што пасьля допытаў Цанавы і катаваньняў у «амерыканцы» яна восем гадоў гніла ў страшнай ссылцы на Поўначы. А можа, проста таму, што адмовілася ад савецкага грамадзянства, казала «Не!»

і Максіму Танку, і Аляксею Карпюку, і Паўліне Мядзёлцы — і не дачакалася рэабілітацыі ані са сьмерцю тырана, ані з «адлігай», ані нават з развалам імперыі.

Гэты ўсё яна, беларуская глыбіня… Ціхія ліцьвінскія ваколіцы, скрозь у крынічных заблытаных рэчках, дрымотных правалах пушчаў і сьветлых узгор’ях з могілкамі на вяршынях. Самае месца для таго, хто верыць у Бога, любіць сваю краіну і не здаецца злу. Для генія беларускага Евангельля.

Толькі тады, калі на пахаваньне Ларысы Геніюш у красавіку 1983-га прыйшлі тысячы жыхароў Зэльвы, прыехалі менчукі, гарадзенцы, берасьцейцы, пісьменьнікі, мастакі, колішнія вязьні і моўчкі, пад прыцэлам гэбоўскіх камераў, ішлі сьледам за яе труной — а яна плыла, цякла, як рака, ціха склаўшы рукі на замерлым сэрцы, гледзячы ў неба, — толькі тады, запозна, яны дапялі, чаму яна ўсё-такі адмаўлялася.

Потым хлопец, што пад выглядам пажарнага ставіў «жучкі» ў яе на гарышчы, будзе каяцца. Потым вядома хто невядомы будзе начамі выломваць са сьценаў мемарыяльныя шыльды, а савецкая ўлада запатрабуе зьнесьці помнік з «Пагоняй» і малітвай гулагаўскіх вязьняў — «Божа, барані Беларусь!», — пастаўлены ля царквы, дзе яе адпявалі.

А жывой… Абяцалі кватэру ў Менску. Пісьменьніцкую пенсію 100 рублёў. Публікацыі. Выданьні ў Маскве. Усяго адна пячатка — і… Ды такія шаноўныя людзі… Сябры…

Як там: «Я другой такой страны не знаю…» А яна пісала: «Зь пекла ўпала на голаў мне ўся гэта эсэсэсэр».

Для кожнага зь іх, людзей з савецкім штампам, згода Геніюш азначала б камень з душы. Апраўданьне. Геніюш — савецкая грамадзянка? Значыць, няма чаго мучыцца згрызотамі. Значыць, і хлусьню, і бязбожжа, і беспрасьвецьце можна пакласьці на захаваньне ў

глыбокую беларускую скарбонку: «Значыцца, так і трэба».

Згода Геніюш азначала б, што і пра дэпартацыю разам з мужам Янкам з Чэхаславаччыны, і пра турмы, этапы, допыты і катаваньні, і пра таежную сьцюжу, і голад, і зацкаваных аўчаркамі зэкаў, і пра тысячы «дахадзягаў», забітых у Інце, і пра маўчаньне тых, хто «на волі», і пра вынішчаную бальшавікамі сям'ю — пра ўсё гэта можна проста забыцца.

І што ласкавая мянушка «Маці», прышчэпленая ў бараках, і вершы, каторыя вязьні называлі «глюкозай» ды завучвалі на памяць, і лісты, што перадавалі на «вольную зямлю», схаваўшы ў вагонах з вугалем, і абраз Ісуса ў церні, намаляваны на падваконьні ў камеры на Вялікдзень, і таемна напісаная «Споведзь» — усё гэта было пустое.

І што пасада генеральнага сакратара БНР і захаваньне архіва, цяпельца беларускай незалежнасьці, не падлеглай ані бальшавікам, ані дэфензіве, ані нацыстам, і сама сьветлая мара пра вольнасьць — гэта было марна.

Таму яна і паўтарала: «Не, не, не!» І ў сваім задубелым на паўночных маразах твары, у высечаных пакутамі зморшчынах знаходзіла ласку, цяпло і ўсьмешку для тых, хто побач. Выцягвала з роспачы зьнясіленых беларускіх мужчынаў. Пісала адмыслова для Барадуліна верш «Не пі, Рыгор! Ня пі, сынок…» — і той кідаў тапіць свой геній у гарэлцы. Дасылала літкансультанту «Гарадзенскай праўды» Васілю Быкаву свае вершы, якія той набіраў на друкарцы і паціху даваў у газеты. Расплюшчвала вочы маладому Ўладзю Караткевічу, які слухаў яе аповеды пра сьветлую савецкую рэчаіснасьць і рэдагаваў зборнік «Невадам зь Нёмана». Пісала тысячы лістоў, у якіх падбадзёрвала зморaных і перадавала веру адчайным.

І штовесну разбівала ля хаты найлепшы ў Зэльве кветнік.

Вось чаму Аляксандр Кацікаў зь «Песьняроў» запісаў цэлы альбом «Жывём» на словы Генюш, а апошняй песьняй, выкананай Уладзімірам Мулявіным, стала ейная «Краю мой родны». Вось чаму адным з пароляў вольнага руху ў 2006-м зрабіўся музычны дыск «Жыць для Беларусі» са сьпевамі на яе вершы, перабітымі ўнікальным аўдыё: Генюш чытае сама. Колькі жыцьця ў ёй, асуджанай на паміраньне, — душа мімаволі агукне: «Жыве!»

Ці мала моцных мужчынаў-беларусаў з крывавай чавільні XX стагодзьдзя ўцякло за мяжу? Не паднялося з бруду? Сьпілося? Скончыла жыцьцё самагубствам? Адкуль жа ў слабай, інтэлігентнай жанчыны, у чые далікатныя рукі паэткі трапілі ключы беларускай дзяржаўнасьці, узялося столькі сілаў: не пакінуць Радзіму, быць разлучанай з адзіным сынам, цярпець штодзённы зьдзек — і не прыняць пячатку зьвера?

Сярод здрадаў і сьмерцяў, пад наглядам ды ўціскам, калі і працаваць дазвалялі адно прыбіральшчыцай, і тое нядоўга, — не ў замкнёным, утоеным, а ў адкрытым хрысьціянстве, якое сьвеціць і дае каўток забароненай волі ўсім, — верніца Ларыса Генюш засталася геніем нацыянальнай ідэі. Жывым сьведчаньнем вечнай беларускай ахвярнасьці, чысьціні і ласкі. Нават паміж ворагаў — цьвёрдай, але любоўнай і натхнёнай. Прыгожай той зьнявечанай, але нескаронай прыгажосьцю, якая вось ужо 1000 гадоў выяўляе на гэтай зямлі Ўкрыжаванага ў чаканьні бел-чырвона-белага ўваскрасеньня.

*І як колісь Сьвятое Прычасьце*
*Зь яснай чашы ля Царскіх варот,*
*П’ю свой боль як вялікае шчасьце*
*За пакутны каханы народ.*

У той час, калі разьбягаліся нават найлепшыя вучні, калі люд хаваўся па хатах, калі падалі апошнія ваяры, — менавіта такія матулі веры, сёстры надзеі, дочкі любові, жанчыны беларускай глыбіні каўталі слёзы ды асьвятлялі бліскучымі вачыма крыж, дзе здабываў для нас, беларусаў, сьвятасьць Госпад Ларысы Геніюш Ісус Хрыстос.

*17 жніўня 2013 г.*

## LXXVII. СТАТКЕВІЧ

*І явіўся яму Анёл Гасподні,*
*І сказаў яму:*
*Гасподзь з табою, муж дужы!*
***Судзьдзяў 6:12***

Пра існаваньне Міколы Статкевіча я даведаўся ў той самы дзень, калі стаў беларускім нацыяналістам. У пачатку 1994-га, перад прэзідэнцкай кампаніяй, у Віцебску, у Акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа — тым самым, што збудаваны на месцы старажытнага Верхняга замка і на даху якога дагэтуль мрояцца вежы камяніцы Альгерда, — выступаў Зянон Пазьняк.

Акрамя колькіх соцень прыхільнікаў, Зянона сустракала і чорная сотня камуністаў ды славянасаборнікаў: у цёмных палітонах ды ў куртках з плакатамі пра «фашизм» і «единство народов». яны сталі шэрагам перад калонамі тэатра і загарадзілі ўваход.

І тады хлопцы зь Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў у барэтах з «Пагоняй» ды бел-чырвона-белымі нашыўкамі на камуфляжы па-жаўнерску, радком прайшліся ўздоўж чорных, пазрывалі агітацыю ды пашыхтаваліся ля ўвахода, каб віцьбічы змаглі прай-

сьці. Каманды гэтым хлопцам — з характэрнай картавінкай, але зычна — аддаваў малады Мікола.

А потым аказалася, што галоўнае наша зь ім скрыжаваньне — рог вуліцаў Нямігі і Ракаўскай. Там стаіць фундаваная ў XVII стагодзьдзі Статкевічамі мая царква, Сьвята-Петра-Паўлаўскі сабор. У часы Контрэфармацыі адзіны дзеючы праваслаўны храм Мінска (тады — у юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярхата), пасьля разбору Рэчы Паспалітай ён быў адрамантаваны на царскія грошы — і перайменаваны ў Кацярынінскую царкву. Менавіта тут, дзе адбываюцца беларускія набажэнствы і выдаецца львіная доля беларускамоўных праваслаўных кніг, я ўпершыню спавядаўся і прымаў прычасьце і якраз тут пачынаў дзень Плошчы.

Здавалася б, сам Статкевіч у царкве бывае нячаста. Але самая ўражвальная евангельская ўспышка — гэта калі на зломе, з трэскам касьцей, дзе і вернікі ніякавеюць, у ня надта рэлігійным чалавеку раптам адкрываецца Ісус.

Вось 20 жніўня 1991-га, назаўтра пасьля путчу, Статкевіч выступае супраць ГКЧП, пачынае ствараць Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў — а потым прарываецца на радыё і зьвяртаецца з заклікам не падпарадкоўвацца хунце.

Вось падчас хапуна на «Маршы Свабоды» Статкевіч прыкрывае сабой падлеткаў і дзяўчат ад ашалелага сьпецназа — і грыміць ў турму.

Вось на акрэсьцінскіх «сутках» апякае навічкоў, заступаецца за маладафронтаўцаў перад канвоем ды аддае сваё паліто.

Вось у «амерыканцы» ён адзіны больш за месяц трымае галадоўку пратэсту — і мы ўжо наварочваем па сваіх камерах гэбоўскі супчык, а ён у карцары цягне лямку за ўсіх.

Вось у Магілёўскай турме Статкевіч дамагаецца, каб зьняволеным пачалі выдаваць належныя, паводле ўрадавых пастановаў, прадметы гігіены — і толькі чуваць, як грукаюць «кармушкі», і камера за камерай, «крытка» пачынае радасна раўці.

Ад колькіх добрапрыстойных, салідных, пасьпяховых і глянцавых дзеячаў даставалася Статкевічу: маўляў, і недамоваздольны, і некамандны, і разбуральнік, і скандаліст, і, аёечкі, знаёмы з Шэйманам (які калісьці ўступіў у БЗВ)…

Але потым раптам аказвалася, што і выйсьці на вуліцу ратаваць нацыянальны гонар, або сказаць праўду ўголас, або хаця б сустрэць небясьпеку ў твар, калі ўсе бягуць, больш няма каму.

…А даць поўху вылюдку, аўтару «Дзяцей хлусьні», акрамя Статкевіча, ахвотных няма.

…А з кандыдатаў Плошчы ён адзіны дагэтуль застаецца за кратамі.

Статкевіч нязручны? Востры? Яршысты? А дзе, скажыце, вы бачылі сапраўднага шляхціца без асабістай незалежнасьці, бяз годнасьці, бяз шаблі, выхапленай з похваў?

Статкевіч — баец. Гульцоў у беларускім палітыкуме хапае, байцоў вобмаль. Дык майце ж на ўвазе, ён баец, з усімі, як кажуць, вынікаючымі.

У 2010-м менавіта Статкевіч перамог на грамадскіх дэбатах тут.бая, і менавіта яго, свайго цёзку, калі на гэты раз верыць Аляксандру Рыгоравічу, ацаніў маленькі Міколка: «Не дасі цацку — прагаласую за Статкевіча».

Да яго ўвесь час падсаджваюць правакатараў або заразна хворых.

Мне перапіска са Статкевічам забароненая. Яму прыходзіць толькі канверт з надпісам цэнзара. У 2005-м паехалі мы зь ім як падзельнікі на «хімію» пасьля шэ-

сьця супраць рэферэндуму аб трэцім тэрміне: мне ў лес, яму сьпярша — рамантаваць лядоўні, а потым у зачуханы калгас. Трэба ж было неяк прынізіць падпалкоўніка са слуцкім шляхецкім гербам, кандыдата тэхнічных навук, аўтара больш як 60 працаў у галіне аўтаматычных сістэмаў, эрганомікі, інжынернай і сацыяльнай псіхалогіі, з дысертацыяй «Тэорыя эфектыўнага ўзаемадзеяньня чалавека і машыны ў сістэме кіраваньня».

Як толькі (і хто толькі) не спрабавалі зламаць Статкевіча. І рэжым, і свае — чаго вартая адна гісторыя з сацыял-дэмакратыяй.

А ён не ламаецца. Трымаецца. І, бач ты, — усьміхаецца.

Статкевічу як байцу надзвычай пасуе ўсьмешка — яна ўмомант ператварае грубаватага вайскоўца ў зухаватага шляхціца і толькі падкрэсьлівае гвардзейскую стаць… Яму пасуе прозьвішча *Статкевіч*!

Ад такіх людзей нават геройства чакаеш як нечага само сабой зразумелага.

А зараз…

У турме бліжэй чым дзе да Бога. Бо тут чалавек найцясьней з уласным сэрцам.

Таму героі не адбываюць там пакараньне, а гартуюць сэрца. Кшталтуюць свае крокі ад дзьвярэй да акенца, адчыняюць замкі ды засовы ў самім сабе, каб аднойчы, сярод ворагаў, жанчын у сьлязах, у болю і ўціску, праз іх зноў раптам адкрыўся Той, хто Адзін цярпеў за нас усіх.

*24 жніўня 2013 г.*

## LXXIX. ЧАКАНЬНЕ АДКАЗУ

*Адказваючы яму,*
*Ісус спытаўся:*
*чаго ты хочаш ад Мяне?*
**Марка 10:51**

Доўгі званок. Пранізьлівы. Патрабавальны. Такі ж самы, як на пад'ём ці праверку. Пачынаюць грукаць дзьверы на першым і другім паверхах, тупат ног па калідорах, шоргат на лесьвіцы.

— Віктарына?..

У актавай зале, якую дзяжурка дагэтуль імянуе *ленкомнатай*, дзе ў любым кутку цябе гіпнатызуе партрэт Рыгоравіча і ў кратах граюць блікі сонца, прасеянага скрозь лісьце, хлопцы ды мужыкі рассаджваюцца на патройных секцыях складных савецкіх крэслаў і заціхаюць.

— Хто з герояў Бібліі сядзеў у турме?

— Назавіце самую сьветлую кнігу Сьвятога Пісьма.

— Ісус, укрыжаваны, крычыць: «Божа Мой, Божа Мой, чаму ты Мяне пакінуў?..» А сапраўды, чаму?

Зь сёлетняй вясны ў сьпецкамендатуры нумар сем адбываюцца біблійныя сустрэчы. Двойчы на месяц у нядзелю, сярод дня або пад вечар прыязджаюць браты зь евангельскіх цэркваў.

Брат Мікалай — баптыст, колішні гарманіст, чарнобыльскі ліквідатар; пахаваў сваіх набрынялых радыяцыяй таварышаў, а сам застаўся жывы, каб сьведчыць пра Хрыста; перапісваецца з шасьцю пажыцьцёва зьняволенымі; піша вершы, у тым ліку і па-беларуску; прапаведуе і грае на акардэоне.

Яшчэ адзін брат — Мікалай, але ўжо пяцідзясятнік, высокі, з высакародным абліччам, сьнежнай сівіз-

ной і пякучымі вачыма, што за саветамі цярпеў за веру, — глыбокім барытонам сьпявае псалмы.

Брат Слава, той самы, што працаваў і сьведчыў у нас на складзе запчастак, чытае Біблію і тлумачыць: проста, ясна, робіць паўзы, каб дайшло.

Мая справа — біблійная віктарына напрыканцы.

— Колькі разоў Ісус *перамяняўся*?

— На якіх мовах у Пружанах чытаецца ўголас Евангельле?

— Пакажыце, дзе шукаць Валадарства Нябеснае.

Прызы пераможцам за слушныя адказы адмысловыя. Акрамя, само сабою, кніг ды паштовак зь евангельскімі цытатамі, цукерак ды сокаў — шарык для пінг-понга, улюбёнай гульні каменды; дэфіцытная лямпачка (калі ў пакоі перагарэла — цішком выкручваюць, натуральна, у кухні або прыбіральні, і робіцца цёмна ўсім); шасьцілітровік чыстай пітной вады — бо тутэйшую, іржавую, толькі фільтраваць.

Пытаньні трэба падабраць так, каб адказ трапляў у сэрца. Біблія Сёмухі — па-беларуску, але затрымкі з адказам дзеля перакладу ў думках у хлопцаў ужо няма. Форма не напружвае, засталося галоўнае: сутнасьць.

А сутнасьць простая. Хочаш збавіцца? Хочаш жыць вечна? Хочаш на неба?

Маўчыць каменда. На пытаньні адказвае, на малітву дружна ўстае, але маўчыць.

Куплін — зусім не Малое Сітна. Евангелізацыя вакол сьпецкамендатуры аж віруе. Абавязкова прыязджае айцец Ігар з пружанскай Спаса-Праабражэнскай царквы, распавядае пра веру ды ставіць фільмы.

Наш айцец Сяргей з Новых Засімавічаў пераконвае цьверазець. Мінскі аўтапрабег «Беларусь для Хрыста» з канцэртам… Хрысьціянскія працоўныя

атрады, маладзёны, што дапамагаюць цэрквам будавацца і парадкаваць гаспадарку…

Евангельскі гурт «Добрая вестка» з бусам гукавой апаратуры, песьняроўскім шматгалосьсем і дачкой саліста, якая акампаніруе бацьку на некалькіх інструментах… Берасьцейскі ксёндз з парафіянінам-падлеткам, які сьпявае хрысьціянскі рэп…

Пастар мінскай «Царквы Ісуса Хрыста» дасылае евангельскую газету «Колокол», кнігі пра першыя крокі ў веры і ацаленьне ад залежнасьцяў. А вось і вядомы бард Аляксандр Чарпакоў, якога тутэйшыя бандыты памятаюць як *Чарпака*, увесь у наколках, распавядае пра сваё навяртаньне басам мацёрага уркі — вернік у законе з хрыплаватымі сьпевамі пра грэх і нябёсы ды пяшчотнымі вачыма.

Гэта ўсё Ён. Задае табе пытаньне штодня — каб цярпліва, усё жыцьцё, чакаць адказу.

— Назавіце доказы ўваскрасеньня Хрыста.

— Што значыць «Амінь»? А «Алілуя»?

— Чаму Ісус выбраў у апосталы Юду?

Тое імгненьне цішыні, калі прагучала пытаньне й чакаеш адказу, тое рэха беларускай мовы і Боскай думкі, заглыбленьне вачэй, якія глядзяць на цябе, у сябе — гэта цэлы сьвет.

Ці пакідаюць па сабе гэтыя пытальнікі хоць якую кропку ў галовах асуджаных за аліменты, крадзяжы, хуліганкі, дарожна-транспартныя здарэньні і цяжкія цялесныя пашкоджаньні? Беларус — чалавек глыбокі, маўчыць.

Прарыў пакуль адзін — пакаяньні па п’яні.

Пасьля працы, калі ў дзяжурцы ўжо ўнюхалі, далі небараку дыхнуць «у трубачку» і афармілі парушэньне рэжыму ўтрыманьня, сёй-той заходзіць да мяне. «Наруха» — справа сур’ёзная, раз-два — і зона, таму развагі адразу бруяць за жыцьцё.

— Паша, можна паінцерасавацца?

Мнуцца. Пачынаюць здалёк. Блытаюцца. Надсілу, сьцяўшы зубы, наракаюць ды выціскаюць зь сябе прызнаньні. Спавядаюцца. Да спазмаў у горле каўтаюць крыўду — і раптам зрываюцца на рыданьні:

— Бог жа ёсьць, Паш… Ёсьць!

Назаўтра ўжо глядзяць міма. Сорамна.

Сэрца зачынена — раздражнёна, з грукатам.

А ў нядзелю прыходзяць у актавую залу зноў. Слухаюць. Так і чуеш, як варушыцца ў душах, як хоча кожны нешта спытацца ў Бога сам. І мучыцца.

І стукаецца ў сэрца Творца.

І вісіць у актавай зале пад пільным позіркам Рыгоравіча немае пытаньне, нібы дым у курылцы.

Чаму, чаму беларуса, хрысьціянскую душу, цярплівую, пакорлівую і глыбокую, што ные, заходзіцца адчаем і трымае, сьцяўшы зубы, да апошняга, трэба так доўга і так настойліва ўгаворваць не таіцца, не баяцца, а проста ціха адказаць Богу?..

*8 верасьня 2013 г.*

## LXXX. БЕРАСЬЦЕ ЎКРЫЖАВАНАЕ

*Але Ён паранены быў за грахі нашы*
*і пакутаваў за беззаконьні нашы;*
*кара сьвету нашага была на Ім,*
*і ранамі Яго мы ацаліліся.*
***Ісаі 53:5***

Калі стаіш у музеі «Берасьце» і ўзіраесься ў чорную тысячагадовую яму з падмуркамі ды зрубамі хатаў, бачыш, колькі чалавечых жыцьцяў напластавалася за гэты час, колькі жыцьцяў стлела, якая руіна храмаў і якое радовішча герояў гісторыі пад нагамі, —

займае подых: зь якога ж дна прабіваўся гэты горад, якой глыбіні гэтая рана, поўная попелу і бітай крывавай цэглы…

Чаму ўдар за ўдарам зло біла, грохала менавіта сюды, крышыла сьвятыні з такім шалам і не давала зажываць гэтаму агромністаму крывацёку? У камяністых ваколіцах Ерусаліма цьвікі працялі цела Хрыста — а праз стагодзьдзе ў сутоцы Буга і Мухаўца рэхам адгукнуліся ўдары молатаў, якімі ў балоцістую зямлю забівалі палі паселішча готы.

Ох, даўно Госпад і д’ябал пазначылі гэтае месца будучага стыку цывілізацыяў, межавы слуп народаў і імперыяў, сталіцу вернікаў, грэшнікаў і мытнікаў — ранай.

Менавіта яго, Берасьце, жалезнымі ўдарамі крыжакоў-рыцараў Генрыха Ланкастэра, будучага караля Англіі, Вітаўт адбіў у Ягайлы ў 1380-х, а у 1409-м таемна выкоўваў тут разгром таго самага рыцарства пад Грунвальдам. Менавіта Берасьце першым у межах сучаснае Беларусі атрымала магдэбургскае права — і стала галоўным горадам беларускага Ізраіля ў залатым веку XIV–XVII стагодзьдзяў, цэнтрам габрэйскіх грамадаў ВКЛ. Рымскі закон і адчай гнанага габрэйства зноў сутыкнуліся тут — і зноў, як у Юдэі пачатку нашай эры, пад грукат цьвікоў паміж імі падняўся крыж. Якраз тут — самае балючае месца на целе беларускай царквы. Гэта зь Берасьця, з надрыўнага шва праваслаўнага і каталіцкага сьвету, у 1550-х раптам пачала крынічыць Рэфармацыя.

Мікалай Радзівіл Чорны, берасьцейскі ваявода і найбольш уплывовы вялікалітоўскі магнат, абвясьціў, што вяртаецца да простай веры ў Хрыста, заклаў тут першы кальвінскі збор, друкарню, выдаў Берасьцейскую Біблію гатычным шрыфтам, каб навярнуць да евангельскага руху Польшчу… ды так заструменіла,

што і праз стагодзьдзі дацяпер Берасьцейшчына — край пратэстанцкіх грамадаў.

Якраз тут, на зломе, у сутаргах, у крыках нараджалася найвялікшая унія за ўсе часы хрысьціянскага падзелу, што ахопіць бальшыню беларусаў, пакіне адчуваньне болю на цэлыя стагодзьдзі і дасьць мільёны нашчадкаў ад Украіны да Канады і Аўстраліі. Гэта яна, успоратая вострым жалезам берасьцейская глеба, сталася амбонам і для правадыра уніі, берасьцейскага кашталяна Іпація Пацея — і магілаю для ягонага яраснага супрацiўніка, берасьцейскага манаха Афанасія Філіповіча, закапанага жыўцом у зямлю, прылічанага да сьвятых пакутнікаў праваслаўнай царквой, ды яшчэ і плахаю для езуіта Андрэя Баболі, якому звар’яцелыя казакі павыбівалі зубы, вырвалі язык ды валасы, садралі скуру і павесілі за ногі па-над скрываўленым долам…

Даруй ім, Госпадзе, бо ня ведаюць, што твораць!..

Білі шведы, білі казакі, білі расейцы, білі палякі, білі немцы, білі бальшавікі… Бурылі замак, палілі жыхароў, усаджвалі зброю на ўсю глыбіню, каб зьнішчыць беларускую таямніцу. І калі Расейская імпэрыя канчаткова расьцяла Рэч Паспалітую напрыканцы XVIII стагодзьдзя, нават пытаньня, дзе забіць цьвік, не ўзьнікала.

Увесь стары горад быў выпалены «выпадковымі» пажарамі. Замак, які прастаяў паўтысячы гадоў, фарны касьцёл, сем каталіцкіх кляштараў, тры ўніяцкія царквы, евангельскі збор, праваслаўны манастыр — зруйнавалі. І з гэтай самай барвовай цэглы зубцамі, байніцамі і ўсёй пачварнай пашчай ашчэрылася Крэпасьць. Пад Цытадэльлю былі пахаваныя ўсе 500 гадоў цывілізацыі ВКЛ — і цяпер пусты горад, аднесены на дзьве з паловай вярсты на ўсход, будзе

толькі здалёк назіраць за тым, як б’ецца ягонае старажытнае сэрца.

Так Берасьце сталася самай страшнай у гісторыі Беларусі, самай глыбокай ранай у спляценьні жылаў і нерваў Беларусі, Польшчы ды Ўкраіны — раны з агромністым іржавым цьвіком Крэпасьці.

Як тут білі, плявалі, вялі скрозь кляцьбу Беларусь!.. Дзялілі і паласавалі, нібы рызы Хрыстовы, кідалі жэрабя пра ейны лёс — і абвяшчалі тае расьсячэньне не якім іншым — *Брэсцкім* мірам. А потым па жалезных літарах пакта Молатава–Рыбентропа ў верасьні 1939-га тут, тут, тут забівалі, пячаталі страявым крокам на супольным парадзе гітлераўская ды сталінская імперыі, брыгады Крывашэіна і Гудэрыяна.

Што ж яна магла рабіць пад бомбамі Люфтвафэ ў чэрвені–ліпені 1941-га, гэтая Крэпасьць, — толькі паміраць і не здавацца.

Яшчэ ўдар — і нацысты зьнішчаюць велізарнае гета: каб не нараджала больш берасьцейская рана ані стваральніка брэсцкага метаду вывучэньня Талмуда Хаіма Салавейчыка, ані матэматыка, асістэнта Эйнштэйна, Якава Громера, ані прэм’ера адноўленай дзяржавы Ізраіль, лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру Менахема Бегіна.

Яшчэ ўдар — і горад засяляецца пасьля вайны савецкімі вайскоўцамі… Але менавіта яна, берасьцейская рана, пры канцы XX стагодзьдзя зь Віскулямі раптам раскроіла «ад Брэста да Курылаў» увесь СССР — і адсюль жа вырваліся найвастрэйшыя носьбіты пранізьлівай, наскрозь празрыстай беларускасьці: філолаг класічнага правапісу Вінцук Вячорка, дырэктар беларускай службы радыё «Свабода» Аляксандр Лукашук, рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Дынько.

Ясны знак раны і сапраўдны сьцяг Берасьця — бел-чырвона-белы.

Каб прабіцца ад Бога да чалавека, Богачалавеку давялося даць прабіць Сябе.

«Ранамі Яго мы ацаліліся»… Ёсьць гарады, у якіх, калі распластаесься нават на асфальце, табе будзе грукаць у грудзі.

Ці ведаюць, ці памятаюць сёньняшнія трыста дваццаць сем тысячаў насельнікаў гэтага горада, дзе Бог даў ім жыць? Ці ведаюць, што шчопць берасьцейскага праху ў сутоцы Буга ды Мухаўца пабывала і храмам, і крэпасьцю, і чалавекам? І што кожнаму берасьцейцу дадзена аднойчы паспытаць раптоўнае ўнутранае здрыганьне, калі памяць раптам разрываецца на крыжы і, працятая, з пырскамі крыві і вады, расхінае табе ў зямной ране браму — на неба, сьледам за Ісусам Хрыстом…

*15 верасьня 2013 г.*

## LXXXIII. СЬВЕДЧАНЬНЕ ЛАЗАРА

*Я і ведаў, што Ты заўсёды пачуеш Мяне,*
*але сказаў гэта для народа,*
*які тут стаіць, каб паверылі,*
*што Ты паслаў Мяне.*
*Сказаўшы гэта,*
*Ён усклікнуў моцным голасам:*
*Лазар! Выходзь.*
***Яна 11:42–43***

У «Злачынстве і пакараньні» глыбіннага беларуса Дастаеўскага ёсьць ключавая сцэна — блудніца Соня і забойца Раскольнікаў уначы, у пакоі зь нізкай стольлю пры сьвечцы чытаюць біблейскую гісторыю пра Лазара. Евангельле выварочвае душу, злачынца каецца — і пачынае шлях да выкупленьня.

Ісус уваскрэсіў Лазара ў прысутнасьці вялікай

колькасьці сьведкаў на чацьвёрты дзень пасьля сьмерці, калі цела, пакладзенае ў пячоры, ужо пачало гніць і сьмярдзець. Многія паверылі ў Бога праз гэты цуд — але начальнікі народа менавіта тады канчатkова пастанавілі Яго забіць.

Лёгка ўявіць: для ксяндза Ўладзіслава, які ўжо каторы месяц трывае ў пячоры турмы КДБ, адзінаццаты разьдзел Евангельля паводле Яна адзін з улюбёных.

Так шмат знакаў… *Лазар* — проста скразіць.

Тут ёсьць і дзьве сястры, Яніна і Ірына, якія, нібы Марта і Марыя, плачуць ды моляцца за брата, і вернікі, якія смуткуюць, і, вядома, начальства, якое лепш за ўсіх ведае: калі Бог раптам пачынае тварыць цуды, трэба прымаць меры.

…І цяжкое, напружанае маўчаньне надае яшчэ большае падабенства евангельскай гісторыі: маўчаць, быццам па памерлым.

Менавіта ў доме Лазара, дзе ягоная сястра Марыя памазала Госпада каштоўным мірам, выціраючы ўласнымі валасамі перад укрыжаваньнем, сэрца апостала Юды разадрала здрада.

Містыка справы Лазара прымушае стойваць дыханьне: неўзабаве пасьля ўваскрашэньня пахаванага — уваход у Ерусалім.

Чаму Ісус так доўга чакаў, чаму не ішоў дапамагчы сябру ў сьмяротнай хваробе? Марудзіў, пакуль Лазар не памрэ, пакуль сваякі не адчуюць страты, пакуль не пераканаюцца вучні…

Цяжка пазбыцца пачуцьця, што і зараз Госпад чакае, каб *дайшло*.

Каменная пячора сталінскіх часоў, куды перад сьмерцю памяшчалі беларускіх сьвятароў, паэтаў і дзеячаў, — у самым цэнтры сталіцы. Вось ужо тры гады менавіта яна — скрыжаваньне малітваў і чаканьняў, сэрца страху і пакутлівай адзіноты, у якім штодня

чуюцца званы архікатэдральнага касьцёла Найвялікшай Панны Марыі з плошчы Волі.

Што хоча сказаць Ён сёньня нам, беларусам, праз самоту Лазара?

Акуратны, яшчэ ў школе празваны Панічом за бездакорны выгляд, Уладзімір паступіў у семінарыю і стаў ксяндзом Уладзіславам. Спадчыну, сабраную для яго матуляй у залатых упрыгожаньнях, абмяняў на грошы і ўклаў у будаўніцтва касьцёла ў Мар'інай Горцы, куды накіравалі служыць. Ад *паніча* не засталося і сьледу: сам праводзіў на касьцельны падворак ваду, вазіў тачкамі зямлю, высаджваў кветкі… Даводзілася самому латаць сваю адзіную куртку — усе грошы, зробленыя ці ахвяраваныя, ішлі на парафію, добраўпарадкаваньне ці сьвяточныя падарункі дзецям.

«Мы гэтага ксяндза атрымалі зь неба», — казалі мар'інагорскія парафіяне.

У мінскую катэдру, дзе малады ксёндз Уладзіслаў казаў па-беларуску, шмат хто прыходзіў адмыслова, каб паслухаць ягоную навуку.

Не баяўся казаць праўду. За гэта многія яго і ненавідзелі.

Арышт *такога* ксяндза — выклік Касьцёлу ў гэткай жа ступені, у якой арышт гендырэктара «Уралкалію» — выклік Расеі, а палітвязьні Плошчы — Еўропе.

Больш за тое, справа Лазара — выпрабаваньне для ўсёй Царквы. Хопіць маўчаць пра тое, што творыцца ў краіне, — вось, зло ўжо прыйшло па цябе.

Госпад дапускае, каб праз пакуты і боль аднаго ўвесь Касьцёл зразумеў: калі сапраўды стаіш на каленях перад Богам, а ня перад дыктатарам — чакай палітычнага абвінавачваньня ў замаху на царскую ўладу, абвінавачваньня, вынесенага Самому Хрысту. Тутэйшаму Пілату абавязкова падкажуць: «Калі адпусьціш яго — ты ня сябар кесару».

Год таму дзясяткі тысячаў евангельскіх вернікаў па ўсёй Беларусі маліліся за пратэстанта Зьмітра Дашкевіча, зьняважанага начальнікам Мазырскай калоніі. Царква запатрабавала спыніць зьдзек; дзеля аднаго зьядналіся ўсе. Тады рэжым адступіў, Зьмітра пакінулі ў спакоі і перавялі.

Логіка зла няўмольная: спроба прыняць яго як норму, зрабіць выгляд, што «так і трэба», або дамовіцца вядзе да паразы дабра. Непрыняцьце зла, якое выявіў Ісус, — адзінае выйсьце, але куды яно вядзе, мы ўжо дзьве тысячы гадоў ведаем. Яно вядзе на крыж.

Увогуле, найлепшыя беларускія ксяндзы гнілі ў турмах за праўду і краіну ўсё апошняе стагодзьдзе: і заснавальнік БХД Вінцэнт Гадлеўскі, што абураў улады беларускімі казанямі ў Жодзішках, і Казімір Сьвёнтак, схоплены ў тых жа Пружанах і абвінавачаны ў тым жа шпіянажы, і Станіслаў Лазар (зноў Лазар!), пробашч Пружанскага, а потым і Берасьцейскага касьцёлаў, арыштаваны за прысутнасьць на імшы школьнікаў ды крытыку калгасаў.

Зразумела, пасьля справы Гайдукова веры ў «шпіянаж» ксяндза Ўладзіслава няма.

Зразумела, родным і вернікам «хто трэба» ўвесь час падказвае, што агалоска шкодная, ціха-ціха, абы чаго горшага не было.

Ксяндзы і вернікі перашэптваюцца. *Справа Лазара* ўваскрашае ідэю актыўнай палітычнай каталіцкай сілы, якой была легендарная Беларуская хрысьціянская дэмакратыя 1920–30-х.

Штодня званы ад катэдры б’юць, прабіваюцца ва ўнутраны двор КДБ — іх чуваць у кожнай камеры «амерыканкі».

Ведай, кожны каталік, кожны хрысьціянін: гэты звон звоніць па табе.

Бо дзеля таго, каб Ісус вызваліў Лазара з затхлай пячоры, Марце трэба было паклікаць ды выйсьці сустрэць Яго, Марыі — маліцца і верыць, вучням — быць побач, разам, а народу, які сабраўся суцяшаць сёстраў, — адваліць ад пячоры камень.

— Лазар! Выходзь.

І тады хай замірае ды ахае люд, хай фарысеі да болю заплюшчваюць вочы і хай глядзіць уся краіна, як пад перазвон званоў з плошчы Волі вызваляе Бог.

*13 кастрычніка 2013 г.*

## LXXXIV. ВОЛЯ

*Ойча наш, Каторы ёсьць у небе!*
*Сьвяціся імя Тваё,*
*Прыйдзі Валадарства Тваё,*
*Будзь воля Твая…*
***Лукі 11:2***

У Волі залатыя валасы. Сонечныя прамяні скрозь успышкі жоўтага лісьця кранаюць вейкі, і ты прымружваесься, нібы перад пацалункам. Сьвята грае проста ў цябе на твары агністай, мядовай, бурштынавай, настоенай на палым кляновым і таполевым лісьці сьвежасьцю.

Потым залацістыя струны будуць то тут, то там праблісківаць на тваім швэдры і расплятаць згадкі разам з галавакружным водарам.

У Волі шэрыя вочы. Глыбокія, родныя вочы агромністага шэрага неба, якое ўдыхаеш на поўныя грудзі. Беларусь, мілая, я з табой.

У Волі крынічна-звонкі і меладычны голас. Удых зь верхавінаў хвояў, чые адлюстраваньні тонуць у безданях Нарачы, і выдых з шумам мінскіх вуліцаў.

Пазбаўленыя волі ведаюць — яе чакаеш так, як спатканьня з каханай. Толькі заплюшчы вочы і ўяві. Перасыхае ў роце… Сэрца калоціцца, хоча вырвацца і мячыкам скакаць проста ў яе цёплыя, ласкавыя далоні.

Воля прыходзіць ці ў летняй лёгкай сукенцы, перахопленай пасам, і тады яе аблічча праменіць золатавалосым німбам, ці ў вышыванцы зь белі і чырвані, жывым сьцягам на цёплым вясновым ветры, ці ў пухнатай зімовай куртачцы ды высокіх боціках, так што вакол робіцца горача, ці ў шляхетным восеньскім паліто, якое акрэсьлівае зграбнай лініяй стан і так пасуе яе каралеўскім вачам колеру беларускага неба.

Яна моўчкі, пяшчотна абдымае цябе, ледзь кранае шчаку вуснамі, быццам запальвае зорку, і лёганькі дотык пальчыкаў на плячох дае табе адчуць адказнасьць за сьвет вакол нас.

Воля як свабода ў беларускай мове азначае таксама і рашучасьць у дзеяньні. Каму, як не беларусам, хрысьціянскаму народу, ведаць, што моцная воля ўласьцівая толькі свабодным.

Наша нацыянальная бязвольнасьць пачынаецца тады, калі беларус адварочваецца ад Бога.

Вызваленьне, Дзень Волі, вольная воля, валявы ўчынак… Воля прысутнічае ва ўсім тым, чаго нам так не хапае.

Вольная — адно з тлумачэньняў імя Беларусі. Вось чаму беларусы так часта называюць сваіх дачок Волямі.

Воля вытанчаная. Воля грацыёзная. Воля патрабавальная — здольная адным упартым шэравокім позіркам з-пад узмаху тонкіх выгнутых бровак даць зразумець, што рабіць, і натхніць на тое, што не пад сілу іншым.

Воля ласкавая — ад цеплыні подыху, у які акуна-

есься па выхадзе з каменды, да наймалейшых, амаль незаўважных дотыкаў, кожны зь якіх — знак.

Здаецца, яшчэ кропелька пяшчоты — і страціш прытомнасьць ад шчасьця.

Вялікая беларуская воля, здольная на самаахвярнасьць, ахвярнасьць і штодзённую сьвятасьць, — вобраз і падабенства тае Волі, што вяла на Галгофу Збаўцу.

Паэт нашага вольнага залатога веку Андрэй Волян (амаль што Волін) пісаў «Да палякаў і ліцьвінаў»:

*Дай жа, Божа, каб воля вас*
*упадабала*
*Ды над ёй сваволя ўжо*
*не панавала…*

Беларуская Воля — гэта свабода ў Хрысьце. Адкрываеш сэрца для цэлага сусьвету веры і любові, каб умясьціць Неўмяшчальнага.

«А хто ня любіць Волі — ня нашага роду».

Купала, у кропку.

Куплін, бывай.

Вольна, як жа вольна… Узгоркі і лагчыны дыхаюць, уздымаюцца і апускаюцца з шумам ветру абапал дарогі. Неба празь сіняватую смугу пераліваецца ў зямлю на даляглядзе — асьцярожна, павольна, быццам блакітнае малако зь велізарнай даёнкі льецца, льецца ў кубак, блішча донцам сонца, дзесьці па-над Еўропай, перакульваецца глыбокім закатам… І трапеча лісьце дрэваў прывітальнымі ўзмахамі, і ловіш іх позіркам на імгненьне, і так хочацца пасьпець кіўнуць у адказ.

Вочы, цёплыя ўсьмешкі, крышталёвыя слёзы матулі, поціскі рук, «Ооо!» з самай беларускай глыбіні,

усе гэтыя сьветлыя чалавечыя вокны, быццам агні вялікага горада, празь якія на цябе глядзіць Госпад.

І радзімка ля яе вуснаў.

І прысутнасьць чагосьці найвышэйшага.

І ты раптам разумееш, што аглушальны лямант званка на праверку а шостай раніцы, малатарня жалеза на складзе, цёмная, з выкручанымі лямпачкамі, задушлівая ад куродыму і мачы, вечна ліпкая агульная прыбіральня, і куплінскае неба, нарэзанае на празрыстыя лусты кратамі, — гэта ўсё было дадзена, каб адчуць пякуча, пранізьліва, усім сэрцам яе чысьціню, яе ласку, яе хараство.

Ясную. Любую. Найпрыгажэйшую.

Волю Божую.

*19 кастрычніка 2013 г.*



*Павел Севярынец, студэнт 2-га курса геафака БДУ,*
*у сваім інтэрнацкім пакоі (інтэрнат № 7).*
*Вясна 1996 года.*




*Выступ на Ўстаноўчым зьезьдзе*
*«Маладога фронту» 6 верасьня 1997 года.*
*Фота Ўладзіміра Кармілкіна.*




*25 сакавіка 1998 года, Менск, фота Ўладзіміра Сапагова.*




*Павел Севярынец праходзіць кардон сьпецназа 2 красавіка 1998 года. Праз гадзіну — затрыманьне і першая крымінальная справа: «за зрыў канцэрта, прысьвечанага аб’яднаньню Расеі і Беларусі».*




*Акцыя ўвесну 1998 года з патрабаваньнем вызваліць Паўла Севярынца з турмы на Валадарскага.*




*Кангрэс беларускай моладзі, 29 ліпеня 2001 года, Менск.*
*Зьлева направа: Лія Кійко, Аляксей Янукевіч, Аляксей Шэін,*
*Павел Севярынец, Павел Космач, Сяржук Лісічонак.*



*Абарона Курапатаў. Разам з Аляксеем Шэіным.*
*8 лістапада 2001 года. Празь некалькі хвілінаў*
*абодва будуць затрыманыя і асуджаныя да 10 сутак арышту.*



*Размова са старшынёй КДБ Леанідам Ерыным, які выйшаў да мітынгоўцаў 17 кастрычніка 2004 года: «Жыве Беларусь! А кто говорит другое?..» Празь некалькі дзён Ерына здымуць з пасады.*



*Мікола Статкевіч і Павел Севярынец падчас судовага працэсу за арганізацыю масавых вулічных пратэстаў, травень 2005 года, Менск.*



*Праца сукаруба на «хіміі» ў лесе, ваколіцы Дрэтуні.*
*Зіма 2005 года.*




*«Малады фронт» на Плошчы 2006 года.*



*Малое Сітна, у інтэрнаце для рабочых-«хімікаў».*
*Лета 2006 года.*



*Аляксандр Мілінкевіч (другі справа) і Павел Севярынец.*
*Малое Сітна, 2006 год.*

**УДОСТОВЕРЕНИЕ** 138/341

**о проверке знаний по вопросам охраны труда**

Выдано Северинцу Павлу Константиновичу
(фамилия, имя, отчество)

Профессия (должность) зацепщик (стропальщик)

Место работы Малоситнянский л/пункт

В том, что у него (нее) проведена проверка знаний по вопросам охраны труда в объеме, соответствующем профессиональным должностным обязанностям по погрузочно-разгр. работам лесовозного транспорта.

Основание: протокол от «7» 08. 2006 г. № 8

Председатель комиссии (подпись) (фамилия)

М. П.

КАНЦЫЛЯРЫЯ

*Пасьведчаньне зацэпшчыка і стропальшчыка.*
*Жнівень 2006 года.*



*Чыгуначная станцыя Алешча. Пагрузка дрэва,*
*праца штабялёўшчыка і стропальшчыка. Вясна 2007 года.*



*Суд за Плошчу, Менск, Заводскі раён.*
*Травень 2011 года.*



*Толькі пасьля абвяшчэньня прысуду Таццяна Севярынец змагла абняць сына, які 5 месяцаў утрымліваўся ў СІЗА КДБ. Менск, 16 траўня 2011 года.*



*Праца на складзе аўтазапчастак у Купліне.*
*Зіма 2012 года.*



*Ля брамы сьпецкамендатуры ў Купліне.*
*Лета 2013 года.*

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХ ДЕЛ

Форма Б

Серия ЖЗ

**СПРАВКА № 0151012**

ИУОТ № 7 УДИН МВД
по Брестской области
-19- октября 2013 г.

Выдана гражданину(ке) Северинец
(фамилия)
Павел Константинович
(имя, отчество)
дата рождения 30. 12. 1976
(число, месяц, год)
уроженцу(ке) г. Орша
(город (селение), район,
Витебской области
(область, край, республика)
гражданство Гражданин Республики Беларусь
семейное положение холост
(если состоит в браке,
указать, каким органом ЗАГСа, когда и с кем
(фамилия, имя, отчество, год рождения) зарегистрирован брак)
отношение к военной службе невоеннообязанный
осужденному(ой) 16 мая 2011 г. судом
Заводского района г. Минска
по ч. 1 ст. 342 УК Республики Беларусь
к 3 годам ограничения свободы с
направлением в ИУОТ
имеющему(ей) в прошлом судимости
не имеющего судимости

в том, что он(а) отбывал(а) наказание в местах лишения свободы
с -11- августа 2011 г. по -19- октября 2013 г.,
откуда освобожден(а) по окончанию срока
отбывания наказания



Начальник учреждения
Бакаев Ю.Н.
(подпись)

Начальник отдела
(подпись)

*Даведка аб вызваленні з Купліна «ў сувязі з заканчэннем тэрміну». Кастрычнік 2013 года.*




*Уваход у сьпецкамендатуру № 7*
*(вёска Куплін Пружанскага раёна),*
*дзе Севярынец адбыў 2 гады і 2 месяцы абмежаваньня волі*
*за Плошчу 2010 года.*




*Павел Севярынец сярод удзельнікаў літаратурнага конкурсу*
*імя Францішка Аляхновіча на найлепшы твор, напісаны*
*ў зьняволеньні. 10 сьнежня 2013 года, Менск.*
*Фота Радыё Свабода.*




*Выступ на форуме «Свабоду палітвязьням!».*
*2016 год.*




*Акцыя ля Менскага гарадскога суда,*
*дзе судзяць блогера Эдуарда Пальчыса.*
*Кастрычнік 2016 года.*



*Вызваленьне з чарговых сутак у Воршы.*
*Сакавік 2017 года.*




*Чарговы суд, чарговыя суткі ўвесну 2017-га —*
*у суме іх у Севярынца набралася больш за год.*




*У мікрааўтобусе для затрыманых,*
*па розныя бакі шкла з жонкай Воляй.*
*2 траўня 2017 года.*



*Мітынг на прыступках Чырвонага касьцёла.*
*Травень 2017 года.*




*На Кастрычніцкай плошчы падчас Акцыі нацыянальнага сьцяга. Верасень 2017 года.*



*З жонкай Воляй і сынам Францішкам. Травень 2018 года.*

## АДРЫНУТЫ-Я

*Паўлу Севярынцу*

Адрынутыя —
ты,
я,
мы.
На вуснах патрэсканых
прысмак зімы.
На вуснах скрываўленых
прысак вайны.
У лоб дубальтоўку наставіла восень.
Бы высыпкі воспы
на целе радзімы —
«хіміі», зоны, астрогі.
Гуглі ня гуглі —
ня знойдзеш дарогі
да пункта з назовам Куплін.
Халодныя вочы,
няўтульныя зімы.
Пачварныя плямы
на целе радзімы.
Няўтульныя вочы,
халодныя зімы.

Плямы — мы.
Нас тысячы.

Ты сячы,
а мо й мільёны.
Зьзяюць зьнічы
сярод гэтай начы.
Цэлы народ замкнёны.

Колькі такіх,
каго безь віны?
ўшчэнт, падыспад,
у тыя віры...
Ці маецца дно
у глыбіні?

«Хімік» —
гэта ж ад «схімніка»?

З узбочыны скрушна
тарашчыцца крушня.
Вось сымбаль сьцюдзёнага выраю.
Заўважана слушна.
God, where are You?

Яны адграбуць, Паша, помні,
па поўнай.
Хоць тое й ня наш,
хрысьціянскі, метад.
Але ж адграбуць, Паша,
ведай*.

*https://www.svaboda.org/a/24726690.html*

---

* Верш Анатоля Івашчанкі, напісаны ім на зваротнай дарозе пасьля наведваньня Паўла Севярынца ў вёсцы Куплін Пружанскага раёна, дзе той адбываў «хімію» (кастрычнік 2012 года).

## БІЯГРАФІЧНЫЯ ЗЬВЕСТКІ

Пісьменьнік, публіцыст, палітык Павел Севярынец нарадзіўся 30 сьнежня 1976 г. Вучыўся ў мастацка-архітэктурным класе, школу скончыў з залатым медалём. Па адукацыі інжынер-геолаг. У 1994–1999 гг. працаваў рэпарцёрам у шэрагу дзяржаўных і камерцыйных выданьняў. З 1998 г. пачаў друкавацца ў беларускай незалежнай прэсе як публіцыст.

Сябра Партыі БНФ «Адраджэньне», узначальваў Менскую маладзёвую фракцыю. У 1999–2003 гг. — намесьнік старшыні Партыі БНФ. З 1999 да 2004 г. — старшыня «Маладога фронту». З 2005 г. — сустаршыня Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі.

Удзельнік і арганізатар масавых вулічных выступаў моладзі ў 1997–2004 гг., шмат разоў затрымліваўся міліцыяй і КДБ; у сукупнасьці мае больш за год адміністрацыйных арыштаў на «сутках», тысячы даляраў штрафаў.

Адзін з арганізатараў І Кангрэса беларускай моладзі (ліпень 2001 г.), абароны Курапатаў (верасень 2001 г. — чэрвень 2002 г.), нацыянальнай кампаніі «Беларусь у Еўропу!» (вясна 2002 г.), перадвыбарчага блоку «Маладая Беларусь» (2004), партыі Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя (2004).

Упершыню арыштаваны ў межах крымінальнай справы 2 красавіка 1998 г. падчас апазіцыйнай маніфестацыі ў Менску і за «зрыў канцэрту, прысьвечанага аб’яднаньню Расеі і Беларусі». Пасьля двух месяцаў утрыманьня ў СІЗА на вул. Валадарскага пад ціскам беларускай і міжнароднай грамадскасьці вызвалены і адпраўлены пад падпіску аб ня-

выезьдзе ў Віцебск па месцы прапіскі. У лістападзе 1998 г. крымінальная справа была закрытая без тлумачэньняў.

У 2005 г. абвінавачаны ў арганізацыі акцыяў пратэсту супраць «трэцяга тэрміну Лукашэнкі», якія адбыліся ў Мінску пасьля «рэферэндуму»-2004 18 і 19 кастрычніка. Асуджаны да трох гадоў абмежаваньня волі, «хіміі», з улікам амністыі тэрмін скарочаны да двух гадоў. Адбываў пакараньне на лесанарыхтоўках у вёсцы Малое Сітна на поўначы Беларусі (Полацкі раён).

У сьнежні 2010 г. падчас масавай акцыі супраць фальсіфікацыі выбараў арыштаваны, пяць месяцаў адбыў у турме КДБ, а затым два гады і два месяцы — у сьпецкамендатуры ў вёсцы Куплін Пружанскага раёна. Вызвалены ў кастрычніку 2013 г.

Аўтар кніг «Ды-джэй Адраджэньня» (1998), «Пакаленьне Маладога Фронту» (2002), «Нацыянальная ідэя. Фэнамэналёгія Беларусі» (2005), «Лісты зь лесу» (2007), «Брату» (2007), «Маладафронтаўцы» (2009 г., сумесна з Н. Палажанкай), «Беларуская глыбіня» (2014), «Беларуская хрысціянская дэмакратыя: 1917–2017» (2017), рамана «Беларусалім» (2017).

Сябра Саюза беларускіх пісьменьнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтра, Беларускай асацыяцыі журналістаў, Таварыства беларускай мовы, Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына».

Лаўрэат літаратурных прэмій Беларускага ПЭН-цэнтра імя Алеся Адамовіча, імя Францішка Аляхновіча, а таксама прэміі «За свабоду думкі» імя Васіля Быкава.

Праваслаўны хрысьціянін, прыхаджанін Сьвята-Петра-Паўлаўскага сабора ў Менску. У 2014 г. ажаніўся з настаўніцай Вольгай Шылак, гадуе сына Францішка.

Паводле *http://sieviarynets.net/*

## КРЫМІНАЛЬНЫЯ ПРЫСУДЫ:

31 траўня 2005 г. Цэнтральны райсуд Менска прызнаў Паўла Севярынца вінаватым у парушэньні ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (арганізацыя і падрыхтоўка дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх) за арганізацыю масавых пратэстаў на Кастрычніцкай плошчы ў 2004 г. і пакараў абмежаваньнем волі тэрмінам на 3 гады з накіраваньнем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Тэрмін пакараньня палітвязень адбываў у вёсцы Малое Сітна на Віцебшчыне, працаваў на высечцы лесу. Паводле закону аб амністыі ад 5 траўня 2007 г. тэрмін зьняволеньня скарочаны на 1 год. Вызвалены 22 траўня 2007 г. умоўна-датэрмінова за 2 месяцы і 24 дні да сканчэньня тэрміну пакараньня.

16 траўня 2011 г. Заводскі райсуд Менска прызнаў Паўла Севярынца вінаватым у парушэньні ч. 1 арт. 342 КК РБ за ўдзел у мірнай акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. і пакараў абмежаваньнем волі тэрмінам на 3 гады з накіраваньнем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Першапачаткова, на этапе папярэдняга расьсьледаваньня, прад'яўлялася абвінавачваньне па чч. 1 і 2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі), 4 траўня 2011 г. яно было перакваліфікаванае. Тэрмін пакараньня палітвязень адбываў у вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласьці. Ва ўмоўна-датэрміновым вызваленьні і амністыі яму было адмоўлена. Вызвалены 19 кастрычніка 2013 г. пасьля сканчэньня тэрміну пакараньня.




**У серыі**
**«Беларуская турэмная літаратура»**
**выйшлі кнігі:**

1. Зміцер Дрозд. **Бунт батанікаў.** Дзённік. 2017
2. Ігар Аліневіч. **Еду ў Магадан.** Успаміны, артыкулы. 2017
3. Мікола Дзядок. **Фарбы паралельнага свету.** 2017
4. Алесь Кіркевіч. **Сем месяцаў у беларускай турме.** 2018
5. Алесь Бяляцкі. **Турэмныя сшыткі.** 2018
6. Павел Севярынец. **Каменнае сэрца.** 2018

**Серыя**
**«Беларуская турэмная літаратура»**

Павел Севярынец
**Каменнае сэрца**

Рэдактар:
**Алена Лапцёнак**

Вёрстка:
**Віктар Корзун**

Вокладка:
**Віктар Корзун**

Карэктар:
**Алена Укусік**

Наклад 500 ас.